*Я.К. Анішчанка*

# ІНКАРПАРАЦЫЯ

*Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай*



*Мінск Хурсік*
*2003*

УДК 94(476)
ББК 63.3(4 Беи)
А32

*Рэкамендавана да выдання Вучонай радай Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (пратакол №8 ад 12 кастрычніка 2000 г.)*

*Выдадзена пры частковай фінансавай падтрымцы Інстытута польскага ў Мінску (250$)*

**Анішчанка Я. К.**
А32 Інкарпарацыя.: Літоўс. правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай/Я. К. Анішчанка.—Мн.:Хурсік, 2003.—470 с.

ISBN 985-6718-03-1

Кніга распавядае пра падзеі, што адбываліся на тэрыторыі беларускай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага — падчас падрыхтоўкі падзелу Рэчы Паспалітай і далучэння беларускіх зямель да Расіі ў канцы XVIII стагоддзя. Яна абапіраецца на ўнікальныя дакументы, знойдзеныя ў расійскіх і беларускіх архівах. Кніга ўпершыню раскрывае закулісныя планы імперскай Расіі, паказвае палітычныя ваганні мясцовай шляхты і яе эліты з нагоды магчымай змены падданства, а таксама заканадаўчых і ўзброеных спроб выратавання краіны.

Кніга разлічана на прафесійных гісторыкаў і выкладчыкаў. Яе з задавальненнем прачытаюць усе, хто цікавіцца нескажонай гісторыяй Бацькаўшчыны.

УДК 94(476)
ББК 63.3(4 Беи)

ISBN 985-6718-03-1

## *Змест*


*Уводзіны (гістарыяграфія пытання)* ..................... 6

*Раздзел I*
*Перш падзел – у выпражы раўнавагі*

§ 1. Падважнікі васалітэту .......................... 38
§ 2. Афармленне расійскага пратэктарату ..... 82
§ 3. У віры Барскай канфедэрацыі ............... 137
§ 4. Легітымацыя падзелу. Сейм 1773—1775 ... 177

*Раздзел II*
*Другі падзел – змаганне пяром*

§ 1. На руінах фальшывай палітыкі ............. 226
§ 2. Грымасы лагоднай рэвалюцыі ............... 253
§ 3. Пад намесніцтвам Туталміна ................. 291

*Раздзел III*
*Трэці падзел – фіяска з шанцам*

§ 1. Паўстанне і вайна 1794 ........................ 333
§ 2. Пад намесніцтвам Рэпніна ..................... 370
§ 3. Канец прахаднога двара ........................ 392

*Заключэнне* ........................................................ 409

*Спіс імёнаў* ........................................................ 416

*Л.М. Корзун*

# Уводзіны

*(гістарыяграфія пытання)*

Шматнацыянальная і канфесіянальная Рэч Паспалітая, у склад якой уваходзіла з 1569 г. Вялікае княства Літоўскае (ВКЛ), у канцы XVIII ст. апынулася ахвярай падзелаў паміж трыма абсалютысцкімі манархіямі Аўстрыі, Прусіі і Расіі. Гэтая пераломная падзея ў лёсах і геапалітыцы еўрапейскіх народаў засведчана літаральна неабсяжнай мемуарнай, прадузятай публіцыстычнай і не менш палемічнай навуковай літаратурай.

Свядома плысці па гэтым моры дапамагаюць агляды гістарыяграфіі пытанняў, звязаных з падзеламі Рэчы Паспалітай[1]. Сярод іх безумоўную ўвагу заслугоўвае праца М. Сярэйскага, якая ахоплівае разнамоўную еўрапейскую літаратуру з сярэдзіны XVIII ст. Гэты гісторык паказаў, што загадзя да падзелаў і ў іх час з'явіліся тэорыі, што пасля сталі канонамі пры тлумачэнні заняпаду і падзелаў Рэчы Паспалітай. Гэта — проціпастаўленне згубнай анархіі больш арганізаванаму дэспатызму, шляхецкай сваволі – жыццядзейнаму аўтарытарызму цэнтральнай улады, а таксама канцэпцыі аб тым, што польская шляхта паступілася дзяржаўнай незалежнасцю дзеля захавання ўласнага саслоўнага першынства або што яна не клапацілася пра своечасовае рэфармаванне дзяржавы з упэўненасці ў дасканаласць існуючага ладу і з таго меркавання, што суседзі зацікаўлены ў існаванні такога бар'ера паміж сабой.[2]

Адзначанае дазваляе пазбегнуць назойлівага пераліку і пераказу фактычнага зместу адпаведных прац, засяродзіцца на іх тэматычна-канцэптуальных палажэннях. Апраўданым будзе агляд пераважна польска-расійскай літаратуры з улікам выключнага значэння падзелаў у гісторыі гэтых суседзяў, для якіх тэрыторыя ВКЛ аказалася яблыкам разладу. Не менш мэтазгодна падзяліць гістарыяграфію прадмета на працы вызначальныя сваім зместам і кампілятыўныя, не вартыя спецыяльнай увагі.

Цікавасць да падзелаў Рэчы Паспалітай у рускай публіцыстыцы і навуцы ўзнікла ў сярэдзіне XIX ст. пад час скасавання прыгоннага права. Вядома, што расійскі царызм старанна схіляў дваран заходніх (далучаных) губерняў да прыняцця ўрадавага плану вызвалення, каб падштурхнуць уласных кансерватараў. Гэты працэс спаборніцтва ў сялянскім вызваленні і стварыў ідэйную падпору тэорыі вызваленчай місіі рускага самадзяржаў'я ў адносінах да інертнага «польскага» (каталіцкага) дваранства, якое стагоддзямі не паступалася сваім рабаўладаннем і прыгнётам «кроўных» для Расіі адзінаверцаў-праваслаўных ВКЛ. З гэтага пастулата рабілася гістарычная рэтраспектыва да падзелаў і далучэння зямель Рэчы Паспалітай да імперыі. З такіх высноў паходзіць цэлая процьма апалагетыкі расійскага патэрналізму адносна прыгнечаных і апалячаных «истинно» рускіх жыхароў ВКЛ, якое ранейшы падцэнзурны друк асмельваўся называць «вечным поприщем военной брани, великой могилой их ратей несметных, краем наживы и покормежки для соседних народов»[3], краем, які Ф. Энгельс назваў праходным дваром для расійскіх войскаў[4], якія забываліся пра своечасовую расплату.

Першыя публікацыі адпаведнага кірунку суправаджалі каментарыі гістарычных актаў у якасці доказу спаконвечнай

прыналежнасці далучаных зямель да імперыі, якія не менш за спецыяльныя працы могуць сведчыць аб ідэйнай скіраванасці гістарыяграфіі ў цэлым. Так, у 1864 г. у «Весніку Паўднёва-Заходняй Расіі» з'явіліся ўспаміны А. Вастокава. Ён назваў прычынамі падзелаў Рэчы Паспалітай анархію і рэлігійны фанатызм палякаў, якія рабілі ўсё, каб «окаталичить и ополячить русские области..., перевести в унию массы русского народа без его согласия»[5]. Тады ж была надрукавана прамова селяніна да Кацярыны II, які прайшоў праз ВКЛ каб выказаць ёй любоў і імкненне да ўз'яднання, каб папрасіць «отнять у наших властителей их самодержавную власть и своенравную волю»[6]. Гэты ж пасаж суправаджае рэдакцыйны каментар папер В. Панова, які прыводзіў словы канцлера Аляксандра Безбародкі аб тым, што пры падзелах Расія вярнула «древние российские земли с единоплеменным народом, который под самым игом польским сохранил свою приверженность к вере православной и всегда питал любовь и усердие к монархам России». Доказам спадкаемства Расіі рэдактары палічылі і тое, што «судопроизводство при польском правлении было почти до половины прошедшего столетия на русском, а не на польском языке»[7].

Адважнасць рускага абсалютызма ў сялянскім пытанні супрацъпастаўлялася баязліваму шляхецтву Рэчы Паспалітай і яго нерашучасці на падобныя смелыя рэформы. Каментатары да праектаў вызвалення сялян на Чатырохгадовым (Вялікім) сейме прама сказалі ў 1876 г., што «одною из самых главных причин падения Польши было систематическое угнетение народных масс, чудовищное совмещение в одной и той же стране представительного начала для господ, и самого тяжкого рабства для крестьян»[8]. В. Маўрыцкі ў 1871 г. пісаў, што прычынай гібелі Рэчы Паспалітай стала сваволя шляхты

і грамадзянскае непаўнапраў'е астатніх станаў[9], што нахіляла да думкі аб адсутнасці сапраўднай дэмакратыі там.

У 1865 г. у вялікім мемарыяле беларускі епіскап Георгій Каніскі (29 ліпеня 1765 г.) гаварыў, што да царкоўнай уніі 1596 г. «в польском государстве никакой униатской церкви не было, но посполъство всё было греческой религии...»[10]. З гэтага разрасліся груваастыя абгрунтаванні справядлівасці далучэння да імперыі зямель, спрадвеку населеных праваслаўным людам, гвалтам або падманам зведзеным у праклятую ўнію. З гэтага вынікала тэорыя аб вызваленчай місіі царызму ў справе выратавання сваіх адзінаверцаў ад поўнага акаталічвання і ўніянізацыі, у справядлівасці дамагання для іх рэлігійнага і грамадзянскага раўнапраў'я ў часы Рэчы Паспалітай. Гэтую канцэпцыю паслядоўна падтрымлівалі пры падборы гістарычных дакументаў аб дыскрымінацыі дысідэнтаў (некаталікоў)[11] і асабліва яе адстойваў М. Каяловіч. Прынамсі, ён называў «главной... объединительной силой» рускі царызм у яго выратавальнай місіі адносна прыгнечаных іншаверцаў Рэчы Паспалітай, для якой падзелы сталі «заслуженной карой за злоупотребление принципом аристократизма и религиозного фанатизма»[12]. Праўда, Расіі давялося тройчы дзяліць апякаемую дзяржаву «вместо одного» разу, але ў гэтым вінаватай аказваецца чамусці адна Прусія.

Увогуле публіцыстыка вызваленчага перыяду не шкадавала чорных фарбаў адносна сквапнасці Прусіі, якой прыпісвала падзелы[13] і якая «втянула» Кацярыну II у іх. Аднак першая ж праца П. Шчабальскага аб вытоках дысідэнцкай справы ў расійскай палітыцы паказала ў 1864 г., што дысідэнты былі ўсяго толькі пешкай у палітычнай гульні, у тым, што Ф. Энгельс назаве зачэпкай для дамагання тэрыторыі ВКЛ «в качестве национальной русской области»[14]. Канцэпцыю рэлігійнага патэрналізму,

Расіі трывожыць тое, што абаронца адзінаверцаў не аднойчы душыў бунты тых жа адзінаверцаў, каб дагадзіць іх прыгнятальнікам або што уніятаў старанна замоўчвалі пры дамаганні талерантнасці ў Рэчы Паспалітай.

На такіх хісткіх падставах пісаў у 1864 г. сваю знакамітую працу аб падзенні Рэчы Паспалітай С. Салаўёў, каштоўную якраз шчодрым цытаваннем архіўных дакументаў. Прысвечана яна пераважна першаму падзелу, які гісторык выводзіў з «внутреннего безнарядья» (анархіі) Рэчы Паспалітай, нястрымнай шляхецкай сваволі, якія не маглі адолець ніякія рэформы. Падзел і далучэнне зямель ВКЛ да імперыі ён лічыў фатальнай падзеяй, справай справядлівага «торжества веротерпимости над фанатизмом». Аднак, паколькі справядлівую справу Расіі давялося праводзіць узброенай рукой пры падаўленні Барскай канфедэрацыі, то Салаўёў прызнаваў, што «Белоруссия была приобретена по праву войны, по праву победы» ў 1772 г. Астатнія ж удзельнікі падзелу прысвоілі польскія землі «даром..., без всякого права»[15]. Г. Есіпаў, які першым зацікавіўся сакрэтамі падрыхтоўкі падзелу трыма манархамі, адзначыў, што яны проста кіраваліся ўзаемнымі разлікамі кампенсаваць страты ад вядзення спустошальных войнаў за іншыя тэрыторыі менавіта коштам Рэчы Паспалітай і таму імкнуліся пастаянна падтрымліваць яе бяссілле, грамадскі разлад для перыядычнага ўмяшання ў яе справы[16]. Адпаведныя фінансавыя разлікі былі засведчаны і публікацыяй патаемных перамоў паміж Прусіяй і Расіяй[17], і абнародаваннем адпаведных прыгатаванняў у 1789—1790 гг.[18].

Няпэўнасць і нелагічнасць высноў С. Салаўёва вымушала публіцыстаў самастойна шукаць адказы. У розных варыяцыях з 1863 да канца XIX ст. называліся наступныя прычыны «натуральнай смерці» Рэчы



ВЯЛІКАЕ
КНЯСТВА
ЛІТОЎСКАЕ У
ПАДЗЕЛАХ
РЭЧЫ
ПАСПАЛІТАЙ
УМОЎНЫЯ ЗНАКІ
МЕЖЫ
СУЧАСНАЯ МЯЖА
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
МЯЖА ВКЛ
МЯЖА І ПАДЗЕЛА
МЯЖА ІІ ПАДЗЕЛА
МЯЖА ІІІ ПАДЗЕЛА
РЫГА
ГУЛЬБЕНЕ
ГАЎРЫ
БЕЖАНІЦА
БОЛАГАВА
МІТАВА
БОЎСК
ВАРКЛЯНЫ
АПОЧКА
ВЯЛЛУКІ
БІРЖА
РЭЖЫЦА
СЕБЕЖ
ПЛАКСІНА
ПАЛАНГА
ПРЭЛІ
НЕВЕЛЬ
ЗАБОРЫ
ШАЎЛІ
ПАНЯВЕЖ
ДЫНАБУРГ
РАСОНЫ
КЕЛЬМЫ
БРАСЛАЎ
ДРУЯ
ДУСЯТЫ
ВЕЛІЖ
ШЫЛАВІЧЫ
ПОЛАЦК
ГАРАДОК
РАСІЕНЫ
КЕЙДАНЫ
ВІДЗЫ
ДЗЯМІДАЎ
ВІЛЬКАМІР
ПАСТАВЫ
ВІЦЕБСК
СМАЛЕНСК
КОЎНА
НАРОЧ
МЯДЗЕЛ
ЛЕПЕЛЬ
ЧАШНІКІ
СЯННО
РУДНЯ
ГУСЕВА
ПРЭНЫ
ВІЛЬНЯ
ВІЛЕЙКА
ХАЛОПЕНІЧЫ
ОРША
АЛІТА
ТРОКІ
АШМЯНЫ
МАЛАДЗЕЧНА
ГОРКІ
ХІСЛАВІЧЫ
СУВАЛКІ
ЭЙШЫШКІ
БАРЫСАЎ
АРАНЫ
ШУМЯЧЫ
АЙГУСТАЎ
ЛІДА
ІЎЕ
РАКАЎ
МІНСК
МАГІЛЁЎ
ГРАЕВА
ГРОДНА
ШЧУЧЫН
СТАЎБЦЫ
ПУХАВІЧЫ
СВІСЛАЧ
БЫХАЎ
ХОЦІМСК
САКОЛКА
НАВАГРУДАК
БЯЛЫНКАВІЧЫ
ВАЎКАВЫСК
СЛОНІМ
НЯСВІЖ
БАБРУЙСК
РАГАЧОЎ
ЛОМЖА
СЛУЦК
ЧАЧЭРСК
ЛЯХАВІЧЫ
РУЖАНЫ
ЛЮБАНЬ
ГЛУСК
КЛІНЦЫ
БЕЛЬСК
ВЕТКА
ПРУЖАНЫ
АЗАРЫЧЫ
БРЭСТ
МОТАЛЬ
ПІНСК
ПЛОТНІЦА
БАРСУКІ
ДЗІВІН
ЯНАЎ
МАЗЫР
ПАРЧАЎ
ЛЮБЯШОЎ
ХОЙНІКІ
ЦІХАНАВІЧЫ
УЛОДАВА
РАТНА
СТАДОЛІЧЫ
ЧАРНІГАЎ
ЛЮБЛІН
КОВЕЛЬ
ТРАЯНАЎКА
САРНЫ
АЎРУЧ
НЕЖЫН
ХОЛМ

Паспалітай: «несчастный образ правления, не допускавший никакого благоустройства, самоуправство» магнатаў і шляхты, якія адхілялі ўсё, што замахвалася на іх «самовластие», «безначалие» ў выглядзе выбарнасці караля і панавання аднагалосся (ліберум вета) пры галасаваннях на сеймах і сейміках, рэлігійная нецярпімасць, і замежныя інтрыгі[19]. Адзін з ананімных аўтараў выводзіў з гэтага ў 1869 г., што «нет ничего естественнее и справедливее иностранного владычества» там, дзе «не умели управлять сами»[20]. Тым самым прама абгрунтоўвалася ідэя гібелі Рэчы Паспалітай з-за адсутнасці моцнай цэнтральнай улады ў выглядзе абсалютызму, і з-за ўпартага прытрымлівання самаўладным панствам выбарнасці ўсіх уладаў рэспублікі. Заставалася растлумачыць, якім чынам вольналюбівае саслоў'е падпарадкоўвалася замежным неабмежаваным манархам. Аднак усе сказанае адносна «самовластия дворянства» у гэты ж час ёмка абагуліў Ф. Энгельс, які зрабіў аўтарытэтнай думку аб тым, што «аристократия довела Польшу до упадка» ўпартым захоўваннем у недатыкаль-насці ад перамен упадабанага грамадскага ладу або т.зв. анархіі[21].

Публікацыя сакрэтнай перапіскі паміж Пецярбургам і пастаўленым ім на варшаўскім троне Станіславам Панятоўскім[22] паказала здольнасць каралеўскага акружэння на рэформы коснага ладу. Першую навуковую спробу лагічна растлумачыць занядад і падзелы Рэчы Паспалітай у расійскай гістарыяграфіі зрабіў М. Кастамараў. Ён адразу адмовіўся прызнаваць прычынамі катастрофы выбарнасць каралёў, засілле магнатаў, сваволю шляхты, рэлігійны фанатызм і прыгнёт сялян. Вытокі бедаў ён выводзіў з моднай тады грамадскай дэмаралізацыі, або «неспособности поляков» да самакіравання. Гэтаму не маглі дапамагчы ні рэформы, ні суседзі, якія

супрацьдзеялі карэнным зменам, зацікаўленыя ў абстаноўцы слабасці і знясіленасці краіны. Кастамараў не бачыў у канфедэрацыях з іх большасцю галасоў выратавальнага сродку для перамогі ліберум вета, паколькі яны скалачваліся спехам і хутка развальваліся. На прыкладзе таргавіцкай канфедэрацыі 1792 г. ён бачыў, што канфедэрацыі запаўнялі кар'ерысты, падхалімы, якія, як дачаснікі, пад аховай замежнай зброі чынілі ад імя большасці грабяжы, гвалты, пераслед праціўнікаў. Таму, гаварыў гісторык, толькі «железная рука» знешняй сілы магла «обуздывать беспорядок и самоуправство, лечить или перевоспитывать нравы», у выніку чаго «Польша только под давлением России и могла устроиться» пры наяўнасці ў грамадстве распаўсюджанага «угодничества силе»[23]. Як відаць, гісторык не сумясціў заган рабалепства перад сілай з такім жа заганам, як грамадская сваволя.

Больш таго, Кастамараў сам жа адзначыў, што жалезная рука Расіі супраціўлялася рэформам Вялікага сейма і davяла тайную падрыхтоўку праціўнікаў канстытуцыі 3 мая 1791 г. на яе звяржэнне. Гісторык назваў легкадумствам тое, што Польшу ажывіла б канстытуцыя без умяшання суседзяў, таму, што краіна ўжо «была игрушкой», таму што яе прымаў сейм, «составленный из рабовладельцев», таму што падобныя перавароты «ничего не сделали» для простанароддзя і пакінулі сялян «быдлом», таму што рэформы «только напугали рабовладельцев» і раздражнілі прывідам свабоды мяшчан, таму што заўзятыя патрыёты словаблудзілі ў адрас 3 мая «за красную ленту» караля і вельмі спрытна адракліся ад падтрымкі пры першых сполахах вызваленчых рухаў сярод сялян і мяшчан. Кастамараў таму падтрымаў навязванне Кацярынай II гродзенскаму сейму 1793 г. і новай канстытуцыі і падзелу, якая гаварыла каралю, што

палякі самі прымушалі нязгодных ўхваляць канстытуцыю 3 мая і што «примеров насильства довольно в царстве этого короля»[24].

Паўстанне 1794 г. гісторык разглядаў як справу шляхты, якая прызвычаілася «свободно устанавливать и попирать законы», якая і зараз эгаістычна і двудушна павялічыла цяжары для сялян. У выніку Кастамараў лічыў немагчымым знішчыць «деспотизм одних и рабство других, пока Польша оставалась республикою». Пераход яе ў падданства да Расійскай імперыі адбыўся ўзброеным шляхам тады, калі працоўныя канчаткова зняверыліся ў гуманізме ўласных рабаўладальнікаў. Сялянства ахвотна перайшло з царства «безропотного подчинения» ў залежнасць да дзяржавы, якая вярнула сабе «то, что принадлежало ей и покоилось на вековой народной связи». Свой панегірык панславянскаму самадзяржаў'ю Кастамараў завершыў прызнаннем, што і пад новай уладай сялянства засталося пад ярмом ранейшых паноў «от которых искал спасения» і для якіх ужо пад Расіяй «продолжала существовать эта Речь Пасполитая»[25]. Такім чынам, гісторык вярнуўся да тых пастулатаў, якія адвяргаў.

Лагічным працягам і шмат у чым кампіляцыяй з Кастамарава з'яўляецца серыя артыкулаў В. Цімашчук аб ролі таргавіцкай канфедэрацыі ў другім падзеле Рэчы Паспалітай. Аўтар больш падрабязна раскрыў фальшывасць кампаніі ўхвалення канстытуцыі 3 мая з боку абывацеляў, напалоханых прывідам сялянскага самаразняволення (бунтаў) і адначасова адзначыў імкненне рэфарматараў спыніць чуткі аб непрыязі да яе, каб прадухіліць замежную інтэрвенцыю ў падтрымку пацярпелых. Расія ж проста скарыстала сітуацыю з мэтай рэстаўрацыі даканстытуцыйных парадкаў, сваёй апекі пры апоры на адзінаверных сялян і пад выглядам добраахвотнага

запрашэння пакрыўджаных. Каралеўскае акружэнне пайшло на закулісныя перамовы нават цаной саступкі кароны і зямель дзеля захавання дасягнутых рэформ. У цэлым, на думку даследчыка, добраахвотныя канфедэрацыі насаджаліся рэпрэсіямі гэтак жа, як і сама канстытуцыя 3 мая[26].

Разам з Кастамаравым другую класічную працу, спецыяльна прысвечаную гродзенскаму сейму 1793 г., выпусціў Д. Ілавайскі. Аўтар зыходзіў з палажэння аб тым, што «Польша пала жертвой» уласнай анархіі або слабасці цэнтральнай улады. Ён паказаў, што гэты сейм быў склікаы пад націскам Расіі абяцаннем вырataваць рэспубліку ад чарговага падзелу, якога дамагалася Прусія. Тым не менш, рускі пасол дырыжыраваў усімі працэдурамі пад шантажом падзелу, секвестру маёнткаў паслоў. Ілавайскі адзначыў і рабалепства паслоў, якія ўхвалялі навязаныя трактаты з-за пагрозы Пецярбурга зачыніць іх банкаўскія рахункі, адмовіць у выплаце даўгоў, якіх накапілася 250 млн. злотых. Паслы надта забаяліся агалошвання сваіх патаенных фінансавых кармушак, з-за страху перад выкрыццём займаліся закулісным гандлем з Расіяй адносна захавання маёнткаў, пасад, чыноў ужо пры новым канстытуцыйным ладзе[27]. Праца Ілавайскага вельмі выразна асвятліла сітуацыю, якую К. Маркс падсумаваў лаканічнымі словамі: чарговы падзел Рэчы Паспалітай адбыўся «в результате сговора крупной феодальной аристократии Польши с теми державами, которые приняли участие в ее разделе... Он явился для крупной аристократии последним средством спасения от революции»[28].

Сярод арыгінальных твораў расійскай гістарыяграфіі першага падзелу Рэчы Паспалітай трэба назваць артыкулы М. Дубровіна і М. Чачуліна, якія вызначылі кіруючую ролю пецярбургскіх паслоў у заваяванні Расіяй

«преобладающего значения в Польше», якія літаральна адчынілі для Расіі сухапутнае акно ў Еўропу праз тэрыторыю ВКЛ[29].

Такім чынам, большасць прац класікаў расійскай гістарыяграфіі прысвечана перыяду ўсталявання апекі Расіі над Рэччу Паспалітай. Многія моманты падтрымання гэтай дырыжорскай ролі, у тым ліку і ўзброенага задушэння супраціўлення, гэтымі класікамі ігнараваліся, відаць з боязі спляміць аблічча вызваліцеля. Іншыя працы выходзілі кампілятыўнымі перапевамі тэм анархіі, сапсаванасці палякаў, патрэбнасці лячэння «смут» моцнай рукой таленавітых палкаводцаў і г.д.[30] Дасягненні расійскай класічнай гістарыяграфіі можна абагуліць наступнымі тэзісамі.

1. Падзелы Рэчы Паспалітай сталі непазбежным вынікам коснасці і неўспрымальнасці эгаістычнай шляхтай любых перамен упадабанага ладу, у тым ліку і неабходнасці ўсталявання дзеяздольнай цэнтральнай улады ў выглядзе ўласнага абсалютызму. Рэспубліка была асуджана на падпарадкаванне чужаземнаму дыктату.

2. Расія замацавалася ў ролі дырыжора ўнутраных спраў Рэчы Паспалітай пры добраахвотнай згодзе (запрашэнні) падатлівых магнатаў і пры імкненні прыгнечанага адзінавернага сялянства далучыцца да імперыі. Гэтае далучэнне з'яўляецца справядлівым і законным аб'яднаннем карэнна-рускіх зямелъ з іх жыхарамі ў межах старадаўняй дзяржавы.

3. Рэч Паспалітая служыла для суседзяў аб'ектам кампенсацый за страты або няўдалыя войны за іншыя тэрыторыі. Адступленні Расіі ад сваей апекі цэласнасцю Рэчы Паспалітай і ўдзел у падзелах вымушаны націскам пераважна Прусіі і выкананы з мэтай захаваць рэспубліку у якасці бар'ера на выпадак міжусобнай еўрапейскай вайны.

У цэлым дваранска-манархічная гістарыяграфія Расіі вызначыла самастойна прычыны і механізмы падзелаў, якія адзін з класікаў марксізму падсумаваў формулай: Рэч Паспалітая, як «дворянская республика, основанная на эксплуатации и угнетении крестьян, не способная по своей конституции ни к какому общенациональному действию», была асуджана «тем самым стать легкой добычей своих соседей». Больш таго, гаварыў Ф. Энгельс, «Западная Россия,» г. зн. і жыхары Беларусі, «спокойно подчинялись господству русских», а само «господство России играет цивилизаторскую... прогрессивную роль» у здольнасці яе асіміляваць чужародныя элементы ў параўнанні з «шляхетско-сонной Польшей»[31]. Паколькі марксізм хутка стаў афіцыйнай ідэалогіяй савецкай дзяржавы, то няма нічога дзіўнага ў тым, што савецкія гісторыкі пад выглядам марксісцкіх дагматаў уваскрашалі ўсе набыткі расійскай гістарыяграфіі XIX ст. наконт прагрэсіўнасці і легітымнасці далучэння. У выніку савецкая навука была асуджана на доўгую схаластычную кампіляцыю дасягненняў папярэднікаў, падганяючы іх, хіба што, пад штучнае ідэалагічнае сіта прагрэсіўных і рэакцыйных з'яў, пад фаталізм ужо капіталістычных тэндэнцый[32].

Прыкладам штучнасці падобных схем можа быць спроба У. Пічэты ў 1953 г. паглядзець на паўстанне 1794 г. праз прызму няўмольнасці буржуазнага прагрэсу. Паражэнне прагрэсіўнага пачатку яму давялося тлумачыць тым, што «шляхетско-буржуазный блок предпочитал политическую смерть своего государства демократической революции, а руководители восстания своей шляхетской политикой обрекли его на неудачу». У духу класікаў ён заснаваў традыцыю глядзець на асаблівасці паўстання ў ВКЛ з таго боку, што віленскія кіраўнікі паспяшаліся выступіць адасоблена з-за незадаволенасці скасаваннем

аўтаноміі княства і ўвядзення унітарнай дзяржавы па канстытуцыі 3 мая 1791 г.[33]. Гэты пастулат у пачатку 90-х гадоў выліўся нават у думку, што віленскі паўстанцкі ўрад збіраўся аднавіць «незалежную Беларуска-Літоўскую дзяржаву». Дыскусія вакол вызначэння сацыяльнага характару і ролі паўстання ў гісторыі ВКЛ, тым не меней, паказала, што віленскае кіраўніцтва трымалася асноў канстытуцыі 3 мая[34]. Гэтая палеміка сама адлюстроўвае нявырашанасць паўстанцкім кіраўніцтвам пытання – рэалізаваць рэформы Вялікага сейма радыкальным чынам пад час паўстання або адкласці іх да перамогі.

Ліквідацыя самастойнасці Рэчы Паспалітай самую багатую літаратуру спарадзіла сярод польскамоўных аўтараў, якія не абміналі ўвагай нікога і нічога, што толькі фігуравала на сцэне падзелаў. Пошук іх прычын і адказных актыўна пачаўся ў пачатку XIX ст. з раздваення пазіцый. Адзін падыход у 1830 г. акрэсліў граф Адам Гуроўскі, які называў падзелы фатальнай божай карай за ўласныя грахі дэмаралізаванага насельніцтва, чаму трэба скарыцца і смірна падпарадкавацца чужаземнай уладзе, асабліва расійскаму самадзяржаў'ю, як самаму лепшаму ў свеце[35]. Другі кірунак вызначылі І. Нямцэвіч і І. Лялевель, якія выводзілі катастрофу з занядбання арыстакратыяй традыцый дэмакратыі, якая паралізоўвала ўсякія рэформы спарахнелага ладу з нежадання паступіцца сваім саслоўным эгаізмам на карысць іншых станаў[36]. Прыкладна ў сярэдзіне XIX ст. абодва напрамкі сфармулявалі сукупнасць прычын гібелі Рэчы Паспалітай: косна-анархічны лад, непрыдатны для рэфармавання, неабмежаваны праізвол магнатаў-шляхты, выбарнасць каралеўскага пасада, выгаднага для замежнага ўмяшання, аднагалоссе (ліберум вета), якое прыводзіла да стагнацыі сеймаў і безуладдзя ў цэлым (анархіі), шкоднасць канфедэрацый з

іх большасцю галасоў, якія расколвалі краіну і тым самым спрыялі замежнаму панаванню, і г.д.

Пры высвятленні ўзаемадзеяння гэтых фактараў, польская гістарыяграфія надалей развівалася ў дыскусіі паміж кракаўскай і варшаўскай школамі. У цэнтры спрэчак стаяла пытанне аб здольнасці дзяржавы рэфармавацца або ўласнымі сіламі або пад пратэкцыяй суседзяў. Кракаўская школа выводзіла занапад з тэорыі «натуральнай смерці» Рэчы Паспалітай пры яе ўпартым нежаданні мець моцную цэнтральную ўладу на ўзор абсалютных манархій у суседзяў[37]. Варшаўская школа канцэпцыю безнадзейнасці замяняла аптымістычным пошукам праяў станаўлення ўласнай канстытуцыйна-абмежаванай манархіі, яе здольнасці праводзіць палітыку сацыяльнай гармоніі на аснове традыцый шляхецкай дэмакратыі, сканаўшых пераважна пад замежным гвалтам[38]. Гэтыя разыходжанні і супадзенні далей сплята给ліся пры вырашэнні канкрэтных праблем і тэм.

У агульным плане пытанні першага падзелу прадстаўлены больш у іканаграфічных працах гісторыкаў кракаўскай школы, якія тлумачылі гэты падзел непазбежным следствам анархіі краіны, бяспраў'я сялян, здрадніцтва эліты, адсутнасці эфектыўнай цэнтральнай улады.[39] Гэтую традыцыю падмацоўвалі публікацыі мемуараў сучаснікаў[40] і асабліва працы, прысвечаныя ролі Барскай канфедэрацыі 1768—1772 гг. у знясільванні краіны, што прычынілася непасрэднай падставай для агрэсіі трох суседзяў[41]. Е. Міхальскі лічыў бясслаўны фінал гэтай канфедэрацыі вынікам шляхецкіх ілюзій у тым, што слабая Рэч Паспалітая выстаіць з-за аднолькавай зацікаўленасці агрэсіўных суседзяў у гэтай анархіі дзеля захавання еўрапейскай раўнавагі паміж імі[42]. Паколькі ж падзел адбыўся, то гісторыкі зацікавіліся правалам першых

рэформ караля С. Панятоўскага[43], працэдурамі і вынікамі ганебнага сейма 1773—1775 гг.[44], якія таксама праводзіліся ў вострых сутычках ахоўнікаў старавеччыны і абнаўленцаў[45].

Лёс рэформ у пазіцыі «вольных» шляхецкіх сходаў набыў самастойнае навуковае значэнне сярод даследчыкаў[46]. Е. Міхальскі на падставе інструкцый сеймікаў 70—80-х гг. заключаў, што іх праграмы выражалі негатыўнае стаўленне шляхты да дзяржаўных пераўтварэнняў[47], тады як А. Страйноўскі толькі расійскіх паслоў лічыў «галоўнымі глушыцелямі рэформ»[48]. Яго падтрымліваў Е. Лоек, гаворачы, што застой навязаны гарантыямі суседзяў, у тым ліку трактатамі з Расіяй 1768 і 1775 гг.[49]. Яшчэ адна група даследчыкаў коснасць ладу лічыла гістарычнай традыцыяй, замацаванай з канца 17 ст. у забароне ўсякіх змен любым сеймам. Таму любыя перабудовы аказваліся дарэмнымі, безвыніковымі, а ў дадатак праводзіліся атачэннем караля пад кантролем Расіі і з паслядоўным пазбаўленнем выбарчых правоў немаёмнай шляхты[50]. Найноўшыя даследаванні пацвердзілі ўкаранеласць сярод шляхты апалагетыкі і веры ў дасканаласць існуючага ладу, шкоднасці яго змен. Упэўненасць шляхты ў тым, што слабая Рэч Паспалітая нікому не пагражае, вылілася ў палітычную стагнацыю і байкатаванне любых спроб укараніць нязвыклы дэспатызм абсалютызму, пагражаючы нізрынуць залатыя вольнасці[51].

Гэтая згубная самаўпэўненасць выразна праявілася на абшары ВКЛ, дзе шляхецкія сеймікі выступалі паслухмянай прыладай магнацкіх клік – ці то водцы антыкаралеўскай партыі Караля Радзівіла[52], або каралеўскага фаварыта Антона Тызенгаўза[53]. На жаль, аб сутнасці шляхецкай дэмакратыі тут мы больш даведваемся не з навуковых доследаў, а ад сведкаў. Яны пісалі, што «свабода, якой так ганарацца палякі, з'яўляецца справай адной

магнатэрыі і шляхты», што неабмежаваны ўціск сялян тут «горшы за тыранію абсалютнай улады», што тут «ніхто не выконвае сваіх абавязкаў дарма», а ўсе тытулы, пасады купляюцца і прадаюцца, што тут лічаць усякія прававыя інстытуты «труной вольнасці, пачынаюць і завяршаюць судовыя працэсы гарэлкай» і самасудам, не жадаючы падпарадкоўвацца ніякай цэнтральнай уладзе[54]. Гэты прававы нігілізм пад плашчом «найдасканалейшага» статута не мог не адазвацца на спробах чатырохгадовага сейма (1788—1792 гг.) радыкальна перабудаваць увесь грамадскі гмах пры спрыяльнай адсутнасці замежных войск у краі.

Пачатак сінтэтычнаму вывучэнню прац Вялікага сейма заснавалі ў канцы XIX ст. У. Смаленскі[55] і У. Калінка. Два тамы апошняга гісторыка вылучаюцца сістэматызаванай канцэпцыяй некрывавай або аксамітнай рэвалюцыі на сейме ,якi памкнуўся змякчыць уціск паноў-шляхты над сялянамі шляхам дзяржаўнага рэгулявання, без парушэння карэнных асноў сацыяльных узаемаадносін[56]. Наступныя гісторыкі стараліся ўважліва прасачыць сеймавыя навацыі ў плане стварэння баяздольнай арміі[57], самастойнай аўтакефальнай праваслаўнай царквы[58], кадыфікацыі заканадаўства і уніфікацыі самой уніі Кароны з ВКЛ[59]. Як самыя абагульняючыя працы аб Вялікім сейме, так і спецыяльны артыкул Е. Міхальскага аб пасольскіх наказах сеймікаў, паказвалі, што шляхта прытрымлівалася кансерватыўнай веры ў дасканаласць ладу і разлічвала на абароненасць дзяржавы гарантыямі суседзяў або іх дапамогай у выпадку еўрапейскай вайны[60]. Аднак вераломная вайна 1792 г. пахавала гэтыя надзеі, а працы аб стварэнні ворагамі перадавой канстытуцыі 3 мая 1791 г. таргавіцкай канфедэрацыі канчаткова скрушылі дарэмныя спадзяванні[61]. У. Скаўронскі нават мусіў назваць

разлікі рэфарматараў безнадзейнымі з-за банкруцтва памяркоўных крокаў[62].

Гродзенскі сейм 1793 г., які аформіў вынікі таргавіцкай здрады і другога падзелу краіны, найбольш змястоўна разгледжаны ў працах Л. Вегнэра, У. Смаленскага[63], а таксама добра прадстаўлены ў мемуарах Я. Сіверса, А. Трэмбіцкага, Л. Гінета.[64] Л. Кадзела прадпрыняў спробу аптымістычнай ацэнкі гродзенскага сейма з погляду на стварэнне ім «разумнага і людскога ўрада» пад шчытом расійскай апекі, безвыходнасці дзеянняў натхніцеляў гэтага плана ва ўмовах дамаганняў Прусіі[65]. Гісторык назваў сейм «не камедыяй, а трагедыяй», якая ў наступным годзе вылілася ў непрымірымую барацьбу памяркоўнай і якабінскай плыняў пад час паўстання 1794 г.

Практычна ўсе даследчыкі гэтага паўстання адзначаюць, што павадыры паўстання, у тым ліку і Тадэвуш Касцюшка, трымаліся памяркоўнай лініі Вялікага сейма ў сваім клопаце правесці патрэбныя перамены часова, у рамках праграмы сацыяльнай гармоніі станаў, дзеля ўнікнення замежнай інтэрвенцыі[66]. Другое, якабінскае крыло звычайна звязваюць з асобай палкоўніка Якуба Ясінскага і ягонымі спробамі скіраваць паўстанне ў ВКЛ у бок неадкладнага ўвядзення сацыяльнай роўнасці па прыкладу Францыі[67]. Найбольш грунтоўна асаблівасці паўстання ў ВКЛ разгледзелі Г. Масціцкі і З. Сулек, дасягненні якіх прадоўжаны ў многіх працах кампілятыўнага характару[68]. Польскія даследчыкі здолелі ахапіць увагай розныя бакі ваенна-арганізатарскай дзейнасці паўстанцаў, праўда пераважна на прыкладзе польскай тэрыторыі. Яны выдатна паказалі, што ваганні кіраўнікоў і выканаўчых органаў паўстання паміж барацьбой за незалежнасць і пастаяннымі саступкамі шляхецкаму эгаізму прывялі да паражэння і канчатковай гібелі дзяржавы[69]. Сярод гэтых

горкіх ацэнак існуе меркаванне, што якабінцы адказныя за правакаванне грамадскага расколу і спрыянне збройнай інтэрвенцыі Прусіі, Аўстрыі і Расіі[70]. Аднак, паколькі паўстанне было задушана сумесна трыма манархамі, то большасць гісторыкаў не прыдавалі годнай увагі самому акту выканання трэцяга, апошняга, падзелу Рэчы Паспалітай паміж захопнікамі.

Пры ўсіх адценнях розніцы пазіцый у тлумачэнні прычын і абставін падзелаў Рэчы Паспалітай польскамоўная гістарыяграфія выпрацавала ўмоўна некалькі ацэначных мадэляў. Першую можна назваць тэорыяй самазабойства кракаўскай школы (безуладдзя), якое свядома падтрымлівалі і апекавалі зацікаўленыя суседзі. Другая тэорыя буфера або выжываемасці ўяўляе краіну востравам свабоды, абароненага ўзаемным саперніцтвам агрэсіўна настроеных суседзяў і вольналюбствам шляхты з яе верай у дасканаласць існуючага грамадскага ладу. Трэцяя, менш пашыраная, тэорыя дагаворна-ўніянісцкага тыпу дзяржавы выстаўляе яе міралюбна-талерантнае аблічча ў параўнанні з дэспатычнымі рэжымамі суседзяў, зацікаўленымі ў распальванні рэлігійных канфліктаў дзеля замацавання сваіх вялікадзяржаўных уплываў у краіне.

Апошнія абагульняючыя працы польскіх даследчыкаў паказалі, што Расія з самога пачатку пастаўлення на трон С. Панятоўскага процідзейнічала аздараўленчым рэформам разам і ў саюзе з кансерватыўнымі сіламі ўнутры Рэчы Паспалітай[71], што гэтыя рэформы правальваліся, бо не парушалі карэнных прынцыпаў будовы дзяржавы і засілля магнатаў, якія ўдала скарыстоўвалі традыцыйныя інстытуты агульнашляхецкага прадстаўніцтва (вольную элекцыю, ліберум вета, канфедэрацыі і самыя сеймікі) для процідзеяння станаўленню ўласнай эфектыўнай цэнтральнай улады з абсалютным манархам на чале яе[72].

Прыведзеныя ацэнкі, пры ўсёй іх схематычнасці, паказваюць, што падзелы Рэчы Паспалітай неад'емныя ад унутранай гісторыі складаючых яе народаў гэтак жа, як і агульнаеўрапейскіх стасункаў у цэлым. Шырыня праблематыкі не дазволіла ні расійскім, ні польскім даследчыкам спецыяльна засяродзіцца на вызначэнні ВКЛ у пахаванні падзеламі некалі неспакойнай еўрапейскай дзяржавы. Аднак досыць лёгка пры гэтым вызначыць храналагічныя межы часу – падзелы адбыліся пры праўленні расійскай імператрыцы Кацярыны II (1762—1796) і пастаўленага ёю караля С. Панятоўскага (1764—1795).

Пры ўсіх супадзеннях розных канцэпцый, школ і мадэляў у тлумачэнні заняпаду Рэчы Паспалітай можна адзначыць шэраг дыскусійных і цьмяных праблем у гістарыяграфіі праблемы. Паколькі з 1764 г. палітычная эліта Рэчы Паспалітай паслядоўна арыентавалася на Расію, то няясныя матывы пачарговага адступлення яе ад сваіх апякунскіх правоў і саўдзелу ў падзелах з Аўстрыяй і Прусіяй. Паколькі ворагі караля таксама прытрымліваліся прарасійскай арыентацыі, то не зразумелыя падставы іх саюзніцкіх абавязкаў пры кожным падзеле, гэтак жа, як і змены персанальнага складу памагатых. Практычна адкрытым застаецца пытанне аб добраахвотнасці і гвалтоўнасці пры афармленні расійскага пераважнага ўплыву, адказнасці за гэта шляхецкага саслоўя ў цэлым. Праблемным аказваецца пытанне, у якой ступені ўзрасталі або звужаліся магчымасці рэфармавання краіны ў залежнасці ад паступовага скарачэння тэрыторыі. Існуючая літаратура не дае адказу на пытанне аб дынаміцы пазіцыі шляхты адносна прынцыповых падзей часоў падзелаў ні ў іх храналагічным ланцугу, ні ў сэнсе кадравага складу удзельнікаў сеймікаў. Не асветлены дагэтуль таксама змястоўны бок супрацьстаяння

цэнтралісцкіх і аўтанамісцкіх плыняў у рэчышчы агульнадзяржаўных пераўтварэнняў. Таму гэта даследаванне нацэлена на вырашэнне згаданых задач з улікам набыткаў гістарыяграфіі і на падставе малавядомых архіўных крыніц.

У цэнтры дадзенай працы пастаўлена ВКЛ, якое пры падзелах было больш чым проста прахадным дваром у геапалітыцы суседзяў. Мэтай працы ставіцца вызначэнне ўзаемадзеяння грамадскіх працэсаў унутры ВКЛ з падзеламі Рэчы Паспалітай і ўплыў апошніх на характар гістарычнай эвалюцыі ВКЛ у аналізуемы перыяд. Чым было ВКЛ у гэты час – калідорам расійскага ўплыву ці бастыёнам «дэмакратыі» супраць агрэсіўнага Усходу – прыкладна так можна сфармуляваць канчатковую мэту працы.

Праца заснавана пераважна на малавядомых архіўных крыніцах, з чаго паўставалі дзве цяжкасці пры іх сістэматызацыі. Адсутнасць папярэдняй публікацыі дакументаў, кшталту тэматычных зборнікаў, прымусіла перадаваць іх змест максімальна поўна і дакладна. Груваасткія паведамленні спрашчаліся і скарачаліся толькі ў тых месцах, калі яны супадалі з існуючымі ў літаратуры абагульненнямі. Па-другое, даводзілася браць бок поўнага вызначэння і цытавання з-за навізны многіх характарыстык, асабліва што тычыцца праграм шляхецкіх сеймікаў і кола іх удзельнікаў. Паўтарэнні сюжэтаў вынікаюць з факталогіі і робяцца для вызначэння ўстойлівасці або дынамікі той ці іншай з'явы. Нарэшце, цяжка дабіцца прыгожай рэжысуры аналізу там, дзе пэўныя факты пераплецены безліччу ўплыву іншых, кожны з якіх варты называцца вызначальным. Таму аўтар імкнуўся глядзець на авансцэну падзей панарамна.

Паколькі праца зыходзіць з інфармацыі першакрыніц, то было б недарэчным апярэджваць аналіз механічным

пераказам іх зместу. Значны пласт даведак узяты з архівасховішчаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (НГАБ). Гэта тычыцца актаў земскіх і гродскіх судоў ВКЛ, у якіх зарэгістраваны працэсы ўдзельнікаў падзей вакол барацьбы за зямлю, сялян, пасады, таксама маніфесты сеймікаў (лаўдымы) і канфедэрацый з персанальным складам падпісантаў. У рознай ступені паўнаты гэта дазваляе ўпершыню паўнакроўна прасачыць эвалюцыю праграм, настрояў шляхты за ўвесь разглядаемы час, вызначыць кадравы партрэт выбаршчыкаў і іх прадстаўніцтва ў розных органах улады. У нязначнай ступені патрэбныя матэрыялы распылены па рознагаліновых фондах Расійскага дзяржаўнага архіва старажытных актаў (РДАСА). Гэта пераважна персанальныя зборы канцылярыі Кацярыны II і яе фаварытаў, перапіска іх з падначаленымі цэнтральнымі і мясцовымі кіраўнікамі (намеснікамі, губернатарамі і г.д.) з нагоды фарміравання ўпраўленчых рашэнняў, заканадаўчых пастаноў, кадравай палітыкі на далучаных землях.

З Расійскага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіва (РДВГА) браліся дакументы фондаў, якія тычыліся складу і дыслакацыі войскаў, іх матэрыяльнага забеспячэння і ўзаемаадносін з мясцовым насельніцтвам, планавання баявых аперацый і характарыстыкі як дробных, так і буйных сутычак пры падаўленні ўзброеных канфедэрацый і паўстання 1794 г. Шмат гэтых звестак дубліруецца з іншымі архівасховішчамі, што спрыяе ўдакладненню інфармацыі і яе ўзбагачэнню. Гэта тычыцца самага вялікага збору крыніц Архіва знешняй палітыкі Расійскай імперыі (АЗПРІ), або ведамства, якое займалася непасрэдным і агульным планаваннем падзелаў, узгадненнем палітыкі Расіі з іншымі саюзнікамі, у тым ліку і прыслужнікамі ў ВКЛ. Значэнне гэтага дакументальнага

збору ў поўнай меры адлюстравана зместам дадзенай працы, а таксама тым, што гэта — раней сакрэтныя або закулісныя таямніцы гісторыі, якую некаторыя вядомыя даследчыкі прыводзілі ў кан'юнктурнай інтэрпрэтацыі. Некаторыя матэрыялы па дысідэнцкай справе выяўлены ў Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве (РДГА) у слабараспрацаваным фондзе уніяцкіх мітрапалітаў. Нарэшце, дапамаглі пры падрыхтоўцы тэксту сціплыя зборы дакументаў у рукапісных фондах Расійскага дзяржаўнага гістарычнага музея (РДГМ) і Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі (РДБ). Частка гэтых матэрыялаў ужо апрацавана аўтарам у артыкулах і ўжываецца зараз для большай дакладнасці інфармацыі.

Пераважная ўвага да рускамоўных крыніц прадыктавана ў першую чаргу тым, што архівы Польшчы і іншых краін, саўдзельнікаў падзелаў, ужо даўно распрацаваны ў змястоўных творах даследчыкаў, аб чым сведчыць і прыведзены тут сціплы гістарыяграфічны агляд праблемы. Аўтару застаецца толькі абапірацца на гэтыя дасягненні ці карэкціраваць іх. Па-другое, у існуючых працах надта не хапае дакументальных характарыстык пазіцыі Расіі пры ўсіх падзелах, тым больш што яна аказалася галоўным вяршыцелем лёсу падначаленых сабе зямель ВКЛ. На гэта асабліва скардзяцца польскія гісторыкі.

Пры выбары метаду даследавання аўтар кіраваўся храналогіяй падзей. Таму часта даводзілася адступацца ад тэматычнай канвы, каб высветліць значэнне розных акалічнасцяў (фактараў) за пэўны прамежак часу ў агульнай дынаміцы разглядаемых працэсаў. Прозвішчы і імёны падаюцца поўнасцю пры іх першым упамінанні, а для лепшай арыентацыі ў калаўроце персаналіяў у дадатку змяшчаецца спіс імёнаў. Пры спасылках на крыніцы на першае месца ставіцца іх месцазнаходжанне ў архівасховішчах

для таго, каб паказаць, адкуль, калі гэта здаралася, даследчыкі бралі свае даведкі.

Аб'ект даследавання акрэсліваецца межамі сучаснай Беларусі, землі якой у разглядаемы час складалі большасць прасторы ВКЛ, аднак у афіцыйных, публічна-прававых актах адпаведнага перыяду яны называліся правінцыяй ВКЛ або Літоўскай правінцыяй. Аўтар старанна прыводзіць палажэнні сеймаў і сеймікаў адносна гэтага пытання, каб чытач самастойна ўпэўніўся ў трываласць падобнага тэрміну «літоўскі» ці «літвінскі».

Аўтар спадзяецца, што ўсё зробленае ім ніжэй спалучае інфармацыйныя каштоўнасці з належным навуковым узроўнем і аб'ектыўнасцю ўласных высноў. Ён вельмі ўдзячны прапановам сваіх першых чытачоў, асабліва *В. Грыгор'евай, А. Доўнару, А. Краўцэвічу,* бескарыслівай дапамозе *Е. Фешчанка*, мецэнатскаму клопату *Алы і Віктара Хурсікаў.*

### *Бібліяграфія да ўводзін*

[1] Туполев Б.М. Фридрих II, Россия и первый раздел Польши // Новая и новейшая история. 1997. № 5. С. 171—192; Носов Б.В. Разделы Речи Посполитой и русско-польские отношения второй половины XVIII века в зарубежной историографии // Славяноведение. 1993. № 5. С. 86—100; Кручковский Т.Т. Проблемы разделов Речи Посполитой в русской историографии второй половины XIX — начала XX века // Там жа. С. 76—85; Носов Б.В. Курляндское герцогство и российско-польские отношения в 60-е гг. XVIII века. К предистории разделов Речи Посполитой // Там жа. С. 54—66; Кареев Н.И. Падение Польши в исторической литературе. СПб., 1888; Szerejski M.N. Europa a rozbióry Polski. Warsz., 1970; Ён жа. Upadek Polski a «odrodzenia» narodu w historiografji polskiej konca XIX wieku // Przegląd Historyczny. 1972. T. 63. Z. 3. S. 413—436; Drozdowski M. Historiografia polska o konfederacyi Barskiej // Universitatis Gedanensis. 1960. № 15. S. 25—36; Zelińska Z. Pytania wokol genezy I rozbioru //

Ziemie polnoczne Rzeczypospolitey poisko-litewskiey w dobie rozbiorów 1772— 1815. Warsz.–Toruń, 1996. S. 7—12.

[2] Szereyski M. Europa... С. 24, 49, 50, 54, 57, 70, 74, 78—79, 99, 106.

[3] Турчинович Ф. Обозрение истории Белоруссии с древнейших времен. СПб., 1857. С. 239.

[4] Маркс К., Энгельс Ф., Сочинения. Изд. 2-е. М., 1962. Т. 22. С. 19.

[5] Востоков А. Старческие воспоминания // Вестник Юго-Западной России. Киев, 1864. Т. 3. Кн. 8. С. 45—46.

[6] Речь старопольского крестьянина, произнесенная перед императрицей Екатериной II // ВЮЗР. Киев, 1864. Т. 3. Кн. 7. С. 4—18.

[7] Из бумаг Василия Степановича Попова // Русский архив. М., 1865. № 3. С. 789—790. Гэтае сцвярджэнне даслоўна паўторана: Тарле Е.В. Екатерина Вторая и её дипломатия. М., 1945. С. 20: Грыцкевіч В. Два погляды на адну Канстытуцыю // Полымя. 1993. № 9. С. 188.

[8] Крестьяне в Польше накануне последнего раздела // Славянский сборник. Пг., 1876. Т. 3. С. 70.

[9] Маврицкий В. Положение крестьянства в Польше и Западной России // Вестник Западной России. Вильно, 1871. Т. 9. Кн. 3. С. 2; Документы, объясняющие историю Западно-русского края и его отношения к России и Польше. СПб., 1865. С. 372—418.

[10] Документы, объясняющие... С. 374.

[11] Содержание доклада, поднесенного сейму от депутации о бунтах 26 марта 1790 г. // Чтение в обществе истории и древностей Российских. М., 1865. к. 2. С. 6—27; Аб тым жа: Ф. Бродович. Исторические записки о событиях на Волыни и Подолии в 1789 г. // ЧОИДР. М., 1868. Кн. 4. С. 961, 979.

[12] Коялович М. История русского самосознания по историческим памятникам и научным сочинениям. СПб., 1884. С. 338, 375; Ён жа. Историческое исследование о Западной России. СПб., 1865. С. 56.

[13] Розов А. Кто был виновником первого раздела Польши // Беседа. М., 1872. Кн. 8. № 8. С. 336; Первый раздел Польши // Зритель. 1863. № 35. С. 298, № 36. С. 328, 333.

[14] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. Т. 22. С. 19; Щебальский П. Русская политика и русская партия в Польше до Екатерины II. М., 1864. С. 6, 34, 46.

[15] Соловьев С.М. История падения Польши // Соловьев С.М. Сочинения. М., 1995. Кн. 16. С. 411; Там жа. Кн. 14. С. 580—582.

[16] Есипов Г. Фридрих II и граф Панин // Беседа. М., 1871. Кн. 1. С. 289

[17] Бумаги, касающиеся I раздела Польши (из архива графа П. Панина) // РА. М., 1871. Т. 2. С. 1794—1798, М., 1872. Т. 10. № 1. С. 42—97.

[18] Григорович Н. Канцлер князь Александр Андреевич Безбородко в связи с событиями его времени // Сборник русского исторического общества. М., 1879. Т. 26. С.422, 430; Русская старина. 1876. Т. 17. № 10. С. 215, № 12. С. 640, 644.

[19] Кульжинский И. Последнее пятидесятилетие Польши // Вестник Юго-Западной и Западной России. Киев, 1863. Т. 3. Кн. 7. С. 17; Федоров И.Л. Граф Михаил Никитич Кречетников. Каменец-Подольск. 1893. С. 4, 31, 39; Внутренние причины падения Польши // РС. СПб, 1900. Т. 103. С. 325; Бильбасов В. История Екатерины II. Берлин, 1890. Т. 2. С. 197, 369, 373; Ключевский В.О. Курс русской истории. М., 1958. Т. 5. С. 34, 40, 45, 52, 61; Кареев Н. Исторический очерк польского сейма. СПб., 1893.

[20] Польский элемент на Западе России // Вестник Западной России. Вильно, 1869. Кн. 7. Т. 8. С. 4, 7.

[21] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. Т. 16. С. 164.

[22] СРИО. СПб, 1878. Т. 22; 1883. Т. 37; 1886. Т. 51; 1887. Т. 57; 1889. Т. 67; 1885, Т.47; 1893. Т. 87; 1901. Т. 109.

[23] Костомаров Н.И. Последние годы Речи Посполитой. СПб., 1870. С. 25, 75, 99, 112, 121, 144—145, 522, 527.

[24] Костомаров Н. Последние годы... С. 462, 472, 618.

[25] Костомаров Н. Последние годы... С. 698, 809, 860, 863, 867, 870.

[26] Тимощук В.В. Тарговицкая конфедерация // РС. СПб., 1904. Т. 120. № 6. С. 680, № 7. С. 165, 1905. № 1—2. С. 211.

[27] Иловайский Д. Гродненский сейм 1793 года – последний сейм Речи Посполитой. М., 1870. С. 11—13, 16, 108, 188, 214, 244, 263, 312—313.

[28] Маркс К. Дебаты по польскому вопросу во Франкфурте-на-Майне // Маркс К., Энгельс Ф. Соч. Т. 5. С. 352.

[29] Дубровин Н.Ф. Князь М.Н. Волконский и его донесения из Польши // Вестник Европы. 1868. Т. 6. Кн. 11. С. 83—141, Кн. 12. С. 543—594; Ён жа. Накануне первого раздела Польши 1770. № 1870. С. 191—251; Чечулин Н.Д. Внешняя политика России в начале царствования Екатерины II (1762—1774) // Записки историко-филологического отделения факультета императорского Санкт-Петербургского университета. СПб., 1896. Ч. 40; Ён жа. Политика России в Польше пред первым разделом // Журнал министерства народного просвещения. СПб., 1896. Ч. 306. С. 314—369, Ч. 307. С. 1—44.

[30] Гейсман П.А. Конец Польши и Суворов. СПб., 1900; Энгель А. Описание дел, хранящихся в архиве Виленского генерал-губернаторства. Вильно, Т. 1. Ч. 1—2; Ильенко А.К. Начало конца Польши. СПб., 1898; Записки Сергея Александровича Тучкова. СПб., 1908; Дуклан-Охотский Я. Рассказы о польской старине. СПб., 1874. Ч. 1—2; Выписки из архива канцелярии прибалтийского генерал-губернатора // Осьмнадцатый век. М., 1868. Кн. 3. С. 200—223; Воспоминания сенатора барона Карла Гейкинга // РС. 1897. Т. 91. С. 300—306; Михайлов А.Б. Истинные виновники раздела Польши // Исторический вестник. 1914. Т. 137. № 9. С. 4; Безбородко И.А. Журнал пребывания его величества Станислава Августа в Гродно 1795—1796 годов. М., 1870; О пребывании в России последнего короля польского Станислава Августа // РС. 1898. Т. 95; Рункевич С. История Минской архиепископии (1793—1832). СПб., 1893; Беднов В.А. Православная церковь в Польше и Литве. Екатеринославль, 1908; Пичета В.И. Внешняя политика Екатерины II // Три века. М., 1913. Т. 5. С. 49.

[31] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. Изд. 2-е. М., 1962. Т. 27. С. 241.

[32] Иваницкий С.Ф. Первый период Барской конфедерации // Ученые записки Ленинградского государственного пединститута им. А.И. Герцена. 1941. Т. 45; Джервис В. К вопросу о разделах Польши // Труды исторической комиссии АН. Исторический сборник. Л., 1934. Т. 1. С. 235—250; Саркисин О.С. Польская конституция 3 мая 1791 года // Вестник Ереванского университета. Общественные науки. Ереван, 1989. № 1; Иваницкий С.Ф. Польша в половине XVIII в. и возникновение барской конфедерации // Ученые записки Ленинградского государственного пединститута им. А.И. Герцена. Л., 1939. Т. 22. С. 106—182; Юсупов Р.Р. Польский вопрос в политике России накануне русско-турецкой войны 1768—1774 гг. // Вестник Московского университета. Сер. 8. История. 1980. № 3; Гражуль В.С. Тайны галантного века. М., 1997; Виноградов В.Н. Век Екатерины II: прорыв на Балканы // Новая и новейшая история. 1996. № 4. С. 108—161; Никитин М.Г. К вопросу о добровольности присоединения белорусской шляхты к тарговицкой конфедерации // Веснік БДУ. 1995. Сер. 3. № 1. С. 15—18; Марозава С. «Униятом не быть» // Палессе. Гомель, 1997. № 1(2); Грыцкевіч А.П. Рэлігійнае пытанне і знешняя палітыка царызму перад першым падзелам Рэчы Паспалітай // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1973. № 6. С. 62—71; Грыцкевіч В. Як месіяніцкі міф насаджаўся ў Беларусі // Спадчына. 1996. № 3; Юхо Я., Емельянчык У. За вольнасць нашу і Вашу. Мн., 1990; Карев Д. Латиняне и схизматики // Родина. 1994. № 2. С. 1—4.

паабяцалі вакансію выпхнутага з віленскага ваяводства К.Радзівіла, хаця зброю сакрэтна пасылалі праз літоўскага польнага пісара Антона Тызенгаўза. М.Агінскі разам з мсціслаўскім ваяводам Канстанцінам Плятарам і стражнікам Л.Пацэем паскардзіліся на страты ад захопу С.Маславым і У.Ферморам уцекачоў. У якасці кампенсацыі каля 100 шляхцюкоў Мсціслаўскага ваяводства 28 кастрычніка 1764 г. напалі на суседнія расійскія вёскі і вывелі адтуль 100 кароў, 340 авечак і 80 свіней. Кацярына II неадкладна загадала спыніць пасылку войск за мяжу, вярнуць захопленых імі «поляков с имуществом, взятых в числе российских подданных», задаволіць пакрыўджаных грашыма і паабяцала рашаць памежныя спрэчкі палюбоўна, «нежели силою и употреблением оружия».[46] Тым не меней, на мяжы нагатове стаяла 30-тысячнае войска.

Абстаноўка бескаралеўя дазваляла выбіраць не толькі паслоў на каранацыю, але і каптуровых суддзяў у ваяводствах і паветах, якія выступалі часовым гарантам стабільнасці. Іх пастановы прымаліся большасцю галасоў, а таму яны ствараліся як канфедэрацыі пад старшынствам (маршалствам) мясцовага ваяводы ці старасты. Склад іх не абмяжоўваўся, а іх рашэнні мелі канчатковую сілу паміж 3-тыднёвымі сесіямі, якія адбываліся раз у 6 тыдняў. Нядзіўна, што лютаўскія сходы шляхты забаламуцілі сполахі нязгоды.

Каля 77 чал. Мінскага ваяводства на чале з Тадэвушам Валадкевічам 6 лютага 1764 г. абвінавацілі рэферэндарыя ВКЛ Антона Праздзецкага, які з дапамогай 12 асоб шляхам фабрыкацыі галасоў у выбарчым протаколе і з ужываннем шабель правялі ў паслы гродскага пісара Адама Праздзецкага і генерал-ад'ютанта, гродскага суддзю Антона Тышкевіча[47] ды выбралі ў каптуровы суд сваіх

сяброў.[48] Гэты суд меўся пад старшынствам князя Міхаіла Жыжэмскага без усякай апеляцыі судзіць любыя выпадкі гвалтоўных наездаў на шляхецкія маёнткі, якія прыводзілі да «паніжэння вольнасці і роўнасці шляхецкай». 10 дабрадзеям Пінскага павета на чале з генерал-ад'ютантам Юзафам Шчытам, земскім пісарам Томашам Куржанецкім, скарбнікам Юзафам Варажылам, мечнікам і ротмістрам Людвікам Орда, каморнікам Станіславам Гадзебскім, абозным Міхаілам Даманскім толькі ў Навагрудскім ваяводстве ўдалося зарэгістраваць пратэст на гвалты партыі стольніка Людвіка Арэшкі, які ўначы 5 лютага 1764 г. на ўласнай кватэры назваўся маршалкам павета, а затым у атачэнні сяброў і 2 надворных харугваў драгун судовага старасты М.Агінскага акружыў ратушу, хаты выбаршчыкаў і «быццам бы пад тытулам канфедэрацыі» навязаў шляхетнаму сходу і сябе, як маршалка, і паслоў (пінскага падстарасту Пятра Трацкевіча і стражніка Яна Арэшку), і інструкцыю, прымусіўшы прыняць «прыватную сваю пастанову» пад дуламі пісталетаў.[49]

Сеймік Навагрудскага ваяводства каламуцілі васкаўскі староста Ігнацi Быкоўскі разам з 8 сябрамі, якія хацелі правесці ў каптуровы суд канюшага Міхаіла і ротмістра Тадэвуша Крыжаноўскіх, якіх вінавацілі па суду за гвалтоўныя наезды. Сеймікам верхаводзіў ваявода Юзаф Аляксандр Прушыноўскі-Яблонскі. Сабраныя ім 54 чал. паслалі на каранацыйны сейм клецкага ардыната Мікалая Юзафа Радзівіла і цырынскага старасту Юзафа Несялоўскага, а ў каптуровы суд абралі 50 членаў.[50] З іншых сеймікаў нам вядомы яшчэ наказ 199 шляхты Гродзенскага павета пісару ВКЛ А.Тызенгаўзу і навагрудскаму стольніку Іяхіму Храптовічу. Тут сход адбыўся пад дырэкцыяй Франца Боўфала.[51]

І ў Навагрудку, і ў Гродне аднолькава жадалі вольнай элекцыі Пяста, хаця навагрудчане хацелі б заключыць з вянцаносцам Пакта Канвента (умовы праўлення) і бачылі сярод паслоў толькі радавітую шляхту. Абодва сходы клапаціліся аб захаванні уніі Кароны з ВКЛ. Праўда, асобнасць княства Навагрудак спалучаў з самастойным скарбам, а Гродна – з уласнай адміністрацыяй, бо тут засцерагалі «рышпект правінцыі ВКЛ» пры каралеўскай раздачы вакансій па прынцыпу - каранякам у Кароне, ліцвінам – у сябе паводле канстытуцый 1510, 1538, 1563, 1569, 1662 і 1717 гг.. Гродзенскі сеймік жадаў павялічыць публічныя расходы без крыўды абывацеляў, а ў Навагрудку прасілі не раздаваць некалькіх староставаў у адны рукі. Зыходзячы з адсутнасці «моцнага права», у Гродне хацелі ўрэгуляваць працэдуру соймаў і судоў без змяшання іх кампетэнцыі. У Навагрудку гэты пункт разумелі ў сэнсе ўдакладнення ўлады віленскага ваяводы і тэрміновай паправы трыбунальскага працэсу разам з ліквідацыяй свавольных наездаў. Тут прагнулі, каб чыны атрымлівалі толькі патрыёты, каб шляхецкія паслы наймалі кватэры, а не стаялі прымусовым пастоем па шляхецкіх хатах. Гродна раіла ўзвесці віленскага епіскапа ў сан мітрапаліта і заспакоіць дысідэнтаў «новым правам». У Навагрудку сенатарам сейма бачылі мітрапаліта «ўсяе Русі», праўда з умовай, што ён будзе мясцовым ураджэнцам.[52]

Аб панаванні «бяспраўя ў правінцыі над роўнасцю», раздваенні сеймікаў пры выбары дэлегатаў з дапамогай гармат занатаваў акт канфедэрацыі Гродзенскага павета ад 19 красавіка 1764 г., дзе старшынстваваў палкоўнік А.Тызенгауз. Дырыжорам гвалтаў называўся К.Радзівіл, які разганяў каптуровыя суды і змяшчаў суддзяў, якія «яму рабалепнічаць не хацелі». Браслаўскі кашталян Ян

Чарноцкі страціў амаль 150 тыс. зл. ад шкод, нанесеных яму ў графстве Любяшоў Пінскага павета радзівілаўскім надворным войскам, пасланым люта выбіраць кантрыбуцыю з мяшчан і яўрэяў.[53] Каля 1 млн. зл. страціў ад нападаў К.Радзівіла граф Станіслаў Ржэвускі. Граф М.К.Агінскі скардзіўся, што Радзівіл са сваімі ўланамі рабаваў млыны, двары, прыцясняў яўрэяў, руйнаваў масты, паліў паромы ў мястэчку Хомск, фальварках Кужэлічы і Забор'е Пінскага павета.[54]

Падобныя выпадкі «зняважання нашых законаў, вольнасці і роўнасці» абагульніў у акце ад 16 красавіка 1764 г. маршал генеральнай канфедэрацыі ВКЛ Міхаіл Брастоўскі, які заклікаў шляхту прысылаць па 2 дэпутаты з месцаў для плённага садзеяння каранацыйнаму сейму. Акт вінаваціў «брыдкае таварыства людзей», якія з прагі да «неабмежаванага ўладалюбства з дапамогай уласных (надворных – Я.А.) і гарнізонных войскаў (харугваў ВКЛ – Я.А.) у самы мірны час, як быццам на вайне з непрыяцелем, загадвалі абывацелям гаварыць толькі тое, што ім узброеная дзёрскасць дыктавала», не дапушчалі вольнае галасаванне на шляхецкіх сейміках, забаранялі публічныя пратэсты, ператварылі Галоўны трыбунал у сваю прыладу, дзе зняважаліся прысягі і пратэсты на няўдольных суддзяў, а то і проста «са зброяй праганялі законна выбраных асоб» па нагаворы непрысутных на сейміках асоб, дзе, насуперак роўнасці галасоў, злачынцаў абвяшчалі нявіннымі. Гвалтаўнікі апаганьвалі крывёю месцы сеймікаў, звычайна касцёлы, «выбівалі вокны ядрамі, людзей забівалі прама на вуліцах і шляхах». Акт называў 4 забойствы шляхціча ў на сейміках. «Беспакаранасць і маўчанне правасуддзя» ўчынілі такі агульны страх, што злачынцы «над пратэкцыяй знатных асоб» грэбавалі нават царкоўным адлучэннем, дзеючы быццам бы «ў ерэтычнай

зямлі», разаралі сапернікаў і скаржнікаў судовай валакітай, вывазам добрай і ўвозам дрэннай манеты, прысваеннем публічных даходаў. Словам, сцвярджаў акт, тыя беззаконні не пакінулі «нічога свята шануемага ў нашай Айчыне» і для абароны іх.. апеляваў да Кацярыны II.[55]

Як відаць, генеральная канфедэрацыя скіравала свой гнеў пераважна на вярхі тагачаснага ўрада, хаця гэты прысуд высвятляў і дэспатызм магнатаў, і рабалепства судоў, і заганнасць шляхты, і няздольнасць уласнага войска абараніць правапарадак і краіну. Канфедэрацыя паслала да Кацярыны II графа Л.Аскерку абвясціць аб агульным жаданні «усёй правінцыі ВКЛ аднавіць (адшукаць) вольнасць і роўнасць» ды прасіць імператрыцу абараніць «ад уціску іншаземных дзяржаў, якія хацелі парушыць нашыя прывілеі і законы». Даручэнні Аскерка агучыў перад тронам 3 мая, дзе выказаў радасць ад заключанага саюзу Расіі і Прусіі і папрасіў канфедэрацыю «и далее подкреплять достаточнейшими посылками войск с уверением нашей неумолкаемой никогда благодарности».[56]

Як стасаваўся гэты зварот за чужеземнымі штыкамі да аднаўлення растаптанай шляхецкай роўнасці, можна прасачыць, хіба, па даўгавых працэсах К.Радзівіла з колам пакрыўджаных пераможцаў. Яшчэ ў 50-х гг. Радзівілы пазычылі 416832 зл. у Міхаіла і Дамініка Праздзецкіх, якія ўступілі доўг мсціслаўскаму краўчаму Юзафу Кошыцу і швагру Радзівіла, харунжаму ВКЛ С.Ф.Ржэвускаму пад заставу фальваркаў Вязынь, Дрысаў, Віткаўшчына, Палонка і Гусакі ў Навагрудскім ваяводстве. Паколькі Радзівіл не вяртаў пазыкі, то суд канфедэрацыі ВКЛ 4 чэрвеня і 3 ліпеня 1764 г.за палову доўгу Радзівіла аддаў падкамораму ВКЛ А.Праздзецкаму маёнткі Лахва і Ленін у Пінскім павеце, а астатнюю палову (з разліку выбару 2 талераў з сялянскага дыма) аддаў выбіраць праз заставу з іншых радзівілаўскіх уладанняў (Копыль, Грэск, Пукаў,

Пясечна, Рымашы і Чэравачы ў Навагрудскім ваяводстве). Аднак у канфедэрацкі суд паскардзіўся былы 3-гадовы арандатар Капыля, Грэска і Пукава стольнік ВКЛ (Дамінік- ?) Рэйтан і ваўкавыскі мечнік Тадэвуш Булгарын, якія не паспелі выбраць 108946 зл. Следам за імі ў судзе свае прэтэнзіі выказаў і Л.Аскерка, які даўно цярпеў ад наездаў Радзівіла ў фальварках Востраў і Веркалы і які «цярпліва чакаў той салодкай пары, якая б дазволіла калі-небудзь карыстацца часам агульнай роўнасці». Натуральна, Аскерка паспяшаў запісацца ў шэрагі роўнасці пакрыўджаных і сваёй прэтэнзіяй у суме 36946 зл. давёў доўг Радзівіла да 608731 зл.[57]

Праздзецкія паспрабавалі выкінуць Булгарына з кола крэдытораў (дзяржаўцаў), аднак канфедэрацкім судом 16 кастрычніка 1764 г. мусілі кампенсаваць 72200 зл. шляхам заставы фальварка Свержань, які быў пад залогам у 160576 зл. і да выкупу у наўгародскага падваяводы Антона Рдултоўскага. На Свержань прэтэндаваў і сам епіскап М.Масальскі, які калісьці яму аддала за 400 тыс. зл. жонка літоўскага падстолія Мар'яна Пацэй-Барэцкая. Такім шляхам Праздзецкія ў 1764 г. прыхапілі абцяжараныя доўгам у 769306 зл. значныя ўладанні Радзівіла. Яны мусілі разлічвацца з папярэднімі крэдыторамі (дзяржаўцамі) тыповай заставай са штогоднімі працэнтамі, якія да 1766 г. павялічылі доўг да 897435 зл. Яны прысвоілі памянутыя (і гэта не ўсе) маёнткі не звычайным судовым парадкам, а ультыматыўным дэкрэтам пераможнай канфедэрацыі пад заслонай запрошаных штыкоў. Потым гэтак жа гвалтоўна ў 1767 г. з імі разбярэцца К.Радзівіл, які без усякай аб'явы адабраў уласнасць назад, выклікаў сваіх рабаўнікоў у свой суд для кампенсацыі прычыненых страт ад дзейнасці чужых эканомаў і упраўляючых.[58]

Епіскап І. Масальскі паквапіўся на радзівілаўскую спадчыну наступным парадкам. Радзівілы мелі 448143 зл. доўгу, размешчанага на Невельскім графстве (Полацкае ваяводства) пталамейскаму епіскапу Людвіку Рыакуру. Апошні да 13 кастрычніка 1764 г.спагнаў толькі 48 тыс., бо канфедэрацыя ўсклала на тое ж графства прэтэнзіі мітрапаліта Філіпа Валадкевіча (згодна з пазыкай у 292548 зл. мінскага гараднічага Мартына Валадкевіча), Мартына Рагозы (21300 зл.) і 131000 зл.мсціслаўскага канюшага Юзафа Тышкевіча. Усе гэтыя 892991 зл. Рыакур не пагашаў своечасова і да ўсяго не вяртаў 87230 зл., пазычаных у яго Канстанцыяй Радзівіл-Сапежынай пад забяспячанне графства Кодзен (Брэсцкае ваяводства). Палову гэтай сумы (31738 зл.) унёс Е.Флемінг, а разам з ім у кола прэтэндэнтаў уцёрся І.Масальскі, якому варшаўскія купцы Ян, Стэфан і Пётр Тэпперы перадалі доўг у 74389 зл., размешчаны калісьці ім Радзівілам на 2 войтаўствах Невельскага і на ўсім Себежскім графстве. Масальскі павялічыў доўг Радзівілаў да 1054610 зл. Стаўшы гаспадаром тых графстваў, каб задаволіць працэнтамі былых крэдытораў, ён стаў пагашаць даўгі шляхам сплаву лесу з дапамогай купцоў, якім плаціў замест належных 16—18 зл. па тагачасным курсе 20 зл. Словам, такім ліхвярскім звычаем пасэсары ўзбагачаліся на розніцы курсаў манеты і прычынілі К.Радзівілу страты, якія ён апрэтаставаў дакрэтам 16 чэрвеня 1768 г.[59]

Вялікі надворны падскарбі Тэадор Вессель трымаў радзівілаўскае Бельскае графства з фальваркам Славацічы (Брэсцкае ваяводства) з прэтэнзіямі ў некалькі млн. зл. Канфедэрацкі суд 7 жніўня 1764 г. аддаў маёнткі віленскаму кашталяну І.Агінскаму. Любяшоўскае графства Радзівілаў у Пінскім павеце па дэкрэту генеральнай канфедэрацыі ад 10 лістапада 1764 г.

паступіла ў эксдывізію (раздзел), а ягоны дзяржаўца Я.Чарнецкі атрымаў іпатэку над маёнткам Славацічы. К.Радзівіл паспеў адпомсціць. 17 ліпеня, ідучы з Белай у Слонімскі павет для разгону канфедэрацкіх харугваў, ён наслаў некалькі тысяч грэнадзёраў на Ўлодава, Ражанку, Кабыляны і Ціраспаль, што ляжалі ў Брэсцкім ваяводстве пад залогам Е. Флемінга. Находнікі спалілі Ціраспаль, спагналі кантрыбуцыю з яўрэяў і кляштара брэсцкіх бернардынаў. За прычыненыя шкоды памерам у 484800 тынф. генеральная канфедэрацыя 7 жніўня перадала Флемінгу Бельскае графства, за якое тут жа счапіліся іншыя дзяржаўцы (Т.Вессель і І.Агінскі).[60]

Менавіта такім аматарам роўнасці і вольнасці Кацярына II не спяшалася высылаць дапаможныя войскі, бо асцерагалася міжусобіцы, «которое тем труднее унимать, что каждый был бы в то время вооружен».[61] У гэты момант яна менш кіравалася думкай М. Паніна, які гаварыў, што «чем больше будет в Польше фракций, тем лучше для интересов наших, ибо раздробление должно производить в них слабость и несогласие». Маючы ўжо заключаны 26 сакавіка 1764 г. дагавор з Прусіяй на 8 гадоў (да 1772 г.) яна выступіла міратворцам і вызваліцелем, – рашыла «спасти республику от утеснения и гибели».[62] Праз два дні і М.Панін папярэдзіў замежныя двары, што «мы одни, а не другия из соседних держав.., истинно право имеем» умяшацца ў справы Рэчы Паспалітай, каб згодна з трактатам 1717 г. «предотвратить намерение властолюбивых магнатов.., подавить в самом зародыше возженный ими огонь гражданской войны», каб унікнуць «генеральной войны в Европе» з непазбежным падзелам Рэчы Паспалітай. Вось так у знешняй палітыцы Пецярбурга з'яўляецца матыў непазбежнасці падзелу Рэчы Паспалітай

і вызваленча-выратавальнай місіі Расіі як ахоўніцы яе ладу і тэрытарыяльнай цэласці. Панін не адхіляў думкі такога падзелу ні ў выпадку еўрапейскай вайны, ні ў перспектыве вайны з Турцыяй у верасні 1764 г., калі б спатрэбілася «ЧАСТЬЮ (тэрыторыі рэспублікі – Я. А.) ВОЗМЕСТИТЬ ПОТЕРИ» ад ваенных страт.[63]

1 мая 1764 г. з Смаленска выступіў 3-тысячны корпус князя Міхаіла Валконскага для падтрымкі канвакацыйнага сейма, які адбыўся ў Варшаве паміж 7 мая і 22 чэрвеня. Сейм увёў у свой рэгламент галасаванне большасцю галасоў па фінансавых пытаннях, вызваліў паслоў ад абавязкаў прысягі пад інструкцыямі сеймікаў, чым зрабіў іх гнуткімі у сваім сумленні і менш адказнымі перад выбаршчыкамі. У традыцыях 17 ст. забаранялася раскольваць (падвойваць) сеймікі або гвалціць іх зброяй. Каб не расцягваць выбары, сеймікам дазволілі прадстаўляць на санкцыю караля не 4, а аднаго кандыдата. Выбарчы голас атрымалі асобы 18-гадовага ўзросту, а ўзроставы цэнз для выбару на ўрад павялічылі да 23 гадоў. Вышэйшых ураднікаў (маршалка павета, харунжых, падкаморых і 5 суддзяў) дазвалялася выбіраць большасцю галасоў.[64] Сейм падзяліў скарб паміж самастойнымі камісіямі Кароны і ВКЛ і намінаваў сеймікавых маршалкаў аднчасова павятовымі маршаламі. Панін спачуваў новаўвядзенням, бо лічыў нечалавекалюбным перашкаджаць Фаміліі пазбавіцца ад «варварского злоупотребления свободой». Кацярына II паспрыяла рэфарматарам тым, што адтэрмінавала дысідэнцкую справу да наступнага сейма «примирения» пры садзеянні не адной Прусіі, а кааліцыі пратэстанцкіх дзяржаў (Англіі, Галандыі, Швецыі, Даніі), якую Панін назваў Паўночным акордам пасля заключэння дамовы з Прусіяй адносна дысідэнтаў (9 лістапада 1764).[65]

Зараз ад пазіцыі мясцовых сеймікаў і іх выбраннікаў залежыла прысутнасць замежных войскаў. Многія павятовыя маршалкі сталі рабіцца шчырымі сябрамі Расіі з разліку на ваенную дапамогу ў вырашэнні ўласных маёмасных спрэчак. Таму Панін раіў Рэпніну не даяраць маршалкам літоўскай канфедэрацыі і даць ім войскі толькі як дапаможныя. Нават выгнаны К. Радзівіл папрасіў у Кацярыны II «всей моей фамилии Вашей высочайшей протекции».[66] Аднак яму не давяралі і 9—11 лістапада ягоныя рэзідэнцыі ў Нясвіжы і Слуцку занялі войскі генерала Івана Рэнэкампфа, якім дазволілі харчавацца з радзівілаўскіх уладанняў простымі рэквізіцыямі або бясплатна. Корпус Валконскага прытрымалі для падмогі аршанскай канфедэрацыі «под видом разьездов и заготовки магазинов», якія намячалася заснаваць у Гомелі, Магілёве, Навагрудку, Мінску, Ваўкавыску, Браславе, Вільні і Вількаміры. 5 ліпеня пад Лоевам пераправілася брыгада з 800 салдат пад камандай генерала Хрыстафора Штофельна для дапамогі Валконскаму ў вышуку ўцекачоў.[67] Гэтыя акцыі учынілі пострах на месцах, нагадаўшы ранейшыя прымусовыя вывадкі.

На ўтрыманне ўласных харугваў генеральная канфедэрацыя ВКЛ 8 ліпеня абкладыла 2 талерамі кожны шляхецкі дым і ў такім жа памеры секвестраваныя ў Радзівілаў графствы Слуцк, Нясвіж і Мір, у якіх лічылася больш II тыс. двароў, у тым ліку 248 праваслаўных вернікаў. Навагрудскія канфедэраты тут жа знізілі налог са шляхты напалову, а эканомы радзівілаўскіх маёнткаў сталі спаганяць збор з сялянскага чыншу і яўрэяў. Архімандрыт слуцкага праваслаўнага манастыра Павел Валчаскі скарыстаў прысутнасць адзінаверных вайскоўцаў і патрабаваў вылічыць з Радзівілаў страты за захоп зямель у 7 цэркваў, за забарону шынкоў на юрысдыках, за перадачу гарадской

арэнды яўрэям, якія за 35 гадоў не сплацілі манахам 3220 зл. па працэнтах ды яшчэ 13660 зл. не аддалі ў выглядзе мёду, воску і жыта (ануаты) – усяго 56418 зл.[68] Скаргі на збор падаткаў не ў адпаведнасці з дэкрэтамі генеральнай канфедэрацыі паступілі з Рэчыцкага павета. 8 лістапада 122 шляхціцы Сялецкага і Забельскага трактаў Брэсцкага ваяводства паслалі да караля ляхавіцкага старасту Ануфрыя Буклеўскага скардзіцца на паборцаў, а следам ухвалілі свой падатак (12 зл. з дыма) і новых зборшчыкаў. У жніўні 1764 г. са Смаленска выслалі 4 палкі для рэвізіі радзівілаўскіх уладанняў у Аршанскім павеце пад наглядам генерал-кватэрмайстра – лейтэнанта Міхаіла Кахоўскага. Апошні не знайшоў у Дубровенскім графстве паведамленых 12 тыс.двароў і заявіў аб дарэмнасці гасцявання там, бо ўладальнік граф Сапега «сделался другом России».[69]

У верасні 1764 г. родзічы і апекуны К.Радзівіла патрабавалі неадкладна вызваліць ад ваеннага пастою і бясплатных кантрыбуцый занятыя ім маёнткі, каб падзяліць або прадаць іх для заспакаення шматлікіх прэтэнзій і сплаты вялікіх даўгоў, у тым ліку і прыватных. 16 кастрычніка корпус Ранекампфа выступіў са Слуцка ў межы Расіі, везучы нарабаваныя там каштоўнасці. Гэтая часовая перамога з радасцю адгукнулася на шляхецкіх сходах пры выбарах паслоў на каранацыю.

Сеймік Навагрудскага ваяводства 29 кастрычніка рашуча даручыў сваім паслам мазырскаму падчашаму Адаму Вайніловічу і палкоўніку Юзафу Несялоўскаму дабіцца выключэння шляхецкіх дымоў з-пад падаткаў. Сеймік дамагаўся вываду замежных войскаў, а вялікакняскія харугвы ставіў на ўтрыманне ўласнай скарбовай камісіі. Тут патрабавалі, каб пры выбарах гродскіх і трыбунальскіх суддзяў не прысутнічалі кандыдаты без пасэсіі ў пэўным павеце ці ваяводстве, каб на сейміках абавязкова

знаходзіліся ваяводы і ўсе да апошняга ўраднікі, каб у Галоўны трыбунал не выбіраліся земскія і гродскія суддзі. Гетманам дазвалялі распараджацца войскам, але забаранялі выбіраць пагалоўнае з яўрэяў і чопавае (вінакурны падатак) без адабрэння мясцовых сеймікаў. Падобныя наказы 29 кастрычніка атрымалі ў Мазырскім павеце падчашы Адам Вайніловіч і цэльскі стараста Ян Незабытоўскі. Тут асабліва клапаціліся аб складанні «карэктуры справядлівасці» для судовых месцаў і выкараненні ў іх карупцыі, ускладанні ўтрымання харугваў на яўрэяў за кошт пагалоўнага і чопавага. Харугвы мелася камплектаваць «па старой сістэме». Мазырскі сход дбаў аб заснаванні камісіі для адукацыі шляхецкай моладзі, дазволе базыльянам друкаваць у кляштарах «літоўскай правінцыі» кніжкі на лацінскай, польскай і грэчаскай мовах.[70] Сход прасіў адзначыць заслугі М. Масальскага, І. Масальскага, М. Брастоўскага і М. Агінскага.

Як відаць, частка шляхты літоўскай правінцыі завалачыла ўтрыманне ўласнага войска ў пытанні падаткаў. Патрабаванні некаторых сеймікаў скараціць уладу гетманаў М.Панін не палічыў шкоднымі.. з-за мізэрнасці падначаленых ім штатаў.[71] У духу надобных пажаданняў працаваў паміж 3—20 лістапада 1764 г. каранацыйны сейм, які 7 лістапада узвёў на каралеўскі пасад С. Панятоўскага. Ён стварыў ваенную камісію для перапісу шляхты, так званыя камісіі добрага парадку для праверкі даходаў ў каралеўскіх гарадах і староствах, пастанавіў правесці рэвізію (люстрацыю) староству, абклаў яўрэяў падушным налогам, вылучыў камісію для разгляду справы ўцекачоў і памежных спрэчак, забараніў манастырам займацца гандлем і шынкаваннем напіткаў бліжэй 1 мілі (7 км) ад уласных сцен, абмежаваў уладу

гетманаў, прадаставіў выбарчы голас толькі той шляхце, якая больш года набыла або трымала ўладанні ў канкрэтным павеце. Сеймікі маглі адчыняць сенатары, а пры іх адсутнасці – першыя ўраднікі павета. Спецыяльная канстытуцыя пастанаўляла, што пры нязгодзе на дэкрэт мясцовага земскага суда справа разглядалася ў Галоўным трыбунале, які вызначаў канчатковы суд у тым павеце ці ваяводстве, дзе знаходзілася большасць уладанняў пэўнага ўласніка. Сеймікамі сталі дырыжыраваць ухваленыя каралём назначэнцы, якія толькі па тытулу прадстаўлялі «краі Рэчы Паспалітай» Смаленскае ваяводства, Старадубскі павет), хаця там ужо даўно не трымалі ўладанняў. Гэтак жа і кароль захаваў у сваім тытуле намінальныя прэтэнзіі на «смаленскія, северскія і чарнігаўскія» землі.

Фамілія рашыла прадоўжыць сеймавую канфедэрацыю для рэалізацыі рэформ пры падтрымцы Расіі. Яна не распусціла канфедэрацыю, чым фактычна прыпыніла дзейнасць аднагалосся (ліберум вета) на неакрэслены час. Яна прызнала легітымнасць генеральнай літоўскай канфедэрацыі, а значыць і законнасць прысутнасці закліканых ёю замежных войск.[72] На малазначныя новаўвядзенні ў Пецярбургу паглядзелі як на прагу Фаміліі расцягнуць канфедэрацыю, каб «увековечить приобретенную власть в одном доме» і самадзяржаўна дзейнічаць без аглядкі на хлебасольную руку. Каб гэтага не здарылася,— у Пецярбургу рашылі раскалоць членаў Фаміліі, але не шкодзіць каралю дабівацца сімпатый і заваяваць давер шляхецкіх мас у якасці нацыянальнага лідэра.[73]

Неакрэсленая часам дыктатура пераможных Масальскіх, Агінскіх, Сапегаў занепакоіла чарговым звяржэннем вольных выбараў шляхтаю, якая прывыкла давяраць сумленне уласным шаблям.

К прыкладу, на лютаўскім сейміку 1765 г. 10 шляхцюкоў Лідскага павета не толькі касцельныя вароты,

але і іншую «шляхту, на соймік прыбыўшую, парубілі» разам з некаторымі земскімі суддзямі. 8 лютага 1765 г. падкаморы Міхаіл Валбек з дапамогай сялян Даманавіцкага староства (Мазырскі павет) звязаў мясцовых ураднікаў ды агаленых на марозе лупцаваў бізунамі і паліваў вадою, каб не дапусціць выканаць дэкрэт канфедэрацыі. Падобныя здарэнні былі норавам таго часу: віленскі прафесар А. Загорскі гаварыў, што на месцах пануе такі праізвол, што «страшна нават падумаць аб праве ў ВКЛ» з яго самым дасканалым у свеце Статутам.[74]

Каб ухіліць падобныя выпадкі, сход 1238 чал. Навагрудскага ваяводства на лютаўскім сойміку пастанавіў наступныя ўмовы выбараў дэпутатаў у земскі ўрад і Галоўны трыбунал. Кандыдатаў вылучалі па парафіях, каб не абмінуць голаса ніводнага шляхціца. У выпадку нязгоды галасаванне праводзіў першы прысутны ўраднік, які раздаваў цэнзавыя спісы земскім і гродскім суддзям для адабрэння і подпісу. Верагодна так пазбаўляліся ад няцэнзавых элементаў або западозраных судом парушальнікаў спакою. Затым суддзі па чарзе выходзілі да стала прэзідыума і праводзілі адкрытае галасаванне чыноў, у першую чаргу падкаморых, ад якіх залежала вырашэнне зямельных спрэчак. Прозвішчы абраных агалошваў першы ўраднік ваяводства.[75]

Сярод абраных парадкам ішлі харунжыя, якія па традыцыі ўзначальвалі харугвы пэўнага павета ці ваяводства. Харугвы былі некамплектныя, бо ў радавыя (шаранговыя) амаль што з 5 гадоў запісвалі сваіх дзяцей, унукаў або ставілі ім замену (намеснікаў). Да таго ж штатны парадак дазваляў трымаць аднаго каня, а жалаванне браць за два. Таму нядзіўна, што падобныя ваеннаслужачыя сядзелі па хатах, а літоўскае войска ў большасці існавала на паперы ў фіктыўным складзе. Такі

прынцып камплектавання дазваляў знаці фармальна лічыцца ў штаце і выбіраць свае ўтрыманне з вайсковага скарбу або з жалавання шаранговых.[76] Пра гэта сведчыць стан скарбу ВКЛ, складзены 5 жніўня 1765 г. і даход якога ацэньваўся ў 1103129 злотых (табл.2).

*Табліца 2*

***Расходы скарбу ВКЛ па стану на 5 жніўня 1765 г.***

| З агульназемскіх збораў | зл. | З Шавельскай эканоміі | зл. |
|---|---|---|---|
| З рэгентам | 499958 | Нагурскаму | 1618000 |
| Іх чынам | 24500 | Карпу | 51400 |
| 2 татарскім палкам | 123683 | Масальскаму | 514000 |
| Іх афіцэрам *(2 чал.)* | 7172 | Л. Аскерку | 24000 |
| Прымасу | 50000 | Е. Флемінгу | 171460 |
| А. Чартарыйскаму | 20000 *(за ласку маршала)* | | |
| Сакратару канвакацыі | 5333 | | |
| М. Брастаўскаму | 100000 | | |
| Мартыну Марыконі | 3484 | | |
| Александровічу *(палкоўніку)* | 21533 *(за пасольства ў Турцыі)* | | |
| Длускаму *(паслу у Францыі)* | 8800 | | |
| Паслам на каранацыю | 2000 | | |
| Розену *(палкоўніку)* | 4469 | | |
| Ротмістру ў Галандыі | 1488 | | |
| На каралеўскі замак | 861 | | |
| **Разам** | **453420** | | **462660** |

*Крыніца: НГАБ, ф.694, воп. 4, спр. 2233, л. 24, 27 адв.*

Як відаць з табліцы, у цэлым з бездэфіцытнага скарбу на войска асігнавалася палова (205313 зл.) агульназемскіх збораў (453420 зл.). Астатнія разыходзіліся на пасольскія і прыватныя паслугі. Літаральна чвэрць падаткаў утрымлівала аднаго маршала генеральнай канфедэрацыі і адначасова вялікага падскарбія М.Брастоўскага. Магчыма таму на шляхецкіх сейміках усё настойлівей гучалі заклікі да прамога прызначэння публічных складак,

да выкаранення карупцыі, да вызвалення шляхецкіх дымоў ад падаткаў і спроб утрымліваць войска за кошт яўрэяў. Гіберну (вайсковы падатак) на пачатку 1766 г. на полацкую і дзісенскую харугвы папаўнялі з кас кагалаў. Гэта было практыкай, асабліва калі ўлічыць, што харунжыя і ў камплекце сваіх каманд і асабіста ўдзельнічалі ў паборах.[77]

Абапор выбараў паслоў на сейм і ўраднікаў розных узроўняў на цэнз аселасці (землеўладання), заканадаўчы абавязак вырашаць зямельныя працэсы па факту аселасці (пасэсіі) у пэўным ваяводстве ці павеце вымагалі дакладных попісаў шляхты. У ВКЛ такія попісы было прызначана пачаць 5 ліпеня 1765 г.і завяршыць да канца верасня. Уліку падвяргаліся не толькі ўласнікі, але і трымальнікі чужых уладанняў па заставе або арэндзе, нават удовы, маючыя дарослых дзяцей. З гэтага можна было спадзявацца на поўную рэгістрацыю шляхетства. Перапіс праводзіўся па парафіях з абавязковай яўкай цэнзавікоў.[78] Аб выніках гэтага попісу сведчыць наступная табліца (табліца 3).

*Табліца 3*

***Вынікі ўліку шляхты ВКЛ (30 верасня 1765 г.)***

| Адміністрацыйная адзінка | Час уліку | Харугваў | Чал. | У тым ліку ураднікаў | Крыніца |
|---|---|---|---|---|---|
| Навагрудскае в-ва | 30.09.1765 | 10 | 1025 | 129 | НГАБ, ф. 1774, спр. 42, л. 596–602. |
| Полацкае в-ва | адпаведна | 9 | 1130 | 142 | Там жа, ф. 1778, спр. 21, л. 429–447 |
| Мінскае в-ва | 1.10.1765 | 17 | 400 | 91 | Там жа, ф. 1769, спр. 4, л. 85–107 |
| Аршанскі павет | 30.09.1765 | 8 | 1048 | 136 | Там жа, ф. 1775, спр. 62, л. 286–291 |
| Рэчыцкі павет | адпаведна | 5 | 433 | 54 | Там жа, ф. 1783, спр. 1, л. 50–56 |
| Лідскі павет | адпаведна | 18 | 1731 | 105 | Там жа, ф. 1979, спр. 15, л. 155–164 |
| Ваўкавыскі павет | адпаведна | 14 | 466 | 38 | Там жа, ф. 1752, спр. 3, л. 125–130 |
| Пінскі павет | адпаведна | 7 | 1113 | 62 | Там жа, ф. 1777, спр. 8, л. 1122–1131 |
| Гродзенскі павет | адпаведна | 28 | 1464 | 57 | там жа, ф. 1711, спр. 52, л. 352–365 |
| Мазырскі павет | адпаведна | | 157 | 33 | Там жа, ф. 1771, спр. 2, л. 76–77 |
| Ашмянскі павет | адпаведна | | | 54 | ГАЛ, ф. СА, с. 3294 |



*Кацярына Другая*

Прыведзеныя даныя ўлічваюць амаль усю тэрыторыю сучаснай Беларусі і могуць разглядацца як прадстаўнічыя. З іх найперш вынікае, што колькасць шляхты і харугваў не звязаны прама з абшарамі адміністрацыйных адзінак.У кволым Лідскім павеце, напрыклад, было ўдвая больш харугваў, чым у вялізным Полацкім ваяводстве, пры прыблізнай роўнасці ўсёй карпарацыі. Значыць, харугвы былі нераўнаважныя па складу. Можна прывесці безліч фактаў з попісаў якія паказваюць,што гэта паходзіць з рэгістрацыі цэнзавікоў з іншых паветаў, якія маглі галасаваць на месцы ўліку. Далей мы сустрэнемся з фальсіфікацыяй складу шляхецкіх сеймікаў. Нарэшце, прыкладна 9% шляхты попісы назначылі ў якасці мясцовыхураднікаў і пасаднікаў рознага тыпу. Значыць, прыкладна 900 пасаднікаў у гэты час загадвалі лёсам усяго саслоўя, праўда ў межах сучаснай Беларусі.

Менавіта гэтым уладам новы кароль даверыў увесну 1765 г.разабрацца з памежнымі справамі Расіі. Ён загадаў урадам Полацкага, Віцебскага, Мсціслаўскага ваяводстваў, Аршанскага і Рэчыцкага паветаў не прымаць расійскіх уцекачоў, а крымінальных злачынцаў выдаваць неадкладна і без утойвання. Для задавальнення адпаведных патрабаванняў Расіі чарговыя сеймікі мусілі выбраць памежных камісараў. Кацярына II нагадала аб гэтым у прамым звароце да ўсіх абываценяў ВКЛ.[79] Без надзеі на шчыры водгук, яна 17 сакавіка 1765 г. даручыла «без больших разглашений» выканаць рэвізію памежжа з Рэччу Паспалітай генерал-паручніку Івану Веймарну (адрэзак ад Рыгі да Смаленска) і генерал-маёру Аляксандру Бібікаву (уніз ад Смаленска). Яны меліся супаставіць мяжу па старых картах і дакументах, вызначыць іх сапраўдны стан і даходы спрэчных месцаў, акрэсліць рост (з 1686 г.) мытных пабораў з рускіх купцоў на Дняпры і Дзвіне, а

таксама «неприметно» праз яўрэяў даведацца, у маёнтках якіх паноў хаваюцца ўцекачы. Праз рэвізію Кацярына II меркавала размежаваць спрэчныя месцы паводле трактата 1686 г.і адхіліць абвінавачванні ў тым, што яна мае «хотя бы малейшия намерения к территориальным увеличениям» або прысваенню зямель ВКЛ.[80] Адначасова, у сувязі са скаргай смаленскіх купцоў на віцебскага намесніка Е. Флемінга і беларускіх яўрэяў на паборы павялічаных пошлін, Кацярына II 11 ліпеня даручыла разабраць гэтую справу свайму консулу Міхаілу Давыдаву, які з 13 кастрычніка 1763 г. засядаў у Шклове і Віцебску.[81]

Адначасова хадайнічаць перад каралём за ўсіх праваслаўных, «невинно страждущих под игом порабощения за одно исповедание» у Рэчы Паспалітай быў пасланы епіскап Г. Каніскі. 27 ліпеня 1765 г. ён атрымаў аўдыенцыю і адразу патрабаваў вярнуць абернутыя ў унію 4 епархіі (Прамыскую, Львоўскую, Галіцкую і Луцкую), забраныя ў «Литве» 200 праваслаўных цэркваў і заявіў, што да 1596 г.(злучэння цэркваў уніяй ў Рэчы Паспалітай) «в самом польском государстве никакой униатской церкви не было, но поспольство все было греческой религии... под юрисдикцией киевского митрополита». Прасцей кажучы, насельнікі па меншай меры ВКЛ абвяшчаліся «исконно» прыроджанымі праваслаўнымі, гвалтам або падманам абернутымі ва уніяцтва, на што Каніскі прыводзіў і довады і доказы. Яму адказалі, што вернікі тых епархій апынуліся уніятамі «добровольно и охотно».[82] Гэтая справа, такім чынам, зацягнулася ў высвятленні пытання ахвотнага або гвалтоўнага паходжання уніяцкай царквы.

Гэтаксама ў ліпені 1765 г. Кацярына II саступіла патрабаванню канвакацыйнага сейма і сваіх сяброў-дысідэнтаў аб вывадзе ўведзеных войскаў каб сціпыць

папрокі у зняважанні залатой вольнай элекцыі. Генералу С. Маславу было загадана на зваротным шляху прынімаць уцекачоў і пад сакрэтам выведваць у іх, «где жили, кому те деревни принадлежат, сколько в них жителей», але «насильством ничего не предпринимать».[83] Праўда, Кацярына II хутка «с удивлением и оскорблением» даведалася аб неразборлівых дзеяннях сваіх афіцэраў у маёнтках саюзных магнатаў. 8 кастрычніка 1765 г. яна распарадзілася вызваліць уладанні дысідэнтаў ад пастою, пакараць вінаватых камандзіраў і задаволіць пакрыўджаных сяброў. Прымусовыя выведкі ўцекачоў канчаткова страцілі свае значэнне, паколькі прадбачылася дакладна высветліць памеры уцёкаў.

Сваю місію памежныя камісары Расіі завершылі 28 лютага 1766 г. К гэтаму ж часу у замежнай калегіі склалі ведамасць «о бежавших в Польшу русских». Па адным спісе ва ўцёках лічылася 29877 чал. (у тым ліку 20784 мужч.), якія з 1700 г. хаваліся ва ўладаннях 168 паноў. Цікава, што палову уцекачоў хавалі 15 літоўскіх магнатаў. Палова ўцякла з Расіі ў перыяд Сямігадовай вайны. Па гэтым спісе Пецярбург не ведаў аб месцазнаходжанні паловы (12113 мужч.) уцекачоў і іх апекуноў. Другі спіс лічыў ва ўцёках за першую палову 18 ст. 88418 чал., а з улікам «невядомых» прытулкаў – каля 244 тыс. чал., у тым ліку 138 тыс. мужчын. З іх памежжа ВКЛ перасеклі каля 69 тыс. чал. або 47 тыс. мужчын.[84] У любым выпадку Пецярбург не ведаў дакладна, дзе асела большасць уцекачоў і чыя маёнткі сапраўды падпадаюць пад прымусовы пастой або выведкі. Увогуле ў гэты час на ўцекачоў у Пецярбургу глядзелі дваяка: як на злачынцаў з пазіцыі страт рабочых рук, рэкрутаў і падаткаў казны, як на турботную крыніцу канфліктаў і як на адзінаверцаў, якія зараз сталі выгадным палітычным козырам для

тэрытарыяльных дамаганняў. Пры гэтым, відаць, абыходзілася пытанне аб змене ўцекачамі свайго вызнання па факту працяглай аселасці ў ВКЛ. Недакладнасць уліку не дазваляла менавіта іх выстаўляць аб'ектам рэлігійнай дыскрымінацыі.

М. Панін падсумаваў вынікі згаданых рэвізій і ўліку наступным чынам, адказваючы на папрокі праціўнага боку у тым, што Расія паставіла фарпосты на «польской» зямлі, якія ахоплівалі 988 кв. вёрст (103 тыс. дзес.). Ён пісаў, што ад памежных камісій «никакой пользы нет», бо памежныя камісары ўхіляюцца ад з'ездаў «всякими отговорками, а особливо литовские... весьма упорствуют и настоят только в том, чтоб российские обыватели в обидах своих жалобы приносили в их польских городах с платежом за труды канцеляриям гродским, генералам за позыв, говоря, что они за кем беглые российские люди, воры и разбойники... собою поляков к выдаче беглецов принуждать не могут». Увогуле праціўны бок хаваў і абяцаў выдаць уцекачоў толькі пры заключэнні саюза з Расіяй, «которого никогда и дождаться не можно». Па-другое, Панін пагражаў, што апошняй беларускай епархіі пагражае поўная уніязацыя, бо насуперак міру 1686 г.праваслаўных судзяць у грамадзянскіх судах, «церкви забирают насильством..., ветхих поправлять и вновь строить не дозволяют... и каждый поляк православных побоями унию принять принуждают...».[85] Панін, такім чынам, вяртаўся да перасцярог Ф. Левантовіча.

Прыведзенае дазваляе гаварыць, што пад час бескаралеўя 1763—1764 гг. уладу у ВКЛ захапіла неманалітнае аб'яднанне магнацкіх колаў Масальскіх, Агінскіх і інш., даўно звязаных з Расіяй меркантыльнымі інтарэсамі ў справах разлікаў за прытулак расійскіх уцекачоў і праходзячых войск. З дапамогай запрошаных

штыкоў яны найперш раскралі маёмасць зваленага К. Радзівіла, але сталі адказнымі за растаптанне вольнай элекцыі караля, нелігітымнага з пазіцыі вольных выбараў. Сам С. Панятоўскі апынуўся ў коўзкім становішчы паміж патрыятычнымі і лакейскімі абавязкамі, што значна ўскладніла паводзіны выбаршчыкаў.

Новыя павадыры сеймікаў і канфедэрацый зарыентавалі шляхту на Расію, якая ахвотна выступіла ахоўніцай існуючага ладу ад пагроз грамадзянскай вайны. З часу бескаралеўя паходзіць ідэалогія вызваленча-выратавальнай місіі Расіі, у сваёй аснове распрацаванай віленскім іераманахам Ф. Левантовічам. Яна зводзілася да правамоцнасці сілавога вырашэння старадаўніх спрэчак, асабліва з погляду на марнасць і стратнасць разлікаў на зварот уцекачоў і беспакаранасць ганіцеляў праваслаўных. Г. Каніскі ўдакладніў дысідэнцкую справу тым, што прадставіў тэрыторыю ВКЛ рускай зямлёй, спрадвеку заселенай праваслаўным людам, гвалтоўна зманеным або абернутым ва уніяцтва.

Пад час бескаралеўя цывільна-духоўныя ўлады Расіі выношвалі план узброенай анексіі ўсходняга абшару ВКЛ, у кошт задавальнення бясконцых трат за выдачу сваіх уцекачоў і не менш марнатраўнай абароны адзінаверцаў. Планы маланкавага прысваення адпалі, як толькі з'явілася магчымасць распараджацца лёсам цэлай Рэчы Паспалітай праз пастаўленага караля.

Кароль збіраўся рэфармаваць састарэлы лад пры патуранні Расіі, якая са свайго боку адхіляла змены з боязі ўмацавання самадзяржаўя гэтага манарха. Хісткая роля караля, ненадзейнасць часовых саюзнікаў вымушылі Расію мець у сейме адданую партыю пастаяннага ўплыву для кантролю і прадухілення непажаданых перамен у дзяржаве.

## § 2. Афармленне расійскага пратэктарату

Захаваныя на канвакацыі і каранацыі караля генеральныя канфедэрацыі Кароны і ВКЛ рабілі чарговы сейм дзяржавы непрадказальным.

Дэлегатаў у яго належала выбіраць на сейміках, дзе звыкліся да старадаўняга аднадушша (ліберум вета або аднагалосся). Баючыся зрыву выбараў у Пецярбургу ужо ў студзені 1766 г. рашылі не ўключаць пункт аб рэлігійным і грамадзянскім раўнапраўі дысідэнтаў у пасольскія інструкцыі, каб не ўзбуджаць антырускіх настрояў і правесці на прадстаячы сейм адданых сяброў. 31 студзеня 1766 г. у Пецярбургу вагаліся перад дылемай: патрабаваць поўнай роўнасці дысідэнтаў з каталікамі ці абмежаваць іх колькасць квотай? Пастанавілі падзяліць дысідэнцкае пытанне на рэлігійнае і свецкае: патрабаваць неадкладнай талерантнасці, грамадзянскія правы вырашыць шляхам перамоў, скрытна змяніць партызанаў і стварыць новую партыю уплыву.[86]

Пакуль Г. Каніскі дабіваўся задавальнення крыўд праваслаўных, кароль універсалам ад II лютага 1766 г. заклікаў разабраць усе спрэчкі ў апеляцыйным судзе і загадаў уніяцкім епіскапам прызнаць прывілеі праваслаўных ды ўстрымацца ад насілля да іх. Тым самым ён настроіў супраць сябе і фундатараў цэркваў, прыгоннікаў, якія палічылі захады да раўнапраўя спробай вызваліць сялян з хлопскага стану або падбухторыць іх да бунту. Чарговы параслед праваслаўных на Украіне выбухнуў разнёй паноў, так што Расіі давялося ўласнымі войскамі падаўляць пратэст адзінаверцаў, у абарону якіх яна збіралася выступіць паўсюдна.[87]

У ВКЛ падзеі пагражалі абрынуцца тым жа. У студзені ігумен віленскага манастыра Азары Ясноўскі і віцебскага

маркавага манастыра Іяхім Пялкінскі паскардзіліся на спробы шляхты адабраць іхнія вёскі ў унію. Прынамсі, віцебскі гродскі суд аддаў уніяцкаму папу Міхаілу Хруцкаму вёскі 2 шляхціцаў за тое, што «они были при крещении в веру греческаго исповедания одного младенца... от греческаго исповедника». Ігумены прасілі спыніць падобныя выпадкі стварэннем змешанай камісіі. 6 сакавіка канцлер ВКЛ М. Чартарыжскі папрасіў маршалка Галоўнага літоўскага трыбунала Іяхіма Храптовіча разгледзець справу маркавага манастыра «без различия лиц и закона».[88]

Генеральная канфедэрацыя ВКЛ выклікала Ясноўскага ў свой суд ачысціцца ад абвінавачванняў у збіцці аднаго шляхціца з дапамогай рускіх салдат яшчэ ў 1754 г. Тады расійскі Сінод патрабаваў вярнуць адабраныя ў унію праваслаўныя манастыры і цэрквы. Канфедэрацыя палічыла гэта невыканальным і адрасавала ўсе прэтэнзіі будучаму сейму прымірэння. Захаваўся праект указа М. Рэпніну ад 24 чэрвеня 1766 г., у якім Сінод згаджаўся з прапановай Г. Каніскага абмінуць валакіту з вяртаннем уніяцкіх епархій у праваслаўе ў бясконцых камісіях шляхам прымусу сейма на дазвол вольнага пераходу з уніяцтва ў праваслаўе ўсіх жадаючых. І хаця Сінод гаварыў, што такога пераходу «многие из униатов, не только светских, но и духовных, все желают», аднак на гэта паследвала рэзалюцыя – «да, но не теперь».[89] Было ясна, што пры нязгодзе сейма і сеймікаў застанецца толькі прымус. М. Панін вагаўся, аднак 24 ліпеня параіў М. Рэпніну дабівацца звароту адабраных у унію епархій і асабліва дамагацца, каб «насильно совершенные... в унию по добровольному желанию могли свободно и без всякого опасения переходить в греческой закон, в котором рождены».[90]

Тым часам Рэпнін атрымаў каралеўскі праект па дысідэнцкаму пытанню, які прадугледжваў недатыкальнасць 4 уніяцкіх епархій, допуск у сейм дысідэнцкіх паслоў акрэсленай квотай, увядзенне ў сенат праваслаўнага епіскапа, прызнанне пануючага статуса каталіцтва і крымінальны пераслед адступнікаў ад яго з улікам таго, што уніяцтва прызнавалася другім абрадам каталіцкай рэлігіі.[91] Праект даваў іншаверцам рэлігійныя, а не грамадска-палітычныя правы. Рэпнін суправадзіў яго парадай уключыць праваслаўных у склад дысідэнтаў і дабівацца талеранцыі для ўсіх «подданых сей республики» з улікам таго, што ўсе канстытуцыі Рэчы Паспалітай не ўпамінаюць або пагарджаюць праваслаўе.[92] Гэта дамаганне было раўназначным патрабаванню палітычных правоў для прыгонных. Менавіта ў такім сэнсе распачаў у Літве контрагітацыю каталіцкі епіскап І. Масальскі. Былы сябра Расіі пагражаў знішчэннем каталіцкай веры з-за дазволу дысідэнтам вольнасці вызнання і патрабаваў не дапускаць ліквідацыі «падданства простага люду дазволам яму некаторых вольнасцей»[93]. Так у свядомасць сучаснікаў было ўкінута атаясамленне талерантнасці дысідэнтаў з разняволеннем прыгонных.

Тады Кацярына II паміж 8—17 жніўня паслала палкоўнікаў Юзафа Ігельстрома і Васіля Кара паведаміць літоўскім магнатам аб сваей рашучасці ўвесці 40-тысячнае войска, расквартараваць яго па маёнтках «беспокойных» і вырашыць дысідэнцкую справу самаўласна «с худыми следствиями для тех, кто в оном препятствовать будет, а вместо того продолжать станут маячением дел для выигрывания времени».[94] Рэпнін адправіў 3000 чырвоных зл. да Масальскіх, жмудскага епіскапа Яна Лапацінскага і яго брата, пісара Мікалая, вялікага маршалка графа Ігнацыя Агінскага, лоўчага ВКЛ, ковенскага маршалка

Антона Забелы, смаленскага кашталяна і маршалка Галоўнага трыбунала Тадэвуша Буржынскага ды прыгразіў усім адабраць захопленыя імі маёнткі К. Радзівіла, які, дарэчы, 26 жніўня маліў Кацярыну II аб сваім раскаянні і прасіў абаранінь ягоную ўласнасць ад разарэння канфедэратамі.[95] Адначасова 23 ліпеня консул М. Давыдаў патрабаваў ад літоўскага скарбу 300 тыс. руб. (!) у кошт страт расійскіх купцоў ад затрымак на р. Дзвіне. Ад імя ўсяго рускага купецтва ён заявіў, што незаконныя паборы з'яўляюцца наўмысным вымагальніцтвам і хабарам з простага транзіту, паколькі купцы «в Польше никакой покупки и продажи товаров не имеют и прибыли себе ничего не получают, а имеют только в польской области один ночлег». Гэтую справу 2 жніўня лабіраваў ліфляндскі кашталян Юзаф Гільзен, які за гэта дамагаўся ордэн св. Аляксандра і рускіх войскаў.[96]

Разам з тым Пецярбург адступаўся ад вырашэння дысідэнцкага пытання ва ўсёй яго паўнаце. Дысідэнтаў рашылі правесці ад Віленскай, Інфлянцкай і Смаленскай акруг і не патрабаваць для іх пасад сенатараў, старостаў і гетманаў. За каталіцтвам прызнаваўся статус пануючай рэлігіі. Памежныя спрэчкі разам з рэлігійным аспектам выносіліся ў перамоўны працэс з падатлівай сеймавай дэлегацыяй, каб вынікі яго замацаваць у саюзным трактаце з Расіяй, якая была б заўжды ў стане «согласовывать обе стороны», і каб упэўніць, што «мы никакого приобретения чужого не желаем». Прадбачылася не расцягваць прадстаячы сейм, каб «обычай не стал законом» і каб не дапусціць на ім «новостей».[97]

Кароль склікаў шляхту ВКЛ на выбары ў сейм універсалам 25 чэрвеня 1766 г., у якім заклікаў падумаць аб выкараненні бяспраўя ў судах, умацаванні мясцовай гаспадаркі, вызначэнні крыніц даходаў і адносін да

Курляндскага герцагства. Епіскап І. Масальскі 20 жніўня разаслаў духавенству сваёй епархіі (прэлатам, канонікам, архімандрытам, дэканам, прабашчам) рэскрыпт, дзе зваў іх садзейнічаць выбару згодных духам і сэрцай паслоў, заклікаў абвяргаць у казаннях «думкі супраціўныя адзінству святой каталіцкай веры (злучанай у абрадах каталіцтва і уніяцтва – Я.К), стагоддзямі пануючай у Польшы», напамінаць аб няшчасных выніках унутраных войнаў. Ён агітаваў працягваць сейм пасля роспуску канфедэрацыі, дабіцца на ім справаздач «усіх тайных камісій», узнавіць гетманскія прарэгатывы, называў памежныя камісіі небяспечнымі і патрабаваў вываду чужаземных войск.[98]

Шляхецкія сеймікі адбыліся ў належныя 25—28 жніўня 1766 г. Варта ўважліва паглядзець на іх бег і чыннасці, бо некаторыя прайшлі са скандаламі. Так, «непрактыкавана, зневажаючы роўнасць і вольнасць шляхецкую» вёў сябе 25 жніўня судовы староста, надворны падскарбі і маршалак канфедэрацыі Гродзенскага павета А. Тызенгаўз. 342 чал. на чале з віленскім кашталянам і гетманам М.Ю. Масальскім абураліся тым, што Тызенгаўз навязаў сябе і маршалка павета Тадэвуша Юндзіла пасламі з дапамогай наведзеных слугаў, пасэсараў каралеўскай эканоміі і падляшскай шляхты. Тызенгаўз з'явіўся на агульны сход за паўгадзіны да заходу сонца з падпісанай ва ўласнай кватэры інструкцыяй, але яе не зачытаў і не прыняў прапаноў. Назаўтра ён байкатаваў сесію,каб «не ўключаць пазітыўныя праекты ў інструкцыю». Скаржнікі прасілі лічыць той наказ шкодным павету і грамадству.[99]

У Ваўкавыскім павеце цішыню парушыў канюшы ВКЛ С. Алендскі, які не дазволіў 181 патрыёту выбраць у паслы судовага падстаросту Антона Феліцыяна Талочку, сарваў сесію, выставіў сябе і іншых кандыдатамі, а затым рушыў

з імі пісаць наказ на ўласную кватэру.[100] Карані канфлікту у Рэчыцкім павеце паходзілі з лютага, калі рэгенты Мацвей Дзерналовіч і Антон Тадэвуш Маліноўскі не дапусцілі рэвізаваць справы гродскага суда. Тады паватовы маршалак Казімір Хлявінскі змясціў іх земскім рэгентам Дамінікам Піятухам і гродскім Дамінікам Верпшам, якія раздалі акты прыслужнікам, засядалі толькі 3 дні, хавалі і адмаўляліся рэгістраваць заявы праціўнікаў. 25 жніўня канюшы А. Маліноўскі падпісаў пратэст 47 чал. на маршалка павятовай канфедэрацыі Антона Халецкага, які, «зневажаючы сантыменты і галасы патрыётаў», назваўся паслом і забараніў галасаванне нязгодных.[101]

Практычна ўсе сеймікі назвалі каталіцкую рэлігію «першым прынцыпам і фундаментам вольнасці» і, падобна наказу Віцебскага ваяводства абознаму ВКЛ Л. Пацэю і падкамораму Юзафу Гурко, патрабавалі захаваць яе дамінаванне і непарушнасць.[102] Сход Мінскага ваяводства пад маршалствам судовага старасты І. Іваноўскага наказваў земскаму пісару Антону Свентаржэцкаму і лоўчаму Яну Паўлікоўскаму захаваць саюз каталіцтва і уніяцтва «без крыўд».[103] Навагрудскае ваяводства замаўчала гэтае пытанне ў інструкцыі сакратару ВКЛ І. Храптовічу і земскаму пісару Казіміру Корсаку.[104] 44 чал. сходу Рэчыцкага павета даручалі земскаму пісару К. Хлявінскаму і смаленскаму скарбніку Юзафу Хлявінскаму не дапускаць дысідэнтаў «ні да якіх старых і новых прэрэгатыў, каб інтрыга дысідэнтаў ніякім чынам не пахіснула святой каталіцкай веры».[105] Сход 677 чал. Аршанскага павета пад маршалствам Мікалая Храпавіцкага даручаў яму і судоваму падстаросту Аляксандру Галаўчыцу прасачыць, каб «дысідэнты не атрымалі нічога больш прадастаўленага канстытуцыяй 1733 г. і наадварот, каб

гэтыя дысідэнты ва ўсёй нашай польскай дзяржаве ніякім чынам не атрымалі дазволенага пашырэння».[106]

Сеймік Брэстскага ваяводства пад маршалствам судовага старасты і польнага пісара ВКЛ Юзафа Сасноўскага ад імя 42 чал. пажадаў Сасноўскаму і надворнаму лоўчаму ВКЛ Юзафу Быстраму, каб дысідэнтам не перашкаджалі адпраўляць зборы ў гарадах і публічныя набажэнствы звыш прарэгатыў 1717, 1733 і 1736 гг.[107] Сеймік Пінскага павета пад кіраўніцтвам свайго маршалка, падкаморага Людвіка Арэшкі і за подпісам 28 ураднікаў, даручаў харунжаму Юзафу Куржанецкаму і земскаму суддзе Леапольду Ляпарскаму забараніць змены ў становішчы іншаверцаў на падставе канстытуцый 1717, 1736 і 1764 гг.[108] Тлумачэнне «непахіснасці святой каталіцкай веры ў уніі рымскага і грэчаскага абрадаў у старых і новых канстытуцыях» далі 9 падпісантаў сходу Мсціслаўскага ваяводства пад маршалствам земскага пісара Яна Сурына сваім паслам вялікаму пісару ВКЛ Мікалаю Тадэвушу Лапацінскаму і харунжаму Яну Сухадольскаму. Яны клапаціліся, каб на надыходзячым сейме «пры згодзе цэлай Рэчы Паспалітай, злучаныя ў унію каталіцкі і грэчаскі абрадкі былі абаронены правам ад дэзуніцкіх (праваслаўных — Я.А.), заўжды спакуслівых на ўнію нашай дзяржавы, блудаў і, наадварот, каб былі аднолены і пацверджаны ўсе дадзеныя уніятам правы і свабода распаўсюджвання каталіцкай веры сярод рускіх абрадаў дзеля таго, каб каталіцкая вера засталася ў непарушнасці». Інструкцыя раіла «зусім ліквідаваць усякія распальваючыя трывогу набаженствы і назвы, забароненыя даўнім правам, ды прымусіць дысідэнтаў» плаціць дзяржаўныя падаткі.[109]

Маршалак канфедэрацыі Полацкага ваяводства, вайніцкі староста Міхаіл Сяліцкі адзін падпісаў інструкцыю стольніку Яну Буйніцкаму і падваяводу

Траяну Корсаку у тым, каб яны сачылі і адхілялі «махінацыі супраць пануючай каталіцкай веры», якая павінна быць замацавана ў трактаце з Расіяй і пад яе гарантыяй. Сяліцкі прасіў назаўсёды вярнуць у полацкую кафедру і да сваей паствы мошчы св. Ю. Кунцэвіча, каб узбудзіць нянавісць да іншаверцаў.[110] Нібы ў пацвярджэнне гэтага, абываацелі Невельскай і Себежскай парафій ад імя «усяго памежнага краю Смаленскай дыяцэзіі» скардзіліся каралю, што, жывучы сярод «схізматыкаў-дэзунітаў і багамолаў», яны памiралі, хавалі нябошчыкаў без споведзі, а іх дзеці раслі без хрэсьбін і навук з-за маалікасці і далечыні каталіцкіх касцёлаў. Нават сам епіскап Габрыэль Вадзінскі не меў фундуша і даходаў. Хадайнікі прасілі дазволіць ім купіць зямлю на сабраныя 40 тыс. зл. для ўтрымання 3-га каплана са школай місіянераў у Сакалове.[111] Гэта ініцыятыва вядома таксама як ажыўленне ідэі гільзенаўскага фундуша для падмогі 4 касцёлам Смаленскай дыяцэзіі ў Себежы, Полацку, Віцебску і Невелі.

У гэтым хоры 84 асобы Мазырскага сейміка на чале з падкаморым Міхаілам Яленскім прасілі сваіх паслоў (навагрудскага кашталяна Казіміра Аскерку і земскага суддзю, дэкрэтавага пісара ВКЛ Гедэона Яленскага) паклапаціцца аб аднаўленні даўніх канстытуцый аб дысідэнтах.[112] 556 удзельнікаў сходу Гродзенскага павета пад маршалствам А. Тызенгаўза дазвалялі апошняму і Т. Юндзілу выказацца за вольнасць веравызнання і рамонт касцёлаў іншаверцаў дзеля засялення апусцелага краю рамеснікамі і для разбудовы гарадоў.[113] Як відаць, сеймікі ВКЛ практычна аднадушна адмаўлялі дысідэнтам у талерантнасці і засцерагалі каталіцкую рэлігію ў непарыўнасці з уніяцтвам, якое лічылі неад'емнай часткай і саюзнікам каталіцтва.

Другім клопатам інструкцый было заканадаўчае рэгуляванне грамадскай справядлівасці. Гродна бачылі месцам пасяджэння ваеннай і скарбовай камісій ВКЛ на сейміку Пінскага павета і, наадварот, віцебскі, брэсцкі, мазырскі сходы бачылі такім месцам Мінск і Вільню ў складзе камісараў, абраных сеймам. Мсціслаўскі, пінскі, мазырскі і полацкі сходы прасілі акрэсліць парадак іх дзейнасці, каб прадухіліць узурпацыю большай улады і ўвядзенне новых падаткаў, што было у кампетэнцыі гродскіх і земскіх судоў. Віцебскі, мсціслаўскі і полацкі сходы забаранялі каралю раздаваць пасады асобам, якія б «хацелі і маглі парушыць ці псаваць правапарадак Рэчы Паспалітай». У Мінску ўвогуле адмаўлялі ў новых набілітацыях і індэгатах (падараванні чыноў). Гэтыя пажаданні суседнічалі з выключэннямі для шляхты, якой дазвалялася ўся сукупнасць правоў.

Полацкая інструкцыя заявіла, што «павышэнне плебейскага статуса і, у рэшце рэшт, не слушнае параўнанне з шляхецкім станам вельмі шкоднае і шляхецтву і Рэчы Паспалітай». Тут патрабавалі, каб «хлопскі стан паранейшаму заставаўся ў нявольніцкім ярме па той прычыне, што ўсе вольнасці Рэчы Паспалітай з гэтай крыніцы паходзяць». У Пінску патрабавалі праект вызвалення падданых «зусім адхіліць, як абражаючы шляхецкі стан і пагражаючы яму крыўдай і шкодамі» ў выплаце падаткаў.[114] У Навагрудку і Мазыры паслам забаранялі «скасоўваць любым чынам статус простых людзей або прыводзіць іх да якой-небудзь свабоды з паніжэннем і небяспекай шляхецкаму стану». У Мсціславе сялян бачылі толькі ў «павіннасных абавязках сваім панам згодна з даўнімі правамі», а ў Мінску гаварылі, што калі «ліквідаваць падданства... па замежнаму прыкладу, тады панскіх зямель некаму будзе апрацоўваць».

Справядлівасць шляхта ВКЛ разумела у выглядзе «выкараненне бяспраўя ва ўсіх судах» або дакладнага тлумачэння кампетэнцыі ўрадаў у досыць шырокім дыяпазоне. У Рэчыцы ўхвалялі законы канвакацыйнага сейма, а ў Гродне мелі патрэбу ў паправе Статута ВКЛ адносна спадчыннасці (арт.17, раздзела 3 і арт. 19 раздз.4). Практычна ўсе сеймікі дбалі аб улажэнні «карэктуры справядлівасці» ў выглядзе 2 кніг: аб законных прыгаворах і «пастаянных правах дамовых урадаў», якія спецыяльная сеймавая камісія мелася прадставіць чарговаму сейму 1768 г. Пінскі сеймік у склад такой канстытуцыйнай камісіі рэкамендаваў выбраць (паводле законаў 1587, 1635, 1733 і 1764 гг.) на рэляцыйных (справаздачных) сейміках па аднаму дэпутату і затым далучыць іх да назначаных сеймам міністраў. Пры тлумачэнні або кадыфікацыі старых і новых правоў брэсцкі сеймік забараняў уводзіць навіны ў «істотныя матэрыі насуперак кардынальных правоў і ўставаў Рэчы Паспалітай», а ў Мазыры забаранялі ўсякае тлумачэнне ўставаў і асабліва падкрэслівалі непахіснасць вольных элекцый караля і галасавання.

У Полацку існуючую несправядлівасць тлумачылі валакітай пры заспакаенні беднаты, пакрыўджанай багацеямі, калі той даводзілася аплочваць усе судовыя расходы і шкоды. Каб «ураўнаваць усіх абывацеляў справядлівым урадам», тут браліся забараніць усім урадам брацца «ад выпадку да выпадку рашаць не ўласцівыя ім справы», не дазваляць апеляцыі на ўрады і бакі па явачных дэкрэтах. Для рашэння надзвычайных спраў, асабліва па аблігах (займах) і ўцекачах, прапаноўвалася завесці асобныя рэестры з прадастаўленнем кожнаму зацікаўленаму боку явачнай працэдуры. Заяўленыя дакументы дазвалялася запісваць у акты судоў

па частках года і выдаваць іх па патрабаваннях на працягу 3 дзён, але не больш тыдня.[115] У Мсціславе крыніцу бедстваў находзілі ў няспынных наездах з Крычаўскага староства з гвалтоўным захопам земскіх уладанняў і спадчынных сялян. У Пінску намагаліся не кранаць ні істоты, ні нават «выразаў» правоў, якія «скасаваны шматразовым пашырэннем новых правоў і іх дваякім тлумачэннем». На брэсцкім сейміку патрэбу асобных рэестраў ва ўсіх судах выводзілі з нечаканага наплыву або яўкі дакрэтаў, якія вырашаліся без чаргі.

Асаблівы нелад сейміки выводзілі са змяшання юрысдыкцыі земскіх і гродскіх судоў. У Полацку патрабавалі, каб гродскія суды не прысвойвалі кампетэнцыі земскіх судоў і раілі скасаваць жнівенскія сесіі гродскіх судоў з-за нявыгаднасці іх у гаспадарчы час. У Оршы і Навагрудку не жадалі неапраўданых апеляцый на суды. У Рэчыцы і Полацку заганы бачылі ў адсутнасці дакладных месцаў судоў і неабходнасці платы суддзям, як і ўраднікам. Віцебскі сеймік дбаў аб публічным утрыманні судоў, паколькі звычай вядзення імі спраў за свой кошт толькі ўзмацняў карупцыю і цяжкасці рэвізіі справаводства. З-за гэтага квітнела хабарніцтва сярод судовых рэгентаў (пісараў). Асабліва мізэрныя даходы даставаліся земскім рэгентам, паколькі дзяржаўныя падаткі (падымнае, кварты і гіберну) звычайна збіралі гродскія суды. Таму у Віцебску раілі даверыць збор падымнага земскім судам, а кварт і гіберны – гродскім. Падобныя меры нельга назваць разгалінаваннем кампетэнцыі, бо інструкцыя ваяводства раіла свабодна чыніць позвы і даклады, якія раней былі ў гродскім судзе, таксама і ў земскім, з захаваннем апеляцый на суддзяў.[116] Гэта дазваляла па-ранейшаму ўсім суддзям карміцца з валакіты і блытаніны спраў простым пераносам працэсаў з суда ў суд. У Гродне нават раілі запісваць валакітчыкаў у рамяство!

Сеймікі патрабавалі зачытваць і абмяркоўваць праекты паслоў на трэці дзень сейма, уключыць іх у канстытуцыю (Мсціслаўскі сход), або друкаваць (Брэст), вярнуць гетманам уладу ў ранейшым аб'ёме (Мсціслаў, Орша, Навагрудак, Пінск, Мазыр, Полацк), перадсеймавыя з'езды (Навагрудак). Віцебскі сход лічыў супрацьзаконным яўку страчаных пасэсарамі дакументаў пры пропуску 10-гадовай земскай даўнасці.

Значнае месца сеймікі адвялі пытанню памежных спрэчак паміж каралеўскімі і земска-шляхецкімі маёнткамі. У Оршы і Пінску дамагаліся публічнай справаздачнасці пры кіраванні каралеўскімі сталовымі эканоміямі. У Мсціславе і Полацку патрабавалі, каб дзяржаўныя камісіі не забіралі ўпрывілеяваныя пажыццёвыя трыманні шляхты ў Магілёўскай эканоміі, выдавалі адтуль збеглых спадчынных сялян і спаганялі запазычанасць выключна з дзяржаўных вёсак. У Брэсце скардзіліся на адміністрацыю эканомій, якая вымагала грошы за дровы з Белавежскай пушчы, уводзіла паборы за гандаль соллю і валамі. Ад караля тут патрабавалі не парушаць агульных мытаў і вольных уступаў шляхты у лясы. У Пінску раілі знішчыць зямельныя спрэчкі шляхам абмену каралеўскіх і шляхецкіх угоддзяў, выдзеліць уступы ў лясах, забаранялі раздаваць землі без уліку даўніх правоў пасэсараў, у тым ліку адносна вышуку сялян.

Мазыр жадаў вярнуць ад Кіеўскага ваяводства Антонаўскую валасць, кампенсаваць земскаму суддзі Яну Прыбору вышук там сваіх сялян і ўключыць сам павет у склад Віленскай дыяцэзіі. З-за маруднасці вышуку збеглых на Жмудзь, Інфлянты і Курляндыю сялян, у Віцебску, Брэсце, Полацку, Мсціславе патрабавалі весці вышук па патрабаванні тых месцаў адкуль адбыліся ўцёкі, або стварыць памежныя суды.[117] У Віцебску, Оршы і Мсціславе

вельмі настойвалі на ліквідацыі пераўтвораных у лен фундушаў у Смаленскім і Старадубскім паветах. Аршанскі сход вызначыў у лен з Магілёўскай эканоміі 19 вёсак.[118] Некаторыя сеймікі дабіваліся або непарушнасці ленных правоў або перавесці іх у спадчынную ўласнасць.

Уся гэтая разнамасная сукупнасць ініцыятыў была абагулена патрабаваннем рэчыцкага, мазырскага, пінскага, гродзенскага, мінскага, мсціслаўскага сеймікаў «ні ў чым не парушаць усе ўрады, правы, вольнасці выбараў усіх ураднікаў і парадкі літоўскай правінцыі, гарантаванай уніяй» Кароны і ВКЛ. Астатнія сеймікі прамаўчалі ў гэтым пункце, відаць, з надзеі на плён ад кадыфікацыі заканадаўства і на каралеўскія раздачы пасад. У Полацку патрабавалі захаваць вольны выбар ваяводаў. Аб такой практыцы ў Віцебскім ваяводстве сведчыць назначэнне 18 жніўня 1766 г. мясцовым ваяводам, эйшышскім старастам Юзафам Салагубам сваім наменнікам гродскага суддзю, стольніка К. Лускіну, а ў гродскі суд – стольніка Пятра Раманоўскага і падсудка Аляксандра Вішчынскага.[119] Аршанскі павет не ўваходзіў у юрысдыкцыю Віцебскага ваяводства, бо тамтэйшы судовы староста Ян Глябіцкі-Язафовіч 8 красавіка прызначыў сваім наменнікам Аляксандра Яна Галаўчыца.

Амаль усе сеймікі прасілі ратыфікаваць трактаты з Масквой 1686, 1704, 1707, 1710 гг., а каб яны мелі «роўны і ўзаемны эффект» (Полацкі сход, Мсціслаўскі), то раілі ўнесці іх у збор правоў. Вярнуць Рэчы Паспалітай Інфлянты прасілі Брэст і Мазыр.Усе памежныя паветы згаджаліся на рэвізію межаў, але без іх шкоды. Брэст, Мазыр, Полацк і Пінск патрабавалі вывесці замежныя войскі або атрымаць кампенсацыі за іх праходы, бо, казалі ў Рэчыцы, «ужо няма ніякага непрыяцеля ў Рэчы Паспалітай». Узамен сеймікі Мсціслаўя, Мазыра, Полацка

і Пінска згаджаліся на роспуск канфедэрацыі двух народаў і абдумаць спосабы утрымання ўласнага войска з умовай, каб новыя падаткі не кранаяі шляхецкіх уладанняў (Пінск, Полацк, Брэст, Мазыр). Усе сеймікі рашаліся павялічыць плату войску, але прасілі ліквідаваць падымнае і замест яго прапаноўвалі або кварту з гібернай (Брэст), або чопавае з шэлезным (прапінацыю) з усіх уладальнікаў, а не толькі шляхты. У гэтым пункце выразны змест дамагання непарушнасці уніі. Бо калі ў Мінску дамагаліся ліквідацыі чопавага і шэлезнага, уведзенага ў 1764 г. у «правінцыі ВКЛ» па прыкладу Кароны, то ў Мазыры, Брэсце і Гродне настойвалі на аднастайнасці прапінацыйных збораў у Кароне і ВКЛ, за выключэннем гарадоў і корчмаў. Прычым для палёгак свайму скарбу тут раілі адзін татарскі полк утрымліваць Каронай, а 2 – ВКЛ.

Паколькі сеймікі выразна выказвалі намер перакласці ўтрыманне войска на даходы з прапінацыі, то з гэтага, напрыклад, рэчыцкі сеймік раіў «узважыць гандаль банкрутуючых яўрэяў, павялічыўшы да 7 %» карыстанне крэдытам. У Віцебску прама прасілі накіраваць пагалоўнае з яўрэяў і мытныя пошліны «на павелічэнне сіл», перадаць разбор даўгоў кагалаў з асэсарскага (каралеўскага) суда ў мясцовыя суды.[120] У Мінску прасілі скасаваць усе унутраныя мыты ў ВКЛ, у Мазыры – вызваліць шляхту ад платы мытных пошлін і акцызаў у гарадах. У Полацку жадалі свабоднага вывазу тавараў у Рыгу і наогул марылі аб пунктуальным выразшэнні крэдытных аперацый і пра добры памежны нагляд «беларускага края». Пэўных выгад шляхта чакала ад біцця новай манеты і вываду старой прускай і саксонскай (Брэст, Рэчыца, Мсціслаў). У Оршы, Полацку, Мазыры, Мінску, Навагрудку і Пінску прасілі захаваць іх абарачэнне «ў Літве» па старому курсу (1 чырвоны зл. – 18 зл. польскіх, 1 тынф – 30 грош.,

1 шостак – 10 грош.).[121] Нарэшце, сеймікі, прасілі вызваліць ад праследу К. Радзівіла, Іяхіма Юдыцкага, рэчыцкага канюшага Тадэвуша Маліноўскага, Яна Цэханавецкага, Юзафа Валадкевіча, Аляксандра Корсака, узнагародзіць М. Брастоўскага, віленскага кашталяна А. Сапегу, падкаморага Зыгмунта Храпоўскага, мазырскага маршалка Р. Аскерку, рэчыцкага – А. Халецкага, упрывілеяваць фундушы на фальваркі падкамораму ВКЛ Феліксу Пацу, Прушаноўскім, Рэутам, Горскім, Турскім і розным манаскім ордэнам (любяшоўскім піярам, кобрынскім і навасельскім базыльянам, мазырскім чыстэрам і г.д.).

Як відаць, літоўская шляхта ва ўсіх адносінах выступіла з кансерватыўных пазіцый і практычна прамаўчала абнаўленчае значэнне каранацыйнага і канвакацыйнага сеймаў. У большасці яна згаджалася на роспуск канфедэрацый толькі пры вывадзе замежных войскаў, але ўсяляк не жадала сама ўтрымліваць уласнае. Усе сеймікі ўяўлялі ВКЛ у выглядзе менавіта «правінцыі», а не асобнай дзяржавы. Яны вельмі клапаціліся захаваннем выбараў уласных, мясцовых урадаў і судоў насуперак прызначэнняў зверху «нягодных» асоб. Дэсідэнцкую справу падтрымалі толькі ў Гродне, Коўне і Вількаміры,[122] а значыць, сеймавую большасць склалі праціўнікі іх талерантнасці.

У гэтай сувязі М. Рэпнін вагаўся і ў лісце ад 1 верасня пытаўся ў Паніна – распускаць ці працягваць сеймавую канфедэрацыю з-за таго, што дысідэнцкую справу «единогласием зделать не можно»? Ён прыгразіў Фаміліі сарваць новаўвядзенні, але паабяцаў не дамагацца, каб «дессиденты на все веки допущены были в правительство и гражданские чины».[123]

6 верасня Кацярына II загадала распусціць сеймавую канфедэрацыю і пакінуць надыходзячы сейм пры

аднагалоссі, каб пахаваць прыгатаваныя законапраекты аб павелічэнні войска, і наказала правесці дысідэнцкую справу сілай. Рэпнін прыйшоў у жах і адпісаў, што прадастаўленню палітычных правоў дысідэнтам «совершенно... все противны», што ў Літве на сейміках згаджаліся лепш разарыцца, чымсьці на падобнае згадзіцца, а таму не трэба распальваць варожасці да Расіі.[124] Тым не меней. ён размясціў батальён грэнадзёраў, эскадрон карабінераў і 10 казацкіх эскадронаў у маёнтках віленскага епіскапа і тых асоб, якія «с нами согласно в сем деле поступают» на бясплатны пастой. Аднак ён раіў не спяшацца з інтэрвенцыяй 40-тысячнага корпуса, паколькі «неудача в диссидентском деле может вовлечь сюда не только наши, но и прусские войска».[125]

Сейм, які адбываўся паміж 6 кастрычніка — 29 лістапада 1766 г., на першым жа пасяджэнні адхіліў абмеркаванне дысідэнцкай справы і прыгразіў канфіскацыяй маёмасці ўсім адвакатам Расіі як ворагам нацыі. Кацярына II зноў патрабавала распусціць канфедэрацыю, бо лічыла, што з-за нянавісці да караля ніхто ў Рэчы Паспалітай не зацікаўлены, каб 40—50 «креатур Чарториских» замацаваліся ва ўладзе, што яны не здольны «по натуре настоящего... правления составить большинство на сеймиках», што шлях рэформ праз канфедэрацыю, толь много им (Фаміліі – Я. А.) потворствующий, а для протчих опасный».[126] Яна загадала Рэпніну неадкладна скласці канфедэрацыю з дысідэнтаў, якая мелася прасіць «нашего и протестантских государей покровительства и защищения... и способом ее действовать сильною рукою», на што яна ўжо мела згоду прускага манарха. Яна раіла сабраць пад сцягам канфедэрацыі як мага больш ворагаў Фаміліі, а значыць і іх рэформ.

Рэпнін тут жа (16 кастрычніка) перадаў каралю, што Расія і Прусія зацікаўлены ў нязменнасці ліберум вета,

што пры апеляцыі да еўрапейскіх двароў непазбежна інтэрвенцыя прускіх і рускіх войскаў і падзел рэспублікі паміж імі, што ён абапрэцца на К. Радзівіла і ўсіх незадаволеных са зваротам ім секвестраваных уладанняў, з няўмольным крывавым перадзелам маёмасці, што ў адказ на рэпрэсіі супраць дысідэнтаў Расія выставіць рахунак за канфіскаваную у іх уласнасць і запатрабуе «воздаяния... за все убытки и труды, кои употреблены были к доставлению им покоя, тишины и вольного выбору короля Пяста».[127] А кошт гэтых сакрэтных «трудов» складаў у 1765 г. 20953 чырвоных (377154 зл.), а ў 1766 г. – 48333 чырвоных (869994 зл.) або 120832 руб.з усяе касы ў 61432 чырв., што было роўназначна гадавому даходу ВКЛ.[128]

З разліку на зацікаўленасць еўрапейскіх манархаў у раўнавазе сіл сейм паспеў прыняць адносна ВКЛ пастанову аб аднастайнасці мер і вагаў, стварыў ваенную і скарбовую камісіі. Судовую справядлівасць у ВКЛ сейм вырашыў шляхам завядзення судовых рэестраў па працэсах вакол пазык і збеглых сялян, дазволіўшы пакрыўджаным нядбайнасцю, некамплектнасцю судоў або зрывам дэпутацкіх сеймікаў апеляваць у Галоўны трыбунал з абавязкам аплаты скаргаў у яго даход 1000 коп літоўскіх грошай замест 100. Хаця за валакіту земскіх і гродскіх суддзяў каралі звычайна 6 тыднямі вежы і пагрозай пазбаўлення чына і годнасці, аднак згаданая мера рабіла трыбунал недасягальным для беднай шляхты.[129] Безвыніковымі спрэчкамі скончыліся дамаганні «альтэрнатывы» кожнага 3-га сейма ў Гродне, хаця ліцвіны згаджаліся даць па 1 талеру з дыма на рамонт каралеўскага замка і 50 тыс. зл. на помнік канцлеру М. Чартарыжскаму у Вільні.

Адразу праваліліся і надзеі на прапінацыю з-за росту цэн як на напіткі, так і на агульнаспажывецкія тавары. Уласнікі сталі ўтойваць даходы, а яўрэі не маглі

разлічыцца з крэдыторамі, з-за чаго і памнажаліся як даўгі кагалаў, так і запазычанасць у плаце войску. Так, калі да 1764 г. усе кагалы ВКЛ плацілі ў скарб штогод па 60000 зл.(20 тыс. на харугвы), то за 3 гады пасля яны ўнеслі 62343 зл.[130] Канчатковы тэрмін сплаты кагальных даўгоў, назначаны ў ВКЛ на 1 снежня 1766 г., не быў вытрыманы.

11 жніўня 1766 г. кароль назначыў камісію для люстрацыі сталовых эканомій ВКЛ у складзе 43 асоб (9 мясцовых суддзяў, 3 маршалкаў паветаў і 6 падкаморых). Ім далі невыканальныя 2 тыдні на рэвізію прывілеяў гарадоў, межаў уладанняў і на «завядзенне эканомікі», што мелася адлюстраваць у выглядзе інвентароў з дакладным вызначэннем павіннасцяў сялян і мяшчан. Падобная мера тычылася і старостваў. Люстрацыя судраваджалася павелічэннем пасэсарамі павіннасцяў і дамаганнем падданымі старадаўніх вольнасцяў. Бунты ўспыхнулі ў Полацкай і Слонімскай эканоміях. 19 верасня жыхары мястэчка Дзісны на чале з войтам, старастам Амбраізам Козелам пакрыўдзіліся на лідскага чашніка Матэвуша Даўманта, які з дапамогай пяцігорскай харугвы прысвоіў і заворваў гарадскі выган насуперак пастанове люстратараў. Пры зборы гіберны паштовыя насмерць засеклі маці і сына бурмістра Клыпы.[131] Рэвізія эканомій, старостваў, кагалаў, гарадоў правакавала чуткі аб намерах вызвалення прыгонных і заняволення краю чужынцамі з дапамогай пастаўленага караля. У гэтым значэнні замарудзіліся і рэвізіі памежных камісій, назначаных каралём 10 мая 1766 г. Да сейма справіла свае чыннасці толькі рэчыцкая камісія, а астатнія проста лайдачылі.[132]

У выніку сейм адтэрмінаваў люстрацыю на 1767 г. і стварыў камісію для «ўціхамірвання бунтоў» сялян Полацкай і Слонімскай эканомій. Збор падымнага са

шляхты быў адтэрмінаваны на верасень 1768 г., а з 1 сакавіка 1768 г. яго замянілі чопавым і шэлезным у выглядзе 10 % з чыстага даходу ад прапінацыі напіткаў пад прысягай уладальнікаў і іх упраўляючых. Прычым у сталіцах ваяводстваў і паветаў прапінацыю мелася збіраць скарбовая камісія ВКЛ, а іншыя месцы не падпадалі пад яе ўладу – гэтак спадзяваліся на сумленне ўласнікаў і іх эканомаў.

22 кастрычніка сейм большасцю галасоў адхіліў каралеўскі праект павелічэння падаткаў на войска з боязі, што разам з дысідэнтамі падобныя рэформы прывядуць да ўлады мяшчан і знішчаць прыгонніцтва сялян.[133] Такім чынам ён самараспусціў канфедэрацыю і добраахвотна пахаваў шансы на рэформы пры апоры на большасць галасоў. Больш таго, ён без усякіх спрэчак забараніў любыя замахі на вольнасць галасавання (аднагалоссе) і занёс гэта ў канстытуцыю ў якасці кардынальнага і нязменнага закона. Вось так, без падмогі замежных штыкоў, па адным славесным шантажы вольнаабраныя паслы юрыдычна замацавалі бязсілле і бяззбройнасць краіны, чым яшчэ больш развязалі рукі замежнаму дыктату пры абапоры на вяртлявых магнатаў і епіскапаў, якія прызвычаіліся «копить червонцы».[134]

Рэпнін, атрымаўшы 27 кастрычніка чарговае абяцанне К. Радзівіла сваіх паслугаў, дазволіў апазіцыі «сколько хотят вопить против властолюбия и деспотизма Фамилии» і згадзіўся разгледзець з епіскапамі толькі пытанне аб звароце забраных у унію праваслаўных цэркваў, не закранаючы свецкіх і духоўных прывілеяў іншаверцаў. Епіскапы абяцалі даць дысідэнтам свабоду культу пры захаванні платы за трэбы каталіцкаму духавенству, адмовіліся прадастаўляць ім палітычнае раўнапраўе, дзяржаўныя пасады і абавязвалі плаціць дзяржаўныя падаткі.[135]

30 кастрычніка Рэпнін паведаміў, што дысідэнцкая справа «всех отвращает, никто не смеет в пользу онаго открыто говорить и прежде его (сейма – Я.А.) окончания никакой возможности нет себе совсем преданную особую партию собрать..., но притом таковая независимая от двора партия не может собрана и держана быть без великого иждивения». Наяўныя водцы дысідэнтаў запэўнівалі яго з верасня аб уласнай здольнасці тайна стварыць 2 канфедэрацыі ў Літве і прасілі для гэтага войск і 30 тыс. чырв. (540 тыс. польскіх зл.). Рэпнін даў ім толькі 25 тыс.чырв., бо лічыў, што тыя павадыры самі варожыя да Расіі і на іх «полагаться не можно».[136] Ён пісаў, што «все греки тут дворянство в такой бедности, что сами землю пашут», а таму не сумняваўся, што дысідэнцкія водцы пабаяцца абаперціся на бедную шляхту. Ды і сам ён не браўся адказваць за «партикулярное фанатичество (шляхты – Я.А.), соединенное с безрассудством, бешенством и пьянством, которым правил положить не можно».[137] Для падтрымкі такіх канфедэрацый разам у адзін дзень і ў 4 месцах яму не хапала наяўных палкоў. Ён раіў накіраваць у Слуцк і Торунь па 7–8 тыс. войскаў для падпоры дысідэнцкіх канфедэрацый, для аховы маёнткаў памагатых ад помсты і для «страху всем, чтоб не думали в провинциях противных конфедераций делать» пад выглядам паспалітага рушэння. Рэпнін лічыў, што малалюдныя канфедэрацыі павялічацца як толькі «войска наши уже гораздо в здешнюю землю продвинутся» і займуць Літоўскае княства.[138] У яго выспеў план «присовокупить католиков... к сему противному здесь генерально всем делу, которые... для собственных своих выгод работают как в уничтожении многогласия, так и в разрушении конфедерации».[139] Вось так вызначаўся сапраўдны хаўрус бакоў, якія аднолькава прыстасавалі рэлігійную цярпімасць да сваіх палітычных разлікаў.

Сейм 29—30 лістапада 1766 г.быў распушчаны за непадатлівасць і памкненні на замах улюбёнага саслоўнага ладу. М. Рэпнін пераканаўся ў неабходнасці «единожды навсегда предписать (Рэчы Паспалітай – Я.А.) форму правления и утвердить оную нашею гарантиею хотя бы вооруженною рукою», узяўшы за падставу дысідэнцкую справу і «множество голосов на сеймиках». Неабходнасць такога вечнага трактата ён выводзіў з ваганняў караля, ненадзейнасці часовых памагатых і таго, што любы сейм можа адмяніць або перамяніць пастаноўленыя законы, «а нам нужно все эти ухватки однажды навсегда уничтожить, если не хотим иметь беспокойных, а со временем и опасных соседей».[140]

3 снежня 6 водцаў дысідэнтаў на чале з генерал-маёрам, палкоўнікам пінскага рэгімента кавалерыі Янам Грабоўскім абвясцілі ў Варшаве маніфест, дзе гаварылі, што дысідэнты 50 год цярпліва зносілі дыскрымінацыю і нягоды лёсу, асабліва пераменлівыя з-за зрываў сеймаў і ад дарэмных апеляцый «да людскасці і абавязкаў трактатаў». Яны заявілі аб «нявіннасці свайго вызнання перад богам, каралём, абывацелямі Рэчы Паспалітай» і абвясцілі пратэст супраць параследу і гвалтоўнага пазбаўлення публічных урадаў. Кацярына II 24 снежня параіла каралю і Фаміліі ўзначаліць будучыя канфедэрацыі, каб пазбегнуць дарэмнага праліцця крыві ў выпадку прымянення Расіяй зброі і пры дапамозе іхніх ворагаў.[141]

Атрымаўшы адказ, яна 20 студзеня 1767 г. загадала Рэпніну «разжечь» дысідэнцкую справу і злучыць у канфедэрацыю ўсіх незадаволеных каралём, Фаміліяй і іх рэформамі.[142] На яе стварэнне было адпушчана 100 тыс. руб. хабару і падмога 3 карпусоў (каля 20 тыс. ратнікаў). Месцам адкрыцця прызначылі Слуцк, аднак 18 студзеня аднаму з карпусоў загадалі рухацца з Смаленска прама

на Вільню, куды меркавалася перанесці злучэнне дысідэнцкай і каталіцкай канфедэрацый Літвы, каб прадэманстраваць усёй Еўропе, што «господа Чарторижские сами по себе ничего не значат..., а прямо вся республика наши дела исполняет и форм защиты и ручательства... нерушимой вольности вольных голосов испрашивает»,[143] каб пад страхам дэтранізацыі кароль склікаў надзвычайны сейм, «дабы на оном все произведшее примирить и привесть дела для собственной своей пользы и безопастности в какой ни есть порядок». Каб не распаліць нянавісці да адных дысідэнтаў і каб «польский двор не имел времени обратить гнев всей нации» на супраціўленне, «по которому обязаны все католики соединиться между собою взаимно равным узлом конфедерации» або паспалітага рушэння, М. Панін імкнуўся прадставіць увод карпусоў падтрымкай «не только наших единоверных диссидентов, но... для покровительства всех претерпевших от вредных новостей..., вольностей и привилегий всего польского (каталіцкага вызнання – Я.А.) дворянства» і для прадухілення грамадзянскай вайны.[144]

Пецярбург зноў адступіўся ад дамагання поўнай грамадзянска-палітычнай роўнасці іншаверцаў з каталіцкай шляхтай, каб утрымаць дысідэнтаў у належных рамках і «испровергнуть толки, будто соучастием» у навязванні расійскай пратэкцыі яны «наложат вечные цепи политического рабства» на ўсю рэспубліку. 3 лютага 1767 г. Панін прасіў Рэпніна супакоіць мясцовую знаць тым, што Кацярына II не кваліцца на першынство каталіцкай рэлігіі, бо імператрыца «первая станет оборонять ее в случае нападения, ибо вера такой пункт в государстве, что и малая в ней перемена может поколебать все оное». Паслу даручалася сказаць, што ўвядзенне ў сейм раз і назаўсёды пэўнай колькасці

дысідэнтаў «нужнее одним католикам» для дэманстрацыі талерантнасці, што гэта не пахісне дзяржаўных асноў, а толькі «может утеснить некоторых властолюбивых».[145]

14 лютага епіскап Г. Каніскі з 320 чырвонымі і ў суправаджэнні палка прыбыў у Слуцк, каб з дапамогай некалькіх падручных святароў сабраць подпісы пад стварэннем канфедэрацыі праваслаўных і кальвіністаў. Не без дапамогі радзівілаўскіх эканомаў 28 лютага ў Слуцк з'явілася, як лічыцца, 573 чал. і самі павадыры, якія атрымалі на агітацыю 20 тыс. чырв.[146] Між тым, як сведчыць ананімны аўтар, на сход сабралася 800 чал., з якіх акт канфедэрацыі 18 сакавіка 1767 г.падпісалі 130 чал.[147] Г. Каніскі адкрыў сход прамовай на латыні, а Я. Грабоўскі зачытаў прысутным сам маніфест. Акт слуцкай канфедэрацыі гаварыў, што насуперак прывілеям і канстытуцыям 14—18 стст. каталіцкае духавенства ў розных кутках «літоўскай правінцыі» адбірала ў іншаверцаў цэрквы, школы, друкарні, званы, алтары, прымушала іх аплачваць свае таінствы. Сярод «жудасных гвалтаў» і забойстваў саміх святароў называлася асуджэнне на смерць 70 чал. мсціслаўскай шляхты у 1765 г. за адмову прыняць унію. Сабраныя скардзіліся, што іх выжылі з магістратаў і цэхаў у каралеўскіх гарадах, «а нас, радавітую шляхту, хаця мы па нараджэнню, па правах і прывілеях роўныя каталікам», канвакацыйны сейм 1764 г. «чуць не зраўняў з найпадлейшым станам Рэчы Паспалітай». Гэтак сабраныя самі адхрысціліся ад атаясамлення з мужыцкім простанароддзем усяе дысідэнцкай справы. Бараніць свае стаптаныя правы і роўныя прывілеі акт заклікаў Расію, Швецыю, Англію, Прусію і Данію і заявіў, што гэты саюз не скіраваны «супраць рымска-каталіцкай рэлігіі і яе абрадкаў», што значыць і супраць уніяцтва. Слуцкі акт заклікаў

патрыётаў-каталікоў аб'яднацца «дзеля ўтрымання агульных свабод і вольнасці, належных кожнаму па праву». Пасля ўрачыстай імшы і прысягі, сход 21 сакавіка выбраў канцылярыю з 28 членаў пад старшынствам Я. Грабоўскага, а затым паслаў дэлегатаў да Рэпніна, курляндскага герцага, Кацярыны II (навасельскага старасту Багуслава Красінскага) і караля (Фелікса Зарэмбу і Самуэля Воўк-Ланеўскага).

Хаця М. Панін лічыў, што «дело пером в половине зделано», аднак раіў Рэпніну не спяшацца з раздачай хабару, каб дачасныя лакеі не патрацілі грошы на арганізацыю супраціўлення. А тыя і не думалі. У Торуні Расіі выставілі старадаўнія рахункі на суму у 225402 руб.(звыш 2 млн. зл.), з якіх 13 літоўскім магнатам было заплочана толькі 57070 руб.[148] К. Радзівіл згаджаўся ўзначаліць каталіцкую канфедэрацыю Літвы толькі ўзамен па зварот секвестраваных уладанняў і задавальненне панесеных крыўд. Хаця падобнага лідэрства прагнулі Пац і Пацэй,[149] аднак Рэпнін намеціў у маршалкі Радзівіла як «пугалища Чарторижским» і для скарачэння расходаў на яго ўтрыманне. Ад Радзівіла патрабавалі толькі хутка выдаць з уласных уладанняў уцекачоў, вярнуць адабраныя ў дысідэнтаў цэрквы, дазволіць свабодны гандаль рускім купцам. Князя таксама прылашчылі ордэнам св. Ганны і тытулам гетмана пасля смерці Масальскага.[150]

Пакрыўджаны другарадной роллю, шэф дысідэнтаў Ян Гуроўскі захварэў на два тыдні. Мінскі ваявода Юзаф Гільзен не скараўся і разганяў падтрымліваючых канфедэратаў суддзяў.[151] Іншыя вяльможы таксама байкатавалі патрыятычны саюз з іншаверцамі. Яны, як пісаў 15 красавіка Рэпнін, таксама прыкінуліся хворымі з надзеі «чужими руками жар загребать и пристать токмс тогда, когда дело будет зделано», бо «из страха токмо

кричат и жалуются на правление и двор, а пошевелится от раболепства не смеют».[152] Рэпнін не згаджаўся з намерам Паніна адкрыць канфедэрацыю на сейме з-за боязі, што на выбарчых сейміках пройдуць ворагі дысідэнтаў, бо «все здесь беспрерывно лгут..., всякой внутренне трусит и один на один говорит, что все по нашим желаниям зделать надлежит, а в публике тот же самой, храбрясь, отзывается, что готов жизнью своею жертвовать... и пред другими и пред собой». Кароль таксама следаваў агульнай крывадушнасці і да 28 сакавіка не прымаў дысідэнцкіх дэлегатаў, каб не скампраметаваць сябе з погляду на незаконнасць паўнамоцтваў некалькіх ваяводстваў і паветаў, «боясь явно как нам противится, так и согласие на сие оказать». Скліканая ім 8 красавіка сенацкая рада вырашыла сабраць надзвычайны сейм 5 верасня 1767 г., каб «*ДАТЬ ВРЕМЯ НАШИМ ВОЙСКАМ БОЛЕЕ В ЗЕМЛЮ ВСТУПИТЬ* (вылуч. – Я.А.) и по нужным местам разположится».[153] Усяго ж паводле плана ад 4 красавіка ў Рэч Паспалітую ўводзіліся 3 карпусы ў складзе 2680 казакоў, 17 эскадронаў драгун, 6 палкоў пяхоты і 12 батальёнаў карабінераў (30 тыс. воінаў). З гэтай навалы ў ВКЛ размяшчаўся корпус генерал-паручніка Івана Нумерса (1000 казакоў, 5 эскадронаў драгун з 4 пяхотнымі батальёнамі). 4 палкі карабінераў ставіліся ў Мсціславе, Коўне, Полацку, Мінску, Слоніме, Вільні, Гродне і Брэсце. Афіцэры меліся ўнушаць абывацелям, што войскі ўведзены для замірэння: каб «прикрывать наших партизанов и не допускать до обиды от противных».[154]

17 мая Рэпнін адаслаў 10 тыс. чырв. (20 тыс. руб.) зяцю К. Радзівіла Станіславу Брастоўскаму, «чтоб конфедерации во всей Литве все вдруг открылись... для усмирения и устрашения противников, кои б захотели реконфедерацию сделать... во всех провинциях онаго

княжества». Да Радзівіла прыставілі палкоўніка В. Кара з загадам утрымліваць яснавяльможнага князя «от всякого непорядочного и безобразного поведения, как-то пьянства, обид и наглостей против кого бы то ни было».[155] 22 мая маршалкамі павятовых канфедэрацый Пецярбург вызначыў 9 асоб у Вільні, Ашмянах, Лідзе, Троках, Смаленску, Старадубе, Гродна, Пінску і Брэсце. Потым гэты спіс змяніўся наступным чынам (табліца 4).

*Табліца 4*

***Маршалкі каталіцкіх канфэдэрацый ВКЛ (май 1767 г.)***

| Ваяводства/павет | Асоба | Чын і званне |
|---|---|---|
| Віленскае ваяводства | Жаба Тадэвуш | харунжы ВКЛ |
| Трокскае ваяводства | Ромер Дамінік | харунжы |
| Смаленскае ваяводства | Жаба Франц | бельскі староста |
| **Брэсцкае ваяводства** | Радзівіл Міхаіл | краўчы ВКЛ |
| Полацкае ваяводства | Корсак Траян | падваявода |
| Віцебскае ваяводства | Шышко Міхаіл | харунжы, скарбнік |
| Мсціслаўскае ваяводства | Цэханавецкі Міхаіл | харунжы |
| Мінскае ваяводства | Іваноўскі Ігнат | судовы староста |
| Навагрудскае ваяводства | Рдултоўскі Хрыстафор | падваявода |
| Ашмянскі павет | Козел Амбраіз | дысенскі староста |
| Лідскі павет | Юдыцкі Юзаф | мінскі кашталян |
| Старадубскі павет | Лапа Томаш | гродскі пісар |
| Гродзенскі павет | Храптовіч Караль | гродскі пісар |
| Пінскі павет | Куржанецкі Томаш | земскі пісар, амыцкі староста |
| Браслаўскі павет | Брастоўскі Роберт | палкоўнік |
| Мазырскі павет | Радзівіл Юзаф | вялікі пісар ВКЛ |
| Рэчыцкі павет | Радзівіл Альбрэхт | судовы староста |
| Ваўкавыскі павет | Бяляўскі Казімір | земскі пісар |
| Слонімскі павет | Валовіч Казімір | |
| Аршанскі павет | Галынскі Ежы Казімір | харунжы |

*Крыніца: АЗПРІ,ф. 79, воп. 6, спр. 907, л. 78—79,146—146 адв.*

Пры выбарах маршалкаў змены адбыліся ў 5 выпадках з 20-ці: у Вільні харунжы Тадэвуш Жаба саступіў месца С. Брастоўскаму, у Ашмянах дысенскі стараста А. Козел – харунжаму А. Пазняку, у Смаленскім ваяводстве Ф. Жаба змагаўся за пасаду з С. Брастоўскім, у Пінску Т. Куржанецкі з С. Ржавускім, у Віцебску Л. Пацэй са скарбнікам Міхаілам Шышко, у Мазыры Д. Абуховіч з вялікім літоўскім пісарам Юзафам Радзівілам, у Рэчыцы А. Радзівілу процістаяў жмудскі ціўн А. Праздзецкі, у Мінску Ф. Ратынскага выцясняў мінскі стараста І. Іваноўскі. Бойка вялася паміж партыяй Радзівілаў і яго пераможцамі ў папярэдні час.

Усе акты канфедэрацый датуюцца 22 мая 1767 г. і гэтак жа спланавана дэкляруюць аб злучэнні аднадумцаў для выратавання гінучай Айчыны з-за ўвядзення апошнім соймам шкодных статутаў без уліку галасоў сенатараў і паслоў, парушэння ім фундаментальных правоў, прэрагатыў і роўнасці ўлад. Такі акт у Слонімскім павеце падпісала 13 чал.[156] 295 чал. мсціслаўскага сходу сабраліся ратаваць абывацеляў ад няшчасных прыгод і з дапамогай Расіі зберагчы «правы, вольнасці і форму урада без шкоды каталіцкай рэлігіі». Яны выбралі ў сваю канцылярыю 10 чал.[157] Тое ж абвясцілі 51 чал. у Рэчыцы, дзе, праўда, сабраліся дапусціць «грэкаў-дысідэнтаў і неунітаў усякага стану да справядлівасці». У склад канфедэрацыі яны абралі сенатара Мартына і гродскага пісара Ігната Казіміра Хлявінскіх, земскага судзіца Іяхіма Юдыцкага, падкаморага Казіміра Халецкага, ротмістра Юзафа Вішчынскага, Дамініка Маліноўскага.[158] Цэласнасць правоў і каталіцкай рэлігіі пад гарантыяй Кацярыны II абвясцілі 43 чал. Навагрудскага ваяводства, якія паставілі ў сваю канцылярыю Рдултоўскага, стольніка Іпаліта Корсака, чашніка Франца Яблонскага, канюшага Юзафа Мірджэўскага, краўчага Міхаіла Пратасевіча, старасту

Антона Трацкевіча, Ігната Абуховіча і Станіслава Война.[159] Рдултоўскі ўласным універсалам назваў усіх нязгодных ворагамі «збавіцельнай справе, нашаму саюзу, Айчыне і публічнаму дабру» і неадкладна выслаў у Вільню вопісы архіваў мітрапалітаў Фларыяна Валадкевіча, Фларыяна Грабніцкага і Ясона Смаржэўскага.[160]

Прыхільна да дысідэнтаў пад апекай Расіі паставіліся 258 чал. у Мінску. Тут у канфедэрацкую канцылярыю выбралі І. Іваноўскага, гродскага суддзю Яцака Жыжэмскага, каморніка ВКЛ Станіслава Араноўскага, краўчыца Тадэвуша Валадкевіча, сяняўскага старасту Франца Ратынскага, чашніка і гродскага падстарасту Юзафа Прушынскага, гродскага суддзю Яна Літавора Арамовіча, гродскага пісара, падчашага Іяхіма Хмару, лоўчага Яна Паўлікоўскага.[161] Акт Ваўкавыскай канфедэрацыі сабраў пад пратэстам супраць шкодных навін каранацыйнага і канвакацыйнага сеймаў подпісы 144 чал. Тут у канцылярскае кола трапілі гараднічы Самуэль і харунжы Ігнат Быкоўскія-Лапаты, стольнік Ежы Ялецкі, а ў члены генеральнай канфедэрацыі ВКЛ – земскі суддзя Франц Івашкевіч і падчашы Франц Гедройц,[162] якіх потым не аказалася на месцах прызначэння. Акт пінскай канфедэрацыі падпісалі 54 чал. Яны паслалі ў генеральную канфедэрацыю свайго маршалка І.А. Куржанецкага разам з братам харунжым Стэфанам. Мясцовай канфедэрацыяй кіравалі войскі Базыль Гадзебскі, мсціслаўскі обэр-лейтэнант Юзаф Неміровіч-Шчыт, Міхаіл Даманскі,Юзаф Тэрлецкі, Франц Рыхтэрскі і Людвік Брахоцкі.[163] Нарэшце, з 118 чал., падпісаўшых акт гродзенскай канфедэрацыі, мясцовы ўрад склалі скарбнік Лявон Палубінскі, будаўнічы Ян Мараш, ротмістр, вількамірскі староста Антон і ашмянскі чашнік Станіслаў Клячкоўскія, Міхаіл Барэцкі, Тадэвуш Садлуцкі, гараднічы Франц Барановіч.[164]




*Пячатка Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ 1764 года з гербам, прапанаваным М. Брастоўскім (унесены 7.7.1767).*

Такім чынам, з 8 каталіцкіх канфедэрацый, прыведзеных тут, толькі адна глуха ўспомніла пра справядлівасць для іншаверцаў. Усе яны так або інакш выступілі супраць папярэдніх сеймаў, а значыць і караля. Цікава, што з 200 падпісантаў інструкцый на сейм 1766 г. зараз адкрыта змянілі сваю арыентацыю на Расію 25 ураднікаў, а астатнія 182 чал. былі зусім новымі галасамі. Мясцовыя канфедэрацыі злучыліся ў генеральную канфедэрацыю «літоўскай правінцыі» 2 чэрвеня 1767 г. пад маршалствам быстрыцкага старасты Станіслава Брастоўскага, якая, як лічыцца, сабрала вакол сябе не менш 10 тыс. чал.[165] Склад яе кіраўніцтва быў наступны (табліца 5).

*Табліца 5*

***Склад канцылярыі генеральнай канфедэрацыі ВКЛ 2 чэрвеня 1767 г.***

| | |
|---|---|
| Брастоўскі Роберт | палкоўнік, маршал Браслаўскай канфедэрацыі |
| Алёша Самуэль | пінскі будаўнічы, член Пінскай канфедэрацыі |
| Аборскі Бернар | харунжы |
| Быкоўскі-Лапат Ігнацій | ротмістр, член Ваўкавыскай канфедэрацыі |
| Быкоўскі Самуэль | шамбелян, гараднічы, член Ваўкавыскай канфедэрацыі |
| Быкоўскі Станіслаў | польны стражнік ВКЛ, бабруйскі стараста, навагрудскі гродскі пісар |
| Бяляўскі Казімір | паручнік, земскі пісар, маршал Ваўкавыскай канфедэрацыі |
| Бяляўскі Валенцій | чашнік, член Ваўкавыскай канфедэрацыі |
| Бранеўскі Міхаіл | лідскі мечнік |
| Верашчака Ян | ротмістр,член Брэсцкай канфедэрацыі |
| Ваўрэцкі Ян Станіслаў | земскі суддзя, член Браслаўскай канфедэрацыі |
| Варанецкі Флор Карыб | надворны падкаморы ВКЛ |
| Галаўчыц Аляксандр Ян | палкоўнік, аршанскі падстараста, судовы інстыгатар генеральнай канфедэрацыі |
| Гальнскі Ежы Казімір | харунжы, гараднічы, член Аршанскай канфедэрацыі |
| Дамброўскі Ян | вількамірскі падкаморы |
| Дзерналовіч Юзаф | харунжы, маршал Рэчыцкай канфедэрацыі |
| Дуброўскі Ігнат | ? |
| Жаба Тадэвуш | харунжы ВКЛ, маршал Віленскай канфедэрацыі |
| Жаба Франц | бельскі стараста, мінскі стараста, маршал Смаленскай канфедэрацыі |
| Жыжэмскі Яцак | мінскі гродскі суддзя |
| Зянковіч Геранім | дуцкі стараста |

| | |
|---|---|
| Іваноўскі Ігнат | судовы стараста, маршал Мінскай канфедэрацыі |
| Кальшка Юзаф | лідскі будаўнічы |
| Кміт Ян | мечнік і член Браслаўскай канфедэрацыі |
| Квінт Юзаф | ротмістр, браслаўскі мечнік |
| Куржанецкі Томаш | амыцкі стараста, земскі пісар, маршал Пінскай канфедэрацыі |
| Куржанецкі Стэфан | харунжы, член Пінскай канфедэрацыі |
| Касакоўскі Антон | земскі пісар,маршал ? |
| Козел Амбраіз | стараста, маршал Ашмянскай канфедэрацыі |
| Козел Юзаф | ашмянскі паручнік |
| Конч Ігнат | рэгент канфедэрацыі |
| Корсак Траян | падваявода, маршал Полацкай канфедэрацыі |
| Лапа Томаш | гродскі пісар, маршал Старадубскай канфедэрацыі |
| Марыконі Мартын | пісар ВКЛ |
| Мірскі-Святаполк Томаш | генерал-ад'ютант, член Браслаўскай канфедэрацыі |
| Мірскі Пётр | браслаўскі стражнік |
| Падбярэзскі Самуэль | пінскі стараста, член Браслаўскай канфедэрацыі |
| Пазняк Антон | ашмянскі харунжы |
| Пузына Хрыстафор | упіцкі судовы стараста, маршал Упіцкай канфедэрацыі |
| Прэцішэўскі Станіслаў | маршал Жмудскай канфедэрацыі |
| Пацэй Людвік | літоўскі стражнік, маршал ? |
| Пац Антон Міхаіл | барцянскі стараста, вялікі літоўскі пісар |
| Пац Юзаф | вілейскі стараста |
| Радзівіл Юзаф | вялікі пісар ВКЛ, маршал Мазырскай канфедэрацыі |
| Радзівіл Альбрэхт | судовы стараста, маршал Рэчыцкай канфедэрацыі |
| Радзівіл Міхаіл | князь, краўчыц ВКЛ, маршал Брэсцкай канфедэрацыі |
| Радзівіл Дамінік | падкаморы ВКЛ |
| Ромер Стэфан Дамінік | харунжы, маршал Трокскай канфедэрацыі |
| Ратомскі Рамуальд | аршанскі земскі рэгант і ротмістр |
| Рдултоўскі Хрыстафор | падваявода, маршал Навагрудскай канфедэрацыі |
| Рассудоўскі Іяхім | лідскі харунжы |
| Ратынскі Франц | сяняўскі стараста, маршал ? |
| Сыруц Шыман | віцебскі кашталян |
| Сулістроўскі Алаіз | паручнік, член Ашмянскай канфедэрацыі |
| Тышкевіч Юзаф | дубецкі стараста, мсціслаўскі кашталян |
| Тызенгауз Антон | ротмістр, член Слонімскай канфедэрацыі |
| Хрыжаноўскі Зыгмунд | абозны, член Брэсцкай канфедэрацыі |
| Храптовіч Караль | гродскі пісар, маршал Гродзенскай канфедэрацыі |
| Чаховіч Антон Міхаіл | палкоўнік, падчашы, член Ашмянскай канфедэрацыі |
| Шышко Міхаіл | харунжы, скарбнік, маршал Віцебскай канфедэрацыі |
| Шчыт Юзаф | смаленскі ротмістр, член Полацкай канфедэрацыі |
| Юдыцкі Юзаф | стралкоўскі і баханскі стараста, мінскі кашталян, маршал Лідскай канфедэрацыі |
| Ялец Юзаф Ежы | стольнік, член Ваўкавыскай канфедэрацыі |

Акрамя гэтых 64 асоб, да генеральнага кола адносіліся дэлегаты з месцаў, звесткі аб якіх адсутнічаюць па Вільні, Троках, Коўне, Інфлянтах (табл.6).

*Табліца 6*

***Дэлегаты генеральнай канфедэрацыі ВКЛ 2 чэрвеня 1767* г.**

| Мясцовасць | Дэлегат | Пасада і чын |
|---|---|---|
| Аршанскі павет | Галаўчыц Аляксандр Ян<br>Рэут Юзаф Антон | палкоўнік, аршанскі судовы падстараста<br>полацкі чашнік, член полацкай канф. |
| Ашмянскі павет | Пазняк Антон<br>Сарока Юзаф | земскі суддзя<br>харунжы, мечнік |
| Браслаўскі павет | Ваўрэцкі Ян Станіслаў<br>Мірскі Пётр | земскі суддзя<br>абозны, генерал-ад'ютант |
| Брэсцкае ваяводства | Няўтыха Міхаіл<br>Пашкоўскі Мартын | земскі суддзя<br>палкоўнік ВКЛ |
| Ваўкавыскі павет | Івашкевіч Франц<br>Гедройц Франц | земскі суддзя<br>падчашы |
| Віцебскае ваяводства | Заранка Тэадор<br>Зброшка Бернар | падсудак<br>латоскі стараста |
| Гродзенскі павет | Барановіч Франц<br>Клячкоўскі Антон | паручнік, гараднічы<br>вількамірскі шамбелян |
| Лідскі павет | Гаўрылкевіч Юзаф<br><br>Ханінскі | пісар Галоўнага трыбунала,<br>гродскі суддзя, скарбнік<br>гродскі суддзя |
| Мсціслаўскае ваяводства | Цеханавецкі Міхал | харунжы |
| Мінскае ваяводства | Азароўскі Станіслаў<br>Багдановіч Пётр | каморнік ВКЛ<br>ясмонскі стараста |
| Мазырскі павет | Араноўскі Людвік<br>Абуховіч Дамінік | скарбнік<br>скарбнік |

| | | |
|---|---|---|
| Навагрудскае ваяводства | Корсак Іпаліт<br>Рдултоўскі Іяхім | стольнік<br>падваяводзіц |
| Пінскі павет | Шчыт Юзаф<br>Даманскі Міхаіл | смаленскі кашталян, обер-лейтэнант<br>абозны |
| Полацкае ваяводства | Корсак Траян<br>Шантыр Ян | харунжы, падваявода<br>інфлянцкі войскі, ротмістр |
| Рэчыцкі павет | Длугаканскі Міхал Ігнат Казімір<br>Маліноўскі Дамінік | гродскі пісар<br>ротмістр |
| Смаленскае ваяводства | Пакош Ян<br>Гласка Леанард | гродскі пісар<br>дэпутат Галоўнага трибунала |
| Старадубскі павет | Саковіч<br>Багушэвіч Станіслаў | гродскі суддзя<br>мінскі скарбнік |
| Слонімскі павет | Завадскі Ян Ежы<br>Багдановіч Тадэвуш | скарбнік ВКЛ<br>ковельскі стараста |

*Крыніца: РДАСА, ф. 12, спр. 126, л. 10—53, НГАБ, ф. 1334, спр. 56, л 1449 адв.*

Такім чынам, на момант злучэння мясцовых канфедэрацый у генеральную ў Вільню з'ехалася каля 100 дэлегатаў. У сваім акце яны заявілі аб сваім жаданні засцерагчы ўнутраны мір ад пагрозы «самаўладдзя нязноснага для вольнага народу абсалютызму» і з дапамогай суседняй рускай манархіні ўтрымаць «правы, прарэгатывы, статуты Рэчы Паспалтай, свабоды, форму урада, вольнасці грамадскай роўнасці, звâленыя» мінулым сеймам. Гэтак маскіравалася непрыязь да караля, як фаварыта Расіі. Каб заспакоіць Кацярыну II, акт адмовіўся лічыць «шкодай святой каталіцкай веры прагу да роўнасці асоб і стану, якія не так як мы веруюць», паколькі «сіла Рэчы Паспалітай згінула б, калі б купка людзей пачала вынішчаць роўнасць і правы кожнага стану, пастаўленыя

на фундаменце роўнасці». У якасці лаяльнасці да іншаверцаў, іхні акт далучаўся да гэтай заявы. Віленская генеральнасць пажадала на працягу 3 месяцаў злучыцца брацкай сувяззю з Слуцкай і Торунскай канфедэрацыямі і выказала намер вярнуць ім «на будучым сейме ўсё, што яны на мінулым сейме прасілі».[166] Усе нязгодныя прызнаваліся ворагамі вольнасці і Айчыны.

3 чэрвеня К. Радзівіл уехаў у Вільню пад 100-разовыя стрэлы гармат, несціханы віват 5-тысячнага натоўпу, адкуль, як пісаў В. Кар, «не только руки моего дитятки, но и ноги целовали». Гэты запал хаваў страх перад трыумфам канфедэрацыі, якая, па словах Рэпніна, «ни мало ни менее как власть сейма и пределов себе не имеет».[167] Мясцовыя маршалы канфедэрацый адразу памкнуліся закрыць усе суды і прысвоіць неабдымную ўладу, сведчаннем чаго сталі памслівыя наезды.

Так, жмудскі стараста, граф Ян Хадкевіч з дапамогай надворных гусар, стральцоў і сялян графства Петрыкаў (Мазырскі павет) абрабаваў в. Слабодка ў маёнтку Ласкевічы навасельскага старасты і дысідэнта Б. Красінскага. У чэрвені смаленскі харунжы Ян Корсак разам з гродскім суддзёй Тадэвушам Прысецкім абрабавалі фальваркі Горкі і Свяды (Полацкае ваяводства) маршалка віленскай канфедэрацыі Т. Жабы, а забораўскі стараста Станіслаў Снарскі з дапамогай слуг і сялян пакалечыў сялян в.Традзевічы.[168] 30 чэрвеня полацкі войскі Юзаф Корсак чыніў беззаконні ў в. Руболева Бабінскага староства (Віцебскае водства), а эканом маёнтка Тулава, што належала А.Пацэю, Ігнат Герштор у атачэнні ўзброеных коп'ямі, рагацінамі і пісталетамі сялян напаў на Лемніцкую воласць Віцебскай эканоміі ў падазрэнні, што Пацэй вывозіў тулаўскіх сялян на продаж за мяжу.[169] У тым жа чэрвені войт Дзісны А. Козел з дапамогай п'яных

Пацэй вывозіў тулаўскіх сялян на продаж за мяжу.[169] У тым жа чэрвені войт Дзісны А. Козел з дапамогай п'яных сялян і жаўнераў «штурмаваў» местачкоўцаў і неміласэрна збіў некалькіх шляхцюкоў пры спагнанні гіберны.[170] Хаця генеральная канфедэрацыя загадала 20 верасня «літоўскім, беларускім і інфлянцкім» зборшчыкам збіраць падаткі па аднастайнай таксе, аднак прыклад Козела пераняли ў іншых месцах. 19 снежня полацкі магістрат абклаў юрысдыкі, двары, палацы паноў і шляхты па 10—20 талераў, выключыў з-пад гіберны землі езуітаў і дысідэнтаў, не дапусціў вымяраць і раздаў 400 пляцаў і ўвогуле «да апошняй руіны прывёў мяшчан» утойваннем ад скарбу больш 2400 зл. Скаргі беднаты каралеўскага г. Магілёва давялося 20 ліпеня разбіраць спецыяльнай камісіі на чале з інфлянцкім епіскапам Стэфанам Гедройцам, якая ўдвая скараціла падымнае і палову гарадскога бюджэта пусціла на пагашэнне кагальных даўгоў.[171]

30 чэрвеня 1767 г. генеральная канфедэрацыя ВКЛ стварыла камісію ў складзе падкаморага А. Праздзецкага, вялікага харунжага С. Ржавускага, навагрудскага падкаморага Д. Рэйтана, навагрудскага падваяводзіца І. Рдултоўскага, вялікага рэферэндарыя Л.Г. Аскеркі, ваўкавыскага гродскага пісара Т. Булгарына, якія выклікалі ў свой суд ворагаў канфедэрацыі, эканомаў і адміністратараў сваіх, захопленых раней, уладанняў без абвяшчэння тэрміну праследу. Яна скасавала ранейшыя дэкрэты Галоўнага трыбунала і прымусіла ўсе суды выконваць свае рашэнні як безапеляцыйныя і завочныя. У ВКЛ пачаўся чарговы перадзел маёмасці з крыўдай крэдытораў, паручыцеляў і вялізнай арміі шляхты, якая або арандавала або кіравала секвестраванымі маёнткамі. І. Агінскага пазбавілі ваяводства, а ягоныя маёнткі паграбілі. Радзівіл вярнуў адабраныя ўладанні, але Рэпнін не спяшаўся спыняць працу спецыяльнай камісіі, бо

радзівілаўскія «претензии к Речи Посполитой так велики, что он ее всю в свое владение взять хочет».[172] Радзівіл наракаў на камісію, бо прагнуў вярнуць маёнткі без разліку з крэдыторамі і без выплаты ім шматмільённых даўгоў. Рэпнін баяўся «огорчить 100 домов знати», але рашыў пастрашыць іх разарэннем і банкруцтвам за супраціўленне планам Расіі.

23 чэрвеня 1767 г. К. Радзівіл прыбыў у Радам, дзе быў абвешчаны маршалам генеральнай канфедэрацыі Кароны і ВКЛ прысутнымі 178 дэлегатамі. Рэпнін як мог стрымліваў іх ад дэтранізацыі караля і дабіўся таго, што 17 ліпеня радамчане паслалі да караля К. Радзівіла і С. Брастоўскага з ультыматумам склікаць надзвычайны сейм. Да Кацярыны II былі дэлегаваны Юзаф Патоцкі і Л. Пацэй прасіць яе абараніць спакой, рэспубліканскі лад ад «ярма самаўладдзя» пры згодзе на ўступкі дысідэнтам, пры гарантыі непарушнасці каталіцкай рэлігіі «ў неразлучнасці і аднастайнасці сваіх абрадаў».[173] Расійскія войскі ў Радаменазвалі сяброўскімі і выратавальнымі. Рэпніну заставалася захаваць караля на троне пры згодзе ненавідзячых яго ворагаў, якія па ўласным запрашэнні замежных штыкоў атрымалі «давно вожделенное самовластие».

Аднак водцы канфедэрацый не пажадалі стаць сляпой прыладай расійскага пасла. Тут епіскап Каэтан Солтык заявіў, што прававерныя каталікі не сцерпяць абсалютызму ні ўласнага караля, ні дэспатызму Кацярыны II. С. Брастоўскі патрабаваў справаздачы ад падскарбіх, скасаваць усе ўставы канвакацыі і каранацыі, бо, па яго словах, шляхта ўхілялася ад выбараў С. Панятоўскага і толькі інтэрвенцыяй рускіх войскаў «была зняволена да подпісу прысягі» па дысідэнцкім пытанні.[174] Рэпнін тут жа загадаў генералу Нумерсу апячатаць акты генеральнай канфедэрацыі ВКЛ і ўпісаць у іх усе замоўчаныя абоануляваныя пастановы

сеймаў 1764 і 1766 гг., прымусіць мясцовыя камісіі вярнуць адабраную «на несколько миллионов» маёмасць Радзівіла.

У ліпені расійскія вайскоўцы пачалі вопісы спрэчных уладанняў на правабярэжжы Дзвіны для высвятлення даходаў і пагашэння даўгоў пакрыўджаным крэдыторам. Рэвізія ахапіла ўцягнутыя пад залог іншыя ўладанні і выконвалася аднгачасова для расквартаравання войск. Рэпнін запэўніваў караля і К. Радзівіла, што здымкі робяцца звычаем ваеннай рэкагнасцыроўкі, аднак Паніну паведаміў, што «здешние безмозглые головы думают, что мы ими завладеть хотим и заранее уже чрез ту карту осведомляемся о прибытке, которой от того нам будет».[175] Тое, што на месцах гэтую рэвізію лічылі прыгатаваннем адрыву кавалка тэрыторыі ВКЛ Рэпнін пацвердзіў перахопленым лістом К. Солтыка да графа Міхаіла Вяльгурскага ад 30 жніўня 1767 г. У ім епіскап раіў не давяраць Расіі, якая «всех обманывает по обыкновению греческой веры». Ён раіў К. Радзівілу не сарамаціцца паслужніцтвам Расіі, бо здымкі «в Белоруссии для станции – ложь. Не первой раз войска в Польше, а сего никогда не было.» Пагалоска аб тым, што «Масква задумала адабраць у нас частку краю... да Дзвіны», або, як пісаў полацкі пасол Юзаф Храпавіцкі 14 жніўня да К. Радзівіла, усе Інфлянты, трэць Полацкага ваяводства і палову Віцебскага на плошчы 75 на 30 міляў (110250 кв. вёрст) прывяла да таго, што абывацелі кінуліся з сейміка ў Полацку у вялікай паніцы, сяляне спынілі сяўбу, а полацкі кляштар базыліян перавёз свае каштоўнасці ў Судзілавічы.[176]

Верагодна, з гэтай панікі генеральная канфедэрацыя ВКЛ 13 жніўня пацвердзіла «ў літоўскай правінцыі» сваю дыктатарскую ўладу да часу завяршэння канфедэрацыі і не дапусціла прадстаячы сейм абмяркоўваць дысідэнцкую

справу.[177] Кацярына II, якая к гэтаму моманту ужо азнаёмілася з пратаколамі генеральнай канфедэрацыі па дысідэнцкім пытанні, гаварыла, што там шчыра думалі, што «мы хотим православие ввести и их всех от католической религии отвратить».[178] Не ведаў «чем то успокоить» і сам Рэпнін, які 16 жніўня занепакоена пісаў Паніну, што «фанатизм нации не исчез и не утушенное и заряженное духовенством дворянство недовольно актом конфедерации..., которой... силою мы вырвали чрез присутствие наших войск», што маршалкі мясцовых каталіцкіх канфедэрацый баяцца адкрыта гаварыць шляхце тое, на што згаджаліся адносна іншаверцаў.[179] Прыцягванне да заканадаўства і грамадскага раўнапраўя уніятаў таксама пагражала для каталіцкай большасці разняволеннем мужыцкага простанароддзя, разглядалася як правакацыйны замах Расіі на прыгонніцтва.

Дысідэнтам увогуле не шанціла трапіць у сеймавыя паслы, бо, як пісаў Рэпнін, у ВКЛ такіх або зусім няма, або так мала, што яны «сами землю пашут и без всякого воспитания».[180] У выніку Расія не магла атрымаць большасць галасоў на сейме, а сейм мог або сарвацца «от недостатка нескольких земских послов диссидентов» або засядаць без іх удзелу. Таму Рэпнін раіў пакінуць сеймікавыя выбары «под множеством голосов, дабы уже не могли оные разорваться и тем неполное число зделать диссидентских послов». Рэпнін раіў дабіцца ад будучага сейма паўнамоцнай дэлегацыі, каб праз яе «со мной все конституции того сейма учредить под ручательством ея императорского величества, которые силу трактата будут иметь». На час перамоў ён раіў адтэрмінаваць (лімітаваць) сейм на некалькі месяцаў, каб затым ён усім складам толькі ўхваліў «то, что мы согласно с депутатами положим».[181] І Пецярбург пайшоў на чарговыя ўступкі, каб не сарваць сеймікаў і самога сейма.

14 жніўня М. Панін прадпісаў Рэпніну не дамагацца сенатарскага крэсла для Г. Каніскага і для уніяцкіх епіскапаў, якіх у Расіі лічылі адказнымі за зман праваслаўных у унію і на якую глядзелі як на «секту..., отщепенцев нашей веры, отнюдь к католической прямо не присоединившихся». Рэпніну загадалі ўвогуле замоўчыць уніятаў «до времени», каб «скрыть от публики» намер узнавіць усе ранейшыя перавагі праваслаўя ў краі, як гэта было да канца 16 ст. Рэпнін меўся замоўчыць да часу і пункт аб крымінальным пакаранні за адступленне ад каталіцтва, бо, гаварыў Панін, пануючы статус яго не вынікае з законаў Рэчы Паспалітай, «где точно поставлена католическая религия наравне с другими», і таму што «издревле позволено было униатам переходить к нашей религии». Панін адкрыта сказаў, што мэтай дысідэнцкай справы ставіцца не пашырэнне праваслаўя і пратэстантызму, што толькі ўзмацніла б ўцёкі з Расіі і саму незалежнасць Рэчы Паспалітай, а атрыманне праз іх «единожды навсегда надежной партии с законным правом участия во всех польских делах», якая будзе трымацца ва ўладзе дзякуючы расійскаму заступніцтву для прадухілення непажаданых перамен.[182]

Рэпнін тут жа разаслаў да абывацеляў княства дэкларацыю, дзе запэўніваў іх, што Кацярына II імкнецца ўмацаваць вольнасць і роўнасць шляхты, што пры выбарах на сейм трэба паважаць сярод роўных іншаверцаў, якія сваімі канфедэрацыямі даказалі «патриотическое свое усердие и ревность в сохранении вольности, особливо в ненарушимости прав, о утверждении формы правления и о поправлении всего злоупотребления», што яна не дамагаецца звароту ім усіх правоў на шкоду каталіцтву, «которому ея императорское величество никакой обиды причинять не желает». 17 жніўня Рэпнін разаслаў на

сеймікі вайсковыя каманды з загадам не дапускаць агалошваць там агітацыйных лістоў К. Солтыка «и других магнатов.» Пад страхам секвестру уладанняў водцы сеймікаў меліся выбраць належных паслоў і занесці ў інструкцыі выраз аб тым, што «народ хочет все чинить» у жаданні пратэкцыі Расіі.[183] Потым ён патрабаваў узяць з паслоў прысягі (рэверсы) або каб за іх пісьмова заручыліся «предводители сеймиков или тамошние воеводы», бо гэта «есть единственный способ избавиться от военного постоя». Адказная асоба абяцала старанна выконваць планы Пецярбурга, горача дэманстраваць сваю прыхільнасць яму і не ўдавацца ні ў якія іншыя партыі.[184]

У такім аздабленні паміж 23—28 жніўня 1767 г. і адбыліся выбары. Мазырскі сеймік пасылаў на сейм земскага суддзю Г. Яленскага і скарбніковіча І. Абуховіча з даручэннем 5 урадніка ў на чале з маршалкам Ю. Радзівілам проста «сцерагчы цэласць правоў каталіцкай веры і нашыя вольнасці»[185] Рэчыцкі сеймік пад маршалствам загаранскага старасты І. Юдыцкага паслаў гродскага пісара І.К. Длугаканскага і ротмістра Д. Маліноўскага. 95 выбаршчыкаў абавязалі іх прапанаваць сеймавы жэзл (ласку) маршалку літоўскай канфедэрацыі С. Брастоўскаму, захаваць існуючы лад з вольным галасаваннем і панаваннем каталіцтва, заспакоіць дысідэнтаў, вярнуць уладу гетманам, не кранаць пасэсіі староств аў, паклапаціцца аб амністыі для Станіслава і Юзафа Цэханавецкіх, Фашчаў. Пасланцам, «вядомым старажытнай радатавітасцю і ведаючых правы», павет выдаткоўваў па 8 зл. з дыма і дазволіў спагнаць пасельшчыну з упраўляючых.[186]

Амаль даслоўна гэтыя пункты паўтарыла кола 30 чал. навагрудскага сейміка пад маршалствам Х. Рдултоўскага, які аказаўся ў пасольстве разам з харужым ВКЛ С.Ф. Ржэвускім,

пацярпелым некалі ад К. Радзівіла. Тут асобна патрабавалі новае мыта, прасілі вярнуць ранейшы курс чырвонага злотага, дазволіць тамтэйшым дамініканам і нясвіжскім бенедыктынам набыць маёнткі на 80 тыс. зл., павялічыць звыш 3 працэнт для ліквідацыі кагальных даўгоў.[187] Інструкцыю Полацкага ваяводства для інфлянцкага кашталяна Юстынінна Шчыта і ротмістра Я. Шантыра падпісаў адзін маршалак Т. Корсак. Ён даручаў ім клапаціцца аб расійскай пратэкцыі, але дадаў, што правы дысідэнтам належаць адпаведна трактатам 1686 і 1716 гг. пры гарантыі Кацярыны II цэласці веры і нарадовых правоў. Ён настойваў на справаздачы падскарбіяў, замацаванні фундушаў за полацкімі дамініканамі і забельскімі францысканамі, прасіў набілітаваць толькі заслужаных каталікоў, «за выключэннем не злучаных з рымскім касцёлам нашых вернікаў». Корсак, аднак, прасіў не пазбаўляць беззямельную шляхту права ўдзельнічаць у судовых працэсах і быць паручыцелямі. Ён настойваў «незлічоныя са старажытнага часу выпраўленні, скарачэнні, тлумачэнні прывесці да формы прававой істоты Статута» ВКЛ дзеля ўдасканалення «даўніх вольнасцяў, без пастановы новых правоў». Інструкцыя гаварыла, што паколькі «ўсе абывацелі ваяводства засталіся па хатах, але пераканаdebug ў запэўніваннях Кацярыны», то сейм абавязаны захаваць тэрытарыяльную цэласць і бяспеку трымання маёнткаў ад ракі Дзвіны і да самой рускай мяжы.[188]

122 чал. гродзенскага сейміка пад старшынствам К. Храптовіча акрамя стандартных заяў асабліва націскалі на непарушнае трыманне каралеўскіх эканомій і староστваў. Іх забаранялася люстраваць, а тыя, што трымаліся пажыццёва, раілася пасля выплат кварты пакінуць пасэсарам. Г. Гродна інструкцыя выводзіла са

складу эканоміі, а таму прасіла вызваліць юрысдыкі і шляхецкія пляцы ад падаткаў. Ліквідацыі падлягалі новаўведзеныя паштовае, рогавае, лыкавае, сыпное і інш. падаткі. Праўда, касцёлы на дзяржаўнай зямлі не вызваляліся ад дзесяціны. Павет патрабаваў ліквідаваць ваенную камісію, вывесці рускія войскі, задаволіць крыўды І. Масальскага. Тадэвуша Александровіча, Юзафа Садлуцкага.[189]

Брэсцкі сеймік ад імя 84 асоб паслаў на сейм свайго маршалка князя М. Радзівіла і ротмістра Я. Верашчаку з даручэннем прасачыць за недатыкальнасцю зямельнай уласнасці, складзенай пасля уніі Кароны і ВКЛ, захаваць свабодны ўступ шляхты ў каралеўскія пушчы, павялічыць да 7 % гадавыя з яўрэйскіх кагалаў, вызначыць утрыманне духавенства.[190] Інструкцыя Мінскага ваяводства даручала земскаму пісару А. Свентарэцкаму і лоўчаму Я. Паўлікоўскаму клапаціцца аб непарушнасці вольных выбараў (аднагалосся) усіх урадаў «у літоўскай правінцыі», аб бяспошлінным руху тавараў і рэвізіі дзеля гэтага шляхоў зносін. Ад сейма патрабавалася не дазваляць новых набілітацый, забаранялася ўтрымліваць войска за кошт шляхты. Інструкцыя не ўпершыню патрабавала скасаваць падымнае з шляхецкіх уладанняў ВКЛ, якое, маўляў, не мае свайго чопавага і шэлезнага. Яна забараняла кранацца прыгонніцтва сялян і не дазваляла вызваляць іх, прасіла задаволіць крыўды Масальскіх, падкаморага М. Жыжэмскага і стольніка Стэфана Быкоўскага.[191] 121 асобы Ваўкавыскага сходу паслалі на сейм свайго маршалка К. Бяляўскага і падчашага Ф. Гедройца дбаць аб кампенсацыі шкод, учыненых мінулай канфедэрацыяй, заключыць з Расіяй саюзны дагавор без шкоды ўрадам рэспублікі. Амаль палова пунктаў наказу зіхаціць дамаганнямі ўзнагарод К. Радзівілу, С. Брастоўскаму, Бяляўскім, Івашкевічам і г.д.[192]

Такім чынам, 8 жнівенскіх сеймікаў у зборы больш 500 чыноў выказаліся за адну верацярпімасць да іншаверцаў пад абавязковай умовай панавання каталіцтва і неадрыўнасці ад яго саюзнага уніяцтва. 8 асоб узнавілі свае паўнамоцтвы сейма 1766 г. І гэта пры тым, што толькі ў Ваўкавыску палічыліся з правамоцнасцю папярэдняй канфедэрацыі, а іншыя сеймікі адвяргалі правадзейнасць новаўвядзенняў (абмежаванне ўлады гетманаў, пажыццёвага трымання старостваў, новыя падаткі і курс манеты). Практычна ўсе сеймікі трымаліся нязменнасці ладу, вольнасці выбараў (аднагалосся), адміністрацыйнай самадзейнасці ВКЛ і ніводным словам не дапрашваліся дзяржаўнага суверэнітэту княства.

Прускі пасол у Пецярбургу Віктар Сольмс праявіў, відаць, дасведчанасць, што палова сеймікаў Літвы прайшла беспаспяхова, а на астатніх не было і 1/6 шляхты.[193] Рэпнін пісаў 4 верасня, што «все сеймики навыворот идут» насуперак заручэнняў С. Брастоўскага «за всю Литву» у падтрымцы «всего нами желаемого». Яго непакоіла тое, што ў наказах «напутаны были другие материи внутренние, от злости или партикулярных видов затеянные, желая изпровергнуть совершенно все то, что ни зделано с самого начала междуцарствия». К. Радзівілу ён сказаў, што будучы сейм не прыме рэваншу, а С. Брастоўскаму, што не дапусціць падобную непрыязь у інструкцыі. Брастоўскі апраўдаўся тым, што гэта ён схіляў сеймікі прыняць нядобрыя пункты, каб «приятными мелкому дворянству материями, хотя сам признает их ненужными, одержать тех послов» і пры тым заручыўся за лаяльнасць 45 паслоў ВКЛ з усіх 55. Рэпнін сціх і хацеў зрабіць Брастоўскага брэсцкім ваяводам.[194]

Радзівіл адказаў, што «хотя инструкции и дурны, но послы все по большей части его приятели, что он их

оборотит на нашу сторону и доведет, как нам полезно будет». Аднак Рэпнін не давяраў абяцанкам, паколькі Радзівілы сапсавалі гонар літоўскай канфедэрацыі спробай «заграбить чрез решения литовской генеральной конфедерации имения... злодеев и бывших... опекунов». Апошнія ад страху пахаваліся і іх асуджалі завочна. Такім шляхам быў зганьбаваны віцэ-канцлер А. Праздзецкі. Каб не запляміць «славу покровительства ея императорского величества» падобнымі рабункамі і канфіскацыямі, Рэпнін хацеў змяніць палову членаў рэвізорскай камісіі Радзівілаў, і забараніў генералу Нумерсу пасылаць рускія войскі на экзекуцыю канфедэрацкіх дэкрэтаў. Ён не збіраўся патураць «сей наглости» і з боку іншых памсліўцаў. Ён перадаў Брастоўскаму, што «я его и со всей конфедерацией так разгоняю, что они места не найдут, если задумают по своим сумазбродным мыслям поступать, ибо лишать чинов не в их власти»[195] Рэпніна таксама хвалявала жаданне магнатаў, каб чыны раздаваў не кароль ,а каб усе яны выбіраліся на сейміках, аб чым і сведчылі заявы пра аўтанамізм ВКЛ. Хаця на подкуп сейма Рэпнін пусціў 216 тыс. чырвоных (540 тыс. руб.), але пісаў, што нікога не хацеў «подкреплять..., ибо надобно было для того целое воеводство закупать», каб толькі выбраць хоць аднаго шчырага дысідэнта і саюзніка. Крыкі аб аўтаноміі ВКЛ гучалі, па яго словах, ад магнатаў, якія з нянавісці да караля дамагаліся нават забароны «свойственникам королевским в министерство... входить, полагая в том числе и 4-ре гетмана».[196] Але ж сам кароль называўся вялікім князем літоўскім і ён не жадаў падвяргаць выбарам сваіх назначэнцаў. Рэпнін абяцаў пісьмова заручыць «эту шайку в преданности нам и тем твердое основание положить независимой ни от кого нашей партии на сейме».

Гэтая «шайка» прызначалася ім на ролю той самай паўнамоцнай дэлегацыі для напісання трактата з Расіяй, як гэта зрабіў у 1717 г. Пётр I, калі сейм выслухаў і без пярэчання «всё кончил не говоря более ни о чем одним... заседанием». Рэпнін і зараз збіраўся на сейме ўсё прыгатаванае з аперэтачнымі слугамі «только прочесть и опробовать под ручательством» Кацярыны II і гэта вырашыць некалькімі пасяджэннямі, «ибо в своих химерических замыслах поляки желают оный продолжить».[197] Апрабацыяй гэтай ідэі стала пасылка ў Пецярбург 5 чал., у тым ліку літоўскага стражніка Л. Пацэя, літоўскага кухмістра М. Вяльгорскага і дваранiна Шымана Касакоўскага. Яны з'явіліся ў Пецярбургу 9 верасня і адразу прапанавалі распусціць сейм, бо лічылі яго маршалка К. Радзівіла не ўпаўнаважаным пасольскімі абавязкамі. Рэпнін, наадварот, называў Пацэя і Касакоўскага клеўрэтамі Радзівіла[198] і меў рацыю. 9 кастрычніка Ш. Касакоўскі быў у Паніна і «сделал дело» К. Радзівіла так, што апошні вызваліў ад судовага праследу Станіслава і драгічынскага старасту Юзафа Ржавускіх. Тады ж Кацярына II паабяцала не пакідаць у бядзе сяброў, а іх ворагі «на все согласится принуждены будут». Асмялеўшы Пацэй прасіў некага ў Віцебску дзейнічаць «благосклонно» ў дысідэнцкім пытанні, бо, гаварыў ён, інакш «всю беду на меня свалите». Гэтую параду ён прасіў спаліць.[199]

Паніну было зручней дамаўляцца з падобнымі шэфамі, чымсьці з уніяцкімі епіскапамі, бо ён пісаў 21 верасня, што «все униаты вообще... первые нарушители трактата и наши отщепенцы... веры нашей, ибо наш в Польше закон столько же древний и, по первенствующей конституции соединения Короны с Литвою, конечно, равно был во всей равности с католицким или же превосходней». Ён не мог



*Міхал Ян Пац*

згадзіцца, каб уніяты пад зарукай Расіі атрымалі «равенство и вольность исповедания, чего они не могли по сю пору приобресть от республики и самым своим с римскою религиею соединением. Приобретение в нашу веру униатов — гаварыў ён, — не приобретет нам ничего к нашей инфлюенции, а соединит только с нами число апостатов, которое в обеих сторонах должно оставаться в презрении».[200] Разам з уніятамі Панін пагарджаў і дысідэнтаў, якія, «загребая жар чужими руками, не полагают пределов своим видам и вожделениям». 2 кастрычніка Рэпнін заспакоіў яго тым, што водцы дысідэнтаў не адшукалі годных кандыдатаў у сенатары і



*Міхал Геранім Радзівіл*

адновіліся дамагацца ўрадавых пасад. Ён таксама паведаміў, што «епископы униатские всем почти корпусом засылали ко мне нашего белорусского епископа с представлением, что они желают тайную конференцию со мной иметь с намерением к нашей церкви приступить(!), но я их откладываю под разными претекстами, которые впредь делать буду до тех пор, что они, скуча здесь понапрасну жить, по деревням разведутся».[201] Ні больш, ні менш.

Прымірэнчы сейм адкрыўся 2 кастрычніка ў зборы 236 паслоў, у тым ліку 40 ад ВКЛ, з якіх Рэпнін называў «добрымі» 44 чал. Сеймавы маршал К. Радзівіл адразу прапанаваў ліквідаваць прысягі паслоў, выкананыя «для

закона». Сабраныя не пажадалі кідаць паўнамоцтваў і з гулам адабрэння сустрэлі заклік бараніць каталіцкую рэлігію да смерці. Пры словах Радзівіла аб тым, што ён не дапусціць роўнасці дысідэнтаў, як пісаў Рэпнін, «самые смирные рыдали», а 50 чал. з каралём маўчалі.[202] Хутка Радзівіл пагадзіўся прызнаць рускія войскі сяброўскімі, паабяцаў знішчыць шкодныя навіны, выслаць дэлегацыю і што сейм ратыфіцыруе «ўсё, што пастановіць і ўложыць тая дэлегацыя» большасцю галасоў без усякіх агаворак. Трокскі пасол, зелаўскі стараста Міхаіл Пац разам з К. Солтыкам супрацівіліся перадаваць заканадаўчыя паўнамоцтвы купцы, бо інструкцыі сеймікаў забаранялі паслам аддаваць свой голас каму іншаму. Тут узрушыліся заклікі вывесці рускія войскі, загучалі галасы, што ў Польшчы і так існуе талерантнасць, што ўсе нядолі паходзяць ад іншаверцаў, якіх трэба выгнаць з краіны, што перадачай волі выбаршчыкаў дэлегацыі сейм робіцца нелігітымным і сваёй нязгодай павядзе краіну ў труну.[203]

У адказ Рэпнін 13 кастрычніка арыштаваў 4 сенатараў на чале з кракаўскім епіскапам К. Солтыкам і галасна выкрыў двурушніцтва сабраных, якія нядаўна пілі і скакалі на балях з рускімі афіцэрамі, пакорліва зносілі іх уціскі, але «біцца не жадалі і бяду цярпелі».[204] Сход сарамліва прамаўчаў і... паскардзіўся каралю. Той адказаў, што сам у роўным з народам становішчы. Пад енкі аб уласным бяссіллі сейм адтэрмінаваў свае сесіі да 1 лютага 1768 г. і вылучыў на перамовы з Рэпніным дэлегацыю з 66 чал. у складзе 15 сенатараў (ад ВКЛ – інфлянцкі епіскап С. Гедройц, віленскі ваявода М.К. Агінскі, віцебскі ваявода Юзаф Салагуб, полацкі кашталян Адам Брастоўскі, смаленскі кашталян Т. Буржынскі), 4-х міністраў (ад ВКЛ – канцлер М. Чартарыжскі, надворны маршалак ВКЛ Ю. Сангушка), 36 паслоў (ад ВКЛ – М. Пац, падкаморы

ВКЛ Станіслаў і князь, краўчы М. Радзівілы, віленскі земскі рэгант Мартын Яновіч, трокскі харунжы Стэфан Ромер, лоўчы А. Забела, ковенскі гродскі суддзя Мартын Чэрневіч, смаленскі гродскі пісар Я. Пакош, старадубскі пасол Казімір Заблоцкі, ваўкавыскі — Ф. Гедройц, віцебскі – М. Шышко і замскі пісар Пётр Багамолец, абозны ВКЛ М. Даманскі, падольскі генерал Адам Чартарыжскі, падскарбі А. Тызенгауз, вялікі пісар ВКЛ М. Лапацінскі). Хутка да іх прыставілі яшчэ С. Брастоўскага, У. Гуроўскага, Ю. Сасноўскага, ад Інфлянтаў – луцкага падкаморага Цылістыяна Чапліца і Яна Панінскага.[205]

Рэпнін казаў, што «всё происходит от 3-х или 4-х голосов, а конфедерация о том и не знает» і што «гарантию испросили всего 20 вельмож, кои ни кредитами уважения не имеют». Ён абяцаў «управится с ними без шуму одним только страшным видом», тым больш, што большасць прысутных з імі не згодна. Ён баяўся парушыць Пакта Канвента, каб не пратаптаць шлях такому каралю, які «замыслит самовластным самодержцем сделаться. Сей же, теперь царствующий, по неимению достаточного проворства в сем случае неопасен».[206] Дзяржаўныя новаўвядзенні дэлегацыі азнаменаваліся пастановай перадаць нявырашаныя ў Галоўным трыбунале справы на месцы, у земскія і гродскія суды,[207] што вызначала перспектыву чарговага перадзелу маёмасці.

За кулісамі перамоваў галоўнымі былі 2 пытанні, якія належала ўнесці ў вечны трактат пад апеку Расіі і ў якасці нязменных асноў існуючага ладу, які, як казаў Рэпнін, «нам не вреден» і які лёгка памяняць «особенно когда желаем».

У якасці нязменных (кардынальных) прынцыпаў ладу занеслі падпадаючыя пад правіла ліберум вета (аднагалосся) палітычныя пытанні (налогі, войска, міжнародныя

дамовы, раздачу чыноў, забарону спадчыннасці трона, асабістай недатыкальнасці шляхціца і праслед яго толькі па суду роўных сабе, вечнасці уніі Кароны і ВКЛ, тэрытарыяльнай цэласнасці Рэчы Паспалітай і г.д.). Усе астатнія пытанні залічваліся да эканамічных, выражаемых большасцю галасоў (канфедэрацыямі).[208] Аднак Рэпнін слушна заўважыў, што гэтак увекавечаны падзел «не только конфедерации, но и самое единогласие того переменить не будет в силах». Каб далей не зрываць сеймы аднагалоссем, Кацярына II 28 снежня пастанавіла «все гражданские предметы от мала до велика», у выпадку нязгоды хаця б аднаго пасла, адтэрміноўваць да чарговага сейма, які таксама меўся праходзіць звычайныя 6 тыдняў і працягвацца пры неабходнасці па аднадушным рашэні.[209] Гэтак сеймы рабіліся правапераемнымі і працаздольнымі, бо першыя 2 тыдні іх сесій выконваліся большасцю галасоў.

Заставалася вырашыць лёс саміх выбараў на сейм, сеймікаў і канфедэрацый з іх большасцю галасоў. Панін не жадаў заносіць канфедэрацыі ў склад кардынальных законаў, паколькі «с ними Польша останется навсегда при внутреннем неустройстве», бо тады для замірэння давядзецца бясконца «безчисленным иждивением партию свою набирать и содержать», бо тады ўсё пастаноўленае канфедэрацыямі апынецца законным і гэтая Польша, нават пры васальным каралі, «станет самоуправляться без» Расіі. І Панін смела выкрасліў канфедэрацыі, каб задаволіць капрызы «трех или четырех шефов» і каб прама скіраваць агіду і гнеў незадаволеных захаваннем ліберум вета на тых, «кто сие сделал».[210] І... сейм паслухмяна забараніў канфедэрацыі, як шкодныя краіне і спрыяльныя для замежнага ўмяшання. Ён нават забараніў ліміты (расцягванне) саміх сеймаў і пазбавіў немаёмную шляхту

(непасіянатаў) выбарчага голосу і права ўдзелу на сойміках. Выбары на сойміках павінны былі праходзіць аднагалосна, а пры яго адсутнасці – большасцю прысутных.

Другім балючым прадметам закуліснага гандлю стала пытанне аб раўнапраўі дысідэнтаў з каталікамі. З снежня 1767 г. соймавая дэлегацыя ўхваліла праект прадастаўлення іншаверцам рэлігійных свабод у якасці вечнага права і пад апекай Расіі. Скасоўваліся ўсе дыскрымінацыйныя пастановы супраць праваслаўных з часу Аліўскага дагавору 1686 г., назвы іх ератыкамі, схізматыкамі і адшчапенцамі. Праваслаўным дазвалялася свабодна будаваць цэрквы і адпраўляць набажэнствы, працэсіі, шлюбы пад юрысдыкцыяй уласнага святарства. Усе працэсы аб змене веры і пераходах цэркваў было вырашана разабраць з 1717 г., а ранейшыя выпадкі пакінуць у нябыце.[211] Для разгляду спрэчак стваралася змешаная камісія на чале з каралём, якая пастанаўляла канчаткова і без апеляцый, ужо без залежнасці ад каталіцкага кліру і мясцовых, гэтак жа каталіцкіх судоў.[212] Камісія магла самасудна звяртаць адабраныя ў праваслаўных цэркваў маёнткі згодна старых прывілеяў (фундушаў) і згодна волі прыхаджан. Ёй дазвалялася перавершыць усе рашэнні земскіх і гродскіх (свецкіх) судоў, прынятыя супраць іншаверцаў па рэлігійных разліках і матывах.

Спецыяльны пункт трактата гаварыў, што «роўнасць нараджэння і рэлігія не можа быць перашкодай для атрымання асобамі праваслаўнай і дысідэнцкай рэлігій шляхецкай набілітацыі», а шляхціц мог быць пакараны смерцю за наўмыснае забойства селяніна, як роўнага сабе.[213] Гэтыя пазіцыі ахоўнікі саслоўных пераваг шляхты ўспрынялі як прадастаўленне мужыцкаму простанароддзю грамадзянска-палітычных правоў, як прамы крок да скасавання прыгонніцтва і вызвалення сялян без згоды іх

валадароў. На паседжаннях 4 і 9 снежня прагучала мова А. Тызенгауза аб тым, што «ў краі дастаткова ласкавых паноў», што пашырэнне вольнасцяў на «п'яных» мужыкоў разбэсціць іх, што першай прычынай нядолі працоўных трэба лічыць яўрэяў і прапінацыю. Літоўскія паслы 2 разы байкатавалі праект, каб перашкодзіць легалізацыі талерантнасці ў якасці новага права, непадуладнага ніводнаму сейму.[214] Пры падпісанні праекта рэлігійнага роўнапраўя іншаверцам віцебскі пасол П. Багамолец сказаў, што «лучше бы желал не иметь совсем рук»,[215] але сумленна прыклаўся і рукамі і пячаткай пад трактатам разам з усімі.

Паколькі сеймавая дэлегацыя па-ранейшаму лічыла уніяцтва неад'емнай, саюзнай часткай каталіцкай рэлігіі, паколькі Пецярбург замоўчваў уніятаў у трактаце, то Г. Каніскі рашыў скарыстаць уступленыя змешанай камісіяй правы для неадкладнага пераводу прасталюдзінаў у праваслаўе. 10—17 снежня 1767 г. ён задумаў «тихо и секретно» апытаць каталіцка-уніяцкія прыходы аб іх добраахвотным жаданні перайсці ў праваслаўе, занатаваць прызнанні прыхаджан аб тым, што яны «не добровольно, но принужденно» вызнавалі каталіцтва і уніяцтва, «но в сердце всегда прежнюю свою веру опробовали и всяк... оную исповедывать желали». Гэты скрытны план трыумфу праваслаўя на падставе добраахвотнага волевыяўлення прыхаджан ён збіраўся ажыццявіць так хутка, каб паставіць сейм перад адным фактам перамогі, але 25 лютага 1768 г. вельмі маркоціўся клопатам, каб абарачэнцы толькі «твердо при своем желании стояли».[216] Аднак у Пецярбургу пабаяліся сарваць сейм такім сумніцельным пражэктам.

24 лютага 1768 г. сеймавая дэлегацыя канчаткова падпісала абумоўлены трактат з кардынальнымі правамі

Рэчы Паспалітай пад пратэсты ўсяго двух членаў (Юзафа Выбіцкага і К. Храптовіча). Сейм 5 сакавіка аднагалосна ратыфікаваў гэты дагавор з Расіяй, складзены па словах К. Радзівіла, «з вялікай мудрасцю… для інтарэсаў Айчыны». За гэта ён атрымаў пасаду віленскага ваяводы. Рэч Паспалітая ўласным сеймам аддавалася пад вечны пратэктарат Расіі і, такім чынам, не адзін кароль, а ўжо ўся дзяржава заканадаўча апынулася ў поўнай васальнай залежнасці ад Пецярбурга.

Прыведзенае дазваляе гаварыць, што перадсеймавыя сходы шляхты і самі сеймы 1766—1767 гг. не прынялі аздараўленчых рэформ канвакацыйнага і каранацыйнага сеймаў, не ўспрынялі ўсёй сукупнасці заканадаўчых ініцыятыў мясцовых сеймікаў. Парыў да кансервацыі старавеччыны і ўпадабанага ладу аднолькава аб'яднаў рэтраградаў Расіі і магнацкія роды ВКЛ, хаця ў тым часовым хаўрусе бакі праследвалі своекарыслівыя мэты.

Прарадзівілаўскія колы запрасілі вайсковую дапамогу Расіі для расправы з праціўнікамі, дэтранізацыі караля, звароту свайго самаўладдзя ў краі пад выглядам аўтаноміі ВКЛ і вольна-выбарнага фарміравання ўласнай адміністрацыйна-судовых органаў улады. Яны ўцягнулі на свой бок шляхецкія масы спекуляцыямі на зневажанні яе вольнасцяў, пагрозах прымусовага адрыву тэрыторыі і масавага аправаслаўлення насельніцтва праз каралеўскія люстрацыі і расійскія рэвізіі, перакладваннем падаткаў на нешляхецкія станы.

Шантажом у дысідэнцкім пытанні Расія не столькі раскалола, колькі згуртавала прыхільнікаў і ахоўнікаў непарушнасці саслоўных пераваг шляхты, напалоханых пагрозай доступу паднявольнага сялянства да палітычных правоў праз рэлігійную талерантнасць. У абставінах малалікасці дысідэнтаў і нянавісці да іх Пецярбург

адмовіўся ад рэалізацыі дысідэнцкай справы ў поўным аб'ёме. У змоўніцкім працэсе бакі згодна выкраслілі уніятаў з погляду на невыгаднасць гвалтоўнага або маруднага высвятлення векавечных спрэчак аб рэлігійнай прыналежнасці вернікаў, прымусовага або добраахвотнага паходжання самой уніі.

Расія скарыстала запрашэнне і часовыя ўступкі для юрыдычнага замацавання сваёй апекі над існуючым ладам ужо навечна і незалежна ад ваганняў караля або сваіх часовых памагатых, каб пазбегнуць на будучае бясконцых затрат і клопатаў пры фарміраванні партыі ўплыву на ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай і непрадказальных паводзін сеймаў і сеймікаў.

Сейм 1767—1768 гг. вярнуў да жыцця аднагалоссе (ліберум вета), пазбавіў асноўную масу шляхты выбарчых правоў з погляду на канфедэрацыі (большасць галасоў), як на небяспечную крыніцу грамадзянскіх расколаў і падставу для замежнага ўмяшання. Пецярбург патураў гэтаму рэваншу магнатаў, каб спіхнуць на іх гнеў адказнасці і з уласнай боязі канфедэрацый як сродку самадзяржаўнага самаўладкавання Рэчы Паспалітай нават пры вяртлявым каралі. У гэтым узаемным страху перад сапраўдным волевыяўленнем шляхты, сейм добраахвотна парушыў спрадвечную роўнасць выбаршчыкаў і зрабіў існуючы лад пад пратэкцыяй Расіі непадсудным волі законнай большасці.

Магнацкія колы супольна з Расіяй пхалі шляхту да няўмольнага братазабойчага калаўрота адказнасці, да ўзброенага аднаўлення растаптаных свабод і роўнасці праз тыя ж канфедэрацыі.

## § 3. У віры Барскай канфедэрацыі

На момант завяршэння адступніцкага сейма 1767—1768 гг. яго выбаршчыкі праяўлялі такую ж падатлівасць і нібы не ведалі аб пакутах сваіх паслоў.

8 лютага 1768 г. сеймік «патрыётаў» Аршанскага павета па патрабаванні генерала І. Нумерса выбраў правіянцкіх камісараў для збору з 94 маёнткаў на працягу 3 месяцаў 45 бочак жыта, 6456 пудоў сена і 186 аўса. У сакавіку з павета паступіла 37 бочак жыта, 5844 пудоў сена і ён разлічыўся з пастаўкамі.[217] Тады ж мазырскі сеймік абавязаўся здаць з 1270 дымоў 2000 бочак аўса і 30 тыс. пудоў сена. У Рэчыцы вызначылі з кожнага дыма па мерцы аўса, кварту жыта, 2 пуды сена і паўкварты круп. Вядома аб выбары фуражовых камісараў у Мінску. Лютаўскі сход Полацкага ваяводства раскалоўся пры выбарах дэпутатаў у трыбунал, бо 5 асоб на чале з земскім суддзёй і падкаморым Антонам Зяновічам сфарміравалі альтэрнатыўны сеймік, куды запісалі «не маючых у ваяводстве пасэсіі і без шляхецкай годнасці людзей».[218]

Знешні спакой, здавалася, не пацвярджаў слоў М.Рэпніна, які пісаў у студзені, што «3/4 нации по прежнему враждебно к России,.. что она по фанатизму оскорблена восстановлением диссидентов, навязанною опекою на их законы и злобы к королю, которого мы на трон посадили».[219] Гэтая злосць выбухнула ў Бары, на далёкай Украіне, дзе незадаволеныя пад кіраўніцтвам ражанскага падкаморага Адама Красінскага і варэцкага старасты Юзафа Пуласкага ўчынілі ўзброеную канфедэрацыю супраціўлення. 29 лютага яны анулявалі ўсе пастановы надзвычайнага сейма, арганізавалі збор пешага апалчэння, забралі ў сваю касу пагалоўнае з яўрэяў і дзяржаўныя

падаткі і заклікалі наваколле вызваліць Айчыну ад дэспатызму і замежнага ярма. 5 сакавіка барчане разаслалі універсалы з прызывам бараніць каталіцкую рэлігію, «устранить диссидентскую партию» і схізматыкаў як віноўнікаў «насілля і ярма» ды слухацца кіраўнікоў паўстання.[220]

Прымусовыя паборы барчан распалілі нянавісць да «ляхаў» і антыфеадальны рух сялянства. Расія мелася душыць войскамі шырокую вольніцу, якая сцягвала ў дробныя таварыствы «усякую голь» і т. зв. гультаёў. Кацярына II назвала барчан ворагамі Расіі і патрабавала ад караля ўжыць кароннае войска для расправы з гайдамацкім рухам, бо ў праціўным выпадку будзе абыякава назіраць за пашырэннем канфедэрацыі на шкоду яго вялікасці. На каралеўскім савеце 10 сакавіка вялікі гетман М.Агінскі выказаўся за ўзброенае задушэнне барскага руху. Кароль не пажадаў праліваць брацкай крыві. Расійскія войскі самастойна 26 чэрвеня ўзялі Бар і распылілі паўстанцкі рух на самастойныя выступленні ў ваяводствах і паветах.[221] Хутка за барчан заступілася Турцыя, якая аб'явіла вайну Расіі. Канфлікт стаў міжнародным. Між тым у ВКЛ шляхта вяршыла суд не пад сцягам канфедэратаў. Прынамсі, ў Мсціслаўскім ваяводстве 5 мая будаўнічы ВКЛ Міхал Казімір Хадкевіч з дапамогай слуг і сялян абрабаваў суседні маёнтак Райкевічы. Праз тыдзень шляхціцы Дабрасельскія з дапамогай узброеных сякерамі і абухамі людзей захапілі ваколіцу Асмаловічы і забілі насмерць яе гаспадара. Усё лета грамада пячэрскіх сялян на чале з войтам чыніла рабункі ў в. Забор'е, дзе арыштоўвалі арандатараў, бралі ў залог сялян, прымушалі хадзіць на паншчыну у іншы маёнтак, так што некаму стала плаціць чынш. 7 ліпеня па загаду смаленскага архімандрыта і апата ануфрыева

уніяцкага манастыра Іраклія Лісоўскага гродскі рэгент Стэфан Цэханавецкі і гродскі суддзя Ян Чудоўскі з дапамогай некалькіх соцен стральцоў і салдат спалілі в. Хадосава і два тыдні бунтавалі сялян в. Люты. Затым находнікі штурмавалі фальваркі Красны, Ершы, Кудрычы з мучэннямі і катаваннямі як сялян,так і гаспадароў. Падобны самасуд чыніўся ў гэты час шырока і з боку выглядаў невядома кім арганізаванымі бунтамі.[222] Падлівалі масла ў агонь і рупліўцы святой веры. Паміж 16 красавіка і 6 лістапада 1768 г. місія дамінікан на чале з лектарам тэалогіі Бруна Снарскім navярнулі ў каталіцызм «няверных» у мястэчку Забалацце Лідскага павета, Камянец Гродзенскага, Мерач, Далістаў, Беліца, Сімны і Лазды.[223]

Кароль не забыўся выступіць з пацыфісцкімі намерамі, каб прытушыць вуголле варожасці і каб пераканаць Расію, што барскі рух не падтрыманы «народам». Сваім універсалам ад 12 жніўня 1768 г. ён склікаў сейм на 7 лістапада і назначыў выбарчыя сеймікі на 26 верасня. Зыходзячы з «непаразуменняў, якія ў многіх ваяводствах парушылі ўнутраны спакой», ён заклікаў шляхту прысланць на сейм патрыятычных паслоў, дасведчаных патрэбамі краю, «дасканалых у сваіх чыннасцях і не прывязаных да месніцкіх інтарэсаў». Барчане завочна назвалі здраднікамі будучых паслоў і прыгразілі ім суровай адказнасцю за незаконнасць усяго, што яны пастановяць. Яны, тым не меней, паспяшаліся скарыстаць момант, каб завязаць канфедэрацыі пад уласнымі лозунгамі. У канцы жніўня такія канфедэрацыі ўзніклі ў Вільні, Коўне, Упітах, Ашмянах, Ваўкавыску, Брэсце, Слоніме, Навагрудку.[224]

К.Радзівіл не рашыўся ўзначаліць агульны парыў і сакрэтна запэўніваў Пецярбург, што робіць усё, каб «Литва дольше, нежели Польша, в спокойствии удерживалась».

Актывісты паўстання тады паставілі сваімі павадырамі зелаўскага старасту М.Я. Паца і харунжага С.Ф. Ржавускага. Яны сабраліся ў Нясвіж і патрабавалі ў Радзівіла надворную міліцыю, якую той не аддаваў. Вядома,што полацкі ваявода А.Сапега абавязваў маршалка мясцовай канфедэрацыі слухацца каралеўскага універсала, а выбарчы сеймік Аршанскага навета 28 верасня ратаваў кляштар трынітараў ад марадзёраў Уладзімірскага палка.[225]

Выразна падтрымаў справу Бара акт Ашмянскай канфедэрацыі 26 верасня, назваўшы сваім маршалкам дзісенскага старасту А. Козела, а рэгіментарам харунжага Іяхіма Хамінскага.[226] Каранямі грамадскіх бедстваў сход 107 чал. назваў «аслабленне гетманскай улады, недаразвітасць шляхецкага стану, ліквідацыю вольнага голасу, спусташэнне краю здрадніцкім вывадам манеты, арышты сенатараў і паслоў, сумненне ў панаванні прававернай рэлігіі, спробы прынізіць духавенства і знесці святарскі сан, прыціснуць край цяжкім падаткам, а моц права пераўтварыць у абсалютную гарантыю з дапамогай дзёрскіх дэзунітаў Слуцкай і Торунскай канфедэрацый і нахабна затрыманых расійскіх войскаў». Балючымі вынікамі «дэспатычнага прымусу» акт назваў трактат з Расіяй, хаця з падпісантаў трое і сам Козел у мінулы год якраз спрыялі яго падрыхтоўцы. Свой запознены пратэст падпісанты адрасавалі «моцы асядлаўшага наш карак» расійскага войска.Таму яны браліся выбіцца з «ярма няволі» і злучаліся «пры цэласці і панаванні веры нашай святой каталіцкай, пры даўніх вольна пастаноўленых правах і павазе Рэчы Паспалітай, у падтрымку слаўнай барскай справы», распачатай, аказваецца К. Храптовічам.

Сход пасылаў у генеральную канфедэрацыю ВКЛ А. Сулістроўскага, Ю. Сароку. Канцылярыстамі павятовай

канфэдэрацыі былі абраны А. Чаховіч, М. Данілевіч, намеснікамі галоўнага рэгіментарыя – Ю. Козел і старадубскі войскі Дыянісі Хомскі. Увогуле, з новага складу 10 асоб у 1767 г. выступалі за трактат з Расіяй. Сам Козел памкнуўся сарваць скліканых у Ашмяну асоб: «непристойно выбирать послов на сейм и оных посылать под самовластное принуждение к новому утверждению набросанных законов.. или по заблуждениях или по приватному хотению.. и знающим о проливающейся уже крови сограждан наших.., будучи одного общества обывателей, в одной воспитанные вере, в одной вскормленные вере».[227]

Якраз падобныя 32 асобы Рэчыцкага павета пад маршалствам Л.К. Халецкага 6 верасня пасылалі на сейм І.Прушаноўскага і І.Халецкага, якім таксама даручалі ахоўваць непарушнасць веры, вольнасці, незалежнасці Айчыны, правоў і прэрагатыў ВКЛ, ужываць падаткі на публічныя патрэбы, а не ў падзел прыватных выгод», увесці аднастайны вінакурны налог. Інструкцыя звала задаволіць кляштары базыльянаў (Вільна, Лаўрын, Мсціслаўль, Мінск), К.Радзівіла, вярнуць Рагачову забраныя пад староства шляхецкія пляцы, замяніць шэраг уладанняў паміж урадавымі і суседнімі ўладаннямі.[228]

Сведчаннем расколу шляхты на сеймавых выбарах стаў маніфест 70 чал. Мсціслаўскага ваяводства, дзе 3 кастрычніка быў абраны маршалкам мясцовай канфедэрацыі харунжы М.Цэханавецкі, які ў мінулы год стаяў за саюз з Расіяй. Яго намеснікам стаў А.Сурын, а рэгіментарам — падкаморы і ротмістр Фадзей Ігнат Кіркор. У раду генеральнай канфедэрацыі яны выслалі судовага падстаросту Фадзея Станіслава Мянжынскага, віленскага гродскага рэгента Міхала Валовіча, а ў мясцовую раду — Я.М. Чудоўскага, краўчага і гродскага суддзю Юзафа

Габоцкага, капітана Міхала Гатынскага, дымкаўскага старасту Казіміра Пятроўскага. Намеснікамі рэгіментарыя сталі харунжы Франц Фадзей Камінскі і абозны Венедыкт Гаўрыловіч.[229] Маніфестанты заявілі, што 7 год цярпелі ад праходу рускіх войск, якія агнём і мячом рабавалі і палілі манастыры, крыўдзілі каталіцкае духавенства і абывацеляў. Яны не збіраліся помсціць дысідэнтам і праваслаўным (дэзунітам), але палка падтрымалі барскую справу у абарону веры, вольнасці і прарэгатыў нацыі», парушаных апошнім сеймам. Яны заявілі, што «да рабства з Масквой іх прымушалі падпісацца сілай» .

Гэткім жа духам гучаў і маніфест канфедэрацыі Брэсцкага ваяводства, дзе маршалкам стаў лахвіцкі стараста Ануфрый Буклеўскі. Абстаноўку выбараў прыадкрывае пратэст на рэчыцкага старасту і маршалка Рэчыцкага павета І.Юдыцкага, які «насуперак прызываў (каралеўскага ўніверсала — ?)набраў шляхту з чужога павета і загадаў прысягаць гвалтам». Не адступіўся ад падобнай практыкі гэты прарасійскі служка і ў далейшым пры выбарах 9 лютага 1769 г. дэпутатаў у Галоўны трыбунал (шамбеляна Яна Халецкага і ротмістра Яна Солтана). Будучы дырэктарам сейміка, ён з аголенай шабляй атачыў замак сялянамі і салдатамі, сарваў прысягу сабраных у згодзе 100 чал., а затым яго людзі сталі «рубаць, біць і калечыць». Прысутныя паўцякалі да суседняга касцёла. Іх дагналі, скрывавілі дзверы, прыступкі і пасеклі каля 35 чал.[230]

На выбары сеймавых паслоў ад Мазырскага павета 26 верасня з'ехалася толькі 4 чал. на чале з маршалкам Мацвеем Казімірам Аскеркам (сярод іх — падкаморы Г.Яленскі, дакрэтавы пісар ВКЛ і земскі суддзя М.Лянкевіч, Людвік Корсак). Яны не адважыліся выбраць паслоў у такім малым зборы і ў атмасферы «страшных у

нашым мазырскім краі і за мяжой павета нашага сялянскіх гайдамацкіх бунтаў. Яны выказалі каралю адну вернападданасць. А праз месяц, 1 лістапада, ужо 9 ураднікаў і дыгнітараў на чале з тым жа К.Аскеркам папрасілі ў вялікага гетмана М.Агінскага ваеннай дапамогі, каб «даць адпор гультаям і гайдамакам, якія разам з нашым сялянствам, схільным да бунтаў, ціха і патаемна задумваюць сакрэтную здраду сваім панам». Павятовая рада выдзяляла на полк пярэдняй варты з дыма па паўасьміны жыта, асьміну аўса, 2 пуды сена і паўзлотага.[231]

Агінскі загадаў князю Томашу Масальскаму выслаць у небяспечны Мазырскі павет з палка пярэдняй варты мазырскую харугву на чале з Ф.І.Кіркорам, які заклікаў сабрацца ў харугву жадаючых, але потым заявіў, што калі «хто з запісаных не стане пад генеральную каманду, той будзе асуджаны крымінальным судом канфедэрацыі». Разам з выбарамі на сейм, у мясцовыя канфедэрацыі і на барацьбу з гайдамакамі ў верасні—кастрычніку ішло фарміраванне харугваў Беларускай дывізіі. Аб іх назвах вядома па месцах дыслакацыі. Так,у верасні называліся 10 харугваў (у Барысаве, Бабруйску, Гомелі, Дзісне, Крычаве, Мсціслаўлі, Прапойску, Рагачове, Сухарах,Чачэрску). Як відаць, усе яны фарміраваліся пераважна ў цэнтрах дзяржаўных староств, пасэсары якіх па свайму становішчу належалі да пракаралеўскіх колаў. У лістападзе згадваюцца харугвы Беларускай дывізіі яшчэ ў Полацку і Ражанцы. Іх віцэ-рэгіментарам называўся Мельхіёр Ясінскі.[232] Прапойская харугва на шляху у Мазыр спынілася ў Рагачоўскім старостве, дзе 12 лістапада выбрала у вв. Гадзілавічы, Турск і Шапчыцы фуражу на 385 зл. Праз 3 дні ўжо мсціслаўская харугва набрала тут харчу на 354 зл., а сухарская нарабавала жыўнасці на 62 зл.

Расійскія генералы, напалоханыя прывідам агульнашляхецкага апалчэння, ўжылі жорсткія захады. 29 кастрычніка быў заняты Нясвіж і 19 канфедэратаў здаліся пад заяву, што злучыліся на бунт «з-за шкоднай прэтэнзіі парушыць спакой у Айчыне, ад чаго адракаемся і прызнаём, што ўсё учыненае тым бунтам супраціўна правам і канстытуцыям Рэчы Паспалітай» Ад падобнага ж бунту адракліся 31 кастрычніка ў Пружанах 5 чал. на чале з А. і Дамінікам Буклеўскімі. 3 лістапада раззброіліся 106 чал. у Мядзелі на чале з ашмянскім маршалкам А.Козелам. Як пісаў адзін расійскі ананім, канфедэраты «в Литве в разные кучи разсеялиеь по лесам».[233]

Каб канчаткова вынішчыць бунты, «в Польшу» 7 лістапада 1768 г. выслалі корпус генерал-паручніка Івана Веймарна ў складзе 3 карабінерных палкоў (Пецярбургскі, Нараўскі, Наўгародскі) і 3 пяхотных (Угліцкі, Казанскі, Нашабурскі) пры 2000 казаках і 10 гарматах — усяго каля 10 тыс. чал. Праўда, Веймарн выступіў са Смаленска толькі 24 студненя 1769 г. і то маючы ў недахопе 2 палкі і 200 казакоў і аднаго перакладчыка з польскай мовы.[234] Яму загадалі не раздрабняць сілы і размясціць іх у Вільні, Коўне, Гродне і Брэсце, а запасныя магазіны заснаваць у Нясвіжы і Слуцку, кожны па 3000 чвэрцяў мукі, 2000 аўса і 2000 пудоў сена. Яму забаранялася гвалціць абывацеляў, закупляць харч, дзеля чаго з англійскіх банкаў В.Бэкстэрна і Фрэдэрыкса на імя прарадзівілаўскага агента П.Тэппера пераводзілася 127971 руб.[235]

Веймарн адразу сутыкнуўся «с великим колебанием» К.Радзівіла на загад аддаць артылерыю з Нясвіжа. 14 красавіка 1769 г. яму давялося раскамандзіраваць амаль палову штатаў пад мястэчка Валынец і іншыя месцы. Тэппер марудна высылаў грошы і да канца 1769 г. даў ледзь 41616 руб., так што даводзілася эканоміць на

жалаванні хворых. Веймарн хаатычна прымаў у корпус уцекачоў і дэзэрціраў, а тыя зноў уцякалі, на чым нажываліся мясцовыя паны-здатчыкі. 30 красавіка Веймарну загадалі не прымаць ні палонных ні рэкрутаў, адпусціць іх пад прысягай і наогул у ваеннай калегіі Расіі жадалі «переправить всех их вглубь России, ибо никак нельзя на обещания их полагаться». Запасныя магазіны засноўваліся марудна з-за перарасходаў грошай і нежадання абывацеляў прымаць квітанцыі па штатных цэнах. Так, у сакавіку пад Слуцкам чвэрць мукі ўзвінцілі з 1 руб. 20 кап. да 2 руб. 50 кап., круп з 150 кап. да 400, аўса з 75 да 125, сена з 5 да 20 кап. — г.зн. вышэй у 2 разы. Веймарну загадалі не расходваць прысылаемыя чырвонцы з той жа эканоміі, тады як абывацелі патрабавалі ў разлік толькі золата і срэбра. У выніку наяўныя 4937 салдаты (пры 1047 канях) у Літве дэзерціравалі, а, да прыкладу, слуцкі архімандрыт Павел Валчаскі прыбягаў за дапамогай каманд пры выконванні паставак у слуцкі магазін. Гэты прымус толькі распальваў нараканні.

Радзівілаўскі староста Лапецкі не выдаваў П.Валчаскаму прывілеяў праваслаўных манастыроў, змяшчаў і выганяў папоў, якія папаўнялі шэрагі незадаволеных. 18 ліпеня кіеўскі мітрапаліт прыслаў у Слуцк для разгляду крыўд ігумена тупічаўскага манастыра Юзафа Блажэўскага і віленскага А.Пялвінскага, якім Валчаскі не падпарадкаваўся і да лютага 1770 г. дамагаўся стварыць камісію на ўласны кошт,[236] незалежна ад сеймавай змешанай камісіі.

К.Радзівіл не спяшаўся ў эміграцыю, бо баяўся раскрадання сваіх уладанняў праціўнікамі з дапамогай расійскіх каманд. Не адпускаў яго і Рэпнін, якога радзівілаўскія саcontainнікі засыпалі скаргамі на помслівасць сеймавай камісіі па разборы вялізных даўгоў князя,

асабліва пасля таго, як яе старшыня Г.Вадзінскі прызначыў на 1 мая 1769 г. тэрмін сплаты без ведама самога К.Радзівіла і яго сакратара М.Бернатовіча. Адказныя адмовіліся стаць і патрабавалі закрыць камісію. Рэпнін прадбачыў, што завочны самасуд у каторы раз распусціць узброеныя наезды (прымусовае заняцце маёнткаў) і выкліча самаўзбраенне шляхты, «отчего несумненно последует в Литве, так сказать, генеральное возколебание», калі зноў немагчыма адрозніць сапраўдных канфедэратаў ад звычайных вольных рабаўнікоў. Следам за ім Кацярына II не пажадала міжусобіц, ад якіх «Литва загорелась бы таковым огнем, каким уже Польша пожирается».[237] Папіраў яе і Панін, які рэкамендаваў распусціць тую камісію, каб «не зажечь в Литве нового огня».[238]

У рэшце рэшт патэнцыяльны лідэр барчан у Літве апынуўся непрыдатным ні для аднаго ні для другога боку. Ён эмігрыраваў пад заяву, што з самага пачатку быў прыхільны «сэрцам і розумам» да справы Бара і з дазволу караля адвёз у Амстердам каштоўнасці, якія схаваў там да выкупу пад залог 130695 прускіх талераў купца П.Ф.Тэппера.[239] У падобным становішчы апынуўся і М.Рэпнін, якога Фамілія абвінавачіла ў тым, што гэта ён дэспатычна і зброяй «сделал сейм поневоле», прымусіў яго раздражніць нацыю непапулярнымі рашэннямі. У Пецярбургу пасля сталі вінаваціць у тым, што гэта ён давёў падзеі да вайны з Турцыяй. Рэпнін у маі і ліпені адбіваўся тым, што выкрыў двурушніцтва і крывадушнасць ранейшых сяброў, якія надта жадалі спіхнуць гвалты на рускі дэспатызм, якія вельмі прагнулі, «как бы мы одни все без республики делали», у тым ліку і душылі хваляванні. Ён папярэджваў, што роспуск радзівілаўскай камісіі няўмольна кідае ўведзеныя войскі на ўтаймаванне

чарговага зямельнага перадзелу, бо з адданых сяброў у ВКЛ застаўся адзін У.Гуроўскі. Яго падтрымаў афіцэр Іван Дэкалонг, які 30 сакавіка 1769 г. паведамляў у ваенную калегію, што роспуск радзівілаўскай камісіі справакаваў чарговы палявы самасуд: паны вярбуюць шляхту для самаабароны, а іншыя — быццам бы «для усмирения взбунтовавших своих подданых». 7 красавіка ён адпісаў, што на сесію трыбунала ў Вільні шляхта збіраецца цэлымі світамі, што епіскап І.Масальскі ўжо навербаваў да 500 салдат і прускіх афіцэраў быццам бы на ахову свайго маёнтка Каменшчына. На справе гэта не так, бо епіскап казаў яму, што «Польша Россией утеснена и вступается в их дела в противность их прав по их вольности».[240]

Адзін з такіх вярбоўшчыкаў, пісаў Дэкалонг, скарбовы пісар А.Касакоўскі набіраў ахвочых у в. Дуброўна Лідскага павета нібыта па патрабаванню скарбовай камісіі для ачысткі р. Вілія, аднак 40 чал. сабраных у сапраўднасці навучаліся дзеяннням драўлянымі ружжамі. Узаемныя звадкі ўспыхнулі і сярод барскіх водцаў. Адны дамагаліся дэтранізацыі караля з дапамогай Турцыі і Францыі, а другія разлічвалі на ўласныя сілы. Аднак яны палічыліся з тым, што публічнымі маніфестацыямі купка змагароў толькі выкрывае сваё згуртаванне, што дазваляе Маскве паспяхова разганяць іх. Загучалі мовы тайна выбраць маршалкаў і гэтак жа сканфедэраваць Літву, інакш аб'яднанню «канца не будзе», а распыленыя сілы «кружыліся б па Польшы, рабуючы саміх сябе так, што ўвесь край зруйнавалі б».[241]

14 красавіка 1769 г. паморскі ваявода граф Б. Флемінг стаў рассылаць лісты з заклікам да прымірэнчай канфедэрацыі на чале з каралём. Апошні прапанаваў Кацярыне II амнісціраваць барчан, скараціць правы дысідэнтаў «да зручнага часу і кан'юнктуры, якая

дазволіць ім прыйсці да поўнай роўнасці», затым склікаць сейм прымірэння без ваеннай прысутнасці, які заменіць пратэкцыю абарончым саюзам, або дапамогай Расіі ў вайне з Турцыяй у замен за зварот Рэчы Паспалітай Малдавіі, Валахіі і Бесарабіі.[242] 14 красавіка прапанаваў свой план замірэння і І.Масальскі, які для стварэння канфедэрацыі Літвы прасіў 25 тыс. рускіх штыкоў і 300 тыс. руб.[243] М. Панін адмовіў у падтрымцы, бо лічыў такі план прыхаваным прыгатаваннем апалчэння, спробай Масальскага «сохранить свои владения и стать диктатором своего общества». Ён не жадаў пасіўна і фармальна глядзець, як на тыя грошы збягуцца асобы «кредитом своим торговать и продавать их». Ён баяўся непрадказальнасці сейма, які мог і караля скінуць на прадстаўленую падтрымку.[244]

Магчыма, гэта быў выратавальны шанс, аднак менавіта недавер Пецярбурга да сваіх партызанаў скіраваў падзеі ў няўмольным бегу.

20 мая 1769 г.рэчыцкі падстолі і нязменны сябра Расіі Ігнат Халецкі спаймаў у Жлобіне больш 100 гайдамакаў, выявіў у копалеўскім лесе да 200 чал., якія прыплылі па р. Бяразіне з амуніцыяй і потым сталі рассылаць у жабрацкім уборы кавалёў, краўцоў, шаўцоў і сталяроў, калеснікаў, шапавалаў па вёсках Бабруйскага староства рабіць там сякеры і косы (!). 6 чэрвеня радзівілаўскі эканом паведаміў свайму гаспадару, што пад Слуцкам пачынаецца «мужыцкі бунт», бо «возмутившееся в Белой России крестьяне по разным местам разделившееся, партиями приблизилось уже к Слуцку». Паводле паведамлення, адной з такіх арцеляў з 51 сялян в. Ліпнікі Мсціслаўскага ваяводства камандаваў Уладзіслаў Аляксееў і нехта Алуфры з Чачэрскага староства. У зборы пад атаманствам салдата Яфіма пад Касцюковічамі было 30

чал., дзве арцелі пад камандай Васіля Паўлава і Фёдара Дзегцяра ў кошалеўскім лесе лічылі 57 чал., і адной кампаніяй з 40 чал. у гомельскім лесе верхаводзіў Гаўрушка. Усе ватагі быццам бы хацелі сабрацца ў в. Мікалаева Чачэрскага староства для разарэння арандатaraў-яўрэяў і затым выступіць на Дубраўку, Шклоў, Магілёў, Жлобін, Чачэрск, Хелч і Гомель рабаваць панскія двары. Мноства такіх купаў скапілася пад Глускам, а ад чутак усе Бабруйскае староства прыйшло ў рух.[245] Рэпнін 11 чэрвеня загадаў генералу І.Нумерсу угаварыць мужыкоў разысціся, каб «не разгорелось великое пламя в Литве, где единоверных наших много», а зброю прымяняць у крайнім выпадку. Расійцы, як відаць, зараз баяліся распальваць рэлігійнае вогнішча. Аднак падсцёбвалі іншыя.

Яшчэ 3 студзеня 1769 г. скарбавая камісія ВКЛ загадала палкоўніку пярэдняй варты Булгаку сабраць на плату войску 34833 зл. з Рэчыцкага павета. 1 пацякло: 19 студзеня мазырскі стольнік і старадубскі будаўнічы Юзаф Бародзіч гвалтам вывез маёмасць з уладання Хіжы, што належала мсціслаўскаму сурагатару Тадэвушу Парчэўскаму.У чэрвені слугі пана Бародзіча «гайдамацкім спосабам» паграбілі в. Папоўку. У лютым мсціслаўскі ротмістр Макавецкі ў атачэнні 50 жаўнераў, слуг, чэлядзі і сялян наляцеў на вв. Гніліца, Арцюхова, Козел і Мхінічы Грыбаўскага староства, дзе находнікі «білі, калечылі і парубілі» 10 сялян.[246] 10 сакавіка пінскі скарбнік Даніла Альшэўскі «ўзбунтаваў сялян» у маёнтку Чарняўка і давёў іх да непаслушэнства смаленскаму стражніку Казіміру Колбе. Тады ж сам павятовы маршалак К.Халецкі, які разагнаў дэпутацкі сеймік і «ліквідаваў роўнасць шляхецкую», захапіў млын у Чачэрскім старостве (належала гетману М.Агінскаму) і забараніў сплаўляць з

яго лес. 17 красавіка пінскі кагал і прыкагалкі «ўсяе Русі» паскардзіліся на лоўчага Юзафа і падстолія Ігната Халецкіх, якія, ў падазрэнні аб збіцці яўрэямі хрысціяніна Чобатаўскага старостава, аддалі цяжарную Бейлу Літман на самасуд «простым людзям» ды так, што тая выкінула мертвяка.[247]

17 мая 1769 «патрыётаў» Рэчыцкага павета папрасілі ў гетмана М. Агінскага 100 коннікаў з палка пярэдняй варты для спагнання падаткаў у Чачэрскім старостве з-за свавольства там «гайдамацкіх куп сялянства». 13 чэрвеня харунжы Багуслаў Аскерка заклікаў усіх абываццеляў Мазырскага павета на працягу 4 тыдняў стаць у Мазыры з экіпіраванымі паштовымі для барацьбы з гайдамакамі. Сам маршалак павета К.Аскерка загадаў усім ураднікам, уласнікам і іх камісарам выяўляць і прадстаўляць на працягу тыдня схаваных у пушчах «пад выглядам майданнікаў, багамазаў, рамеснікаў, дзегцяроў, якія па сутнасці сваёй марадзёры». Кожны абывацель меўся здаць «без усякага пардону» ў замак цесляроў, убогіх, цыганоў, канавалаў, краўцоў, шаўцоў, лёзных – словам, «усякіх наймітаў».[248] У паўднёвых паветах пакацілася хваля паляванняў за жывым таварам, якая ўчыніла спалох раззбраеннем панскіх двароў.

Міністры ВКЛ на чале з вялікім канцлерам М.Чартарыжскім 16 чэрвеня правялі неадкладную нараду і загадалі К. Халецкаму «стлуміць агонь сялянскіх бунтаў і зборышчы гайдамакаў у самым пачатку, каб потым пажар не разросся далей». Праўда, Чартарыжскі пісаў, што паколькі гаворка ідзе аб людскім жыцці, то трэба расследаваць здарэнні «у судзе па праву,а не прыватнай уладай». Гетману М. Агінскаму было загадана кінуць не менш 200 жаўнераў Беларускай дывізіі і палка пярэдняй варты «утаймаваць небяспечныя сялянскія бунты і

сваволю гайдамакаў на Белай Русі ў Рэчыцкім павеце», а «пасля уціхамірвання рэвалюцыі» размясціць 100 вершнікаў для захавання парадку у патрэбных месцах. Агінскаму дазвалялася самому абдумаць харчаванне і так кепска аплочанага скарбам жаўнерства. Каб засцерагчы суседнія паветы,маршалкам Аршанскага павета Антону Храпавіцкаму, Мазырскага — К.М. Аскерку, Рэчыцкага — К. Халецкаму, Пінскага — Л.М. Арэшку прадпісалі сабраць пад сваім водствам «конных і пешых павятовых людзей» у паспалітае рушанне, куды старасты і дзяржаўцы меліся прыслаць гарнізонную і надворную міліцыю «па прапорцыі свайго маёнтка». Праваслаўным і уніяцкім епіскапам даручалася праз дэканаў і святароў адвадзжваць сялян парафій ад падтрымкі бунтаўшчыкоў і трымаць іх «у належнай паслухмянасці сваім панам». Шляхце, абвінавачанай у падтрымцы бунтоў і сваволъных рабунках чужой маёмасці, пагражалі крымінальным судом адпаведна канстытуцыі 1764 г. А гэта значыць, уступала ў дзеянне пакаранне за забойства селяніна, як роўнага сабе. Нарэшце, злоўленых у Жлобіне, Гомелі і Чачэрску смаляроў, у выпадку іх невінаватасці ў змове з гайдамакамі, прадпісвалася рассяліць па розных местах каб ніхто «не ведаў дзе другі знаходзіцца».[249]

М. Агінскі апынуўся ў замяшанні, бо другое, рускае начальства загадала яму паслаць пад Брэст 2 уланскія палкі разам з камандай графа Вахмейстэра, дзе скарбнік Антон Бухавецкі сканфедэраваў да 4000 шляхты. На падтрымку ім пад Брэст 11—12 чэрвеня 1769 г. падышлі браты Франц і Казімір Пуласкія на чале 600 вершнікаў, маючы таксама мэтай распаліць заходнія паветы ВКЛ у падтрымку барскіх ідэй.[250] У гэты момант ім процістаяла 4 пяхотныя і 2 кавалерыйскія палкі пад камандай І. Нумерса — усяго каля 5000 ратнікаў пры 2800 канях. М.

Чартарыжскі спрабаваў прадухіліць кровапраліццё і гаварыў Рэпніну, што брэсцкая канфедэрацыя створана гвалтам, што яе ўдзельнікі разыйдуцца пад абяцанне амністыі. Рэпнін вагаўся не менш, бо казаў, што пакаранні «могли бы более огонь зажечь, ибо они (канфедэраты — Я.) при первом случае заявят, что к тому подневолены были». Тое ж магло здарыцца і пры ўзяцці ў іх пісьмовых заручэнняў, бо, «когда дело дойдет до конфедерации или сейма, то утратят силу, почему и не важны они».[251]

Тым часам, 29 чэрвеня Пуласкія абвясцілі ў Брэсце акт канфедэрацыі і праз Мсцібаў, Воўчын, Камянец рушылі на Гродна, рабуючы на шляху маёнткі пасіўных патрыётаў і сваіх ворагаў. Палкоўнік Васіль Ушакоў з 786 нараўскімі пехацінцамі і 118 казакамі рушыў у Гродна, дзе стаяў гарнізон з 300 салдат і 18 гарматамі і куды пасля бойкі пад Беластокам князь Аляксандр Галіцын прывёў 310 параненых і хворых карабінераў. Ушакоў выслаў пад мястэчка Бераставіцы 80 казакоў, якія ледзь не згінулі тут пры сустрэчы з 150 канфедэратамі. 8 ліпеня галоўны абоз Ушакова ў колькасці 700 салдат пад в. Какурка напароўся на Пуласкіх, якія вялі 2100 жаўнераў з 4 гарматамі (па польскіх крыніцах— 3000 чал. з 6 гарматамі). Нараўскі полк вытрымаў 2 атакі і страціў 2 салдат.[252] Перавышаючая моц Пуласкіх затым прайшла Ваўкавыск і 9 ліпеня захапіла рэзідэнцыю баязлівага гетмана М. Агінскага — Слонім — разам з гарнізонам, гарматамі, сцягамі і значнай кантрыбуцыяй з яўрэяў. Каля 1000 салдат Нараўскага палка растрывожылі іх і Пуласкія прайшлі ў зборы каля 1000 чал.мястэчка Новая Мыш (13 ліпеня) і павярнулі на Шчучын.У Слоніме яны стварылі канфедэрацыю на чале з ваўкавыскім маршалкам Ю.Сапегам, які, пры атацы наскочыўшага з-пад Брэста графа Вахмейстара, страціў на прадмесці 256 чал. У вялікай небяспецы ад

падыходу 600 рускіх ратнікаў Ушакова, Пуласкія спыніліся ў Даспудзе на нараду. Сапега і уланскія палкі літоўскага войска паслухаліся караля і Пуласкія рушылі назад.

Тым часам пад Брэстам з'явіўся знакаміты Аляксандр Сувораў пры 2 батальёнах пяхоты, эскадроне драгун, з 50 казакамі і 2 гарматамі. 5 верасня ён паланіў тут 50 канфедэратаў і на чале 739 салдат пры 185 канях і 2 гарматах вырушыў насустрач Пуласкім.Праз 10 міляў пад в. Арэхава ён сустрэў умацаваны абоз. 13 верасня грэнадзёры Суворава з ходу прайшлі балота, карабінеры кінуліся ў штыкі і пад час пагоні імі было «переколото, перерублено и перестреляно» 200-300 канфедэратаў і палонена яшчэ 48 чал. Нягледзячы на тое, што «Пуласких ядра били у меня целые ряды», Сувораў страціў 10 чал. і запаліў вёску. 13 кастрычніка Пуласкія з 3 харугвамі уцяклі за мяжу. 17 кастрычніка над мястэчкам Востраў, высланы з Гродна маёр Шубэ атакаваў атрад з 500 канфедэратаў пад камандай Зялінскага, палажыўшы на полі 22 і паланіўшы 7 чал.[253]

Паражэнне Пуласкіх не запаліла Літву агульным полымем паўстання, а славалюбныя маршалкі канфедэрацый спрачаліся «на якую ногу скочыць». У генеральныя маршалкі яны абралі зелаўскага старасту М. Паца, якога адзін з сучаснікаў назваў «нікчэмнасцю, узвышанай 6 подласцямі» падлізы К. Радзівіла. Некаторыя бачылі водцам А. Радзівіла, які марыў аб кароне. 5 жніўня 1769 г. яны абвясцілі ў Цільзіце генеральную канфедэрацыю ВКЛ на чале з М. Пацам і Ю. Сапегам у якасці галоўнакамандуючага. У сваім акце яны паўтарылі лозунгі Бара і пажадалі бачыць свой край «самаўладным і непадлеглым». 7 лістапада 22 маршалкі злучыліся ў генеральную канфедэрацыю Кароны і ВКЛ, назвалі

С. Панятоўскага злачынцам і абяцалі замяніць яго замежным стаўленікам. Яны анулявалі праведзеныя Фаміліяй рэформы, камісіі, пастанавілі канфіскаваць маёмасць ў пастаўленых імі ураднікаў, пагразілі выгнаць за мяжу дысідэнтаў і праваслаўных (акрамя сялян) і, нарэшце, завочна пазбавілі шляхецкай годнасці, пасад і ўладанняў усіх падпісаўшых трактат 1768 г.[254]

У той момант, калі Пуласкія рэйдавалі на захадзе, маршалак Рэчыцкага павета К. Халецкі склікаў шляхту ў Рагачоў і 3 ліпеня 1769 г. патрабаваў ад сходу 100 тыс.зл., а з-за адмовы вызначыў у кантрыбуцыю гадавы пабор правіянту і фуражу на кампутавае войска. Затым ён разам з падкаморым І. Прушаноўскім справадзілі 200 коннікаў выкараняць гайдамакаў па ваколіцах. Тое, што прарасійскія маршалкі ўсходніх паветаў княства вельмі задавальнялі Пецярбург, вызначыла там новую тактыку паводзін. Рэпніна замянілі князем Міхаілам Валконскім. 31 жніўня расійскім генералам загадалі браць правіянт і фураж «без всякой пощады», асабліва з удзельнікаў канфедэрацый. Панін нагадваў М. Валконскаму, што зараз Расіі выгадна «неустройство» і захаванне ў цяні ўласнай адказнасці за «безпутное течение» грамадскага самазнясільвання. Зыходзячы з гэтага, генерал Нумерс проста ўскладаў пастаўкі на цэлае ваяводства або павет і прымушаў, такім чынам, абывацеляў да самаабкладання і самастойнай сарціроўкі цяжару пад пагрозай самадзейства расійскіх каманд у праціўным выпадку. Дайшло да таго, што ён вывеў войскі з Мінска, каб там «не скопились возмутительного скопища» пад зачэпкай збору сесіі Галоўнага трыбунала.[255]

У рэчышчы гэтай тактыкі маршалкі ўсходніх паветаў выконвалі свае паўнамоцтвы так, нібы яны замяшчалі расійскіх генералаў. 10 верасня 1769 г. галоўны рэгіментар

Беларускай дывізіі, аршанскі маршалак А.Храпавіцкі загадаў свайму намесніку М. Ясінскаму выслаць з гомельскай харугвы 24 пошты, з Крычаўскай — 6, з Сухарскай — 8 у Рагачоўскае староства для «ўціхамірвання ў тым краі сялянскага бунту», хапаць па ваколіцах гайдамакаў, а тую шляхту, «якая прыпісвае бунты гайдамакам і сялянам, сама чыніць рабункі шляхецкіх уладанняў» — хапаць і ставіць у гродскі суд. Ужо 15 верасня 36 «патрыётаў» Рэчыцкага павета лемантавалі на К. Халецкага і А. Храпавіцкага, якія з дапамогай 10 харугваў Беларускай дывізіі (Крычаўскай, Барысаўскай, Гомельскай, Чачэрскай, Прапойскай, Дзісенскай, Бабруйскай, Сухарскай, Мсціслаўскай і Рагачоўскай) «пад тытулам спынення сялянскага бунту» гвалтам выбралі фураж, пішчылі ваколіцы, распужвалі сялян, забіралі вупраж, дакументы. Сам К. Халецкі на чале 30 вершнікаў 3 дні абыходзіўся з яўрэямі і сялянамі в. Фундамінка, «як з дзікім народам», і разам з Ясінскім аднаго працаўніка проста затапталі коньмі, а 2 сялян засеклі. Ад тых рабункаў Рагачоўскае староства панесла шкод на 3000 зл.[256]

12 лістапада К. Халецкі пры зборы вялікай грамады шляхты у фальварку Рэдзькі застрашыў земскі суд і іншых разарэннямі, калі яму не дадуць «даходаў ад спраў, доўгі час раскіданых» па розных інстанцыях ВКЛ. 46 шляхціцаў на чале з І. Юдыцкім паслалі да караля Адама і Антона Маліноўскіх з просьбай эвакуіраваць рабаўніцкую дывізію і пакараць гвалтаўнікоў.[257] З помсты на скаргу І. Нумерс пад страхам суровай экзекуцыі патрабаваў з павета да 1 студзеня 1770 г. 30 тыс. пудоў сена і 2 тыс. бочак аўса ўжо на расійскае войска, літоўскі скарб на ўласнае войска — 34383 зл. К. Халецкі тут жа сабраў каго мог у Гомель і вызначыў з кожнага дыма па 0,5 бочкі аўса, 6

пудоў сена і 1 чвэрць жыта. Збор гэтага выліўся ў такі крывавы вір, што толькі 16 жніўня 1770 г. 41 патрыёт Рэчыцкага павета сабраліся ў Чачэрску для абмеркавання пытання аб прысмірэнні «бунтаў» пры спагнанні кантрыбуцый. Халецкі паведаміў аб вывадзе з павета дзікай дывізіі, але «з-за пастаяннай пагрозы зграі ўзбунтаванага, або, лепш сказаць, схіленага на згубу абываццеляў замежнага люду», дзеля аховы павета ад маравой пошасці, загадаў М. Ясінскаму апанаваць шляхамі з Украіны і Расіі. Шляхце загадалі заваліць тракты засекамі, не дапускаць ніякіх праездаў купцоў і яўрэяў на працягу 6 тыдняў. На дзікую дывізію вызначылі па 11 гарцаў жыта і гарцу круп з дыма, злоты – паборавым камісарам і 2 злотых – Ясінскаму. Рускаму афіцэру Андрэю дэ Бандрэ было заяўлена, што сабраныя «ні да якога ўзбунтавання тыпу канфедэрацыі разам з нашымі патрыётамі не прычыніліся, ніякіх для гэтага з'ездаў і публічных нарад не чынілі, застаемся паслухмянымі толькі канстытуцыі, а хто выкажа жаданне сканфедэравацца, то таго абвесцім бунтаўшчыком, парушальнікам спакою і паведамім пад пагрозай страты ўрадавых прарэгатыў».[258]

Верагодна падобная заява прагучала рэхам на намер караля, які 1 лютага 1770 г. выклікаў да сябе лоўчага А.Забелу і даручыў таму тайна скласці ў паветах Літвы цывільныя канфедэрацыі.[259] Мазырскі дэпутацка-гаспадарчы сеймік 6 лютага 1770 г. паслаў да караля канюшага Юзафа Яленскага і харунжага Іяхіма Корсака выказаць просьбу, каб Рэч Паспалітая была прыведзена да натуральнага ўрада канстытуцыі», каб воласць Каменшчына, згодна канстытуцый 1613 і 1631 гг., навечна засталася ў складзе «правінцыі ВКЛ», а спрачальнікі з Аўруцкага павета Кіеўскага ваяводства не выклікалі мазыран у каронны трибунал. Лютаўскія сеймікі ў Мінску,

Гродне, Слоніме і Полацку прамаўчалі аб нядаўніх узрушэннях, выбралі правіянцкіх камісараў і расклалі падаткі на дымы: ад 1 да 8 зл., а то нават на адных яўрэяў, як гэта зрабілі ў Слоніме.[260] Памеры самаабкладання можна прасачыць на прыкладзе Аршанскага павета. У 1769 г. ён даваў з 8853 двароў 885 асьмін жыта, у 1770 г. – 1000, у 1771 з 9342 дымоў – 1528 асьм. У 1769 г. з павета ішло 2951 асьм.ауса,у 1770 – 3000,у 1771 – 4175. За гэты час набор сена вырас з 13999 пудоў да 18649, дроў – з 400 да 800 вазоў, гіберны са староstваў – з 3538 да 4188 зл.[261]

Кацярына II загадала М. Валконскаму афармляць свае распараджэнні ад імя караля, каб скарыць яго і заадно разарыць супраціўленцаў рукамі братоў-шляхты. Яна зноў узняла пытанне аб выдачы ўцекачоў і задавальненні крыўд сваіх купцоў. Аднак М.Валконскі 10 сакавіка 1770 адпісаў, што па прыкладу мсціслаўскага ваяводы Канстанціна Людвіка Плятара іншыя магнаты ўтойваюць уцекачоў. На прэтэнзіі купцоў скарбовая камісія адказвала раз у тыдзень ды яшчэ яе рашэнні «пропадают втуне» з-за святаў, пераносаў сесій і раз'ездаў камісараў пры незавершаных справах. Да таго ж, пасланага ў Шклоў, консула М. Давыдава арыштавалі за фальшывае паручыцельства тульскага купца Якава Трэшчава. Пасол абураўся, што такога раней не патрабавалі і што надзейных паручыцеляў у Літве няма. Кацярына II 4 мая 1770 г. загадала спагнаць прэтэнзіі рэквізіцыямі, прымусам вывесці уцекачоў і «принудить еще заплатить за оставляемые ими дома и посеянной в земле хлеб». На енкі і пагрозы аб заступніцтве Турцыі і Францыі яна гаварыла, што калі пры падзеле Рэчы Паспалітай ёй дастанецца самая знясіленая доля, тады прыйдзецца аб'явіць «прямую войну Польше».[262]

Для рэалізацыі вызначаных мэтаў быў сфарміраваны Санктпецярбургскі легіён, які загадам ад 19 чэрвеня раскватаравалі ў адпаведнасці з «политическими уважениями» або благанадзейнасцю асоб: з зычлівай шляхты харч бралі за грошы, з вёсак «явных возмутителей» — кантрыбуцыямі або бясплатна. Апошнімі Пецярбург збіраўся «до тех пор преследовать» сваіх праціўнікаў, пакуль яны не эмігрыруюць і на іх месца не знойдзецца новай партыі сяброў, зманенай перспектывай «возвышения и предания в их руки всей возможной власти». Магчымы голад ад рабункаў належала прадставіць «только следствием насильственного угнетения» папярэдняй дзяржавай і «без компрометирования в публике» самой Расіі.[263] Верагодна пры гэтым выношваўся план не толькі засцерагчы караля ад «злодейского сколь и мечтательного предположения возвысить свою власть» да абсалютызму, колькі змясціць яго «без видимого в оном соучастия нашего».

Гэта вельмі верагодна з улікам таго, што генеральная (Барская) канфедэрацыя 9 красавіка і 9 жніўня 1770 г. абвясціла бескаралеўе, звярнулася да пасрэднікаў Аліўскага міру ды папрасіла гетмана М. Агінскага падтрымаць дэтранізацыю зброяй. Аўстрыя 19 ліпеня 1770 г. дала прытулак барчанам. Гэты крок істотна падмацаваў іх, а перад Расіяй замаячыла вайна на два франты, бо 24 верасня 1770 г. ўжо прускі кароль Фрыдрых II прапанаваў Кацярыне II свой план дружалюбнага падзелу Рэчы Паспалітай.[264] Ён раіў падтрымаць прыклад Аўстрыі, якая першай адхапіла ад рэспублікі 3 спішскія староствы. Узнікла прамая аб'яднаная пагроза дырыжорскай ролі Расіі, паколькі яе 12-тысячнаму корпусу ў Рэчы Паспалітай процістаяла да 20 тыс. адных канфедэратаў.[265] У канцы 1770 — пачатку 1771 г. М. Панін азнаёміўся з прускім планам падзелу і загаварыў, што ў архівах можна

знайсці доказы правоў Расіі на Ліфляндыю (Інфлянты), «которую можно расширить по Двине до Полоцка и Днепра» у выглядзе ***«вознаграждения за 6-летнюю войну в Польше против турок»*** (*выдзелена мною —* **Я.А.**). Пры гэтым ён саромеўся слова «приобретение» і замаркоціўся пошукам апраўдання адмовы сваей гарантыі тэрытарыяльнай цэласнасці Рэчы Паспалітай. Паколькі ў 1772 г. спыняўся саюзны дагавор з Прусіяй, то на разаральную кампанію М. Валконскаму далі адзін год.[266]

У якім памеры і якія магнацкія колы ахапіў згаданы секвестр, можна меркаваць з наступных, не зусім роўназначных, справаздач ваеннай калегіі. У студзені 177I г. яна занатавала аб паборы за мінулы год з 4 асоб (К. Радзівіла, М. Чартарыжскага, вілейскага старасты Ваўрэцкага, Я. Борха) 180289 зл. або 10680 чырвоных. З студзеня па верасень 177I г. з маёнткаў 8 асоб спагналі 53443 чырв. (961924 зл.). Канкрэтныя лічбы выглядаюць так (табл. 7)

*Табліца 7*

***Памеры кантрыбуцый у ВКЛ у 1771 г. (злотых)***

| Уладальнік | Уладанне | Гадавы даход | Сабрана |
|---|---|---|---|
| Борх Ян каронны падкаморы | Варкляны, Юрбург | — | 78352 |
| Бернатовіч сакратар К.Радвівіла | Боркі | 2729 | 1400 |
| Ваўрэцкі вілейскі староста | ? | | 8041 |
| Гараім Ян Антон брэсцкі ваявода | Янаўскае староства | 14330 | 651 |
| Красінскі Адам падкаморы | Тугавічы | | 70791 |
| Праздзецкі мінскі падкаморы | Заслаўе, Станькаў, Вязынь | 116527 | 44222 |
| | Блудзенскае староства | 15263 | 2004 |
| | фальварак Плі́скі | 2075 | 440 |
| | Пінскае староства | 25046 | 32723 |
| Пац Міхаіл Ян зелаўскі староста | Гарадзішча, | | |
| | Ліпічына, Беразавец | 27433 | 6535 |
| Патоцкі Іяхім літоўскі падчашы | Бочкаў, Рось, | | |
| | Трасцяніца, Пратуліна | 128940 | 72271 |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Радзівіл Караль віленскі ваявода | Славацічы, Бяла, Невель, Себеж, Нясвіж, Слуцк, Копыль, Свержань, Нягневічы, Ляхавічы | 264758 | 386946 |
| Сапега Юзаф літоўскі краўчы | Вішніца | — | 42894 |
| Чартарыжскі Міхал вялікі канцлер ВКЛ | Канстанцінаў, Воўчын, Усвяты, Падусвяты | 19639 | 25478 |
| | | | **772748** |

*Крыніцы: РДВГА, ф. 119, с. 121, л.1-6, 48-49, 53, 60-63, 175, 280, 482; с. 141, л.240-243, 265, 290, 320—322.*

Як вынікае з табліцы, у 1771 г. з маёнткаў ІІ магнатаў было спагнана 772748 зл., а калі ўлічыць наборы з Гомельскага староства (39494) і Тураўскага графства (7623 зл.), то будзе 819865 зл. Гэтыя ацэнкі заніжаныя. Да прыкладу, як пісаў з Усвяцкага староства А. Дэ Бандрэ, палову сабранага тут хлеба давялося ў сакавіку раздаць назад сялянам, бо «такой в той стороне голод,что деревья гнилые сушат, толкут и мешают с мякинами». У Гомельскім старостве згалелым людзям вярнулі трэць прадуктаў. Сабранае доўга і цяжка шукала сваіх пакупнікоў. Толькі пасля спагнання з жлобінскіх яўрэяў піва і мёду, секвестр са староства быў зняты ў жніўні 1771 г.[267] Яўрэі Воўчына прасілі скасаваць 7000 зл. з-за грабяжу праходзячых каманд. Графіня Агінская ўнесла палову кантрыбуцыі (з 52344 зл.), арандатары М. Паца — 5 тыс.з 11 тыс. зл., гаворачы, што сяляне разбегліся, гандаль спынены, бо яўрэі не бяруць пустых арэнд. Эканомы Борха далі адны квітанцыі.[268]

На месцах чула адгукаліся на селектыўныя рэпрэсіі і індывідуальна павялічвалі іх . У студзені 1771 г. рэчыцкі гродскі суддзя і скарбнік К. Вішынскі разам з мастаўнічым

і чачэрскім губернатарам Казімірам Збарамірскім, «напаўшы і збунтаваўшы тайна хлопаў», гвалтам выбраў чынш з Бабіцкага староства. Цэлы студзень палкоўнік Антон Аскерка ў атачэнні больш 200 сваіх сялян, эканомаў, надворных стралкоў гойсалі па Рагачоўскім старостве, вывозілі сена, секлі вуллі, борці, «біццём і паленнем» вымагалі чынш з сялян і арэнду з яўрэяў. 4 лютага, ідучы на гаспадарчы сеймік, Аскерка паставіў у в. Калёсы шыбеніцу, а праз дзень атакаваў рагачоўскі замак і сарваў павятовы сход. Ён дзейнічаў у згодзе з віцэрэгіментарам Беларускай дывізіі М. Ясінскім, старастам І. Юдыцкім і Л. Пацэем. Маршал павета К. Халецкі ў сакавіку трымаў шаранговых дывізіі «выключна для сваіх патрэб, на крыўду патрыётаў» і з іх дапамогай збіраў фураж, нібыта па ўхвале павета. У верасні і кастрычніку, як пісаў земскі суддзя Юзаф Фашч, «патрыятычнае войска, падзеленае на дывізіі», чыніла па шляхецкіх дамах розныя прыкрасці.[269] Амаль увесь 1771 г. мсціслаўскі падкаморы Ігнат і інфлянцкі стольнік Юзаф Астрэйкі не дазвалялі земскаму суддзе Клімянцею Глінку здаць у законную пасэсію маёнтак Рысін з мястэчкам Касцюкевічы. Яны чынілі безупынныя наезды, калечылі чэлядзь, забаранялі выконваць паншчыну на гаспадара і «так узбунтавалі сялян, што тыя не жадалі выконваць ніякіх павіннасцяў, і чыншу і арэнд жадаючым аддаваць не хацелі». Лютаўскія сеймікі 1771 г. у Гродне, Ваўкавыску, Слоніме, Навагрудку і Мінску спрабавалі, акрамя выбараў дэпутатаў у Галоўны трыбунал, пасланць да караля хадайнікаў са скаргамі. Рускія камандзіры ім перадалі, што «сие не дозволено собственными их законами», а любыя падазроныя згуртаванні будуць пакараны секвестрам удзельнікаў.[270] Мсціслаўскі дэпутацкі сеймік увогуле раскалоўся пры выбарах паміж маршалкам М. Цэханавецкім

і войскім Ю. Галынскім. Апошні склікаў за горадам альтэрнатыўны сеймік, делегаты якога ўсё ж ездзілі да караля за патэнтамі на чыны і іх атрымалі.

Напярэдадні майскай сесіі Галоўнага трибунала у Вільні , дзе, як пісаў засланы туды палкоўнік Васіль Кахоўскі, ўсе справы судзяцца «весьма пристрасно и почти все определения делаются по присылаемым письмам из Варшавы»,[271] генеральная канфедэрацыя ў эміграцыі таксама рашыла спапяліць пракаралеўскую фронду і заслала ў ВКЛ агітатараў. Вядома, што ў студзені 1771 г. пад Зельвай сабралася каля 500 канфедэратаў, а пад Райгорадам 300 паўстанцаў спалілі карчму з 21 рускімі салдатамі, а затым рушылі на Шчучын. Удагон ім з 160 ратнікамі праз Пружаны рушыў князь Матвей Фабулаў. 20 сакавіка пад в. Краскі ён разбіў 21 чал. каманды харунжага Томаша Красінскага, які быў пасланы К. Пуласкім з 2 шляхціцамі скалачваць канфедэрацыю Гродзенскага павета. 14 красавіка з-пад Беластока сюды наскочыла 500 чал. пад камандай Ф. Кіркора, якія самастойнымі партыямі сталі рабаваць каралеўскую эканомію і забіраць моладзь у службу. 19 красавіка 71 гусар Фабулава дагналі 300 вершнікаў пад мястэчкам Ялаўка, дзе пакалолі 40 і ўтапілі ў балоце больш 100 чал. Затым 100 гусар і 150 рускіх пехацінцаў дагналі 150 коннікаў Кіркора пад в. Іванкі, дзе забілі аднаго і паланілі трох.[272] Пасля гэтага ваенная калегія Расіі, растрывожаная чуткамі аб таемных змовах, распыліла роты і эскадроны у Ракаў, Рось, Пружаны, Слонім. Як казаў новы пасол Каспар Сальдэрн, з гэтых гарнізонаў афіцэры рабілі часовыя вылазкі, рэціраваліся назад са здабычай і нават«пировали» разам з канфедэрацкімі начальнікамі.[273]

Сесія Галоўнага трыбунала 2 мая 1771 г. выбрала маршалкам мазырскага дэпутата Прушынскага, чаму

патуралі трокскі ваявода Т.Агінскі, літоўскі падскарбі М.Брастоўскі і інфлянцкі ваявода Ю. Гільзен па намаганні Фаміліі. Паводле слоў В. Кахоўскага, гэта выклікала сярод сяброў Расіі «великое уныние, ибо впредь самого нижняго чина какого либо воеводства и повету начальник, зделав вне города в самом числе сеймик, изберет депутатов, а король, уничтожа большинство голосов и место законами предписанное для избрания, определит может своими привилеями в депутаты тех, коих он заблагоразсудит». На першай жа сесіі зяць К. Радзівіла М. Брастоўскі, навагрудскі кашталян Ю. Несялоўскі і сакратар І. Храптовіч счапіліся з І. Масальскім, які самавольна заняў радзівілаўскія графствы Невель і Себеж. За ахову сваёй уласнасці К. Радзівіл абяцаў 40 тыс. чырв. клану Касакоўскіх, мсціслаўскаму капіталяну Юзафу Тышкевічу, падкаморым Нагурскаму, Т. Жабе, Даменіку Мядзекшу. Каб сцішыць свару паноў, В. Кахоўскі прыгразіў М. Брастоўскаму асабістай адказнасцю, 13 чэрвеня паслаў 14 грэнадзёраў пад Полацк заняць маёнткі Касакоўскіх і браць з іх харч сілай. Грэнадзёры тым часам схапілі пад в. Шэвіна полацкага мастаўнічага Ануфрыя Гласку, які сфарміраваў з 80 сялян сваё надворнае войска і іх рукамі абрабаваў караван рускіх купцоў.[274]

Уласна расійскія войскі самі занялі спрэчныя радзівілаўскія ўладанні для харчавання, што прывяло І. Масальскага ў адчай і запаліла помстай праціўны Расіі лагер. 7 чэрвеня пад Гродна падышоў 30-конны атрад ротмістра Палонскага, якога дагналі толькі пад Сянно 30 казакоў паручніка Гіржава, пабіўшы 6 і паланіўшы 11 канфедэратаў. Праз 2 тыдні было забіта 30 і палонена 10 чал. з невядомай парты і пад в. Драздова (блізу мястэчка Семятычы). Ваенную калегію афіцэры засыпалі рапартамі аб дробных рабунках корчмаў і стайняў,[275] што пад

Полацкам блукаюць «шайкі» дробнай шляхты і цыганоў, што Ш. Касакоўскі забраў лінейную харугву і 1 ліпеня да яго прыбыў агент ганеральнай канфедэрацыі генерал Качынскі. Гетман М. Агінскі прыгразіў Касакоўскаму разабрацца за самаўпраўства, як з ворагам. Хаця, як паведаміў В. Кахоўскі, да Ш. Касакоўскага ніхто «из вельмож не прицепился», аднак той паспеў набраць каля 100 чал ахвотнікаў, выправіць іх у падмогу Капцу пад Ашмяны і Прысецкаму пад Браслаў.

Гетман М. Агінскі, які ў гэты час меў 100 чал. надворнага войска, адмовіўся ўжываць уланскія палкі на скарэнне гэтых рухаў і праліцце крыві суайчыннікаў. Ён нават прытуліў у сваім Слоніме Ш. Касакоўскага і з дапамогай пакрыўджаных Масальскіх пусціўся ў в. Целяханы Пінскага павета, каб адтуль планаваць і каардынаваць узброенае выступленне. Касакоўскі запрасіў да ўдзелу полацкага земскага суддзю Ю. Корсака, літоўскага рэгента Сяліцкага, Зіберха, падпалкоўніка Брастоўскага, падкаморага Т. Жабу. 22 ліпеня І. Несялоўскі данёс расейцам, што Т. Жаба прывёў у мястэчка Баруны Ашмянскага павета 50 вершнікаў, што ў Браслаўскі павет прабраўся пераапрануты «расстрига». Станіслаўскі. Яўрэйскія лазутчыкі паведамлялі, што палкоўнік І. Хамінскі стварае слонімскую канфедэрацыю, а ў Шаўлях збіраецца выступіць рэгіментар Пузына.[276]

Усе гэтыя распыленыя атрады стваралі ўражанне аб масавым партызанскім руху у княстве, і таму Кацярына II прызначыла 20 чэрвеня 1771 г. галоўнакамандуючым у Рэчы Паспалітай генерал-маёра Аляксандра Бібікава з рашучым загадам вынішчыць канфедэратаў у Літве. Бібікаў атрымаў 3 корпусы з 22461 ратнікам пры 9042 канях і III гарматах, якія заспеў знясіленымі, без дастатку амуніцыі, жалавання, пры няспынным дэзерцірстве і

пястомных скаргах абываццеляў на сваіх кватарантаў. Санктпецярбургскі легіён, што кватараваў з 23 жніўня 1769 г. са штабамі ў Вільні, Коўне, Нясвіжы і Слоніме, быў раскіданы ў Мсціслаўлі, Магілёве, Полацку, Віцебску, Оршы, Лядах. Па спісе ў ім было 5800 чал., але ў наяўнасці — 792 чал. з якіх «в отлучках» значылася 408 чал. або трэць усяго складу. Увогуле А. Бібікаў пісаў, што распараджаецца 2340 грэнадзёрамі і 300 казакамі і што легіён напоўнены моладдзю, «счастьем избалованной, паче чужестранцами, не знающими языка и, может, российской службы», якія служылі дзеля чыноў і не разумелі, што ад іх патрабуецца.[277] Пасля верасня ён заняўся камплектаваннем з дэзерціраў спецыяльнага батальёна у складзе 8 рот (1268 чал.) пад камандай палкоўніка Івана Дрэвіца, які меўся размясціць у Вільна, Рыге, Смаленску і Навагрудку. У яго прымалі ахвотнікаў, здадзеных панамі ўцекачоў, дзеля чаго з кантрыбуцыйных пабораў адпукалася 8 тыс. руб.[278] (або каля 70 % спагнанняў).

Гэтыя абставіны прымусілі Пецярбург выдаць 25 ліпеня 1771 г. загад генерал-маёру А. Сувораву, які стаяў з 1000 салдат і 8 гарматамі пад Люблінам, прывесці «Литву в полное покорение». Тым часам мсціслаўскі падкаморы Ян Сухадольскі, полацкі стольнік Ян Буйніцкі паведамілі Бібікаву, што маршалкі канфедэратаў А. Ваўрэцкі, Прысецкі ў зборы 200 чал. з'явіліся ў Свіры і выслалі адтуль 35 чал. для захопу актаў ашмянскай гродскай канцылярыі. Пры падыходзе капітана Рамбурга яны адышлі ў в. Навасёлкі для злучэння з атрадам (50 чал.) Кавалеўскага, а 2 жніўня ўжо ў абозе 600 чал. з'явіліся каля Смаргоні. Кавалеўскі зрабіў рэйд у Навагрудак, дзе разбіў палкоўніка Дзірынга і высек на рынку бізунамі плеткароў, якія сеялі чуткі быццам бы ён падкуплены расейцамі. 23 жніўня Ш. Касакоўскі зрабіў набег на

Свянцяны, пабываўшы перад тым 17 жніўня ў Радашковічах.Там ён таксама хапаў яўрэяў у падазрэнні за даносы расейцам аб тым, што М. Агінскі рассылае універсалы ў Пінскі, Слонімскі, Ваўкавыскі, Мсціслаўскі паветы. Між тым гэта падскарбі М. Брастоўскі паведамляў Бібікаву, што Агінскі «из-под руки помогает» гуртавацца маршалкам, што каля Брэста і Мерачы ідуць зборы шляхты, што Я. Гільзен рыхтуе ў базыльянскім кляштары пад Браславам прыпасы, а з Вільні свінец адсылаецца ў Масты.[279]

М. Агінскі сцягнуў пад сваю каманду да 2000 рэгулярнага літоўскага войска, адмовіўся распусціць палкі і 14 верасня 1771 г.разбіў пад в. Рудзькі Пінскай эканоміі батальён з 400 салдат пад камандай палкоўніка Андрэя Албічова. Затым ён заняў Воўчын, Нясвіж, Мінск, Клецк і выдаў універсал, якім заклікаў канфедэратаў злучыцца для абароны веры, вольнасці і незалежнасці Айчыны. Высланыя з розных бакоў (Рыгі, Дзіўнава, Міра) расейскія каманды натыкаліся на сваім шляху на дробнашляхецкія атрады, якія «метались от одной к другой крайности». Як ні паскараў Бібікаў палкоўніка А. Дэ Бандрэ, але яго затрымалі 100 чал.канфедэратаў Леапольда Шалухі паміж Полацкам і Віцебскам.[280]

18 верасня рэшткі батальёна А. Албічова (700 чал.) спыніліся ў Янаве, дзе іх дагнаў ідучы з Брэста ротмістр Ахматовіч з эскадронам і 50 пехацінцамі. Невядома, як і чаму, але ў палон трапіла.520 рускіх салдат з 2 гарматамі. Гэта так устрывожыла А. Суворава, што ён за тыдзень прайшоў маршрутам праз Слонім і пасля 2 гадзін адпачынку там, ужо ўначы 21—22 верасня 1771 г. падышоў з 900 чал. з боку в. Сычаўка да паўднёвай ускраіны мястэчка Стваловічы, дзе начаваў М. Агінскі. Сувораў з ходу ўварваўся ў мястэчка і пасля гадзіны

перакалоў на плошчы каля 300 жаўнераў, захапіў 10 гармат, сцяг, гетманскую булаву і касу у 50 тыс.чырв. 500 чал.гетманскага войска выскачылі на захад мястэчка. У 4 гадзіны раніцы Сувораў атакаваў абоз гарматным агнём і кінуў на яго увесь свой фронт. Кавалерыя змяшала правае крыло абаронцаў і пагнала іх у напрамку мястэчка Маўчадзь. Тут на дапамогу Агінскаму падаспелі 2 уланскія палкі Ю. Беляка (каля 1 тыс.чал.), якія акружылі 3 рускія эскадроны. У 8-гадзіннай сечы Сувораў страціў 78, а Агінскі — 500 чал. забітымі і каля 300 палоннымі.[281] Агінскі збег у Кёнігсберг, а Сувораў рушыў разбройваць яго штаб у Пінску.

Паражэнне рэгулярнага літоўскага войска, як пісаў В. Кахоўскі, так застрашыла шляхту, што сярод яе «исчезла гордость и пышность» і яна ў розных месцах стала адмаўляць у падатках бяздарным сваім абаронцам і вызваліцелям. Пецярбург, акрылены перамогамі, зноў загаварыў аб неабходнасці «отделить себя от Польши реками», як гэта раіў З. Чарнышоў і які, па словах К. Сальдэрна, грувасціў папяровыя ілюзіі аб баяздольнасці ўласнага войска. Сальдэрн раіў захапіць вызначаны ў 1763 г. абшар «врасплох», каб раздавіць супраціўленне «ненавистями, своекорыстными видами и их слабостью». Згода Аўстрыі і Прусіі дазваляла пазбегнуць папрокаў у бесцырымонным парушэнні Расіяй уласнай гарантыі цэласці Рэчы Паспалітай. На нарадзе 7 верасня М. Панін абяцаў выдаць дэкларацыю, «оправдывающую это занятие». Бібікаў абяцаў вынішчыць канфедэратаў на гэтай прасторы да вясны 1772 г. Кацярына II рашыла не дзяліць усю Рэч Паспалітую адразу, каб пакінуць рэшткі рэспублікі буферам або «противовесом при соперничестве великих держав» у рамках новай сістэмы еўрапейскай роўнавагі.[282]

Ш. Касакоўскі атрымаў ад збеглага Агінскага паўнамоцтвы палявога гетмана і на некалькіх канях 28 жніўня прыбыў у Жлобін, дзе забраў 70 уланаў К. Халецкага, кварту з Рагачоўскага староства і розную амуніцыю. Разам з М. Ясінскім ён выдаў акт стварэння Рэчыцкай канфедэрацыі, назначыў Ясінскага сваім намеснікам і выправіў 5 харугваў Беларускай дывізіі на Чачэрск і Гомель. Пры дапамозе 300 вершнікаў І. Юдыцкага ў Гомелі было захоплена 50 рускіх салдат і каса. Колькасць рэчыцкіх канфедэратаў за кошт прымусовых набораў вырасла па чутках да 4000 чал., якія нібыта збіраліся пайсці на Мазыр, каб там абвясціць канфедэрацыю на чале або з К. Халецкім або І. Юдыцкім. Апошні ў якасці рэгіментара Рэчыцкага навета 1 верасня загадаў упраўляючаму Жураўіцкага староства выбраць падаткі з валасці, а «таго з падданых, хто ўзбунтуецца і не пажадае быць паслухмяным, таго пакараць як найсуровей». Потым ён жа патрабаваў з валасці Балотнікі 50 чал., убраных у белыя сярмягі і кашулі, ды прыгразіў, што хто праз 3 дні не стане ў Прапойску, той будзе пакараны «вайсковай карай». 2 верасня Ш. Касакоўскі загадаў бабруйскаму кагалу рассылаць вакол шпіёнаў, імем «сканфедэраванага войска ВКЛ» патрабаваў з яўрэяў 2817 зл., а з староства — 300 руб.кварты на працягу 5 дзён і пад страхам той жа суровай кары.[283]

Адпаведныя загады былі пасланы ў Боханскае і Кулшыцкае староствы. 12 кастрычніка Касакоўскі разаслаў у суседнія ваяводствы і паветы ВКЛ універсал, дзе агітаваў абываацеляў супраць расійскіх войскаў, якія «намагаюцца гвалтам і сваёй моцай ліквідаваць веру і вольнасці». Паколькі шляхта сама баялася прыстаць да «аднадушнага саюза», то ён прыгразіў забраць сялян-рэкрутаў «на патрэбу Рэчы Паспалітай незалежна ад волі

сваіх паноў». Ён абяцаў, што за супраціўленне універсалу канфедарацкае войска расправіцца з кожным як з ворагам Айчыны, «або, яшчэ лепш, як з яго непрыяцелем», або яўным памагатым Расіі. Ён загадаў неадкладна хапаць і караць самавольных зборшчыкаў, пераапранутых у чорнае адзенне канфедэратаў. Касакоўскі асобна звярнуўся да паноў і ўраднікаў Аршанскага павета для вызвалення яго ад чужынцаў, якія ўцёрліся ў край «канспіратыўна, без усякай падставы да вайны, з парушэннем саюзнага трактата». Ён заклікаў іх рушыцца па парафіях, пагражаючы непаслухмяным судом.[284]

Між тым, канфедэрацыя Аршанскага павета была ўтворана 11 верасня на чале з каморнікам ВКЛ, ротмістрам і маршалкам Тадэвушам Штэйнам. Ён назначыў рэгіментарам ротмістра Людвіка Навацкага і распарадзіўся здаць яму «пад найсуровейшай карай» кварту са староства і пагалоўнае з яўрэяў. Акт падпісалі 5 чал. 13 верасня (і 14 лістапада ўжо з Полацка) Т. Штэйн абвясціў богу, Еўропе і Айчыне, што пасля смерці Аўгуста III Кацярына II «кабалістычнымі спосабамі» парушыла фундаментальныя правы краіны, зняважыла каталіцкую рэлігію, «падгарнуўшы сабе Каралеўства і ВКЛ,.. пашырыла рускую манархію, дзеля чаго з уласнай задумы, маючы як інструмент справу грэкаў-неўніятаў, прымусіла сабраных на сейм каталіцкіх паслоў і сенатараў падпісаць гвалтоўны трактат, сваім намерам прымусіла народ Кароны і ВКЛ зняважыць усе правы супраць ератыкоў і адшчапенцаў найсвятлейшай галавы святога рымска-каталіцкага касцёла, устаноўленыя шматлікімі канстытуцыямі, надала ім духоўныя і свецкія прарэгатывы, якія нідзе ім у каталіцкім каралеўстве не належалі і належаць не павінны, а таксама, для паніжэння славы таго ж божага касцёла і святой каталіцкай веры, пакінуўшы ёй толькі

тытул пануючай, адабрала і передала ўрады грэкам неўніятам дысідэнтам, а тым самым, адабраўшы ў польскага народа найдалікатнейшую і найфундаментальнейшую цвярдыню, якой ён ад вякоў канстытуцыямі розных сеймаў у саюз з ВКЛ і прылеглымі правінцыямі інкарпаваны, задумала навярнуць у свае падданства», да якога ўжо 4 гады сваімі войскамі прымушае «нашае панства, аб чым сведчыць канстытуцыя апошняга сейма», пераслед «сканфедэраваных абаронцаў святой каталіцкай веры і вольнасцяў» быццам бунтаўнікоў. Штэйн заклікаў шляхту і «народ» апрануцца ў бронь, прагнаць ворагаў веры, правоў і вольнасці Айчыны, каб «Айчына не трапіла ў маскоўскую няволю».[285]

27 верасня 1771 г.ён выправіў Л. Шалуху ў Оршу з 40 вершнікамі выбраць усе дзяржаўныя падаткі (падымнае, чопавае, шэлезнае, пагалоўнае, кварту, гіберну), «паступаючы з непаслухмянымі як з непрыяцелем». Маёр Іван Кітаеў загадаў па ўсім Полацкім ваяводстве схапіць Л. Навацкага, Т. Штэйна, Л. Шалуху і здаць іх у бліжэйшую рускаю каманду. Тым, хто не даносіў аб іх месцазнаходжанні, ён прыгразіў кантрыбуцыяй у 500 зл., а не маючым гэтага, — суровай карай, паступаючы як з бунтаўшчыкамі.[286] Паведамленне аб тым, што рэчыцкі староста А.Радзівіл паслаў 5000 міліцыі пад Глуск для збору правіянту, прывялі К. Сальдэрна ў шаленства. 4 кастрычніка ён загадаў Галоўнаму трыбуналу і скарбовай камісіі вынішчыць у судовых актах назву «бунтовщиков конфедерациями». Тыя адмовіліся з-за боязі «жестоких выговоров из Варшавы» за касацыю судовых дэкрэтаў. Тады К. Сальдэрн націснуў на князя С. Панятоўскага, які 10 лістапада пазбавіў Ш. Касакоўскага гетманства і папярэдзіў аб тым Браслаў і Жмудзь, куды Касакоўскі разаслаў свае маніфесты.

16 кастрычніка былі разагнаны 150 канфедэратаў пад мястэчкам Раслаўка, 100 чал. — пад в. Вілятаўка, 16 кастрычніка 200 казакоў разбілі пад мястэчкам Петрыкаў 160 чал. з партыі Зарэмбы, паклаўшы на полі 40 забітых і 37 параненых. Злучэнне Касакоўскага (4000 чал.) 1 лістапада 1771 г. пры пераправе р. Нараў каля в. Ліпнікі дагнаў падпалкоўнік М.Фабулаў пры камандзе ў 900 гусараў і грэнадзёраў. 5 лістапааа Касакоўскі з 1500 вершнікамі атакаваў Фабулава і ў 2-гадзінным баі страціў 300 чал. У палон трапіў браслаўскі маршалак Мірскі з 152 жаўнерамі і значным абозам зброі і коней. Праз дзень Касакоўскі страціў яшчэ 15 забітымі і 40 палоннымі. Баявыя дзеянні ён перанёс уласна ў Польшу, куда следам адступілі Зіберх, краўчы Ю. Сапега і палкоўнік Юдыцкі. Там, па даных ваеннай калегіі,сабралася каля 2,5 тыс. канфедэратаў.[287]

28 лістапада 1771 г. А. Бібікаў далажыў аб скарэнні ВКЛ, узяцці Мінска, куды пад эскортам даставілі маршалка Прушынскага. Генерал-паручніку А.І. Раманіусу загадалі забяспечыць 10 рот, 10 эскадронаў і 850 казакоў Санктпецярбургскага легіёна праз запасныя магазіны ў Нясвіжы, Брэсце і Слуцку. Легіён размяшчаўся ў Брэсце, Пінску, Слоніме, Нясвіжы, Быцені, Жыровічах, Даражэвічах, Азярніцы, Кракотцы, Пераваловах, Косаве, Пясках, Пятровічах, Мілавічах, Грыве і Шарашове.[288] Іх рашылі харчаваць з 6 магазінаў (у Вільні , Брэсце, Койданаве, Мастах, Слуцку, Нясвіжы). У слуцкім і нясвіжскім было 3680 чвэрцяў мукі, 318 — круп, 1615 — аўса, 1458 пудоў сена. Да гэтага прадстаяла нарыхтаваць яшчэ 31 тыс. чвэрцяў мукі, 1938 — круп, 48 тыс. аўса і 336 тыс. пудоў сена. Для закупак выдаткоўвалася 60 тыс. чырв. або каля 1 млн.зл. ці 128602 руб. золатам і срэбрам. З гэтага залатога дажджу на панства да красавіка

1772 г. пралілося 110 тыс.руб. Рэштказ гропай не хапала, і магазіны давялося заводзіць у Мінску, Пінску і Кайданах з разліку, што 7 паноў ужо паставілі ў Брэст 11200 чвэрцяў жыта. Затым найшлі зручным дапамогу панства ў забеспячэнні магазінаў у Слоніме і Мастах, адкуль прадбачылася вывезці 2098 бочак жыта для продажу у Кенігсберг. Смірныя абываце лі былі абавязаны дадаткова паставіць 7900 чвэрцяў жыта, 1082 — круп, 22612 — аўса, 154900 пудоў сена. 8 магнатаў, меўшых разам 225535 зл. гадавога даходу, абавязалі кантрыбуцыямі, 27 чал. вызвалілі ад нарыхтовак, тром плацілі грашыма, а з 23 чал. бралі пад папяровыя квітанцы.[289]

Гэтыя ўзаемавыгадныя ўмовы нечакана патрывожыў 13 студзеня 1772 г. брэсцкі маршалак Ануфры Буклеўскі, які з Мазовіі праследаваў праз Шарашова і Ляхавічы ў напрамку Пінска. Пад в. Дрэнцель ён страціў 9 чал. ад пагоні, але на чале 300 чал. свайго таварыства пракраўся да Петрыкава і стаў у в. Дарашкевічы. 8 лютага 1772 г. яго дагналі 60 гусар і 50 казакоў і пры хуткай атацы Буклеўскі трапіў у палон разам з 4 афіцэрамі, 80 радавымі, 200 каньмі і іншым абозам.[290] Апошнюю дыверсію ў межы ВКЛ распачаў 5 сакавіка 1772 г. паручнік Валеўскі на чале 400 вершнікаў. Яго 19 сакавіка пад мястэчкам Нараў разбіў капітан Сумскага гусарскага палка барон Горват. Пры пагоні паміж Цэханаўцом і Чыжамі Валеўскі страціў 46 забітых і 22 палонных. Тады ж каля Кобрына была палонена група з 80 канфедэратаў пад камандай шляхціца Людвіка Галіцкага, які некалі ваяваў з Пуласкімі. 31 сакавіка пад в. Шпакі і Семяцічы Валеўскі страціў апошніх 8 з 15 чал. сваіх змагароў.[291]

Каб шчыльна закрыць заходнюю мяжу ВКЛ ад пагрозлівых дыверсій, 26 сакавіка 1772 г. са Смаленска выправілі 3000 башкіраў, якія ішлі праз Оршу на Барысаў

і праз Магілёў на Беразіно. З іх дапамогай 23 красавіка 1772 г. пад в. Кажамякі на р. Буг было забіта 30 і палонена 5 чал.з таварыства ротмістра Сташэвіча, а ў чэрвені ў Бабруйску раззброена 120 чал. Узброены рух у ВКЛ быў задушаны. Уведзеныя 5 лёгкаконных палкоў паставілі ў Друі, Полацку, Бабруйску, Мінску і Рагачове ў дадатак да 9 палкоў у Віцебску, Лоеве, Лядах, Магілёве, Мсціслаўлі, Оршы і Себежы.[292]

Гэтыя каманды пачалі, так сказаць, ідэйнае раззбраенне шляхты. На лютаўскім сейміку 1772 г. 35 ураднікаў і дыгнітараў Віцебскага ваяводства выбралі дэпутатаў у Галоўны трыбунал без якіх-небудзь перашкод.[293] Сход 11 ураднікаў Аршанскага павета адбыўся 5 лютага пад заслонай 300 рускіх коннікаў, якія дапамаглі маршалку М.Храпавіцкаму і падкамораму, харунжаму Мартыну Антону Ратамскаму канфіскаваць пратаколы і пячаткі мясцовай канфедэрацыі. Пры тым паліліся будынкі — відаць, так хавалі канцы. Гэтае кола, з якога большасць у 1766 г. галасавала супраць дысідэнтаў, зараз заявіла, што «ніякіх думак да ўзняцця канфедэрацыі не мае». Яны вызначылі з 12 староостваў 626 асьмін аўса, 12762 пуды сена, а з 5 прыватных маёнткаў — адпаведна 2935 і 4383. Гэты расклад быў крыху зменены 16 сакавіка, калі з кожнага дыма патрабавалі звезці ў Койданава па чвэрці жыта, гарц круп, чвэрць аўса і 4 пуды сена.[294] 4 лютага сход 207 чал. шляхты Мсціслаўскага ваяводства выбраў дэпутатаў у трыбунал, паслаў войскага Яна Галынскага і падкаморыца Юзафа Кіркора выказаць каралю «сардэчны жаль і смутак» з нагоды нядаўняга замаху «на аднаго з найлепшых каралёў, вернага панству і каханага зараз падданымі, высакамудрага, зычлівага, які ставіць нас вышэй усіх замежных народаў». Караля прасілі ўпрасіць Кацярыну не замахвацца на асобы і спакойнае трыманне

імі сваіх уладанняў. Яны пажадалі слухацца польнага гетмана А.М. Сапегу.[295] У маі яны паслухмяна выбралі правіянцкіх камісараў.

3 лютага 1772 г. сход 128 чал. Рэчыцкага павета ледзь не сарваў земскі пісар і былы (1766 г.) павятовы маршалак К. Хлявінскі. Гэты антыдысідэнт, «прыабвыклы на ўсякіх публічных з'ездах і грамнічных сейміках парушаць публічны спакой», навёў казацкага палкоўніка, які арыштаваў М. Маліноўскага і парабаваў коней у сялян Журавіцкай воласці, што належала І. Юдыцкаму. Прарасійская партыя на чале з рачанскім старастам і маршалкам К. Халецкім вызначыла фуражовы пабор: 150 бочак жыта, 10 — круп, 720 — аўса, 15000 пудоў сена, што абавязаліся звесці «да Літвы» ў Навагрудак і Слонім. 31 лютага ўжо 251 чал. заявілі,што колішні Ш. Касакоўскі «некаторых прымусам згвалціў да свайго саюза». Усе прысутныя абавязаліся кругавой парукай не прыставаць да неспакойных саюзаў. 27 чал.на чале з К. Халецкім адракліся ад падобных спраў у далейшым.[296]

Без усякіх канкрэтных пастаноў 4 мая 1772 г. скончыўся сход 110 абываццеляў Полацкага ваяводства з удзелам архіепіскапа Ясона Смаржэўскага, мсціслаўскага кашталяна Хрыстафора Шчыта, падваяводы Т. Корсака, канюшага Казіміра Пакоша. Яны паслалі да караля гродскага суддзю А. Свалынскага і харунжага Мартына Шчыта. У гэтым пытанні сход раскалоўся, бо 22 «патрыёты» ў Бабчы выбралі ў пасольства шэвінскага і бецкага старасту Т. Прысецкага. Чашнік К. Прысецкі і земскі суддзя Антон Вікенцій Рагоза ад імя прысутных засведчылі адно жаданне не цярпець праходаў рускіх войскаў.У цэлым, амаль трэць прысутных на лютаўскіх сейміках адракліся ад сваіх ранейшых пазіцый 1766 г. па дысідэнцкім пытанні. Бадай што апошнім рэхам барскіх

падзей стаў учынак капітана літоўскай гвардыі Паўла, паручніка Зыгмунда і генерала пінскага палка Яна Грабоўскіх, якія 5 мая 1772 г. з дапамогай «замежнай зброі» (рускіх салдат) абрабавалі рухомасць у радзівілаўскіх фальварках Асценічы, Духавічы, Цэтра Навагрудскага ваяводства,[297] прычыніўшы там шкоды на II тыс.зл.

Такім чынам, напачатку 1772 г. узброены рух у ВКЛ быў падаўлены, а яго прамыя і ўскосныя ўдзельнікі капітулявалі і адракліся ад супраціўлення, звязаўшы наперад усю шляхту калектыўнай адказнасцю.

Барскі рух толькі лозунгамі меў рэлігійнае і антырускае значэнне. Ад зараджэння і па сутнасці ён уяўляў у ВКЛ чарговую хвалю падзелу радзівілаўскай спадчыны, увогуле перападзелу паміж магнацкімі кланамі зямлі і адказнасці за стаптанне выбарчай роўнасці ўсяе шляхты, яе кругавой парукі за навязаную чужаземную апеку і страту незалежнасці.

Зрывы сесій Галоўнага трыбунала ў маі і выбараў на сейм у верасні 1768 г. звалілі шляхецтва ў вір узаемарабаўніцтва, палявога самасуду, спроб самааховы жыцця і маёмасці ў выглядзе партызанскіх (гайдамацкіх) атрадаў і канфедэрацый. Канфедэрацыі хутка сталі прыладай прымусовай арганізацыі дзеля расправы над палітычнымі праціўнікамі, якія Расіі ўдавалася разганяць і знішчаць паасобна. Канфедэрацыі 1769—1770 гг. канчаткова ўкінулі шляхецкі стан ва ўзаемазнішчальную грамадзянскую вайну, вядомую як славутая анархія.

Следам за адменай падымнага з шляхецкіх уладанняў адзінай крыніцай утрымання літоўскага рэгулярнага войска сталі дзяржаўныя маёнткі, якія трымалі каралеўскія (прарускія) стаўленікі. Скіраваны на іх гнеў канфедэратаў вынішчыў плацежаздольнасць староstваў і выклікаў неспакой сялян. Расія не заступілася за

непапулярных людзей, а літоўскае войска пабаялася праліваць братнюю кроў. У выніку яно апынулася небаяздольным без падаткавай падтрымкі і было ў 1771 г. разгромлена за спробу самастойнага паўстання.

Дэмаралізаваная ваенна-фіскальным уціскам Расіі і свайго скарбу, шляхта адмовіла ў падтрымцы чарговага прымусовага згуртавання і ў Беларускую дывізію і ў генеральную канфедэрацыю на чале з польным гетманам Ш. Касакоўскім. У выніку канфедэрацкі рух канчаткова раскалоўся паміж лідэрамі і тэрыторыямі краю, што дазволіла Расіі паспяхова скарыць супраціўленцаў маёмаснымі рэквізіцыямі.

Знаць узяла бок Расіі, каб вызваліць уласныя маёнткі ад кантрыбуцый і з выгадай карыстацца харчовым забеспячэннем акупантаў. Урады ВКЛ і, верагодна, большасць шляхты мусілі следам заняць пазіцыю чакання перамогі больш моцнага. Расія карысталася гэтай палітыкай двух крэслаў і самазнясільвання дзеля замацавання ўласнай дырыжорскай ролі міратворца і выратавальніка краю ад т. зв. анархіі.

## § 4. Легітымацыя першага падзелу: сейм 1773—1775 гг.

Уласнае бяссілле барскія канфедэраты падмацавалі ў 1771 г. няўдалым замахам на С. Панятоўскага, што выклікала абурэнне манархаў Еўропы. Рэч Паспалітая апынулася сам насам з патаемнай змовай Прусіі, Аўстрыі і Расіі аб яе першым падзеле.

Ужо у лютым яны дамовіліся абысціся пры той дзяльбе без узаемнага кровапраліцця або еўрапейскай вайны. Пазней М. Панін растлумачыць: пры двары рашылі разабраць рэспубліку на кавалкі «яко эквивалент имеющихся своих на Польше справедливых и неоспоримых прав и претензий, по коим они от республики никакого удовлетворения не получили еще, да инако едва ли когда и получить могли б». Кацярына II пры гэтым вельмі баялася, што ўзвышэннем сваіх прэтэнзій «мало помалу три державы поделят между собой всю республику Речь Посполитую» і, замест раўнавагі доляў, пасварацца і пазбавяць Расію еўрапейскага калідору ўплыву.[298] 5 жніўня 1772 г. Аўстрыя, Расія і Прусія падпісалі канвенцыю, па якой, дзеля ліквідацыі анархіі ў Рэчы Паспалітай, Прусія займала 36 тыс. км$^2$ з насельніцтвам у 580 тыс. чал., Аўстрыя – 83 тыс. км$^2$ з насельніцтвам больш 2,600 тыс. чал., а Расія займала ўсходнебеларускую частку ВКЛ плошчай у 92 тыс. км$^2$ і з насельніцтвам у 1300 тыс. чал.[299] 15 верасня С. Панятоўскаму было заяўлена, што пры супраціўленні ён страціць карону і «ўсё да апошняга ложка».[300]

Прэтэнзіі рускага двара былі складзены М. Паніным напачатку мая 1772 г. і 15 чэрвеня адасланы на ўзгадненне Фрыдрыху II.[301] Усяго Кацярына II назвала 983749 дзес. «лутчей и плодоноснейшей земли, издревле России

прынадлежавшей», якая «насильно удерживается польской стороной с 1523 года». У поўнай адпаведнасці з меркаваннем М. Паніна ў 1766 г., Расія займала «древния российские посессии» у двух частках: адну (138541 дзес), як страчаную 60 гадоў назад (г.зн. з 1712 г.), а другую (825208 дзес.), як заселеную з 1523 г. «по большей части малороссийскими подданными, обольщенными от польского шляхетства». Прычым Кацярына II дазваляла сабе «потом дать точное означение своей доли».[302] Караля яна вінавацiла ў засяленні староставў «подговоренными беглыми» і ў чым ён не можа адкруціцца няведаннем, бо, аказваецца, імператрыца «сама дала согласие и вспомоществовала оному» пасяленню ўцекачоў. Пры ацэнцы 1 дзес. у 10 кап., увесь кошт адарваных ад Расіі зямель выстаўляўся ў суме 5878872 руб.

Далей называлася лічба ў 300 тыс. зманеных з Расіі ўцекачоў, за 61-гадовае ўтрыманне якіх шляхта Рэчы Паспалітай пазбавіла рускіх памешчыкаў не менеи 915 тыс. руб., з разліку 5 кап. за рэвізскую душу.[303] Далей гаварылася аб пагвалчанні ўладанняў праваслаўных манастыроў, якія належаць ім «по всем на свете правам», з дадаткам разаральных судовых трат. Самавольныя прысваенні мытных збораў польскімі чынамі і шляхтай даводзілі ўрон Расіі да 10 млн. руб., хаця ў апошняй рэдакцыі расійскія страты ацэньваліся «по самой меньшей оценке» ў 21 млн. руб. (каля, 1,5 млн. польскіх злотых). Па сутнасці ў такім памеры Кацярына II вымагала кантрыбуцыю альбо кампенсацыю ўжо загадзя занятымі землямі. Яна прыгразіла С. Панятоўскаму, што не звязвае сябе ніякімі абавязацельствамі абароны цэласнасці Рэчы Паспалітай у выпадку росту дамаганняў іншых суседзяў. Кароль толькі здзівіўся, як гэта адна і тая ж рука гарантуе ў 1768 г. цэласць правінцый рэспублікі, а ў 1772 г.

прысвойвае іх пад зачэпкай шкод, прычыненых за 60 гадоў.[304] У любым выпадку відавочна, што свае прэтэнзіі Расія распачынала прыкладна з 1710—1717 гг., якія ў 1768 г. браліся для адліку пры ўрэгуляванні спрэчак вакол адабраных у унію праваслаўных цэркваў і вернікаў.

З восені 1772 г. змоўшчыкі апанавалі вызначанымі долямі, а прыкладна ў лютым 1773 г. М. Панін напісаў сакрэтнае прадпісанне міністрам трох двароў адносна сумеснай легалізацыі падзелу і здзейсненага захопу на «сейме примирения» Рэчы Паспалітай. Пачынаў ён запіску з таго, што «или земские послы учинят конфедерацию как бы чрез собственное побуждение и тот час учредят сейм под сею конфедерациею», або міністры ўчыняць канфедэрацыю перакананнем, войскамі і подкупам праз супольную касу у 150—200 тыс. яфімкаў. Сейму міністры меліся «представить все могущее произойти от продолжительности бедств в государстве и дать почуствовать всем его членам..., что как три двора еще отдают в их волю спасти свое отечество, то от них зависит взять кратчайшую и надежнейшую дорогу для достижения того», а дакладней – узаконіць падзел і замацаваць новы лад «приличествующий срединной державе». Варта запомніць гэтае дакладнае месца земскіх паслоў у будучым спектаклі выратавальнікаў Айчыны.

Міністры меліся патрабаваць ад сейма паўнамоцную дэлегацыю, ад якой належала «настоять в точном и совершенном отказании республики от земель и дистриктов, кои каждой взял в свое владение». Пасля такой добраахвотнай саступкі ўсе тры двары адмаўляліся ад сваіх прэтэнзій, а соймавая дэлегацыя аддавала ім архівы і дакументы на аддадзеныя землі з агаворкай, што «никогда не будут упоминать о управлении сих провинций в актах республики, а что всё, касавшееся до их, яко

составляющих часть ея областей, уничтожено, а именно 13 и 14 статьи фундаментальных законов относительно прусских городов и Ливонии». Затым прадугледжвалася ратыфікацыя трактата аб падзеле на сейме. У трактаце мелася пацвердзіць канстытуцыю 1768 г. адносна выбарнасці каралёў, што наступнік трона ставіцца з палякаў толькі пасля смерці дзеючага манарха, што «правительство польское останется навсегда республиканским» і што ліберум вета застанецца «непременным законом».

Панін раіў скасаваць усе рэформы Фаміліі, спіхнуць каралеўскіх сваякоў на пачэсныя пасады «меньшего уважения», стварыць пры каралі тайны савет з вядомых сенатараў па яго выбару і са згоды сейма. Ваенная і скарбовая камісіі скасоўваліся, войска павялічвалася на 6 тыс. чал., гетманы пазбаўляліся права смяротнага пакарання падначаленых. Магчыма М. Панін зыходзіў з мадэлі канстытуцыйна абмежаванай манархіі Швецыі, якую, як узор, імкнуўся прыстасаваць адносна Рэчы Паспалітай і самой Расіі. Судам пакідалася выбарнасць «для избавления оных мест от всякой зависимости от короля или знатнейших». Каб сенатары «не чрезмерно разбогатели», каралеўскім прыдворным аддавалася «дань размеренная по староствам, пожалованных разным людям до сего сейма». Каралю дазвалялася раздаваць староствы не менш як па 2 у адныя рукі і каб яны разам прыносілі ў год не больш 7—8 тыс. чырв. Яму забаранялася дараваць вакантныя староствы родзічам трымальнікаў: яны вярталіся ў скарб свабоднымі для новых падараванняў, а не так, «как полякам хочется».

Вялікай небяспекай для «безопастности вольности сеймиков» Панін лічыў парушэнне надалей балансу паміж станамі, калі шляхту збіралі на выбары толькі праз 2 гады, тады як кароль з сенатам «постоянно и завсегда в

действии пребывают даже между сеймами». Ён задумваў увесці ў сенат шляхецкіх давераных, якія б мелі ў ім голас «с правом протестации против всего, что в оном будет предложено или заключено в противность конституции или же правил и выгод их чина». Такую процівагу пастаянна правячым станам Панін бачыў у прыняцці дысідэнтаў на дзяржаўную службу, якім дазваляў байкатаваць і кампраметаваць вярхоўныя інстанцыі («они могут отречься от сената и министров»). А каталікі, гаварыў ён, няхай адмовяцца ад пакарання за пераход у іншую веру – «закона варварского и которой в таком просвещенном веке... будет уничтожен».[305] Такім шляхам дысідэнты ад шляхты маглі законна падвяргаць сейм пагрозай зрыву за незадавальненне сваіх патрабаванняў. Дадзеныя палажэнні залічаліся да кардынальных (непарушных) прынцыпаў дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай.

Яшчэ ў чэрвені 1772 г. М. Панін абумовіў адказ Кацярыны II ад гарантыі цэласнасці Рэчы Паспалітай беспаспяховымі захадамі «уничтожить иностранное влияние, служившее постоянным источником смут и несогласий» при выбарах караля. Па-другое, ён пісаў, што Расія не будзе больш падтрымліваць гарантыі «презираемой и отвергаемой... голосом большей части нации, которой остальной народ рукоплещет или поощряет ее своим молчанием». Нарэшце, расійскія правы ён называў «не голословным обвинением. Обстоятельство это неоспоримо и доказано самыми точными документами и тысячами очевидцев». Ён нават у запісцы 26 чэрвеня браў усходнебеларускі абшар ВКЛ дарма і адракаўся ад рэпарацый за згаданыя траты на ўзвядзенне С. Панятоўскага і бясплённы зварот уцекачоў.[306] Гэта быў ягоны прысуд усім ранейшым сваім сябрам, якія на міністэрскай нарадзе 17 кастрычніка 1772 г. назвалі прад'яўленыя дамаганні

«няслушнымі, гвалтоўнымі і супраціўнымі справядлівасці».[307] 2 снежня Кацярына II ультыматыўна патрабавала ад караля склікаць сейм да 12 сакавіка 1773 г., а 2 лютага 1773 г. вызваліла арыштаваных некалі сенатараў ды заадно прыгразіла скасаваць сам сенат, секулярызаваць духоўныя ўладанні і, як сцвярджаецца ў літаратуры, скасаваць прыгонніцтва сялян.[308] У апошнім выпадку, відаць, меўся на ўвазе аднабаковы перавод уніятаў у праваслаўе насуперак дамовы аб замоўчванні іх да рашэння змешанай камісіі.

Пад такім шантажом сейм быў скліканы на 19 красавіка 1773 г., а выбарчыя сеймікі – на 22 сакавіка. Кароль заклікаў прысылаць асоб «ведаючых крыўды і правы Айчыны, якія належыць пацвердзіць, паправіць або адмяніць для захавання» Рэчы Паспалітай. Ён пагражаў выбаршчыкам уласнай смерцю і новымі ўзрушэннямі пры паўтарэнні бескаралеўя. 26 лютага расійскіх афіцэраў разаслалі на шляхецкія сходы запэўніваць «добрых патрыётаў» аб гатоўнасці рускай казны аплаціць кантрыбуцыі і папярэдзіць бурыцеляў спакою канфіскацыяй маёнткаў.[309]

Вызваленыя з сібірскай ссылкі вязні апынуліся пакутнікамі за веру і Айчыну і сталі націскаць на абражаны патрыятызм шляхты. К. Солтык агітаваў дэтранізаваць караля, сарваць сеймікі. На іх шырока насілася думка аб тым, што пачцівайму чалавеку не варта рабіцца паслом, каб не запрадаваць адназемцаў у чужынную няволю. Іншыя казалі, што пры зрыве выбараў захопнікі пашлюць на сейм патрэбных асоб, якія паслухмяна падпішуць падзел краны, прымуць непажаданую форму урада, абкладуць цяжкімі падаткамі і да ўсяго вызваляць сялян. Вырашылі выслаць паслоў з абавязацельнымі інструкцыямі бараніць прызваітыя правы і парадкі.

Да прыкладу, 306 удзельнікаў сейміка Гродзенскага павета пад маршалствам Юзафа Валовіча 19 красавіка 1773 г. абавязалі харунжага Ю. Ельскага і суддзю К. Валовіча «адвесці вольнае сеймаванне ад анархічнай бездані..., шукаць спосабы паратунку краіны, захавання цэласці Айчыны, забяспечыўшы веру, вольнасці і айчынныя свабоды на самай чыстай праўдзе і існасці». З погляду на «нерэгулярнае ападаткаванне, насуперак правіла разумнага заканадаўства адных збядняючага, а іншых няроўна закранаючага, гледзячы на нікчэмнасць краёвага гандлю, на нvenерагодную мізэрнасць рамёстваў і рукадзелляў, на заняпад і незаселеныя гарады і вёскі, на іх збяднелых жыхароў, большай часткай некарысных і бяздзейных, улічыўшы яшчэ недахоп справядлівасці ў судах, на вядомыя парушэнні правоў, на прысваенне імі заканадаўчай улады, на знявагу грамадскасці і адхіленне думкі ўбогіх і немаёмных, зняважаных адборам фундушаў пад публічную пратэкцыю, словам, стоячы на руінах фальшывай палітыкі мінулага ўрада», паслам загадвалася закласці «грунтоўны ўрад» выключна на падставе дэпутацкіх паўнамоцтваў. Аднак гэтыя ініцыятывы надзіва шчуплыя. Павет жадаў непарушнасці каралеўскіх і шляхецкіх уладанняў, узнагародзіць пацярпелых сенатараў і годных абывацеляў (прынамсі, прасіў вялікую булаву С. Ржавускаму, літоўскае падканцлерства — І. Храптовічу, а трыбунальскую ласку — земскаму суддзю М. Алізаровічу).[310]

У інструкцыі 24 сакавіка паслам Пінскага павета (земскаму суддзю Адаму Скірмунту і гродскаму суддзю І. Куржанецкаму) 86 сабраных пад старшынствам харунжага Юзафа Куржанецкага прапаноўвалі сейму злучанымі сэрцамі апратэставаць замахі на цэласць краіны, не схіляцца на знявагу гарантый Аліўскага, Велаўскага

трактатаў і дэкларацыі 1764 г., загадвалі вывесці чужаземныя войскі і ні ў чым не адступаць ад паўнамоцтваў, у тым ліку пакараць асоб, што замахваліся на караля, не абцяжарваць духоўныя ўладанні новымі падаткамі і сцерагчы інтарэсы павета «без крыўд існуючага пры абмеркаванні публічных матэрый».[311]

Вельмі выразна абавязваў падкаморыца Т. Рэйтана і земскага пісарэвіча сход 23 асоб Навагрудскага ваяводства, сабраных 24 сакавіка пад маршалствам падкаморага І. Рдултоўскага. Сваіх паслоў тут назвалі заступнікамі «краёвай цэласці і каралеўскіх годнасцяў перад унутранымі і знешнімі ўціскамі», патрабуючы яшчэ да адкрыцця сейма апеляваць да гарантаў суверэннасці «Польшы», вызваліць зняволеных, выдаліць чужынскія войскі «з усіх польскіх краёў», на падставе Аліўскага, Велаўскага дагавароў і абяцанак Расіі ў 1764 г. аб цэласці межаў, «пад пагрозай страты жыцця і маёнткаў не дазваляць падзелу краю трыма суседзямі, паяднанымі моцай, і не ўдавацца ў апрабацыю альянсу з самай меншай часткай таго каралеўства». Сход таксама прасіў пакараць смерцю за замах на караля, з дапамогай Масквы асудзіць пераяслаўскага епіскапа «за ўціскі, арышты і знявагу уніятаў у Кіеўскім і Брацлаўскім ваяводствах, дабіцца паправы даўніх і сучасных правоў і дасканалай формы ўрада».[312] 61 удзельнік брэсцкага сейміка 23 сакавіка пад старшынствам кашталяна Мартына Матушэвіча даручалі мечніку ВКЛ Міхаілу Гераніму Радзівілу і земскаму суддзю Францу Нямцэвічу засцерагаць пануючы статус каталіцкай рэлігіі, непарушнасць межаў Рэчы Паспалітай, кардынальныя правы, бяспеку земскіх у духоўных уладанняў у ВКЛ згодна уніі з Каронай «па Статуту», прадухіляць гвалтоўнае раскраданне пасэсій у каралеўскіх эканоміях. Практычна палова пунктаў інструкцыі рупілася пра

прыватныя інтарэсы: вызваліць з-пад секвестру уладанні К. Радзівіла, перанесці ў Брэст або Навагрудак судовую справу жмудскага пасла Гротуса, кампенсаваць пакрадзеныя ў Гданску хлеб і жывёлу, даць вялікакняскую пячатку І. Храптовічу.[313]

Кола з 14 чал. Мазырскага павета пад маршалствам І. К. Аскеркі, пасылаючы падкаморага Канстанціна Людвіка Яленскага, земскага пісара А. Лянкевіча, 23 сакавіка акрамя пакарання за замах на караля прасілі «айца Айчыны» ужыць усе сродкі на паратунак гінучай краіны, забяспечыць «вольнасці польскага народа і цэласць Айчыны». Сеймік прасіў зрабіць канстытуцыйным правілам абавязак вяршыць расправу над уцёкамі сялян з Кароны ў «літоўскую правінцыю і, наадварот, з літоўскай правінцыі ў Карону» там, адкуль адбыліся ўцёкі. Сход рэкамендаваў да адзнакі судовага старасту Гедэона, земскага суддзю Рафала Яленскіх, прасіў вызваліць за публічныя паслугі маёнткі маршалка К. Аскеркі ад падымнага падатку і перакласці апошні на іншыя ўладанні.[314] 22 сакавіка 123 ураднікаў і шляхты Мінскага ваяводства на сейміку пад старшынствам земскага суддзі Францішка Уніхоўскага пасылалі на сейм краўчага Т. Валадкевіча і полацкага стражніковіча С. Багушэвіча з абавязкам «звыш інструкцыі ні ў якія іншыя матэрыі і абставіны звычайных сеймаў, дзеля перамоваў і ўстанаўлення ўласных правоў, не ўдавацца, і імем бога засцерагаем і загадваем бараніць веру, вольнасці, правы і свабоды народныя». Сеймік горача і моцна прасіў караля з сеймам шукаць «ласкавы і вынікoвы спосаб звароту разабранага краю пры забеспячэнні на будучае бяспекі і поўнай цэласці межаў сваёй Айчыны». Таму і тут не жадалі жыць «быццам у заваяваным і непрыяцельскім краі», патрабуючы вываду чужынскіх войск і задавальнення панесеных ад іх крыўд і пабораў.[315]

Нарэшце, інструкцыя Лідскага павета за подпісам 32 асоб пад старшынствам маршалка Ежы Антона Іодкі абмежавала харунжага Юзафа Нарбута і скарбніка Юзафа Казіміра Стэпалкоўскага вельмі сухімі абавязкамі. Яны меліся асудзіць замах на караля, не згаджацца з прысутнасцю чужаземных войск. Паслоў імем Айчыны і абывацельскага сумлення заклікалі захаваць кардынальныя правы і непарушнасць уніі Кароны і ВКЛ.[316] Акрамя гэтых агульных паўнамоцтваў, некалькі канкрэтнае аблічча аб падзеях на выбарчых сходах дазваляе ўявіць перыпетыя з пастаўкамі ў Слонімскім павеце. Тут у лютым сеймік вызначыў пабаровым камісарам плату з умовай, каб пры здачы фуражу кожны падрадчык уласна знаходзіўся пры ўзважваннях. Злоўжыванні былі пашыранымі, так што слонімскі сеймік 10 красавіка вызначае аднастайныя цэны і меры. Сеймік забараніў пасылаць для збору паставак вайсковыя каманды без ведама і прысутнасці камісараў і патрабаваў вывозіць фураж толькі на сялянскіх вазах.[317] Павет, відаць, згаджаўся на прысутнасць замежных войскаў, але яго паслоў не аказалася на сейме (табліца 8).

*Табліца 8*

***Спіс паслоў на сейм 1773 г. ад ВКЛ***

| Прозвішча | Пасада і чын | Прадстаўляў |
|---|---|---|
| Багушэвіч Станіслаў<br>Валадкевіч Тадэвуш | стражніковіч, капітан<br>краўчы | Мінскае ваяводства |
| Волмер Казімір<br>Ельскі Юзаф | земскі суддзя<br>харунжы | Гродзенскі павет |
| Віршша Ежы<br>Прушаноўскі Мікалай | краўчы<br>падчашы | Рэчыцкі павет |

*Працяг табліцы на стар. 182*

| Прозвішча | Пасада і чын | Прадстаўляў |
|---|---|---|
| Булгарын Міхаіл | земскі пісар | Ваўкавыскі павет |
| Талочка Антон | войскі, судовы падстараста | |
| Жынеў Матэуш | бярніцкі староста | Старадубскі павет |
| Корсак Самуэль | земскі пісарэвіч | Навагрудскае ваяводства |
| Рэйтан Тадэвуш | падкаморыц | |
| Куржанецкі Ігнат | гродскі суддзя | Пінскі павет |
| Скірмунт Адам | земскі суддзя | |
| Лянкевіч Адам | земскі пісар | Мазырскі павет |
| Яленскі Канстанцін Людвік | падкаморы | |
| Міхневіч Томаш | | Ковенскі павет |
| Нарбут Юзаф | харунжы | Лідскі павет |
| Стэпалкоўскі Юзаф Казімір | скарбнік, гродскі пісар | |
| Нямцэвіч Францішак | земскі суддзя | Брэсцкае ваяводства |
| Радзівіл Міхаіл Геранім | мечнік ВКЛ, князь | |
| Шаўман Ежы | гродскі суддзя | Браслаўскі павет |
| Тамашэвіч Багуслаў | гродскі суддзя | |
| Шумскі Томаш | | Віленскае ваяводства |
| Чыж Юзаф | стражнік | |

*Крыніца: НГАБ, ф. 1785, спр. 53; Choejcki R. Patryotyczna opozycija na sejmie 1773 r. // Kwartalnik Historyczny. 1972. R. 39. Z. 3. S. 553—561.*

У цэлым, акрамя адарваных усходніх зямель ВКЛ, шляхту прадстаўлялі 25 паслоў[318] і 8 сенатараў (Я.Е. Борх, М. Чартарыжскі, літоўскі падканцлер І. Храптовіч, надворны літоўскі маршал Уладзіслаў Гуроўскі, І. Масальскі, навагрудскі ваявода Ю. Несялоўскі, А. Сапега, Г. Вадзінскі, смаленскі кашталян Андрэй Зянковіч). Большасць

інструкцый не абцяжарвалі канкрэтныя парады вывесці край з фальшывага лабірынту мінулай палітыкі і ўсе апелявалі да прызнанага караля. Верагодна, гэта звязана з тым, што з 150 ўраднікаў, падпісаўшых на 7 сходах наказы ў 1766—1767 гг., ужо выказваліся за саюз з Расіяй. Большасць наказаў у катэгарычнай форме забараняла паслам пагаджацца на тэрытарыяльныя саступкі агрэсарам. Так або інакш, большасць арыентавалася на самастойнае ўладкаванне рэштак краіны, але, зноўжа, у змове з Расіяй. Наяўнасць пунктаў аб вывадзе войскаў і кампенсацыі за іх рабункі арыентавала будучы сейм на сепаратныя перамовы. Гэта была прадвызначаная пазіцыя!

Сейм завязаўся ў канфедэрацыю, каб пазбегнуць яго зрыву чым-нібудзь пратэстам. Яго ўзначалілі два маршалкі (каронны кухмістр Адам Панінскі і М.Г. Радзівіл). 16 красавіка 1773 г. 76 паслоў (з усіх 144 наяўных) сканфедэравалі сейм «пры каралю, каталіцкай веры, старадаўніх правах і вольнасцях». Акт асудзіў усе справы Барскай канфедэрацыі, назваў яго ўдзельнікаў «вырадкамі народа», якія прычынілі краіне «зруйнаванне месцаў, знішчэнне багаццяў, разліў брацкай крыві, звальванне народных прарэгатыў і, нарэшце, адрыў і распаласаванне краю, пазбаўленага сіл і ўсякай абароны».[319] Барчанам адвялі 6 тыдняў на адрачэнне ад мінулага. У той жа дзень былі створаны суды новай генеральнай канфедэрацыі на чале з абодвума маршалкамі і ў складзе 9 канцылярыстаў, пароўну ад Кароны і ВКЛ. Яны меліся судзіць крыміналы аб злоўжываннях чыноў, у тым ліку невыкананне дэкрэтаў канфедэрацыі, апеляцыі пакрыўджаных і недаведзеных мясцовымі судамі да канца. Іскі дазвалялася падаць на працягу двух тыдняў праз возных. Жыхарам ВКЛ абяцалі, што «інтарэсы і справы ВКЛ будуць вырашаны» згодна з літоўскімі правамі і звычаямі.[320]

Сапраўдная цана гэтага літоўскага сепаратызму відаць з наступнага. Пад час закуліснай валтузні адносна рэпрэсій барчан з іх палымяным патрыятызмам прагучала патрабаванне правесці сейм у ВКЛ, з-за чаго пяршынствуючым маршалкам рабіўся М. Радзівіл. Аднак на яго кандыдатуру адразу запярэчылі самі літоўскія паслы. 19 красавіка, пры адкрыцці сейма, навагрудскі пасол Т. Рэйтан назваў выбар Радзівіла нелегальным, схапіў яго жэзл (ласку) і дэманстратыўна ўсеўся на ягонае крэсла са словам і – «я такі ж маршалак, як і ты».[321] Яму прыгразілі судом. Аднак ён не сыходзіў і пры падтрымцы С. Корсака, І. Куржанецкага, С. Багушэвіча апратэставаў ужо маршалства А. Панінскага, апелюючы да каралеўскай інструкцыі аб вольным сейме, да абяцанняў трох двароў, да пасольскіх наказаў аб недапушчальнасці канфедэрацыі і парушэння тэрытарыяльнай цэласці дзяржавы. Ён літаральна стаў у дзвярах, заклікаючы паслоў не разыходзіцца і праводзіць пасяджэнні самастойна.

С. Панятоўскі, які толькі што заклікаў сеймікі «пакончыць з плачам, спусташэннем, вярнуць спакой убогай шляхце, даць ёй спосаб жыцця і адукацыі, пастанавіць унутраны і знешні ўрад», дэманстратыўна вагаўся і гаварыў, што хутчэй дасць адсекчы сваю руку да локця і складзе карону, чым дапусціць да падзелу краіны.[322] Ён тут жа агітаваў на ўступкі пад пагрозай хатняй вайны і горшых наступстваў пры далейшым супраціўленні. Ён узначаліў канфедэрацыю са словамі, што «сейм і так усё зробіць без мяне і насуперак маёй волі».[323] 22 красавіка Т. Рэйтан пакінуў сеймавую залу, апелюючы да сумлення прысутных, занепакоеных прыстойным абліччам перад адназемцамі і нашчадкамі. Яны засталіся, каб, гаворачы словамі І. Куржанецкага, «найдоказней пераканаць кожнага, што нехаця дагаджаем чужой волі»,

або, як казаў У. Гуроўскі, дзейнічаць так – «чым больш гвалту, тым больш нявіннейшымі нас будуць лічыць нашчадкі».[324]

На сесіі 10 мая А. Панінскі прыгразіў 7 упартым паслам персанальнай адказнасцю за лёс ацалелага краю, а епіскап І. Масальскі абяцаў вызваленне ад правіянту і фуражу згодных на халуйства. 14 мая адбылося галасаванне вакол вылучэння ўпаўнаважанай дэлегацыі на перамовы з трыма суседнімі манархамі аб падзеле краіны. Большасць паслухалася парады М. Жынева, як паступіць пры дылеме – «ахвераваць рэшткі краю на апошнюю руіну ці скарыцца гвалту і..., падпісаўшы трактат, спакойна чакаць годнага часу для яго ліквідацыі». Большасць якраз рашыла схаваць уласнае сумленне і адказнасць за абяцанні акупантаў аб гарантыях і за патрабаванні дэлегатам не выходзіць за межы прадастаўленых паўнамоцтваў.[325] Увесь сенат (84 чал.), 63 паслы з маршалкамі вылучылі дэлегацыю і загадзя пастанавілі ратыфікаваць усё, што тая дамовіцца з Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй! 12 чэрвеня саймавыя маршалкі разаслалі зняважаным выбаршчыкам ВКЛ папярэджванне, што знясіленая барскай канфедэрацыяй краіна «вымушана згадзіцца на падзел краю».[326]

Сеймавую дэлегацыю склалі 7 міністраў, 27 сенатараў і 61 пасол, у тым ліку І. Масальскі, У. Гуроўскі на чале з куяўскім епіскапам Антонам Астроўскім.[327] У любым выпадку больш паловы сейма свядома адракліся ад публічных пасяджэнняў і заняліся закулiснымі перамовамі. 21 жніўня дэлегацыя падпісала анексійны трактат з Аўстрыяй, 1 верасня – з Расіяй, 18 верасня —з Прусіяй, у якіх ад імя Рэчы Паспалітай саступіла анексіраваныя землі і навечна адраклася ад прэтэнзій да іх без усякіх умоў. Узамен яна патрабавала на працягу 2 тыдняў вывесці акупацыйныя войскі, ідаць, з надзеі ўсё

перарабіць, дамагалася 80 жніўня ад Пецярбурга вярнуць забраныя архівы, забяспечыць свабоду пераходаў жыхарам далучаных зямель, забраць з краю гайдамакаў, зняць секвестр з розных уладанняў, вызваліць зняволеных барчан, забяспечыць вольны гандаль соллю па р. Віліі і Дзвіне.[328]

На трактат з Расіяй у дэлегацыі пярэчылі толькі 7 чал., у тым ліку Т. Валадкевіч і М. Прушаноўскі. Гэты трактат, у прыватнасці, гарантаваў цэласць і неразрыўнасць «каталіцкай рэлігіі абодвух абрадаў» (каталіцтва і ўніяцтва), але забараняў схіляць у іх іншаверцаў. 28 верасня 1773 г. сейм аднагалосна ўхваліў трактаты аб падзеле Рэчы Паспалітай і быў адтэрмінаваны да 22 студзеня 1774 г. для распрацоўкі новага ладу краіны ўжо пад чужаземнай пратэкцыяй. На гэтым этапе дэлегацыя імкнулася выключыць дысідэнтаў з-пад дзеяння фундаментальных правоў. У лютым 1774 г. яна згадзілася дапусціць у сейм толькі 3 духоўных прадстаўнікоў іншаверцаў і выключна па пытаннях веравызнання, пагадзілася прызнаць прэтэнзіі да забраных уніяцкім і каталіцкім духавенствам святынь толькі да 1763 г., згаджалася на пабудову праваслаўных храмаў там, дзе было не менш як 100 прыхаджан, забараняла пераход з каталіцтва ў іншую веру пад пагрозай канфіскацыі маёмасці і выгнання адступнікаў за мяжу (баніцыя).[329] Для разгляду гэтых пытанняў стваралася чарговая сумесная камісія.

8 верасня 1773 г. сейм упаўнаважыў спецыяльную камісію зацвердзіць на месцы новую мяжу з Расійскай імперыяй. М. Панін пісаў 7 лістапада свайму паслу ў Варшаве, што паколькі «польская республика уступает обе белорусские губернии» (Магілёўскую і Пскоўскую – Я. А. ) з адмаўленнем ад усіх прэтэнзій і спрэчак, то трэба

«подавить сопротивление» членаў памежнай камісіі раздачай хабару, каб яны «не отослали онаго (памежнай дэмаркацыі – Я. А.) на решение самого сейма». Расійскі бок пры тым прыхапіў ад Віцебскага і Полацкага ваяводстваў лішнія 8 вёсак, «дабы лучше иметь ловкость к переговорам». Гэтаму пярэчыў адзіны паручнік і падкаморы Ромер, аднак яго хутка замянілі. Памежную дамову, без указания абшару захопу, адаслалі ў Варшаву і сейм ухваліў яе 15 сакавіка 1775 г. Толькі тады каралю паведамілі аб рэальных стратах, як ні стараўся ён не адступаць. 4 ліпеня 1775 г. у мястэчку Хомск быў падпісаны пратакол размежавання і толькі 20 кастрычніка расійскі бок адступіўся ад забраных з Аршанскага павета 7 уладанняў.[330]

Сеймавая дэлегацыя нібы забыла пра патрабаванні інструкцый аб вывадзе чужынскіх войскаў. Яна толькі дабілася, каб яны не харчаваліся бясплатна, а кватаравалі за грошы. Універсалам ад 22 ліпеня і 10 жніўня 1773 г. сейм пастанавіў праводзіць харчовыя нарыхтоўкі ў ВКЛ па аднастайнай таксе і меры: варшаўскі карэц прызначаўся ў 32 камісійныя гарцы (роўны рускай чвэрці або салонцы). Карэц жыта абклалі 8 зл., аўса – 3, 5 зл., круп – 10 зл., пуд сена – 10 грашыма. Аднак указ лічыўся з верагоднасцю заключэння паставак адпаведна ўраджаям і кантрактам, што яўна задавальняла мясцовых пастаўшчыкоў. Рускія генералы меліся папярэджваць аб зборы правіянту і фуражу не меней як за месяц, плаціць за фурманкі, не затрымліваць едучых на таргі і кірмашы, не ўмешвацца ў прыватныя справы абывацеляў, не апекаваць «гультаям з сялянаў» і здаваць іх на расправу у бліжэйшыя суды, не пасылаць каманд для выбару фуражу без пісьмовага дазволу выбранага мясцовай шляхтай камісара, праводзіць нарыхтоўкі толькі паводле персанальнага раскладу

ваяводства ці павета, што таксама падразумавала агульную згоду насельнікаў. Гэта азначала не меншую патрэбу у дакладных тарыфах дымоў.[331]

Дэлегацыя 11 красавіка 1774 г. вытрабавала ў генерал-маёра, камандуючага Санктпецярбургскім легіёнам у ВКЛ, Сцяпана Ржавускага абяцанне не браць коней на пошты далей 3 міляў (22,4 км) ад трактаў і без чаргі, для чаго ў асобную табель былі вылучаны маёнткі, абавязаныя фуражом. Сеймавы маршалак М. Радзівіл пры гэтым уладкаванні краіны дамагаўся вызвалення Навагрудскага ваяводства на наступаючы 1775 г. Аднак Ржавускі даў 4 дні на пастаўку ў мінскі магазін з кожнага дыма па 1,5 асьмін віленскай бочкі, 2 гарцаў круп, 8 пудоў сена (з наддаткам пуда на кожныя 10 пудоў) над пагрозай суровай экзекуцыі рускіх каманд. Тым не менш, карыстаючыся сваей пасадай, М. Радзівіл вызваліў на 10 год ад падаткаў «рэвалюцыяй і агнём знішчаныя месцы» – Слуцк, Ляхавічы, Радашковічы (апошнія, праўда, на 3 гады). Што тычыцца скаргаў «у ваколіцы польскай» на гайдамакаў, то генерал-лейтэнант Абрам Раманіус загадаў 22 красавіка 1774 г. не прымаць рускіх салдат-дэзерціраў на аселае жыхарства пад пагрозай штрафу ў 10 чырв. Утойванне дэзерціраў каралася 30 чырв., а за кожнага злоўленага і здадзенага ўцекача плацілі 5 руб.[332] Падобныя ўмовы трывалі да 1775 г., калі Расія стала вывадзіць той легіён на абшар усходнебеларускіх губерняў, дзе да гэтага часу дзейнічалі падатковыя льготы.

Усяго ў 1775—1776 гг. на перафарміраванне з Кароны выводзіўся корпус з 9047 чал., а з ВКЛ – Санкт-Пецярбургскі легіён колькасцю ў 6573 чал.[333] Вядома, што гадавая патрэба корпуса дасягала 27132 чвэрцяў жыта, 2544 – круп, 30108 – аўса, 527636 пудоў сена, а ў лютым 1776 г. у правіянцкіх магазінах «Польши и Литвы» знаходзілася 725410 чв. мукі, 40120 чв. круп, 838755

аўса, 751643 пудоў сена. Як пісаў С. Ржавускі ў маі 1775 г., з часу свайго назначэння ў ВКЛ (1 кастрычніка 1773 г.) фуражовым камісарам за харчаванне аднаго свайго легіёна ён сплаціў 67157 руб. (каля 0,5 млн. зл.).[334] Такім чынам, на месцы выведзеных карпусоў засталіся харчовыя запасы прыблізна для 26 такіх карпусоў. Вось як знаць і шляхта ацалелай Рэчы Паспалітай адрэгавала на кватараванне чужынцаў пры ўсіх крывадушных енках аб іх уціску.

Для пастаяннага кіравання краінай паміж сеймамі пры каралю 28 сакавіка 1774 г. была створана Пастаянная рада у складзе 36 членаў, на 2/3 выбраных сеймам. Трэць яе членаў перавыбіралася тым жа сеймам праз 2 гады. Рада распараджалася праз 5 дэпартаментаў па галінах (паліцыі, арміі, скарбу, справядлівасці, замежны). Караля пазбавілі права раздаваць старостбы і ваенныя чыны. На стол яму пакінулі 4 эканоміі, якія ён хутка перадаў у кіраванне падскарбію А. Тызенгаўзу.[335]

На сваей апошняй сесіі, 11 красавіка 1775 г., сейм пацвердзіў канстытуцыю 1768 г. з некаторай мадыфікацыяй кардынальных правоў. У прыватнасці, манаршы пасад заставаўся ў правячай фаміліі, што азначала пэўны кампраміс адносна легальнасці выбараў С. Панятоўскага. 15 сакавіка скасоўвалася змешаная камісія па разгляду спрэчак аб вяртанні праваслаўных святынь. Рэч Паспалітая і Расія абавязваліся не ўжываць вайсковага прымусу для пераводу вернікаў пад юрысдыкцыю той або іншай царквы. Уніяты зноў былі замоўчаны ва узаемаабавязацельствах, а значыць, па-ранейшаму лічыліся каталіцкім абрадам у Рэчы Паспалітай і «исконно» праваслаўнымі, або сектантамі, ў Пецярбургу. Тым самым бакі захавалі свабоду рук у дачыненні да вызначэння прыналежнасці уніятаў. Справы аб змешаных шлюбах засталіся падсуднымі земскім і гродскім судам або таму

ж каталіцкаму панству. Палітычныя правы атрымалі толькі 3 дысідэнты, якім дазволілі засядаць па аднаму ад кожнай правінцыі (ВКЛ, Вялікай і Малой Польшы). Гэтыя і іншыя нормы былі ўхвалены сеймам 8 красавіка 1775 г. і з гэтага часу сталі гарантаванымі Расіяй як нязменныя, нават калі выяўлялася сеймавае аднагалоссе на іх змену.[336] Армію падзялілі на 6 дывізій у 30 тыс. чал. з аднаўленнем улады гетманаў і стварылі брыгады нарадовай кавалерыі.

Утрыманне кволага войска пры скарачэнні падатковых рэсурсаў разглядалася сеймам у абрамленні розных філантрапічных праектаў, сярод якіх гучалі і прапановы скасаваць прыгонніцтва сялян самім сеймам або замяніць паншчыну аброкам. Была нават створана спецыяльная камісія. Аднак напамін аб «людской справядлівасці» адносна прыгонных выклікаў абурэнне, і размова павялася пра вызваленне, якое павінна быць справай «чулых сэрцаў» паноў.[337] Затым дыскусія звялася да спрэчак караняжаў і ліцвінаў адносна вышуку і выдачы уцекачоў. Сейм толькі дазволіў сялянскія пераходы пасля сплаты нядоімак і дазволу вотчыннікаў пад пагрозай пакарання ўтрымальнікаў чужых сялян 2 тыс. грыўнамі.

Другім разам вызваленчы праект разглядаўся ў сувязі са здачай староставаў у 50-гадовае пажыццёвае ўтрыманне пасэсараў на так званым эмфіўтычным праве і пры перадачы ўладанняў скасаванага ордэна езуітаў на карысць адукацыйнай камісіі, створанай 14 кастрычніка 1773 г. Адзін з варыянтаў прадугледжваў прадаць паезуіцкія ўладанні праз конкурс шырокаму колу пакупнікоў. У любым выпадку гэтыя ўладанні з іх сялянамі рабіліся панскімі, а таму гучалі парады папярэдне аблюстраваць ордэнскія маёнткі і зафіксаваць сялянскія павіннасці з дапамогай наваствораных камісій добрага парадку. Вось тут і ўзрушыліся галасы аб пагрозах правакавання

масавых сялянскіх уцёкаў. І. Масальскі, І. Храптовіч, У. Гуроўскі называлі прычынай сялянскіх рухаў панскія ўціскі. Аднак і яны гаварылі, што патуранне пераходам працоўных спустошыць панскія маёнткі, а таму патрэбна паўсюдная уніфікацыя паншчыны і павіннасцяў. Таму спроба шырокай рэгламентацыі сялянскай эксплуатацыі была адхілена абаронцамі нязменнасці ўлады вотчыннікаў, якім дазвалялася шукаць падданых на ўсёй прасторы дзяржавы і караць іх утрымальнікаў 4 тыднямі вежы і 3 тыс. зл. Адпаведная дыскусія ў камісіі 6 чэрвеня 1774 г. звялася да дэкларацыі пакінуць сялян пры існуючых надзелах і павіннасцях пры ўмяшанні ўлад у выпадку невыноснай тыраніі валадароў. Прававы кантроль быў аддадзены гродскім судам, куды скардзіцца маглі не самі прыгонныя, а ўраднікі.[338]

У рэшце рэшт адукацыйная камісія на чале з І. Масальскім рашыла правесці люстрацыю паезуіцкіх уладанняў і затым прадаць іх у 50-гадовае трыманне пасэсарам за ўнясенне 4,5 % на карысць адукацыі шляхецкай моладзі. За няспраўнасць выплат камісія магла на працягу 6 тыдняў секвестраваць уладанне пад свой уласны нагляд. Ацэнка маёмасці ордэна праводзілася асобна ў Кароне і ВКЛ з вызначэннем эвікцыі (залогу) на прыватных уладаннях пасэсараў або капітале самога ордэна.[339] Гэтая рэвізія закончылася паміж 10 сакавіка і 20 мая 1781 г. Адна ведамасць паказвала ўвесь капітал езуітаў у памеры 5541248 зл. (2 млн. у руках 106 асоб ВКЛ), а другая, відаць, з-за марунднасці ўліку, паказвае 8328731 зл. (2956716 зл. прыпадае на ВКЛ).[340] Прычынай гэтай цяганіны сталі даўгі кагалаў, размешчаных на 7 сінагогах у памеры 740223 зл. Гэта верагодна і з нагоды пастановы сейма, па якой І. Масальскі з 17 верасня 1776 г. браўся адказваць за 190233 зл., запазычаных кагаламі

ордэну езуітаў, і яшчэ 308246 зл., атрыманых імі ў розных асоб. Усе гэтыя 507679 зл. ён забяспечыў на ўласным маёнтку Каменшчына ў Мазырскім павеце з абавязкам выплаты 3 % у адукацыйны фонд. Акрамя таго, ён браўся за 5 % адказваць за 211880 зл. на маёнтку Гражынка ў Ашмянскім павеце (трокскага падкаморага Ромера) і Забердаў Навагрудскага ваяводства (жмудскай падстарасціцы Гайжэўскай). М. Радзівіл з адукацыйнага фонду ўзяў 423000 зл. пад залог фальварка Быстрыца і не сплаціў доўг да 1793 г.[341]

З улікам больш поўных даных, 93 паны ВКЛ атрымалі адразу 123 паезуіцкія маёнткі з гадавым даходам у 580377 зл., а толькі 37 магнатаў распараджаліся 2616307 зл. капіталу ордэна, складзенага з ліхвярскіх працэнтаў. З гэтай сумы 75 % (1972205 зл.) распараджаліся толькі 9 чал. (А. і К. Сапегі, І. і К. Масальскія, Караль, Геранім, Ігнат, Тэафіл і Міхаіл Радзівілы). Як зазначае гісторык, з усяе маёмасці ордэна, ацэненай у 32 млн. зл., гадавых працэнтаў пасэсары плацілі ўсяго 800 тыс. зл.[342] І гэта літасцівая паблажлівасць, калі ўлічыць, што сейм увёў у ВКЛ 6 % на карысць духоўных і 7 % свецкіх крэдытораў.

Менавіта пад гэтую ліхвярскую сістэму абірання ўсіх сваіх ранейшых крыўдзіцеляў і ганіцеляў накіроўваўся універсал князя М. Радзівіла ад 10 красавіка 1775 г., які патрабаваў правесці люстрацыю дымоў у маёнтках і гарадах для збору падымнага падатку і 10-га гроша (10 %) з чыстага даходу ад прапінацыі.[343] Згодна з «Уставай падатку ВКЛ», пад улік траплялі як аселыя гаспадары хат, так і розныя наймiты (каморнікі, суседзі, агароднікі, халупнікі, кутнікі). Улічваліся дымы, а не іх насельнікі. Шляхта, якая жыла без сялян або арандавала зямлю за чынш, але ўдзельнічала ў сейміках, у інтарэсах адукацыі моладзі і на карысць таго ж фундушу плаціла толькі з 1/3 дыма.

Устава падзяліла ВКЛ на 7 фіскальных класаў. Самы значны падатак – 10 зл. з дыма – плацілі Жмудзь, Упіцкі і Вількамірскі павет. У 3 клас (8 зл.) трапіў Браслаўскі павет, хаця яго памежжа з Полацкім ваяводствам абкладвалася 6 зл. У 4 клас (7 зл.) увайшло Брэсцкае ваяводства, хаця яго памежная частка з Валыншчынай мелася плаціць 5 зл. У 5 клас (6 зл.) увайшлі Віленскае, Трокскае, Мінскае, Навагрудскае ваяводствы, Ашмянскі, Лідскі, Аршанскі, Ваўкавыскі, Слонімскі паветы. 6 клас з 5 зл. склалі Полацкае ваяводства і Рэчыцкі павет, а ў апошні (4 зл. з дыма) уваходзілі Мазырскі і палова Пінскага павета (астатняя палова плаціла 5 зл.). Падобная дыферэнцыяцыя ставак зыходзіла з гандлёвых зручнасцяў пэўнай мясцовасці і распаўсюджанасці таварных культур, асабліва льну. Калі гэта менавіта так, тады далечыня экспартнага вывазу прыносіла двайную падатковую палёгку для гандляроў. Ім спрыяла тое, што сейм 1775 г. адмяніў усе ўнутраныя пошліны і ўвёў адзінае мыта.[344] Гарады і мястэчкі ВКЛ устава разбівала на 3 класы. Тут крытэрыем служыла пагалоўнае з яўрэяў, якое павышалася да 2,5 зл. Духавенства складала асобную падаткавую групу. Кляштары ўсіх канфесій плацілі 50 зл. З фальваркаў яны аддавалі ўдвая менш, а з сялянскіх хат – ад 6 да 2 зл. Поўнасцю ад падатку вызваляліся шпіталі і парафіяльныя школкі, відаць, для спрыяння асвеце і вырашэння балючых праблем у сферы аховы здароўя і дабрачыннасці.[345]

Скарбовая камісія ВКЛ распарадзілася правесці суцэльную люстрацыю дымоў да верасня 1775 г. з улікам рознасці паміж «аселасцямі і кутнікамі адпаведна якасці ўжываемай зямлі і месца кожнага краю», разам з ацэнкай даходаў ад прапінацыі (чопавага і шэлезнага).[346] Персанальны склад люстратараў адлюстраваны ў табліцы **9.**

*Табліца 9*

***Люстрацыя дымоў ВКЛ 30 верасня 1775 г.***

| Абшар | Люстратар | Пасад і чын | Улічана дымоў |
|---|---|---|---|
| Ашмянскі павет | Скірмунт Хрыстафор<br>Урбановіч Антон<br>Сарока Юзаф<br>Цывінскі Ігнат | гродскі суддзя<br>скарбнік<br>мечнік<br>земскі рэгент | 28580 |
| Аршанскі павет | Беліковіч Аляксандр<br>Тумковіч Ігнат | навагрудскі скарбнік<br>ротмістр | 8972 |
| Браслаўскі павет | Смігельскі Каэтан<br>Тамашэвіч Вінцэнт | краўчы<br>земскі рэгент | 5695 |
| Брэсцкае ваяводства | Малішэўскі Ігнат<br>Паўлоўскі Яцэк | падчашы<br>каморнік | 34665 |
| Ваўкавыскі павет | Грымайла Томаш<br>Дзяконскі Юзаф | гараднічы<br>скарбнік | 9661 |
| Гродзенскі павет | Эйсмант Міхаіл<br>Струпінскі Мацвей | будаўнічы<br>каморнік | 25003 |
| Лідскі павет | Глушынскі Мацвей<br>Шэмет Аўгуст | гродскі суддзя<br>краўчы | 11723 |
| Мінскае ваяводства | Прушынскі Тадэвуш<br>Сямашка Андрэй | падчашы<br>гараднічы | 21994 |
| Мазырскі павет | Вольскі Ян<br>Араноўскі Людвік | падстараста<br>скарбнік | 5349 |
| Навагрудскае ваяводства | Яблонскі Францішак<br>Бярновіч Міхаіл<br>Цывінскі Ян<br>Тугановіч Марк | чашнік<br>абозны<br>інфлянцкі абозны<br>земскі рэгент | 34630 |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Полацкае ваяводства | Рукевіч Якуб<br>Рэут Матэвуш | гродзенскі падстараста<br>абозны | 9308 |
| Пінскі павет | Вітунскі Мартын<br>Свяжынскі Казімір | гродскі суддзя<br>каморнік | 16859 |
| Рэчыцкі павет | Прушаноўскі Ян<br>Воўк-Леванові Аляксандр | падкаморы<br>стражнік | 462 |
| Слонімскі павет | Палубінскі Станіслаў<br>Шукевіч Ігнат | лоўчы<br>каморнік | 11870 |
| | | | **224771** |

*Крыніцы: Козловский П.Г. Землевладение и землепользование... С. 69–83; Volumina Legum. Т. 8. С. 399; НГАБ, ф. 1733, спр. 52, л. 150—151, ф. 1727, спр. 17, л. 231.*

Гэтыя 32 рэвізоры завершылі свае працы 30 верасня 1775 г., хаця ўлік корчмаў і шынкоў расцягнуўся да 1777—1779 гг. Ужо адно гэта не спрыяла напаўненню скарба і адукацыйнага фонду. Падлік дымоў рэвізоры рабілі па паказаннях і пад прысягай саміх уладальнікаў, нярэдка з выкарыстаннем тарыфаў 1703—1717 гг. Як заўважыў даследчык, рэвізоры прыкладна ў 2 разы прыменшылі колькасць хат і ў такім памеры ўласнікі падманвалі скарб. Якія колы? У 7 ваяводствах і паветах ВКЛ паловай дымоў валодалі 50 магнатаў (3,5 % прысягнуўшых), тады як 72 % дробнай шляхты мелі ўсяго 12 % дымоў.[347] Па падліках польскіх даследчыкаў, у 70-я гг. гадавы даход скарбу ВКЛ (7640 тыс. зл.) напалову складаўся з падымнага (3420 тыс. зл.), якое амаль цалкам (3076 зл.) забірала войска. Акрамя таго, яшчэ 1800 тыс. зл. яно выбірала само праз кватараванне. Сюды трэба залічыць так званае субсідыум харытарум, вызначанае 25 верасня 1775 г. на карысць духавенства ў памеры 100 тыс. зл. З гэтай сумы віленскаму епіскапу за маёнткі і сан выпадала 34 тыс.

зл., брэсцкаму і луцкаму – 1400, уніяцкаму мітрапаліту літоўскай правінцыі – 2600, полацкаму архіепіскапу – 1300, пінскаму епіскапу – 800 і брэсцкаму – 300 зл. На 50 уніяцкіх кляштараў прыпадала 15300 зл. (па 306), а на 133 каталіцкіх – 85600 (па 64 зл.).[348] У гэтым залатым дажджы назіраецца адмысловая нераўнамернасць. Калі 5 базыльянскіх кляштараў Брэсцкай дыяцэзіі (Антопаль, Бель, Брэст, Кобрын, Новае Сяло) разам бралі 808 зл. (па 160 на кожны), то адзін кляштар картузаў у Беразе той жа дыяцэзіі – 3000, цыстэраў у Вісцічах – 500, францысканаў у Пінску – 300, у Мазыры – 200 і г.д. Цяжка сказаць, на якіх пачатках засноўвалася такое размеркаванне.

Пасля сейма 1773 г. стала, нарэшце, ажыццяўляцца пастанова сейма 1768 г. аб аддзяленні даходаў караля ад прыбыткаў дзяржаўцаў, праўда, не на карысць скарбу. Разбор правоў дзяржаўцаў і прэтэнзіі бакоў трапілі з задворнага асэсарскага суда у спецыяльныя камісіі. Да прыкладу, 4 чэрвеня 1774 г, такая камісія на чале з інфлянцкім епіскапам Стэфанам Гедройцам скасавала каралеўскія прывілеі ў Брэсцкай эканоміі акрамя татар і 7 мястэчак (Ломжы, Вагін, Пяшчанка, Дзівіна, Кобрын, Гарадзец і Ражан). У 1777 г. Пастаянная рада паспрабавала адабраць у малазначных мястэчак ВКЛ магдэбурскія правы самакіравання і перадаць мяшчан у юрысдыкцыю староставаў і дзяржаўцаў. Апошнія не замарудзілі пераводзіць жыхароў на паншчыну і абцяжарваць іх звышінвентарнымі павіннасцямі. Успыхнулі працяглыя канфлікты. Тады рада паспрабавала рэвізаваць магістраты і са здзіўленнем даведалася аб існаванні 60 гарадоў, якія ўвогуле не неслі дзяржаўных абавязацельстваў. Рада скасавала заключаныя кантракты і здала вінакурныя водкупы ў конкурс з выплатам пэўных працэнтаў на

гарадскія патрэбы. Магістраты ўзняліся на абарону папярэдніх вольнасцяў. Супрацівіліся яны вярхоўнаму кантролю і тады, калі цэнтральны ўрад паспрабаваў умяшацца ва ўнутранае жыццё гарадоў праз паліцэйскія камісіі добрага парадку.[349] Рэфарматарскія патугі чарговага сейма, як відаць, рабіліся ў інтарэсах прыватных выгод знаці і ва ўсіх галінах новаўвядзенняў ёю ж выпустошваліся.

Сейм 1773—1775 гг. упершыню на дзяржаўным узроўні заняўся канкрэтным вызначэннем крымінальнай адказнасці за забойства селяніна не ў рэчышчы простай судовай адказнасці ўласнікаў за тыранію, але і за парушэнне імі аднастайнасці павіннаснага цяжару сялян у розных маёнтках і правінцыях. Тым самым упершыню намеціўся шлях да дзяржаўнай рэгламентацыі панскага ўціску і нарміравання сялянскіх павіннасцяў. Гэты самы істотны крок самадзейнасці новага ўрада быў правалены на стадыі ініцыятывы і выліўся толькі ў аблік скасаванай маёмасці езуітаў, якая да ўсяго трапіла ў безсправаздачную эксплуатацыю купкі арыстакратыі.

Вынікі сеймавых ініцыятыў не апраўдалі чакання, з якім многія паслы збіраліся на сейм 1773—1775 г. для пазітыўнай законатворчасці. Немагчыма растлумачыць іх дзейнасць простым знешнім прымусам. Насуперак наказаў выбаршчыкаў аб тэрытарыяльнай цэласнасці дзяржавы, яны перадаверылі волю выбаршчыкаў змоўніцкай дэлегацыі і большасцю добраахвотна ўхвалілі першы падзел дзяржавы. Свой учынак яны абумовілі якраз уціскам зброі і схавалі ўласную адказнасць за роляй ахвяр і адважных герояў. Значная частка сеймавых прац звялася да звычайнага гандлю з акупантамі аб харчовым утрыманні іх войск і вынікаючых з гэтага ўласных палёгках. Стаптаннем волі выбарчых сходаў сейм 1773—1775 г. прадэманстраваў фіктыўнае значэнне канфедэрацый,

якія традыцыйна дазвалялі пераводзіць калектыўнае волевыяўленне шляхты ў аздараўленчы працэс на аснове большасці галасоў. Тым самым сейм 1773—1775 гг. яшчэ больш спіхнуў заканадаўчую ініцыятыву на месцы, ў шляхецкія сеймікі для абароны сваіх карпаратыўных інтарэсаў супраць цэнтралізатарскіх памкненняў вярхоўнай улады.

Сейм 1773—1775 гг. паказаўісціннае аблічча дысідэнцкай справы. У галоўным, палітычным сэнсе гэта было імкненне Расіі правесці ў сейм Рэчы Паспалітай партыю ўплыву, так сказаць траянскага каня, каб падвяргаць сейм пастаяннай пагрозе зрыву за незадавальненне расійскіх патрабаванняў. Такой партыі не ўдалося сфарміраваць на ўсім працягу бескаралеўя і ўзвядзення на трон няўстойлівага караля. Расіі давялося абапірацца на такіх жа ненадзейных саюзнікаў-каталікоў, якія карысталіся чужаземнымі войскамі і грашыма для расправы з праціўнікамі і перадзелу захопленай у іх маёмасці. Таму адзіным сродкам і галоўнай мэтай расійскай палітыкі пасля 1764 г. стала дамаганне пратэктарату Расіі над існуючым ладам, незалежна ад ваганняў караля і часовых памагатых, што і было двойчы заканадаўча замацавана трактатамі.

Добраахвотная згода сеймаў на ваенную прысутнасць і адрыў часткі зямель ВКЛ да Расійскай імперыі фактычна з 1768 заснавалі ідэалагічную традыцыю аб добраахвотным характары далучэння 1772 года. Між тым, гэтае волевыяўленне вызначала кола прыблізна 600-700 ураднікаў і арыстакратыі ВКЛ, якія маніпулíравалі воляй шляхты так жа, як і Расія ўласнымі міратворчымі паслугамі ў барацьбе партый і магнацкіх кланаў. У гэтым значэнні за падзел аднолькава адказны афіцыйная Расія і арыстакратыя ВКЛ.

Нарэшце, памеры зямельнага захопу Пецярбург фармуляваў на падставе прыблізнай ацэнкі ад страт уцекачоў, у гандлі, утрымання памагатых, а не гісторыкадакументальнага абгрунтавання спадкаемства тэрыторыі. Уласныя прэтэнзіі Расія выводзіла не з сівых часоў, а з часу фармальнага парушэння трактатаў канца 17 – пачатку 18 ст. Напрыканцы сейма 1773 г. Расія канчаткова замаўчала уніятаў, якія выстаўляліся «исконно» праваслаўным людам, што і дазваляла фармуляваць тэзіс аб рускай спаконвечнасці населенай імі зямлі. Паколькі Расія афіцыйна адраклася ад уніятаў і ўсіх прэтэнзій пад час сейма 1773—1775г., то ўсе довады вакол справядлівасці такога спадкаемства выглядаюць штучнымі.

### *Бібліяграфія да раздзела I*

[1] Грыцкевіч В. Беларуска-руская перасяленні ў XIV—XVIII стст. // Спадчына. 1993. № 6. С. 45, 46—50.

[2] АЗПРІ, ф. 21, 1743—1763, спр. 1, л. 324: Анішчанка Я.К. З гісторыі міграцыйных працэсаў на тэрыторыі Усходняй Беларусі ў другой палавіне XVIII ст. //Весці АН БССР. Сер. грамад. нав. 1990. № 5. С. 57—63: Ён жа. Рускія мігранты на Беларусі ў канцы XVIII ст. // Весці АНБ. Сер. гуман. нав. 1995. № 4. С. 60; Ён жа. Мяжа Вялікага княства Літоўскага ў справах памежных камісій // Беларускі гістарычны агляд. 1998. Т. 5. Сшытак 2(9). С. 419—433.

[3] СРИО. СПБ, 1912. Т. 136. С. 54.

[4] У. Канапчынскі замест Суфчынскага называў краснагродскага стольніка Казіміра Выгоўскага: Konopczynski W. Polska w dobie wojny siedmioletniej. Kraków, 1911. Cz. 2. S. 74.

[5] АЗПРІ, ф. 79, воп. 6, спр. 48, л. 2, 107. А менавіта на 341770 тынфаў (пры размене па 3 шостакі або 38 грошаў), 486163 зл. (кожны па 2,5 шостакі або 30 грош.), 5973 талераў(па 20 шостакаў), 19934 талераў кранцкіх (па 15 шостакаў), 12697 зл. прускіх або гульдэнаў (кожны па 5 шост., а шостак па 12 грошаў і 2 шэлягі), 150 чырвоных (кожны па 9 гульдэнаў або 2 руб. 50 кап.) і 4288 руб. (кожны па 19 шостакаў).

[6] АЗПРІ, ф. 21, 1758—1759, спр. 1, л. 494, 496.
[7] Там жа, л.461—466, 470, 472 адв.
[8] Там жа, 1761, спр. 2, л. 8, 11. Напачатку 1761 г. ад Расіі ў камісію ўвайшлі генерал Ф.М. Вайякоў, А.Б. Бутурлін, паручнік З. Аржанеўскі і студэнт С. Храпуноў.
[9] Там жа, л. 137—183, 203, 236.
[10] Там жа, 1760, спр. 3, л. 261—262 адв., 341 адв.
[11] Там жа, 1760—1761, спр. 8, л. 814—211.
[12] НГАБ, ф. 1728, спр. 14, л. 814, 833, 1009.
[13] АЗПРІ, ф. 21, 176І—1763, спр. 4, л. 94, 170 адв.—171 (Пастанова замежнай калегіі ад 27.01.1760); Щебальский П. Русская политика... С. 41.
[14] Анішчанка Я. Мяжа Вялікага княотва... С. 420.
[15] Щебальский П. Русская политика... С. 21, 23.
[16] РДГА, ф. 823, воп. 3, спр. 618, л. 1—3 адв.: Щебальский П. Русская политика... С. 24.
[17] РДГА, ф. 823, воп. 3, спр. 618, л. 79 адв; Щебальский П. Русская политика... С. 25.
[18] Там жа, л. 80, 83 адв.; Щебальский П. Русская... С. 20.
[19] Там жа, л. 85—85 адв., 88—89.
[20] Там жа, л. 4.
[21] Там жа, л. 17, 69 адв. Прадстаўленне ад 11.10.1759.
[22] Там жа, л. 39. Тлумачэнне ад 6.07.1759; Щебальский П. Русская... С. 30.
[23] Там жа, л. 8, 72, 73 адв. Ліст ад 22.10.1759.
[24] Там жа, спр. 661, л. 1, 8.
[25] НДГАБ, ф. 1728, спр. 14, л. 545, 684—686 адв.
[26] Там жа, л. 750, спр. 43, л. 672, 674.
[27] РДАСА, ф. 248, воп. 29, спр. 1797, л. 234; ф. 12, спр. 111, л. 3—5. Інтэрпрэтацыю далі: Шебальский П. Русская политика... С. 31—88; Сосна У.А. Крестьянство в имперских планах и политике Российского государства по отношению к Речи Посполитой // Славяне и их соседи. М., 1995. С. 86—89; Марозава С. «Унеятом не быть» // Палессе. С. 102; Гарбацкі А.А. Стараабрадніцтва на Беларусі ў канцы XVII–пачатку XX ст. Брэст, 1999. С. 85.
[28] РДАСА, ф. 12, спр. 111, л. 11—12.
[29] Щебальский П. Русская политика... С. 29.
[30] РДГА, ф. 823, воп. 3, спр. 660, л. 1—2 адв.
[31] Там жа, спр. 361, л. 6, спр. 660, л. 6.
[32] Соловьев С.М. История падения... С. 413—414.
[33] Szujski J. Dzieje Polski... T. 4. Cz. 2. C. 379; СРИО. Т. 51. С. 493; РДАСА, ф. 10, воп. 3, спр. 30, л. 1, 2.

[34] РДАСА, ф. 12, спр. 114, л. 1, 2 адв, спр. 113, л. 6, 9; АЗПРІ, ф. 79, воп. 6, спр. 154, л. 1.

[35] СРИО. Т. 22. С. 90, 218, 679, Т. 5І. С. 109; Zelinska Z. O suksesji trona...

[36] СРИО. Т. 51. С. 106. Ліст ад 23.08.1763.

[37] СРИО. Т. 22. С. 102, 112, 155—156, Т. 37. С. 12, 102; Старообрядец. 1906. № 5. С. 543 (Гэтая крыніца паведамляе аб вывадзе 20 тыс. уцекачоў).

[38] РДАСА, ф. 112, спр. 1, л. 7; СРИО. Т. 7. С. 321, Т. 51. С. 10, 63, 115.

[39] СРИО. Т. 51. С. 5, 13, 17, 19—21, 26, 54, 60, 73, 94, 243, 249—250.

[40] СРИО. Т. 51. С. 9. Бібліяграфію літаратуры на праект З. Чарнышова гл: Zelinska Z. Przygotowania do rozbioru? // Gospodarka. Ludzie. Wladze. Warsz., 1998. S. 129—135.

[41] РДАСА, ф. 10, воп. 3, спр. 29, л. 6; СРИО. Т. 22. С. 140, 198—200. Рапарт В. Сольмса ад 22.10.1763.

[42] СРИО. Т. 51. С. 53, 63, 94. Т. 22. С. 173.

[43] СРИО. Т. 22. С. 164, 166, Т. 51. С. 100.

[44] СРИО. Т. 22. С. 180—181, 191, Т. 51. С. 101—102, 114, 162; РДАСА, ф. 20, спр. 231, л. 1, 2 адв.

[45] СРИО. Т. 22. С. 205, Т. 51. С. 191, 201, 205, 263, 275.

[46] СРИО. Т. 51. С. 109, 150—152, 158, 160, 217; РДАСА, ф. 12, спр. 11, л. 1—3.

[47] НГАБ, ф. 1730, спр. 36, л. 943—944 адв.

[48] НГАБ. ф. 1727, спр. 18, л. 1226 адв. У тым ліку: судовы стараста Ігнацій Іваноўскі, гараднічы Юзаф і скарбніковіч Мартын Валадкевічы, судовы падстараста Флор Прушынскі, гранічны суддзя Іяхім, падчашы Вікенцій Жыжамскія, чашнік Канстанцін Рдултоўскі, лоўчыц Ян Паўлікоўскі, абозны Ян Свенціцкі, мастаўнічы Мікалай, мечнік Міхал Свентаржэцкі, будаўнічы Андрэй Сямашка, старадубскі стольнік Аляксандр, браслаўскі падстоліц Раман Быкоўскія, упіцкі чашнік Дамінік Ляпарскі, смаленскі краўчы Ігнат Янішэўскі, чашнік Мартын Банковіч, смаленскі стольнік Базыль Вадзевіч, брацлаўскі краўчы Казімір Шаблавінскі, лідскі лоўчы Казімір Адахоўскі, смаленскі падчашы Ігнат Прысецкі, рэчыцкі падчашы Юзаф Вінт.

[49] НГАБ, ф. 1730, спр. 36, л. 952—953 адв.

[50] Там жа, л. 926 адв. Сярод іх: падстолі Ігнат, вайсковіч Аляксандр, падчашыц Аляксандр і Адам, ротмістр Казімір, войскі Дамінік Вайніловічы, гараднічы Казімір, чашнік Францішак Ябланоўскія, падчашыц Ян Павінскі, лоўчы Антон Туганоўскі, канюшы Міхаіл і ротмістр Тадэвуш Кржыжамоўскія, будаўнічы Юзаф Раецкі, ротмістр Мікалай, заборскі стараста Ігнат, земскі

Далей ён стаў апраўдвацца як член Пастаяннай рады, якая, на яго думку, «можа штурхаць абывацеляў да праціўнага мыслення, а з той крыніцы і паходзіць прымус». Як канцылярыст рады ён нікога не крыўдзіў, разлічваў усё памеркаваць і адважваўся на ўсе перамены. «Аднак жа не было вышэйшай магістратуры, якая б засцерагала іншых выходзіць са сваіх межаў. Вось так Пастаянная рада з часам давяла права да сваёй экзекуцыі, без якой нарадзілася безуладдзе, з няладу – слабасць, а з слабасці – заняпад. Аднак на гэта рыцарскі стан яшчэ менш павінен наракаць, калі атрымаў гонар засядаць у той найвышэйшай магістратуры, дзе ягомосць кароль старшынствуе, калі, словам, той рыцарскі стан ураўнаваны ў прэрагатывах з сенатарамі, калі ён, нарэшце, саўдзельнічае ў асэнсаванні першасных і ўсіх публічных інтарэсаў, якімі перад тым распараджалася некалькі асоб». Словам, і сейм і каралеўская рада прывялі да дарэмнасці захадаў у тым, што «сумленне, гонар і дабро павета дыктавалі». У выніку, заключаў Куржанецкі, «слабасць краю, нязгода абывацеляў, немач меншасці перад большасцю» давялі яго да схілення перад «злой доляй».[5]

На гаспадарчым сейміку Мінскага ваяводства 5 лютага 1776 г. сеймавы пасол Т. Валадкевіч таксама гаварыў, што мусіў падпісваць усе канстытуцыі пад прымусам, а С. Багушэвіч хваліўся, што «цвёрда і з апантанасцю трымаўся інструкцыі, а таму і не нарабіў нічога шкоднага». І... сеймік тут жа ўхваляе парадак збору правіянту ў рускія магазіны, не забыўшы патрабаваць за гэта 8669 зл. Увогуле, кампанія выбараў на чарговы сейм 1776 г. праходзіла пад плёткі аб тым, што ён будзе апошнім, што хто не пагодзіцца быць халуём, то той абавязкова паедзе «страляць сабалёў» у Сібіры. Рыцарскія галасы звалі выбіраць толькі адважных паслоў, здольных

па прыкладу земляка Т. Рэйтана супрацьстаяць пасіўнаму аднадушшу большасці. А каб яны не ігнаравалі волі выбаршчыкаў, то гэты бок раіў не толькі абавязаць паслоў кіравацца інструкцыямі, але і пакараць іх за адступленне ад наказаў пры справаздачах.

У такой атмасферы мінскі сеймік 16 ліпеня 1776 г. на сходзе 824 чал. пасылае ў Варшаву А. Хмару і Ф. Уніхоўскага. Старшынстваваў на ім ваявода Ю. Радзівіл, што вызначыла характар рашэнняў. Зыходзячы з пастулата аб неакрэсленасці «усіх уставаў і народных правоў» мінулым сеймам, новым паслам рэкамендавалася пастанавіць іх «па старых абрадах у пленарным зборы ўсіх паслоў». Сейм меўся скасаваць цяжкія для скарбу пенсіі, усе камісіі, вярнуць у скарб староствы. Адукацыйную камісію абавязвалі прадставіць рахунак кіравання паезуіцкімі маёнткамі, а іх інвентары здаць у гродскія суды, відаць, з мэтай канфіскацый за падман або злоўжыванні ўпраўляючых. Сеймік клапаціўся пра ўзнагароду Ю. Радзівіла за «пільны дазор рэлігіі, правоў і айчынных свабод» і прасіў запісаць на адукацыйны фундуш усе назначэнні святароў па радзівілаўскіх уладаннях.[6] Як відаць, на гэтым сейміку Радзівілы вяртаюць былы ўплыў і рызыкуюць абяліць свой род нават агульна-крывадушным упіканнем мінулага сейма за марнасць.

Верагодна, з-за гэтага хамелеонства другі сход мінскай шляхты у зборы 770 чал. пад старшынствам харунжага Флора Быкоўскага выбірае пасламі цэльскага старасту Стэфана Быкоўскага і эйшышскага старасту, графа Ежы Салагуба. Гэтае таварыства пажадала пакінуць Галоўны трыбунал у Мінску, каб таму не пагражаў заняпад і ўбоства. Тут непакоіліся дубліраваннем розных урадавых устаноў, калі «адны ўзялі першынство над астатнімі». Тут нагадалі, што «ўрады не для ўраднікаў, а наадварот, урады і ўраднікі

павінны думаць і чыніць для дабра Рэчы Паспалітай», а не для прыватнай карысці. Тут дбалі аб тым, каб пажыццёвая ўлада некаторых ураднікаў «спраўлялася ў сваёй прапорцыі, каб у роўным абывацельстве не адбывалася гвалту з-за іх рознасці», каб усе ўрады раўнаважна кіраваліся агульным інтарэсам, справядлівасцю, даўнімі правамі і ўставамі. У гэтым сэнсе альтэрнатыўны сеймік таксама апеляваў да старых звычаяў, патрабуючы, каб «рабункі маёнткаў абывацеляў» адбываліся не самасудна, а толькі па явачных дэкрэтах. І наогул, каб «не рабавалі маёмасці неасуджаных абывацеляў», належала знішчыць фальшывыя пастановы і створаныя на іх аснове камісіі. Для перамогі справядлівасці гэты сход «як ніводны іншы», дамагаўся выпраўлення «літоўскага статута – першай крыніцы правоў, якімі сталі паўсюдна грэбаваць». Паслам, а значыць і сейму, нагадвалася, што з-за выпадковага знявшажання нельга «валіць даўняга права, а наадварот, трэба заняцца апрабацыяй літоўскага статута».

Гэтая ж інструкцыя намячала сферы такой кадыфікацыі. Найперш было заяўлена, што з-за неўраджаяў (а не падзелаў) абывацелі не ў стане плаціць завышаных і ўскладзеных гвалтам падаткаў. Таму яны, «роўныя адзін перад адным», згаджаліся плаціць і роўныя падаткі. Было заяўлена, што «некаторыя абывацелі зарваліся да далёкіх задум вызваліць падданых ад падданства, каб затым зняважыць павагу шляхецтва, адабраўшы ўласнасць, якая кожнаму належыць або з натуры нараджэння або з набыцця». Таму, каб «нічога не збянтэжыла чулае сэрца абывацеляў, каб тая вольнасць падданых не апынулася віной іх хуткага ўбоства і нястачы», вызваляць дазвалялася толькі працавітых сялян, бо «амбіцыя вызваленых можа загасіць аўтарытэт вольнага народа і

непасаромленай шляхетнасці». Паслам даручалася пільна сачыць, каб панаванне шляхты над сялянамі захавалася назаўжды ў «такой моцы і памеры, у якіх яго мелі нашы продкі і чым мы зараз карыстаемся».

Пагрозу вызвалення гэты сеймік звязваў з новым тарыфным падаткам і самавольнымі ўцёкамі прыгонных. Таму кожнаму трымальніку чужых сялян прыгразілі 6 тыднямі вежы і 100 копамі штрафу з пакрыццём судовых страт у гродскай канцылярыі. Паколькі многія гарады былі заселены «самым подлым, без навук, без майстэрства, будучых толькі ў нязгодзе і грубіянстве» ўцекачамі, то такія «шкодныя і ганебныя для краю па мястэчках магдэбургіі» з іх судамі належала скасаваць для таго, каб упрывілеяваныя гарады «расквітнелі сваімі рамёствамі, рукадзеллем, фабрыкамі і гандлем». Мястэчкі ж з магдэбурскім правам і іх зямлёй меркавалася далучыць да староставаў, а самыя староствы абцяжарыць новай квартай і абавязкам рэкруцкага набору. Паколькі эмфеутычныя (на 50-гадовым праве трымання) правы на староствы часта вынікалі з адных ганаровых заслуг, то інструкцыя раіла ўвогуле скасаваць такія выключэнні. Згаданы сход настойваў на захаванні фундушаў кляштараў дамінікан у Мінску і Стоўбцах, цэласнасці Цэльскага староства, прасіў вярнуць уладанні мітрапаліту Феліцыяну Валадкевічу, задаволіць шкоды, нанесеныя стольніку Мартыну і гаенскаму старасту Міхаілу Валадкевічам, вярнуць прылуцкай воласці фальварак Стукопічы, бясправна запісанага ад праваслаўных продкаў І. Іваноўскаму, таксама як і Чарэвачы, запісаны за бабруйскімі езуітамі.[7]

Дарэчы мясцовы раскол трываў да лютага 1777 г., калі чарговы мінскі сеймік на сходзе не менш 700 асоб пад старшынствам Ф. Быкоўскага зацвердзіў зялёнага колеру мундзір ваяводства (для сенатараў, ураднікаў – аздоблены

золатам пры двух эпалетах, для астатняй шляхты – з адным эпалетам на левым плячы). Ён выбраў у Галоўны трыбунал палкоўніка Я.К. Завішу і Л. Міцкевіча. Пры выбары ж падкаморым А. Прушынскага і ў земскія суддзі Т. Валадкевіча, адбыўся скандал. 217 шляхціцаў занеслі ў гродскі суд пратэст на пазбаўленне іх вольнага голасу Ф. Уніхоўскім, які правёў у харунжыя брата Стэфана, замешанага ў крымінальных працэсах.[8]

80 ўраднікаў Навагрудскага ваяводства на сваім сейміку 15—17 ліпеня 1776 г. пад старшынствам ваяводы Ю. Несялоўскага памянулі мінулы сейм тым, што забаранілі паслам С. Радзівілу і канюшаму А. Вайніловічу адступацца ад інструкцыі і «ўдавацца ў якія-небудзь канфедэрацыі». Сход выбраў трох фуражовых камісараў (смаленскага гродскага суддзю Міхаіла Рэйтана, віцебскага старасту Адама Арэшку, губскага старасту Алаіза Семірадскага). Папярэдняга камісара І. Гарабурду абвінавацілі ў прысваенні з ваяводскай касы 15 тыс. зл. Тут рашылі браць з дыма па 3 грошы для ўтрымання рускіх войск, але не дазваляючы новых падаткаў і вызваліўшы ад пастояў шляхецкія юрысдыкі ў Навагрудку.

Інструкцыя клапацілася захаваннем усіх раздач і заслужаных узнагарод, перасцерагала ад праследу «вернага сына Айчыны» К. Радзівіла, віленскага мечніка і падваяводы Ігната Богуша, дзякавала канцлера ВКЛ А.М. Сапегу. Яна патрабавала перанесці Галоўны трыбунал з Гродна ў Навагрудак або Мінск, захаваўшы паўнамоцтвы асэсарскіх і маршалкоўскіх (палюбоўных) судоў, настойвала на скасаванні ўсіх камісій, створаных па дамаганні аднаго боку. Да прыкладу, спрэчкі шляхты і мяшчан у каралеўскіх (магдэбурскіх) гарадах мелася вырашаць не ў задворным судзе, а на месцах. Асаблівую ўвагу тут звярталі на неабходнасць таго, каб ВКЛ

самастойна распараджалася 7 % з капіталаў духоўных фундушаў. Верагодна, гэтымі працэнтамі прадбачылася пакрыць духоўныя патрэбы з нагоды росту «працэнтаў на кагалах». «Крыўды духавенства абодвух абрадаў» мелася перадаць на разгляд суда духоўнай кансісторыі, вызваліўшы ад падазрэнняў мітрапаліта Ф. Валадкевіча. Ваяводства раіла ўзнагародзіць І. Масальскага за ўласныя траты на пашырэнне школьнай сеткі. Сход пакідаў у спадчыну трымальнікаў уладанні віленскага капітула езуітаў, у тым ліку і ў межах забранага Расіяй краю. Адукацыйную камісію прасілі скіраваць даходы выключна на выхаванне ўбогай шляхты.

Наступны дэпутацкі сеймік ваяводства 3—5 лютага 1777 г. у зборы 1204 удзельнікаў вельмі скардзіўся на ўціскі расейцаў у шляхецкіх дамах. Праз год, 9—11 лютага 1778 г. крыўдзіцелям адвялі кватэры ў Навагрудку, Слоніме і Нясвіжы, даючы на кірасірскі полк у месяц па 300 вазоў дроў.[9]

Як было згадана, сеймік Пінскага павета ў ліпені 1776 г. заслухаў справаздачу І. Куржанецкага, а затым выбраў пасламі судовага старасту Міхаіла Праздзецкага і князя Ф. Друцка-Любецкага. На сентыменты Куржанецкага сход пастанавіў тры пункты. Новыя паслы меліся на будучым сейме «абдумаць грамадзянскі кодэкс, каб пры ўладкаванні ацалелых рэштак краю прывесці ў парадак прарэгатывы кожнага стану і каб адзін не ўзурпіраваў у другога ўласцівага кожнаму з натуры рэчаў». Па-другое, прызнаючы «памылковасць палітыкі або фальшывай думкі аб тым, што знявага трона можа быць набыткам краёвай павагі або інтарэсаў Рэчы Паспалітай,» сейму загадвалася не няславіць караля, а наадварот, «замацаваць каралеўскую годнасць у даўніх правах і прарэгатывах». Сеймік рашыў пакінуць «без вынікаў мінулыя нелегальныя

чыннасці, выключна прымусам абумоўленыя», і нават рэкамендаваў, «як мага лепш абраміць іх для шчасця Айчыны». Значыць, апраўданні ўласнага пасла ляглі на прыдатную глебу забыцця беззаконняў і чужынцаў і сваіх абаронцаў дзеля фальсіфікацыі падзеі.

Пінскі сеймік не менш чужынцаў клапаціўся аб нязменнасці «кардынальных правоў і статута ВКЛ». Ён намячаў пакінуць Галоўны трыбунал у Гродна, раіў зрабіць сесіі земскіх і гродскіх судоў пастаянна 6-тыднёвымі і менавіта ў гэтых юрысдыках разбіраць працэсы аб уцёках сялян з ВКЛ. Ён прасіў вывесці замежныя войскі і дабіцца выплат за забраны імі фураж. Адукацыйную камісію прасілі заснаваць «хаця б адну акадэмію». Як звычайна, следам ішлі просьбы аб узнагародах Радзівілам, Патоцкім, Пацам, Красінскаму, Ржавускаму, Сапегу, Богушу, Бухавецкаму, Куржанецкаму. Тут, у прыватнасці, дамагаліся размежаваць на асобныя абрубы шляхецкія ўваходы ва ўладанні пінскага уніяцкага епіскапа Гедэона Гарбацкага.[10]

Сведчаннем расколу шляхты з-за несумленных паводзін сваіх паслоў на сейме 1775 г. стаў сход 2 тыс. чал. у Слоніме, як гэта паведамляе Залескі.[11] Нам вядома, што фуражовыя камісары не вярнулі павету 23390 зл. пад той зачэпкай, што справы гродскай канцылярыі «па розных месцах змяшаны і нават па вуліцах і пад паламі раскіданы». Няведама, ці дарма было здадзена 2490 чв. жыта, 5229 чв. аўса, 160 чв. круп, 49186 пудоў сена, але дэпутацкі сеймік у лютым 1776 г. разаслаў па мястэчках камісараў са стандартам слонімскага шанка, адпаведнага віленскай чвэрці – 36 гарцаў камісійных.[12]

З маніфеста 9 ураднікаў Лідскага павета ад 15 ліпеня 1776 г. вынікала, што вілейскі стараста Ю. Пац і стольнік

Т. Нарбут у кампаніі неаселых у павеце крымінальнікаў, якія вінаваціліся ў забойстве «найспакойнейшага і найпрыкладнейшага абывацеля Юзафа Янкоўскага», стралянінай разагналі сабраную шляхту. Затым, пасля справаздачы пасла і чытання новай інструкцыі, пацаўская хеўра ўчыніла нечуваны пагром хат праціўнікаў і, як сведчыць С. Салаўёў, каля 600 чал. нават атакавалі расійскую каманду. На наступны дзень нахабнікі забарыкадзіравалі дзверы касцёла, не выпускалі адтуль нікога і паранілі павятовага маршалка.[13]

Як зазначае даследчык, увогуле ў ліпені 1776 г. 9 сеймікаў ВКЛ выбралі падвоены склад паслоў, а значыць прайшлі ў атмасферы расколу.[14] Падобныя нелады паўтарыліся на лютаўскім навагрудскім сейміку 1777 г. пры зборы 1202 удзельнікаў. Ваявода Ю. Несялоўскі яшчэ за 8 тыдняў да сходу размясціў сваіх прыхільнікаў па кляштарах і корчмах. Затым гэтая партыя апанавала замкам і некалькі дзён дамагалася выбрання ў трыбунал і земскі суд сваіх «калег».[15] На сейме 1776 г. кароль з дапамогай затрыманых расійскіх войскаў перамог апазіцыю, пазбавіў гетманаў улады над арміяй і вярнуў сабе права раздачы ваенных чыноў. На чале войска паставілі ваенны дэпартамент, якому дазволілі аказваць дапамогу судам і гарадам пры рэалізацыі рашэнняў. Хутка гэты дэпартамент стаў увасабленнем ненавіснага ярма над вольнасцю з-за ўмяшання ў вотчынныя справы ўладальнікаў.

Кароль таксама непакоіўся раздваеннем сеймікаў і звязваў падобныя эксцэсы з адсутнасцю аднастайнага нарміруючага права. Улажыць новы кодэкс справядлівасці ён даручыў свайму канцлеру Андрэю Замойскаму. Кодэкс быў апублікаваны 1 кастрычніка 1778 г. Ён уводзіў крымінальную адказнасцьураднікаў за забойства селяніна, дазваляў прадастаўляць сялянам волю пры заключэнні з

імі кантрактаў на новапасяленне, прадаставіў сталічным гарадам месца і дарадчы голас на сейме, дазваляў мяшчанам і парафіяльным святарам набываць земскія ўладанні. Гэтыя абаліцыяніісцкія ідэі спрычынілі новы віток барацьбы паміж кансерватарамі і рэфармістамі. Дайшло да таго, што на чарговым сейме 1780 г. раз'юшаныя паслы парвалі і растапталі гэты кодэкс.[16]

На якія ж перамены згаджаліся і прапаноўвалі самі месцы? 54 удзельнікі пасольскага сейміка Брэсцкага ваяводства, пасылаючы 17 жніўня 1778 г. у Варшаву генерала артылерыі Казіміра Сапегу даручылі таму дбаць аб бяспецы каталіцкай рэлігіі і шляхецкай уласнасці згодна з «правам натуры, канстытуцыяй краёвага ўрада», набыццём продкаў і ўрачыстымі прывілеямі ВКЛ з Каронай ад 1569 г. Ваяводства рупілася, каб камісія па размежаванні каралеўскіх і шляхецкіх угоддзяў засядала ў Гродне без моцы вызначаць «прыроду ўладанняў шляхты» з 16 ст.! Інструкцыя перасцерагала камісію ад рэвізіі адпаведных дакументаў, вызваляла ўбогую шляхту ад падаткаў. Адносна кодэкса Замойскага яна напамінала, што «правінцыя ВКЛ таго не прасіла», што гэта выключная ініцыятыва Кароны, а таму прасіла выключыць з-пад таго ўлажэння ВКЛ, якое «імкнецца застацца пры сваім статуце». У рэчышчы прававой адасобленасці Брэст патрабаваў размясціць каралеўскую рэзідэнцыю і праводзіць сеймы па чарзе і «ў правінцыі літоўскай», перадаць акты літоўскай метрыкі ў гродскую канцылярыю ваяводства. Тут патрабавалі, каб шляхце «правінцыі ВКЛ» дазволілі памяшчаць у кадэцкі корпус сваіх выхаванцаў прапарцыянальна кошту утрымання (1/3 расходаў выпадала на княства).

Ваяводства дамагалася «злучэння аднятых правінцый» для папаўнення фінансаў. Паколькі гэта было маланадзейным,

то скарбовыя клопаты інструкцыя рашала зваротам у ВКЛ паловы мытных збораў, ападаткаваннем эмфіутычных трыманняў. Сеймік выказаў і секулярызацыйныя намеры. Ён прасіў пакінуць базыльянам уладанне Канева, але не выключаў з-пад размежавання ўладанні луцкага епіскапа, што былі аспрэчаны суседскай шляхтай, і рускага мітрапаліта Л. Шаптыцкага з епіскапам Руцкім.[17]

Гэтак жа і ў Мазыры сеймік даручаў сваім паслам (войскаму Я. Аскерку і гродскаму пісару С. Яленскаму) напомніць каралю аб вяртанні адабраных Расіяй правінцый, дабіцца пераносу каралеўскай рэзідэнцыі і альтэрнатывы 3-га сейма у Гродне. Тутэйшы сход пад маршалствам Ю. Куржанецкага дбаў яшчэ пра вяртанне жэзла маршала у Літву разам з ваеннай камісіяй, вельмі хацеў прымусіць каронных паноў выдаваць збеглых з ВКЛ сялян.[18] Пінскі сеймік, высылаючы ў жніўні 1778 г. на сейм падкаморага Л. Арэшку і земскага суддзю К. Свяжынскага, намячаў захаваць статут ВКЛ ва ўсёй паўнаце яго норм, растлумачыўшы іх толькі ў некаторых выпадках «для набліжэння ступеняў справядлівасці права», якім судзяцца ўсе судовыя месцы. У Мазыры таксама канстатавалі, што абывацелі «літоўскай правінцыі шмат вякоў кіраваліся і задавальняліся справядлівасцю» свайго статута. Аднак тут прасілі не выключаць «ад перапісу яго», а калі ж каронныя правінцыі паквапяцца «скласці новы кодэкс законаў, тады належыць пакінуць справу паправы статута і да іх дастасаваць толькі вольнасць прыняцця ўклада новых правоў».[19]

І ў Пінску і ў Мазыры аднолькава маркоціліся збядненнем шляхты, а таму раілі забраць на публічны скарб староствы і «не падвяргаць шляхецкія маёнткі пагрозе ападаткавання». Праўда, мазырскі сход не кранаў гродавых старостваў, ленаў і земскіх урадаў «адпаведна

канстытуцыям і статуту ВКЛ. Каб усякія народныя правы забаранялі ўжываць гвалт моцнага над слабейшым і каб пагасіць агонь, выбухаючы паміж абывацелямі з-за гэтага», тут прасілі сейм забараніць раздачу новых прывілееў. Мазырская інструкцыя забараняла вызваляць сялян ад паслушэнства панам, прасіла вярнуць маёмасць ордэну езуітаў і затрымаць у павеце полк пярэдняй варты для памежнай аховы. Пінскі сеймік асобна рупіўся аб скасаванні ўведзеных пазыковых працэнтаў, забараняў апеляцыі па займах нябошчыкаў, прасіў дакладна вызначыць даходы асэсарскіх судоў і, нарэшце, захоўваў «абрады паслухмянай» праваслаўнай царквы.[20] У наступным 1779 г. мазырскі павет стаў прасіць утаймаваць свавольныя гайдамацкія арцелі, наязджаючыя на панскія двары.

З прыведзенага выразна відаць, што мясцовыя сеймікі у 1777—1778 гг. адстойвалі звычаёвае права, статут ВКЛ і любую яго кадыфікацыю. Жнівенскія сеймікі 1778 г. праходзілі пад пэўную рэжысуру і, як вызначаецца ў літаратуры, тагачаснымі настроямі кіраваў уплывовы каралеўскі фаварыт, падскарбі А. Тызенгаўз,[21] меўшы да 300 тыс. гадавога даходу. Менавіта пры яго садзеянні з 1778 г. у сейм трапілі сенатары, абцяжараныя даўгамі і судовымі працэсамі. Таму, напрыканцы сеймавых выбараў 1780 г. на сейміках сталі агалошвацца пратэсты супраць выбару нягодных асоб і загучалі адводы скампраметаваных кандыдатур.

21 жніўня 1780 г. у Навагрудку быў апратэставаны старшынствуючы падкаморы Я. Незабытоўскі, які працiскаў у паслы падчашага М. Бярновіча і войскага Міхаіла Радзішэўскага. Яны замкнулі сеймікавую залу пры выбарах дэпутатаў трыбунала, а калі шляхта стала разыходзіцца, тады Радзішэўскі арыштаваў незадаволеных

і прымушаў іх сабраць іншыя галасы. У выніку кампрамісу замест Радзішэўскага быў выбраны падваявода Ю. Абуховіч, а сеймік запісаў у інструкцыі спецыяльны пункт аб пакаранні за падваенне дэпутацкіх і пасольскіх сеймікаў. Каб прадухіліць іх зрывы, тут прапанавалі праводзіць выбары пад старшынствам першага ўрадніка, выбранага «плюралізмам». Сеймік дамагаўся пераводу трыбунала ў Навагрудак, называў нясцерпнымі ваенныя экзекуцыі пры спагнанні падаткаў і прасіў не давяраць іх збор гродскім канцылярыям ды ўрэшце адклаў новыя падаткі «да шчаслівых часоў Айчыны». У Навагрудку адвяргалі кодэкс Замойскага і прытрымліваліся «няўхільнага выканання даўніх правоў».[22]

Рашучы загад сваім паслам (харунжаму Ю. Ельскаму і падчашаму Ігнату Дашкевічу) «як наймацней супрацiўляцца праекту Замойскага, нязгоднаму са статутным правам і канстытуцыямі ВКЛ, ламаючага прававы працэс і сам статут ВКЛ, прызнаны кардынальным правам для правінцыі ВКЛ», выдалі ў 1780 г. 104 абывацелі Гродзенскага павета пад кіраўніцтвам Я. Ваўкавіцкага. Тут зараз абдумвалі, як бы «юрысдыкі літоўскай правінцыі кіраваліся не прыватнай моцай і рулем адзінаўладства», а прыстасоўваліся «да корпуса статутных правоў ВКЛ» з улікам таго, што «у рэспубліканскім краі Рэчы Паспалітай польскай» злучэнне розных урадаў надта крыўдзіць агульны правапарадак. Таму сеймік настойваў, каб адміністрацыя «ў правінцыі ВКЛ» назаўжды дзейнічала па канстытуцыі 1590 г., а павятовыя ўрады даставаліся радавітай шляхце, маючай уладанні на месцы. У рэчышчы гэтай самастойнасці ішлі дамаганні кожнага 3-га сейма ў Гродне і каб каралеўская рэзідэнцыя была пастаянна заснавана «ў Літве» разам з задворным судом. Для ліквідацыі крыўд «літоўскай правінцыі» паслам належала

не дазваляць новых падаткаў і знайсці сродкі, каб ад росту мытных збораў і падзення цэн на мясцовыя прадукты былі захаваны фабрыкі, рамёствы і... прывілеі на ўсякія пасэсіі. З клопату аб шляхце, яе вызвалілі ад гандлёвых пабораў у гарадах ВКЛ, рупіліся знесці нязносныя паборы на школы адукацыйнай камісіі і рыцарскі корпус у Гродна.[23] Пагрозы канфіскацыі шляхецкіх правоў «на пасэсіі, перад уніяй замацаваныя» ў староствах, прывялі сеймік да агаворак асобага права для дзейнасці спецыяльнай камісіі. Пажыццёвых пасэсараў староставаў вызвалілі ад кварты і ўвогуле забаранілі пазбаўляць іх правоў трымання без іх волі і ўзнагароды.

Гэты пункт тычыўся скандалу, звязанаму з марнатраўствам А. Тызенгаўзам амаль трэці каралеўскіх даходаў. Кароль перадаў кіраванне сталовымі эканоміямі надворнаму маршалку Кароны С. Ржавускаму, да якога «за новым бляскам фартуны» спрытна перакінулася ранейшая кліентура ў ВКЛ. Калі ў лютым 1783 г. гродзенскі сеймік сабраў 1897 чал., то ў лютым 1787 г. ужо 77 чал.[24] У тым жа 1780 г. у Гродне была створана следчая камісія на чале з брэсцкім кашталянам Ю. Быстрым. Уласна яна і не засядала. Тады кароль для рэвізіі ліхвярства ў літоўскім скарбе распачаў надзвычайную экспертызу. Гэтыя выкрывальныя захады падштурхнулі ліцвінаў да чарговых заяў аб сваей аўтаноміі.

Пра гэта нагадалі 13 ураднікаў Слонімскага павета на выбарчым сейміку 21 жніўня 1780 г. пад старшынствам К. Валовіча. Тут вельмі занепакоіліся накладаннем падаткаў на маёнткі «сапраўдных патрыётаў Радзімы». Павет сам увайшоў у разгляд стану публічнага скарбу ВКЛ, «выкінуўшы з яго тыя падаткі, якія не дапамагаюць абароне краёвага ўрада». Ён лічыў патрэбнымі наступныя выдаткі: на войска – 6 млн. 106 тыс. зл., на скарбовую

камісію – 138 тыс., на замежных міністраў – 30 тыс., на школы – 18 тыс., каралю – 1166 тыс., на скасаванне даўгоў Рэчы Паспалітай – 100 тыс., брэсцкаму, дарсунскаму старастам і інфлянцкаму епіскапу – 5900 зл. – усяго 8 млн. 165 тыс. зл.[25] З вялікім жалем павет далучаў да краевых страт «раскраданне гатовых сум, вупражы, срэбра, каштоўнасцяў» скасаванага ордэна езуітаў. Таму у Слоніме дапрашаліся новай люстрацыі паезуіцкіх маёнткаў і даручалі скарбовай камісіі потым нанава раздаць іх у пажыццёвую пасэсію з вызначэннем падатку «на адукацыю і ўтрыманне ў кожным ваяводстве і павеце акадэміі навук, забяспечанай» каталіцкай прафесурай. Гэтак жа шкоднымі прызнаваліся раздачы ў спадчыну староностваў. Перад тым як гэта скасаваць, сеймік раіў спагнаць у скарб даходы з папярэдніх дзяржаўцаў, а ўжо потым пакінуць у карыстанні сапраўдных гаспадароў. Недатыкальнымі тут лічылі ўладанні віленскага капітула, відаць, у мэтах адукацыі, дзеля чаго раілі вызваліць ад усіх падаткаў бедную шляхту павета.

У Слоніме рупіліся , каб «усе сенатары, дыгнітары і ўрады ВКЛ» засталіся пры атрыманых годнасцях і каб толькі міністры ды скарбовыя чыны набылі рангі на сейме па рэкамендацыі паслоў. Без іх згоды забараняліся таксама канфедэрацыі. Павет жадаў скасавання шматлікіх камісій, перадаўшы іх справы на месцы за выключэннем тых, якія былі вырашаны без пратэстаў па явачных дэкрэтах бакоў. З прычыны наплыву спраў у мясцовых судах і частага ўхілення суддзяў ад абавязкаў з-за хваробы або надзвычайных патрэб, сеймік раіў выразна акрэсліць іх абавязкі. Забараняліся выклікі суддзяў, каб не зрываць камплекту і сесій судоў. Пры апратэставанні суддзі павадовы бок мог адрасавацца ў бліжэйшы суд і весці там працэс «паводле даўняга права». Гэтаксама павет засцерагаў выклікі генералаў і возных у трыбунал разам

з практыкай запісу часовых спраў у яго паточныя рэестры. Увогуле для «ўлажэння карэктуры прававых працэсаў і ўтрымання судовай справядлівасці» сейму прапаноўвалася праз сакрэтнае галасаванне вызначыць камісію з узнагародай яе за добрае ўлажэнне і прадстаўленне яго наступнаму сейму.

Слонімскі сеймік таксама хацеў спыніць пагашэнне даўгоў Рэчы Паспалітай і кагалаў, вызначаных без сеймавай ухвалы. Прыгонных належала трымаць у паслушэнстве гаспадарам па звычаю продкаў, бо «з-за разгалошаных вестак аб іх вызваланні з падданства некаторымі абывацелямі здарылася такая яўная няўмольнасць, што вотчыннікі аказаліся няздольнымі іх утрымаць» ад уцёкаў і спраўна ўносіць падаткі за апусцелыя надзелы. У Слоніме патрабавалі выдаваць уцекачоў з кампенсацыяй за кожны дзень страчанай паншчыны па 10 грошай з пешага і 20 грошай з менш маёмнага селяніна. Сход клапаціўся аб узнагародзе «пільнага абаронцы краёвых свабод» К. Радзівіла, А. Радзівіла, М. Паца, І. Патоцкага, Ю. Сапегі, М. Валадкевіча і інш.[26]

На сейміку 23 жніўня 1780 г. Мазырскага павета, пры выбары ў паслы земскага суддзі Я. Яленскага і палкоўніка А. Сулістроўскага, таксама адхілілі кодэкс Замойскага, як супраціўны літоўскаму статуту. Тут настолькі рупіліся фінансавай галіной, што дзеля шляхецкіх свабод раілі забараніць пераходы яўрэяў з месца на месца, выпускаць грошы за мяжу і скасоўвалі ўсе цывільныя расходы. У забараняльным натхненні сеймік памкнуўся скасаваць Пастаянную раду, як «абцяжлівую для абывацеляў», і ўсе прывілеі на пляцы, камяніцы, агароды для кляштараў і касцёлаў у гарадах.[27]

З вядомых сеймікаў 1780 г. бадай толькі два напомнілі пра існаванне дысідэнцкага пытання. Так, у Гродне дбалі аб тым, каб «рускі клір» не трапляў ва уніяцкія кляштары,

а ордэн базыльянаў быў абаронены «моцай краёвых правоў». У Брэсце гаварылі, што «паколькі ў нашай літоўскай правінцыі маецца падданства грэка-уніяцкага абраду, якому работы часта спыняюць святы, то паслам належыць прасіць Рым перанесці рускія святы на дні, лацінскаму абраду падобныя, і вызваліць працавіты люд ад пастоў Пятра і Спаса». Гэтыя захады па акаталічванні уніятаў у 1786 г. брэсцкі сеймік агучыў так: «паколькі... падданым уніяцкага абраду святы часта не толькі перашкаджаюць агульнай гаспадарцы, але нават зневажаюцца самімі падданымі з-за работ гэтак жа, як частыя пасты аслабляюць сілы працавітага люду, то належыць прасіць Рым перавесці рускія святы на лацінскі абрад, а працавіты люд зволіць ад іншых пастоў»[28] – відаць, усё дзеля спраўнага выканання паншчыны.

У духу падобных патрабаванняў літоўская дэлегацыя прапанавала сейму 1780 г. праект судовай рэформы, які не прайшоў з кодэксам Замойскага. Таму адпаведныя клопаты засталіся. 15—20 жніўня 1782 г. 25 дыгнітараў слонімскага сейміка пад старшынствам К. Валовіча абавязалі скарбовага пісара княства Міхаіла Швыкоўскага і палкоўніка Дамініка Глухоўскага звязацца з іншымі пасламі для паправы судовага праекта.[29] Тут як і ў Брэсце, дзе пасламі прайшлі К. Гарноўскі і равяціцкі староста С. Нямцэвіч, дамагаліся альтэрнатывы трэцяга сейма для «літоўскай правінцыі».[30] Гэты пункт у Брэсце паўтарылі 16 жніўня 1784 г., дзе сеймікам кіраваў падкаморы Зянон Віславух, які выслаў на сейм К. Сапегу і кашталяна Вінцэнта Матушэвіча.[31] Аб тым жа клапаціўся тады і мінскі сеймік, які выбраў у трыбунал Ф. Прушынскага і шамбеляна Б. Гадлеўскага.[32] Гэты сход пад старшынствам А. Хмары пасылаў у сейм (ужо другі раз) Ф. Уніхоўскага і капітана К. Завішу. Такі ж наказ атрымалі 19 жніўня

1782 г. пінскі павятовы маршалак Ф. Друцкі-Любецкі і судовы стараста Ф.К. Хамінскі.[33] Ім загадалі нават занесці тое патрабаванне ў кардынальныя правы.

Як гэта выканаць інструкцыі не тлумачылі, бо разыходзіліся нават у пытанні чарговасці сесій уласнага Галоўнага трыбунала. Больш таго, мазырскі сеймік 1784 г., дзе пасламі выбралі стражніка Я. Аскерку і падкаморага К.Л. Яленскага, па-ранейшаму дбалі аб непарушнасці правоў літоўскай правінцыі, замацаваных пасля 1569 г. (уніі Кароны і ВКЛ), пакідалі непадсуднымі дэкрэты трыбунала і пераводзілі скарбовую камісію ў Брэст.[34] Жнівенскі ж сход Брэсцкага ваяводства дбаў аб двух трыбуналах – у Гродне і Вільні. Мінскі сеймік 1782 г. клапаціўся аб пераводзе трыбунала ў Мінск.[35]

Калі ў Пінску у 1782 г. сціпла гаварылі толькі аб вызначэнні платы з трыбунальскіх дэкрэтаў, то на брэсцкім сейміку 1784 і 1786 гг. удакладнялі, што трыбуналы ў Гродне і Вільна належыць стварыцъ на чале з двума маршалкамі ў прадстаўніцтве 7 дэпутатаў з кожнага ваяводства і павета, з утрыманнем іх за кошт скарбу і з абавязкам бесперапыннага 10-месячнага пасяджэння. У 1784 г. мазырскі сеймік патрабаваў вярнуць мінскую і навагрудскую сесіі трыбунала. Гэтая гульня ўрэшце адгукнулася 12 лютага 1784 г. раздваеннем навагрудскага сейміка, што, як было заяўлена, стала «крыўднай практыкай». 5 асоб пакінулі легальны сход, утварылі альтэрнатыўны «цэнтр» і выбралі свайго кандыдата.[36]

Напачатку 80-х гг. ухіленне вотчыннікаў ад падаткаў дайшло да таго, што гродскія суддзі прыладзіліся збіраць тарыфныя зборы «лепшай манетай» без заліку ў паборы розніцы (т. зв. рэдукцыі) і спаганяць іх не з сапраўдных пасэсараў староставў. Гэта вымушала скарбовую камісію

ВКЛ часта пасылаць вайсковыя каманды ў маёнткі даўжнікоў асабліва тады, калі нядоімкі даводзілася збіраць не з аднаго ўладання, а з кожнага саўладальніка паасобку. Харугвы не цырымоніліся са шляхтай. Скарбовая камісія канстатавала падобныя «непрыяцельскія» гвалты ў сваім універсале ад 23 сакавіка 1782 г., але толькі патрабавала, каб паборцы тарыфных падаткаў разлічваліся з канкрэтнымі ўладальнікамі персанальна і квітанцыямі, як некалі з расейцамі. А між тым непрыяцельскіх войскаў ужо не было тут з 1780 г. 10 снежня 1782 г. і 4 красавіка 1784 г. кароль з Пастаяннай радай пацвердзілі пастановы соймаў 1764 і 1768 гг. аб ужыванні войскаў для судовай экзекуцыі з той нагоды, што судовыя ўраднікі «не памятаюць досыць сцісла» тыя ўхвалы, адсылаючы спрэчкі бакоў у ваенны дэпартамент замест таго, каб самім займацца балючымі справамі. Судам «літоўскай правінцыі», увесь час заклапочанымі ўласным сепаратызмам і самастойнасцю ад цэнтральных інстытутаў улады, забаранялася турбаваць ваенны дэпартамент і сапраўды самастойна выконваць свае абавязкі.[37]

Між тым мінскі сеймік у 1784 г. настойвае на абавязковай прысутнасці ў гродскіх канцылярыях афіцэраў бліжэй кватаруючай харугвы ВКЛ для прымусовага спагнання падаткаў і дапамогі судам. У жніўні 1784 г. мазырскі сеймік паўтарае просьбу аб стварэнні памежнай камісіі для спынення ўцёкаў сялян з ВКЛ, забараняе знаходзіцца ў краі неаселым і немаёмным чужынцам пад карай 1000 коп грошай з утрымальніка. Тут дазвалялі цярпець толькі замежных рамеснікаў і то са згоды ўтрымальнікаў. Сваю просьбу аб ахове павета ад гайдамакаў Мазыр дапаўняе прапановай павялічыць плату вайскоўцам і абавязкам кожнага шляхціца з 20 гадоў служыць у харугвах свайго ваяводства і павета. Слонімскі

сеймік у 1782 г. патрабаваў ад ваеннага дэпартамента камплектаваць карпусы без крыўднай платы для жаўнераў і каб для рэвізіі літоўскага войска былі назначаны грамадзянскія асобы. Ваўкавыскі павет непакоіла тое, што ваенныя, не маючыя пасэсіі ў пэўным ваяводстве, сталі ўмешвацца ў маёмасныя справы. Таму ваенны дэпартамент 12 красавіка і 6 мая 1783 г. за подпісам генерал-маёра, камандуючага 2-й дывізіяй ВКЛ Ігната Мураўскага, разаслаў указ, якім забараняў афіцэрам, жадаючым прысутнічаць на сейміках з-за наяўнасці пасэсіі, умешвацца ў цывільныя справы ні самастойна, ні праз кампанейскія сувязі. Афіцэры меліся ахоўваць сеймікі і прадухіляць спрэчкі жаўнераў з абывацелямі.[38] Так вось хутка вызначылася колішняя роля чужаземных штыкоў, на якія раней было зручна спіхваць і прыкрываць уласны самасуд.

Пры гэтым пышна расквітнеў лабізм пры адначасовай рэвізіі спраў і довадаў бакоў. У 1784 г. брэсцкі сеймік параіў земскім урадам вярнуцца да статутнага парадку: суддзі з'язджаліся ў поўным складзе на месца здарэння, выслухоўвалі прэтэнзіі бакоў, учынялі пастанову (рэмісію) і... перадавалі яе на канчатковы прысуд або паўторнае разбіральніцтва скаржнікаў. Гэтак валакітна належала судзіць усім ураднікам, у тым ліку і падкаморым, якім сеймік выдзяляў у дапамогу 2 аселых арбітраў (асэсараў). Мінскі сеймік 1784 г. удакладняў пры тым, што падкаморскі ці межавы суд меўся судзіць на месцы абавязкова справы свайго ваяводства ці павета і без усякай апеляцыі.[39] Аднак дасканалы статут 16 ст. ніяк не стасаваўся да рэчаіснасці, бо адзін справядлівы падкаморскі суд проста фізічна не мог паспяваць адначасова ўладкоўваць безліч зямельных спрэчак.

Беспамяцтва адносна статутнага правадзейства сведчыла аб элементарным самавольстве, якое нібыта

каралеўскае акружэнне збіраецца скрушыць зверху. Апазіцыя напрыканцы гродзенскага сейма 1784 г., сабраўшага да 1936 удзельнікаў, зноў нагадала пра абсалютысцкія замахі Фаміліі на «рэспубліканскія свабоды». С. Панятоўскі мусіў уласна прысутнічаць у Гродне, каб прадэманстраваць адзінства з «літоўскім народам», вельмі заклапочаным непарушнасцю сваіх прывілеяў і судаводства, гарантаваных уніяй 1569 г.[40] Аднак візіт караля не спыніў лабіравання мясцовымі сеймікамі сваіх традыцыйных праграм.

Пры выбары 22 жніўня 1786 г. пасламі ад Брэсцкага ваяводства К.Н. Сапегі і З. Віславуха побач са звычайнымі патрабаваннямі стварыць 2 трыбуналы ў ВКЛ, «нават у праекты не ўносіць» новых падаткаў, скасаваць частыя мыты, вызначыць новы курс чырвонага, з'яўляюцца пункты аб вызначэнні сесій земскіх судоў з 1 кастрычніка да студзеня, гродскіх судоў з 1 лютага да канца красавіка, аб апеляцыях на неабскарджаныя дэкрэты, аб звальненні ад падатку судовых месцаў, аб павелічэнні войска... без увядзення новых падаткаў.[41] Верагодна апошні пункт стаў водгукам на указ ваеннага дэпартамента «абодвух народаў», якім той 4 студзеня 1786 г. папракаў «вольныя народы» за тое, што яны добраахвотна запрагліся ў чужаземнае ярмо і дасюль не здольны самі пазбавіцца ад «сваволі і выступленняў кожнага». Дэпартамент нагадваў, што абывацелям застаецца згадзіцца на стварэнне рэгулярнай арміі за кошт рэкруцкіх паборaў.[42]

Слонімскі сеймік 26 жніўня 1786 г. пасылаў у Варшаву Я.К. Макавецкага і палкоўніка Т. Чудоўскага з абавязкам аддаць 1 шэляг з узвышэння курсу чырвонага на ўтрыманне войска. Тут клапаціліся бесперапыннасцю судовых сесій, патрабавалі вырашаць у трыбунале справы аб пазыках (а не ў ваяводствах). Сеймік ні слова не гаварыў

якім чынам можна ўзгадніць правамоцтва безапеляцыйных прыгавораў судоў рознай інстанцыі. Аднак суддзям забаранялася адхіляцца ад прамых абавязкаў і перадаручаць іх сваім патронам і не менш хцівым заказчыкам. У Слоніме, між тым, пажадалі стварыць асобныя ваяводскія суды ў складзе кашталяна і 2 камісараў, выбраных шляхтай на 3 гады, і памежныя суды двух катэгорый. Адзін прызначаўся для разбору спрэчак з Расіяй у складзе 2 суддзяў ад Полацкага ваяводства (з рэзідэнцыяй у Талачыне) і Аршанскага з Рэчыцкім паветам разам (з пасяджэннем у Рагачове). Дэкрэты камісараў лічыліся безапеляцыйнымі з прызначэннем кожнаму ўрадніку па 3 тыс. зл. са скарбу ВКЛ. Такія ж безапеляцыйныя суды хацелі стварыць на 2 гады для вышуку ўцекачоў паміж Каронай і ВКЛ. Іх склалі з 4 суддзяў у роўным прадстаўніцтве бакоў і з платай 800 зл. кожнаму. Кашталянскія суды прызначаліся для разбору пасад епіскапаў і мітрапалітаў: за прызначэнне на мітраполію той суд браў 10 тыс. зл., а за епіскапства ўдвая менш з пераводам гэтых сум на ўтрыманне войска. Парафіяльным плябанам давалі па 3 зл. шляхам збору з заможных сялян, 2 зл. – з убогіх і 15 грошай за хрышчэнне. Іншыя паборы называліся вымаганнем і караліся спагнаннем 200 зл. у той жа кашталянскі суд.[43] Дарэчы апошні пункт выразна паўтараў скаргу пінскага сейміка 1782г., які дакараў уніяцкае духавенства за ўціск прыхаджан рознымі падаткамі і паборамі са святых таінстваў.

Як відаць, безліч абставін у 80-х гг. вымагала прымусовага збору падаткаў войскам, аднак сеймікі ўсяляк вышуквалі ўскосныя крыніцы на яго ўтрыманне. Напрыклад, брэсцкі сеймік у 1782 г., мінскі, пінскі ў 1784 г. патрабавалі забараніць розныя манаполіі ва «усёй правінцыі Літвы», вызваліць мясцовы гандаль ад

недарэчных пабораў, пакінуць на месцы даходы ад скур і іншых прадуктаў. Мазыр дамагаўся ад скарбовай камісіі публікацыі каштарысаў, у Пінску патрабавалі забараніць вываз мясцовых тавараў. У Слоніме разважалі, што грошы і працаўнікі абавязкова плывуць у бок Кароны. У лік краёвых шкоднікаў слонімскі сеймік 1782 г. занёс і яўрэяў. Пад зачэпкай «сапсавання сялянскай маёмасці», ён забараняў здаваць яўрэям шынкі па вёсках над пагрозай штрафу у 200 зл., але жадаў павялічыць пагалоўнае амаль утрая – да 6 зл. з кожнага яўрэя.

Пры ўсіх гэтых навацыях сеймікі і далей не спыняліся забараняць «утвараць новыя правы» і вышукваць больш справядлівае, чым статут, права. На гэтым раздарожжы яны, як было відаць, спрабавалі выкараніць судовую валакіту шляхам поўнага замоўчвання даўгавых іскаў або безапеляцыйных прыгавораў камісій, створаных для задавальнення крэдытораў. Паколькі ж адпаведныя камісіі вызначаліся самімі судамі, то сеймікі ўсё часцей патрабавалі вырашаць зямельныя спрэчкі на месцах, а не валаводзіць іх позвамі і іскамі. Бюракратычнае кола ўсёроўна круцілася і з гэтага нажываліся ўсе ўдзельнікі працэсаў. Плацілі за зберажэнне актаў, назіральнікам за паборам падымнага (паборцамі), за ганаровыя чыны, званні і г.д.[44]

На працягу 70—80-х гг. не менш 8 сеймікаў прайшлі як раздвоеныя і з гэтай прычыны напрыканцы сейма 1786 г. з'явіліся праекты ўдасканалення выбарчай працэдуры. Яны прадугледжвалі выкрасліць шляхецкую галоту ад удзелу ў галасаваннях, дакладна вызначыць месцы сходаў, каб зрабіць нелегальнымі альтэрнатыўныя пасяджэнні ў іншых месцах, разбіраць справы расколу сеймікаў у судах, што таксама азначала ганенні на нязгодных. Гэтыя намеры замахваліся на векавечную традыцыю вольных выбараў усёю шляхтаю і яны рэалізоўваліся ў рэчаіснасці.[45]

Прыведзенае дазваляе гаварыць, што на сейме 1775 г. магнацтва ВКЛ з дапамогай Расіі ўвекавечыла ўпадабаны для ўласнага панавання лад, выгадны судовай і ваеннай беспакаранасцю. Чужаземныя штыкі дапамагалі распраўляцца з праціўнікамі, а пераможцам і пацярпелым было выгадна звальваць гвалты на замежны дыктат. Вывад расійскіх войскаў адразу высветліў сапраўдныя карані спарахнеласці старадаўніх і нязменных вольнасцяў, пастаянных спекуляцый на агульнай карпаратыўнасці шляхты і яе самаўладстве. Расколы шляхецкіх сеймікаў прадоўжыліся і без канфедэрацый пры карыстанні ўлюбёным ліберум вета, або аднагалоссем. Культ статутнага прававодства ў ВКЛ не спыняў агульнай сваволі і зневажання самога права. Беззаконне зараз нельга было ужо проста спісаць або зваліць на замежную ўзброеную моц, бо самі сеймікі ўсяляк праціўіліся прамым ападаткаваннем шляхецкіх уладанняў утрымліваць уласнае войска. Абкладанне падаткамі ўскосных крыніц непазбежна закранала іншыя станы, вяло да іх незадаволенасці, да ўсяго памножанай казнакрадствам агульнага скарбу. Нават вольнае абарачэнне манеты і вольныя пераходы сялян сталі перашкодай і штурхалі да ліквідацыі магдэбурскіх гарадоў. Нават намёкі на скарыстанне ўласнай арміі для дапамогі судам пры рэалізацыі іх рашэнняў сустрэлі прамы сабатаж і енкі аб пагвалчанні залатых вольнасцяў, успрымаліся ў якасці дэспатызму пастаўленага ўрада і караля. Культ старадаўняга права, у тым ліку і дасканалага статута ВКЛ, не выводзіў краіну на дарогу правапарадку і законнасці. Шляхецкія сеймікі ВКЛ адбіваліся ад патрэбнай кадыфікацыі нормаў права пад пагрозай самазнішчэння саслоўнага першынства і страхаў ад вызвалення сялян, ураўнавання станаў. Аднак яны не прапаноўвалі рэальных

і пазітыўных крокаў удасканалення існуючага ладу. Яны ўвогуле патрабавалі не парушаць шляхецкія прывілегіі з часу уніі Кароны з ВКЛ (16 ст. ), жадалі самастойна распараджацца ўласнымі падаткамі, войскам, падданымі. Між тым, гэта не было патрабаванне суверэннай дзяржаўнасці, а заўжды гучала з прыхільнасцю да правінцыяльнага становішча ВКЛ у межах адной супольнай дзяржавы, у поўнай адпаведнасці з самім актам уніі.

Дзесяцігоддзе ад 1776 да 1787 гг. адлюстравала крызіс грамадска-палітычнага развіцця дзяржавы на шляху культу нязменнасці старадаўняга ладу з яго векавечнымі вольнасцямі. Выхад патрабаваўся радыкальны.

## § 2. Грымасы лагоднай рэвалюцыі

Чарговы вальны сейм Рэчы Паспалітай у 1788 г. рыхтаваўся звычайным парадкам з надзеі на патрыятычную самахвяранасць выбаршчыкаў і добрасумленнае выкананне іх пасламі атрыманых наказаў. Сеймавыя падзеі і рашэнні з выдатнай падрабязнасцю асветлены ў літаратуры, а таму вядомыя сюжэты будуць скарачацца.

Выбарчы сеймік Мінскага ваяводства 20 жніўня 1788 г. ад імя 21 сабраных пасылаў у Варшаву скарбніка П. Паўлікоўскага і харунжага Ю. Валадкевіча з усведамленнем таго, што толькі «ўнутраная нязгода і абыякавасць прывялі да адрыву ад Рэчы Паспалітай найлепшых і найкаштоўнейшых правінцый».[46] Таму, разам з ім амаль усе сеймікі згаджаліся на павелічэнне арміі, але без «спусташэння шляхецкіх маёнткаў» падаткамі. Мазырскі сеймік 18 жніўня пад старшынствам М.К. Аскеркі даручаў Я. Аскерку і К. Яленскаму шукаць патрэбныя сродкі на

паезуіцкіх уладаннях і з пенсій чыноўнікаў. Інструкцыя 132 чал. брэсцкага сейміка 9 жніўня праз судовага старасту К. Сапегу і кашталяна Тадэвуша Матушэвіча патрабавала ўтрымліваць войска «ўсімі станамі без уціску шляхты».[47] На сейміку 92 патрыётаў Гродзенскага павета 18 жніўня К. Волмер і войскі, судовы падстараста А.М. Эйсмонт атрымалі наказ утрымліваць кампутовую міліцыю ваяводстваў і паветаў, а на армію сродкі браць з эмфіутычных староств.[48] Такі ж пункт запісалі 106 удзельнікаў ваўкавыскага сейміка судоваму старасту Паўлу Грабоўскаму і земскаму пісару Міхаілу Булгарыну[49]. У зборы 231 чал. слонімскі сеймік паслаў судовага старасту, харунжага ВКЛ Станіслава Солтана з гродскім пісарам Казімірам Прэслаўскім з даручэннем узяць на армію даходы з заможных кляштараў, кварту староств, пакінуўшы пасэсарам эмфіутычныя правы «для лепшага гаспадарання», дзесятую частку з працэнтаў ад усякіх здзелак. Тут не жадалі дапушчаць да вайсковых рангаў чужынцаў і нікога, акрамя радавітай шляхты. Скарбовымі рабіліся нават тэатры. Сеймік пакідаў ваколічную шляхту без сялян пры старым падымным падатку і абяцаў не абцяжарваць яе іншымі. У Слоніме раілі ўзяць са шлюбаў кожнай пары яўрэйскай беднаты па 50 зл., а гультаёў, валацугаў і, ніякага рамяства не маючых яўрэяў, забраць у рэкруты.

Мазырскі сеймік пастанавіў ураўняць мыта паміж Каронай і ВКЛ, курс замежнай і айчыннай манеты. Гэта падтрымалі 58 чал. на сходзе ў Пінску, адкуль на сейм паслалі гродскага пісара П. Шырму і падстарасту, мечніка М. Бутрымовіча.[50] У Мазыры, Гродне і Ваўкавыску збіраліся аднавіць шляхецкія попісы з асабістай яўкай дакументаў, як доказаў для удзелу на сейміках, менавіта для бяднейшай шляхты дбалі аб завядзенні парафіяльных

школ пры каталіцкіх калегіях і ордэнах. Хаця ў Мазыры жадалі «спрасціць і ўвесці роўнасць заканадаўства для ўсіх правінцый без выключэння» пры вышуку ўцекачоў, аднак тут жа (як ў Ваўкавыску і Мінску) дабіваліся судзіць уцекачоў «літоўскай правінцыі» толькі па месцы жыхарства. 86 чал. на навагрудскім сейміку 18 жніўня даручылі земскаму суддзі М. Бярновічу і сіткаўскаму старасту Стэфану Верашчаку дабівацца альтэрнатывы сейма ў Гродне.[51] У Пінску і Навагрудку жадалі сістэматызацыі метрык «правінцыі ВКЛ» за кошт рэспублікі, а ў Мінску – ураўнавання адарваных Мсціслаўскага і Віцебскага ваяводстваў з Смаленскім і Старадубскім паветамі.

Непарушнасць кардынальных правоў падтрымлівалі з наяўных інструкцый толькі ў Ваўкавыску. Астатнія сходы у прынцыпе не адмаўляліся ад перамен. У Мінску прадугледжвалі трохгадовыя выбары земскіх і гродскіх судоў. У Навагрудку 4-разовыя сесіі гродскіх судоў разбівалі на дзве дзеля зручнага часу яўкі спрачальнікаў. У Гродна гэтым судам перадавалі ўсе справы коштам менш 100 зл. З прыцэлам на выкараненне валакіты ў судах мазырскі сеймік патрабаваў апісаць працэдуру Галоўнага трыбунала. Брэст прадугледжваў 2 самастойныя трыбуналы «у правінцыі літоўскай» (у Вільні і Гродне) са сваімі маршалкамі і 2-месячнымі сесіямі. Тут дазвалялі ўжываць вайсковую дапамогу пры рэалізацыі судамі сваіх рашэнняў. Гродзенскі сеймік выйсце з судовага бюракратызму бачыў у непахіснасці явачных дэкрэтаў, неабскарджаных праціўнікамі. Калі лічыцца з практыкай судаводства ў судах вышэйшай і ніжэйшай інстанцый, тады гэтым уводзілася безапеляцыйнае судаводства на ўсіх узроўнях. Пры гэтым у Навагрудку асаблівую ролю адводзілі падкаморскаму суду: ён мог падзяляць маёнткі даўжнікоў праз «вячыстую ацэнку» і карыстацца 5 % з даходаў

уладанняў за добрае вымярэнне і верную рэгістрацыю. Шматлікасць каморнікаў сярод падпісантаў інструкцый на ўсіх сойміках якраз сведчыць аб іх значнасці ў гэты час.

Тая ж навагрудская інструкцыя абавязвала паслоў дбаць аб захаванні свят і пастоў «грэчаска-каталіцкага абраду», утрымліваць папоў за кошт уніяцкіх фундушаў. Калі ў Пінску уніяцкім прэсвітэрам забаранялі самастойна выконваць таінствы і пахаванні, то ў Слоніме патрабавалі вярнуць адабраныя ў іх кафедры. Нарэшце, усе сеймікі загадвалі паслам не прысвойваць недазволеных інструкцыямі заканадаўчых ініцыятыў, засядаць да той пары, пакуль інтарэсы выбаршчыкаў не будуць завершаны «без ліміты». Як відаць, акрамя гэтага аднадушша, інструкцыі не вызначалі яснай і новай перспектывы заканадаўчых прац.

Сейм адкрыўся 6 кастрычніка 1788 г. у зборы 170 паслоў і адразу завязаўся ў канфедэрацыю. Большасць адразу стала патрабаваць ліквідацыі пецярбургскай апекі, бо выводзіла спаралізаваны лад з маскоўскага ўціску і яго ўнутраных шпіёнаў. Дырыжыравала гэтым патрыятычным аркестрам працруская партыя (А. Чартарыжскі, Патоцкія, М.К. Агінскі, К.Н. Сапега і інш.). Фрыдрых II скарыстаў хвіліну і ўрачыста паабяцаў сеймуючым узброеную дапамогу для скідання «рускага ярма» ў іх дамаганні незалежнасці і вольнасці краіны. Пруская нота 13 кастрычніка панесла сейм па ўсхваляваным моры антырускіх настрояў. Без абмеркавання штатаў 20 кастрычніка, пры адным супраціўным голасе, сейм ухваліў неабходнасць 100-тысячнага войска. 3 лістапада ваенны дэпартамент замянілі сеймавай ваеннай камісіяй. Загучалі галасы расцягнуць пасяджэнні на неакрэслены час для канструктыўнай працы. Рускі пасол ад імя Кацярыны II адрокся ад дружбы з Рэччу Паспалітай, што азначала фармальнае скасаванне расійскай гарантыі.[52]

У ваяўнічым запале сейм заняўся стварэннем уласнага войска і рабіў гэта, як сведчыў К. Радзівіл, у выглядзе гульні «ў камедыю».[53] 3 красавіка 1789 г. ваеная камісія заявіла аб камплектаванні харугваў ВКЛ з 98 чал. Усім ротмістрам загадалі на працягу 4 тыдняў узяць у камісіі жалаванне на камплект сваіх штатаў, а тым, хто не паспее выканаць гэта да 31 жніўня, пагражалі пазбавіць рангаў.[54] І гэта пры тым, што не былі вызначаны ні трывалыя штаты, ні спосабы ўтрымання!

Дзеля ўтрымання войска сейм назначыў 6 красавіка 1789 г. люстрацыю дымоў ва ўсіх уладаннях, а 1 чэрвеня абавязаў уласнікаў пад прысягай паказаць даходы ад пасеваў усякага збожжа. Гэты падатак называўся ахвярай дзесятага гроша (10 %) ад прыбыткаў. У літоўскай правінцыі ён вызначаўся з 10 карцоў пасеваў ці 3 віленскіх бочак на камісійную меру. Скарбовая камісія ВКЛ вызначыла тую ахвяру да 15 красавіка з усіх гарадоў, мястэчак, старостваў і г.д. з разліку на агульны запал. Выключэнні зрабілі для духавенства, шляхты без сялян, арандатараў, якія трымалі чужыя ўладанні не менш 4 год. Камісія заклікала ўсіх «дэманстраваць прыклады, што каму хочацца», а затым патрабавала даць даходы ад старостваў на працягу 6 тыдняў (5 чэрвеня 1789 г.). Затым ад дзяржаўцаў паезуіцкіх уладанняў патрабавалі 10 %. У выніку уласнікі ўзвалілі ахвяру на сялянскія надзелы або сталі плаціць патрыятычны дар шляхам павелічэння паншчыны. У Гродна нават сталі спаганяць ахвяру як абавязковы падатак з чыншавай шляхты.[55] Даходы прыманшалі або ўтойвалі. Зборшчыкі і самі ўладальнікі пад выглядам рэвізій «бунтавалі» сялян сапернікаў. Да ўсяго самі сяляне, да прыкладу Дубаўскага ключа гродзенскай эканоміі, папрасілі падскарбія ВКЛ С. Панятоўскага не вяртаць іх дзяржаўцам, якія вывезлі

зерне ў Прусію. За імі на чынш папрасіліся Янаўскі, Гродзенскі ключы і хваляванні хутка распаўсюдзіліся.[56]

6 ліпеня 1789 г. скарбовая камісія ВКЛ патрабавала паведаміць ёй даныя аб даходах кожнай вёскі і горада з іх прывілеямі, правамі сялян і мяшчан, спрэчкамі і скаргамі іх з уладальнікамі.[57] Гэты ўніверсал абяцаў бакам захаваць іх старадаўнія правы і справядліва вырашыць з дапамогай упаўнаважаных камісараў. Гэты крок справакаваў падданых справядліва скардзіцца на ўціскі і парушэнні даўніны валадарамі з надзеі на пакаранне вінаватых і задавальненне сваіх крыўд. Па прыватных мястэчках пакацілася хваля бунтаў, бо і там сталі дамагацца ачыншавання, вызвалення ад паншчыны, правоў свабодных людзей. Гэтыя хваляванні не рабілі ўчынкі сейма папулярнымі сярод валадароў прыгонных. Ахвяру з гарадоў патрабавалі ажно 5 разоў, а затым і зусім забыліся, каб не ўзбуджаць варожасці станаў. З прадугледжаных 40 млн. зл. шляхта ахвяравала ўсяго 6 млн. У ВКЛ яна прынесла толькі 1,5 млн. з належных 3 млн.

Для рэгулявання сацыяльнай напружанасці, у якасці паліцэйскіх органаў на месцах, сейм стварыў 17 снежня 1789 г. ваенна-парадкавыя камісіі ў кожным ваяводстве і павеце. Выбіраліся яны на месцах са шляхты з 15—17 членаў на 2 гады. Камісіі маглі ўжываць войскі ў дапамогу і таму хутка сталі ўвасабленнем сеймавай дыктатуры і сродкам палітычнай расправы.[58]

7 снежня 1789 г. сейм увёў рэкруцкі набор у армію, заклапочаны мізэрнасцю шляхецкай самаахвярнасці. Пастаўку рэкрут аддалі на волю валадарам, якія сталі здаваць хворых, калек, проста прадавалі прыгонных вярбоўшчыкам і немаёмным гаспадарам. У пошуках наймітаў сталі бадзяцца атрады марадзёраў і рабаўнікоў.

У ВКЛ праславіўся палкоўнік кавалерыі Я. Завіша, які з надворнымі салдатамі і «розным зборам» ахвотнікаў лёгкай здабычы разнёс ушчэнт фальварак Таўкачэвічы і Васкевічы ў Мінскім ваяводстве.[59] Як пісаў Ф. Нямцэвіч, «рэкруцкія наборы былі складзены з бадзяжнікаў або людзей, узятых гвалтам». У харугвы пярэдняй варты ВКЛ, як пісаў адказны за іх камплектаванне мечнік Міхаіл Клеафас Агінскі, прыходзілі «ўвогуле усе без грошай, адныя лайдакі і п'яніцы».[60] Пад час рэфармавання літоўскае войска было запоўнена «лаянкай, недахопам, нараканнямі, пачынаючы ад генералаў і да самага апошняга жаўнера». У выніку на пачатку 1791 г. яно лічыла 14818 дзеяздольных на паперы людзей, бо «пры першай небяспецы панове брыгадзіры, віцэ-брыгадзіры бессаромна сядзелі па хатах, а некалькі малодшых афіцэраў кіравалі палкамі, як маглі».[61] М. Радзівіл 27 лютага 1789 г. узяў у К. Тэппера пазыку ў 10 млн. зл. і абяцаў асігнаваць 100 тыс. зл. (!) на пастаўку рэкрут у кавалерыю, бо лічыў «шчасцем» выбіцца з маскоўскага ярма. Ён абяцаў паставіць легіён у 6210 салдат з уласных ардынатаў на дзяржаўнае ўтрыманне, каб такім шляхам прысвоіць са скарбу яшчэ каля 1,8 млн.зл. Падобныя планы выношвалі і іншыя магнаты, якія маглі выставіць цэлую армію і камандаваць яе рэгіментамі ў якасці ганаровых шэфаў. Сам кароль не давяраў падобным пражэкцёрам і казаў, што калі б так пайшло, то ўся армія Рэчы Паспалітай трапіла б пад уладу «некалькіх сатрапаў».[62]

У выніку 100-тысячнае войска да студзеня 1790 г. сабралі толькі напалову (57 тыс. чал.), а ваенная камісія ВКЛ тады ж распарадзілася рыхтаваць харчаванне для рэгіментаў толькі праз грашовыя закупкі. Яна ўвогуле вызваліла панска-шляхецкія маёнткі ад ваеннага пастою.[63]

Падазраючы, што агульнажаданыя перамены тармазіць Пастаянная рада, сейм скасаваў яе 19 снежня 1789 г. і з гэтага часу практычна ўзяў сабе ўсю паўнату ўлады ў краіне. Апаненты тут жа назвалі гэты крок парушэннем роўнавагі станаў і ўвядзеннем яшчэ горшага дэспатызму. Тады галоўнымі віноўнікамі грамадскіх няшчасцяў назвалі магнатэрыю, якая давяла органы ўлады да бяздзейнасці,ператварыла шляхту ў паслухмяны статак сваіх эгаістычных інтарэсаў. На сесіі 17—22 снежня 1789 г. канстытуцыйная камісія з голасу К.Н. Сапегі рашыла выключыць неаселую і дробную шляхту з сеймікаў у якасці выхаду «з хранічнага становішча гвалтаў, падманаў, прадажнасці і анархіі».[64] 24 сакавіка 1790 г. быў прыняты закон, які дапусціў на сеймікі толькі землеўладальнікаў, якія плацілі 100 зл. падатку, якія мелі 24 гады і прайшлі 6-гадовую ваенна-грамадзянскую службу. Закон увёў тайнае галасаванне на выбарах, каб забяспечыць сапраўднае волевыяўленне выбаршчыкаў.[65] Тым самым сейм скасаваў спрадвечную фармальную роўнасць шляхты, жадаючы разам пакончыць з уплывам магнатаў і са згубнымі канфедэрацыямі, гэтай крыніцай унутраных замяшанняў.

Каб цалкам выкараніць усе праявы замежнага ўплыву, сейм 18 сакавіка 1789 г. абавязаў праваслаўнае духавенства на працягу 2 тыдняў прынесці вернападданую прысягу, а замежным купцам загадаў зарэгістравацца ў судах пад пагрозай выгнання. На месцах тут жа сталі хапаць валацугаў, філіпонаў, старавераў, фурманоў, западозраных як шпіёнаў Расіі, прысланых для арганізацыі разні над панамі. Загучалі патрабаванні сканфедэраваць шляхту. Кароль лічыў, што гэта магнаты пад зачэпкай утаймавання бунтоў імкнуцца скалаціць узброеную канфедэрацыю, каб паскорыць інтэрвенцыю

Расіі. Таму ён раіў увесці праваслаўнага ўладыку ў Сенат, каб «схізматыкі» не думалі, што унія застаецца хітрым сродкам пераводу іх у каталіцтва, каб прадэманстраваць рэлігійную цярпімасць краіны.[66]

18 чэрвеня 1790 г. на сейме з'явіўся праект стварэння незалежнай ад расійскага сінода «нацыянальнай, польскай грэка-неуніяцкай» царкоўнай іерархіі на чале з каралём у выглядзе Бельскай архіепіскапіі і 3 епіскапстваў (Мінскага, Наўгародскага замест Слуцкага і Жытомірскага або Брацлаўскага). Арганізацыйны сабор мелася сабраць у прысутнасці сеймавых чыноў. Ананімны аўтар у гэтай сувязі пісаў, што прымус праваслаўных да выгнання быў прыраўнаваны да прымусу ў унію, што ўзнікла вялікая нянавісць сялян-уніятаў да паноў, што калі ў 1775 г. паны зрабілі іх дзяцей прыгоннымі, то народжаныя ў шляхецтве праваслаўныя папы апынуліся агіднымі святарамі, што не веравызнанне стварае замежны ўплыў, а сама унія. У Пецярбургу азнаёміліся з гэтым праектам і невядомая рука заключыла: «для пользы России весьма нужно, чтобы оный остался без действия».[67] Аднак справа закруцілася. На сейме загаварылі, што уніяцкія парафіі запоўнены «невукамі», што базыльянскія кляштары населены «маскоўскімі місіянерамі», якія зводзяць простанароддзе вёсак і саміх ксяндзоў у «праклятую схізму, а адтуль бунты, адтуль разня». 23 ліпеня сейму прапанавалі праект прадастаўлення сенацкага крэсла уніяцкаму мітрапаліту, на што праціўнікі заявілі, што ў такім выпадку крэсла зойме не прыроджаны шляхціц, а звычайны манах, з якіх бяруцца «рускія епіскапы». Слуцкага праваслаўнага епіскапа Віктара Садкоўскага тут жа абвінавацілі ў «жаданні ўзбудзіць нянавісць да нарадовай улады» і без следства кінулі ў турму. У Пінску спрытна правялі аўтакефальны сабор.[68]

За гэтымі шумнымі маніфестацыямі наблізіўся час роспуску сейма. 21 мая 1790 г. на ім прагучала прапанова не разыходзіцца і прадоўжыць сесіі, каб не кінуць краіну у бездань безуладдзя. Апаненты назвалі гэта ганебнай знявагай шляхецкіх наказаў, жаданнем узурпіраваць «волю народа» і прыціснуць яго «вечнай дыктатурай». Але рэфарматары ў прысутнасці 54 паслоў (пры адсутнасці 115) прапанавалі праект выратавальнай канстытуцыі. Праект уводзіў спадчыннасць трона за саксонскай дынастыяй Сасаў замест вольнай элекцыі каралёў, што знішчала старадаўняе права шляхты. Кароль рабіўся старшынёй Стражы правоў – тыпу кабінета міністраў. Праект назваў пануючай «каталіцкую рэлігію абодвух абрадаў» у неразрыўнасці каталіцтва і уніяцтва. Апастазія, або пераход у іншавер'е, лічылася дзяржаўным злачынствам, але дэклaравалася цярпімасць усіх канфесій. Абвяшчалася непадзельнасць Рэчы Паспалітай і ўводзілася крымінальная адказнасць за яе парушэнне. Мяшчане маглі набываць шляхецкія правы і ўласнасць.

Гэтыя наваўвядзенні выклікалі абурэнне тым, што ананімныя аўтары сабраліся ўкараніць «у сакрэце ад шляхты» неўласцівы для рэспублікі абсалютызм, а самі паслоў «трымаюць за фігляроў і лакеяў». Інфлянцкі епіскап Юзаф Касакоўскі прыцягнуў канстытуцыі 1607 і 1736 гг., якія пагражалі смерцю за падобныя прапановы.[69] Спасылка не на замежны гвалт, а на айчынную традыцыю, прывяла рэфарматараў у адчай. Тады рашылі апытаць шляхту: ці можна пазбегнуць бескаралеўя выбарам наступцы трона пры жыцці дзеючага караля? Пагадзіліся разам з апытаннем выбраць новых паслоў і далучыць іх да сеймуючых. Сеймікі назначаліся на 15 лістапада 1790 г. Парушэнне традыцыйных тэрмінаў выбараў выклікала вэрхал. Адны крычалі, што маёмныя верхаводы

«запішуць у інструкцыі што пажадаюць і такім шляхам народ апынецца ў кайданах тыраніі». Другія прыгразілі звярнуцца за знешняй дапамогай для абароны залатых вольнасцяў. Але бакі замірыліся і выбары адбыліся.

З розных месц каралю паведамілі, што на лістападаўскіх сейміках выбаршчыкі раскалоліся, што «гвалт і сеча дыктуе ўсе інструкцыі», што ураднікі пішуць у наказы «усё, што ім хочацца, а шляхта аб тым не ведае».[70] Прыкладам падобнага можа быць сеймік Мінскага ваяводства. 99 чал. 26 лістапада заявілі, што на выбарах парушана «роўнасць правоў і справядлівасць, а замест іх запанавалі інтрыгі, гвалт і хаос». Выбаршчыкі жадалі паслом С. Багушэвіча, аднак земскі суддзя і стараста Ю. Ванковіч запісаў у спіс 5 кандыдатаў жмудскага цівуна Яцка Путкамера, які не меў аселасці ў ваяводстве. Сабраныя патрабавалі прагаласаваць па парафіях і адпаведна тарыфам. Аднак інтрыганы «не дапусцілі абываццеляў да галасавання». Пратэст падтрымаў прыбыўшы з Варшавы генерал-ад'ютант А. Прушынскі, які сведчыў, што гэта ваявода А.М. Хмара «інтрыгамі, насіллем і ўціскамі як пачаў, так і завершыў абрады», імкнучыся зрабіць паслом земскага суддзю Я. Паўлікоўскага. Прушынскі пісаў, што выбары незаконныя, бо адны выбаршчыкі «ўжо памерлі, іншыя надта ўбогія і сціснутыя урадам, павінны цярпець дэспатызм».[71]

У цэлым, 55 сеймікаў Рэчы Паспалітай выбралі 177 новых паслоў. Большасць наказаў згадзілася аддаць трон Сасам пры жыцці сапраўднага караля, хаця адны называлі наступцам Фрыдрыха Аўгуста, другія аддавалі яго назначэнне сейму, трэція патрабавалі апытаць народ пры адмове Дрэздэна.[72]

З 7 наяўных інструкцый (ад Мінска, Гродна, Ваўкавыска, Пінска, Мазыра, Навагрудка і Слоніма) усе згадзіліся з выбарам наступніка, але пры папярэднім устанаўленні

новай формы ўрада і прысягі пад тым Саса. У выпадку адмовы элекцыя караля заставалася па-ранейшаму ў руках шляхты. Адзін мінскі сеймік давяраў назначэнне наступцы сейму, запісаўшы гэта ў наказе Я. Путкамеру і Ю. Ваньковічу на сходзе 56 асоб.[73] Гэты пункт не падлягаў нават тайнаму галасаванню. Гродзенскі сеймік, які 16 лістапада паслаў ад імя 478 выбаршчыкаў харунжага Л. Панцэржынскага з парадкавым камісарам Юзафам Дашкевічам, а таксама мазырскі ад імя 34 асоб даручаў маршалку У.К. Аскерку і судоваму старасце Я. Яленскаму проста забараніць сакрэтнае галасаванне.[74] 91 чал. Навагрудскага ваяводства паслалі на сейм М. Бярновіча і лоўчага С. Верашчаку з даручэннем адабраць у караля эканоміі і пакінуць яму адну пажыццёвую пенсію.[75] У Гродне, Навагрудку і Мінску выказваліся за тое, каб староствы падзяліць на вечным чыншы паміж шляхтай з даходам кожнай часткі не менш 15 тыс. зл. і каб яны не драбіліся ў спадчыну. Дарэчы, гэтая ідэя адпавядае праекту рэформы дзяржмаёмасцяў паводле якога на працягу 2 гадоў пасля звароту староствау у скарб належала ўрэгуляваць існуючыя спрэчкі, каб здаць іх неабцяжаранымі новым уласнікам. У наступныя 3 гады староствы драбіліся на фальваркі з інвентарным апісаннем павіннасцяў і надзелаў сялян. Так выглядаў план ачыншавання або абмежавання сялянскай эксплуатацыі пад апекай дзяржавы. Ён затым быў паўтораны ў канстытуцыі 3 мая 1791 г. і яго мелася зрабіць узорам для перайманння кансерватыўным панствам.[76]

193 подпісамі сеймік Слонімскага павета[77] і 46 выбаршчыкаў Пінскага павета ў інструкцыі мечніку Шыману Скірмунту ды палкоўніку кавалерыі Міхаілу Каржанеўскаму[78] падтрымалі жаданне іншых сходаў бачыць дапушчанымі да адукацыі шляхецкай моладзі ўсе

манаскія ордэны. Асабліва дзякавалі базыльянаў за асвету «грамадства ў праведнай рэлігіі (!), злучанай з рымскакаталіцкім касцёлам». У гэтых жа мэтах у Пінску, Навагрудку, Мазыры і Мінску дабіваліся аднаўлення ордэна езуітаў, праўда без звароту таму уладанняў. Даходы паезуіцкіх уладанняў мелася перадаць у распараджэнне парадкавых камісій, а капіталы адукацыйнага фундушу даручыць скарбу. Усе інструкцыі жадалі ліквідацыі скуранога, манаполій на жалеза, соль, табак, збожжавую ссыпку. У Навагрудку, Мазыры, Мінску і Пінску не цярпелі мытні паміж Каронай і Літвой. Практычна ўсе выбаршчыкі наказвалі паслам унікаць усякіх «неспакояў, працістаяць і не дазваляць расколу, які б прычыніўся да спробаў суседзяў умешвацца ў нашыя справы». Нарэшце, усе сеймікі забаранялі паслам прысвойваць заканадаўчыя паўнамоцтвы без волі шляхты і ўсяляк унікаць шкодных новаўвядзенняў. Навагрудскі сход выразна запісаў, што «узурпацыя такой улады ператворыць іх у абсалютных дыктатараў, страшных і шкодных для народнай вольнасці». Таму ўсе сеймікі патрабавалі ад паслоў справаздачы.

У іншых пытаннях сходы не мелі аднадушша. Памятаючы аб шкодах канфедэрацый, бясконцых урадавых зменах, у Мазыры, Слоніме, Пінску і Мінску выступалі за рэформу ўрада, але без шкоды пераваг шляхты і кардынальных правоў. У Слоніме толькі патрабавалі знішчыць у кардынальных правах «усе сляды знешняй апекі», а значыць і тут не адносілі кардынальныя правы да стварэння Расіі. У Пінску і Мазыры хацелі параней шаму праводзіць сеймікі па старых звычаях і абрадах, але патрабавалі ліквідаваць на іх ліберум вета. У Гродне, Мінску, Мазыры хваляваліся за непарушнасць ўніі 1569 г. і неабходнасць альтэрнатывы сейма у Гродне.

Калі ў Мазыры скарб Кароны і ВКЛ пакідалі злучаным, то ў Пінску і Гродне яго бачылі ў святле «роўнасці прарэгатыў кожнай правінцыі».

Палова інструкцый у клопаце аб дасведчанасці пра абывацельскія ахвяры патрабавала абнародваць штаты арміі і выдаткі на яе. Для справядлівага размеркавання падаткаў Пінск дамагаўся новага адміністрацыйнага падзелу, аднаўлення штогодных шляхецкіх попісаў (уліку) і вызвалення праваслаўнага духавенства ад падаткаў 50 зл. Толькі інструкцыя Мінскага ваяводства тлумачыла клопат аб неабходнасці чарговай люстрацыі дымоў і енкі аб уціску залішнімі падаткамі. Яна запісала, што з-за розніцы ўраджайнасці глебы існуе «памылковае разуменне сядзібнай аселасці земляроба, якія ў нас, седзячы на паўвалоцы, чвэртках і яшчэ меншых частках, памнажаюцца толькі колькасцю хат, а па самой сутнасці ледзь могуць раўняцца з агароднікамі, халупнікамі і карчмарамі. Акрамя таго, хлоп, жывучы ў нас на паўвалоцы, як і ягоны сусед, з чвэрткі, выконвае 4 дні паншчыны, але яны аднолькава лічацца земляробскім дымам. Хаця нашыя і агароднікі і халупнікі без зямлі паншчыны не выконваюць, аднак пры люстрацыі палічаны за дымы».[79]

Мінскі сеймік пры тым пісаў, што «паколькі ў ВКЛ земляробскі стан вызнае грэка-уніяцкую рэлігію і мае асобны календар, мноства святаў і пастоў якога перашкаджаюць працы земляробаў», то неабходна ўраўняць каталіцкі і уніяцкі календары. Тое ж паўтарылі ў Гродне, Пінску, Слоніме, Мазыры. Пры тым Пінск катэгарычна забараняў кранацца ўласнасці вотчыннікаў над падданымі, бо «плебейскі стан не дасягнуў яшчэ прыстойнасцяў у наш асветны век». Толькі ў Мінску згаджаліся з крымінальным пакараннем шляхціца за забойства селяніна, але дазвалялі вызваляць прыгонных

хатамі, а не вёскамі ці сем'ямі. Саслоўны эгаізм гучаў у пастановах гродзенскага і мазырскага сеймікаў не дапушчаць гараджан да заканадаўства, у жаданні мінскага сейміка захаваць прывілеі гарадоў, у намаганні Гродна, Мінска і Пінска завяршыць яўрэйскую рэформу без пашырэння палітычных правоў сталіц на мястэчкі ў прыватных маёнтках.[80]

Калі навагрудскі сеймік выказваўся супраць сумяшчэння ў адных руках ваеннай і грамадзянскай улады і разам з Гроднам патрабаваў не кранаць існуючых міністэрстваў, крэслаў і ўрадаў «правінцый абодвух народаў, «то ў Мінску і Пінску згаджаліся на выбары судоў і ўсіх камісій на мясцовых сейміках. Прынамсі, у Пінску рашуча выступалі супраць назначэння старастамі гродскіх суддзяў і хацелі абмежаваць тэрмінам пажыццёвыя ўрады кашталянаў, маршалкаў, падкаморых, старастаў і асэсараў. Мінская інструкцыя намагалася аб'яднаць земскія і гродскія суды з падкаморскімі, не выбіраць суддзяў ні ў паслы, ні ў дэпутаты трыбунала, стварыць 2 трыбуналы «ў літоўскай правінцыі». У гэтых пастановах прасочваецца барацьба паміж партыяй нязменнасці пажыццёвай адміністрацыі і яе перавыбараў. У цэлым жа лістападаўскія сеймікі правялі на сейм сапраўды новых паслоў, засведчылі жаданне кантраляваць адміністрацыю на месцах прызначэнняў і выбараў, ваганні выбаршчыкаў перад неабходнасцю і страхам ад змен.

Яны зафіксавалі ў наказах столькі набалелых праблем, што ў рэфарматарскіх колах наракалі на загружанасць соймавых прац другараднымі дробязямі. Сам кароль лічыўся з фальшывасцю выказаных сеймікамі ідэй, дзе «не пярэчылі, абы толькі атрымаць большасць галасоў» або са страху ад супрацьстаяння.[81] 16 снежня 1790 г. сейм адкрыўся ў складзе ўсіх 500 паслоў і пачаў з таго, што 26

студзеня 1791 г. пазбавіў чыншавую шляхту выбарчых правоў і канчаткова пахаваў агульнашляхецкую роўнасць. 18 красавіка ён прыняў уставу аб гарадах, якая прадаставіла самакіраванне цэнзавым элементам толькі з жыхароў сталічных гарадоў. Яны маглі пасылаць дэпутатаў у сейм з дарадчым голасам. Шляхта магла запісвацца ў мяшчанства, а апошнія набываць шляхецкія правы. Гэтыя куцыя свабоды не дасталіся жыхарам прыватных мястэчак, але гарадавое палажэнне, як ніводны закон Вялікага сейма, штурхаў грамадства у бок сацыяльнага раўнапраўя. Менавіта гэты закон падбіў местачкоўцаў да звароту забраных старостамі і дзяржаўцамі зямель, млыноў, перавозаў, мастоў пад юрысдыкцыю магістратаў, да дамагання вольнасцяў. Прынамсі, г. Дзісна дабіваўся ад сейма звароту 10-га грошa, усіх уласнасцяў, даходаў, прывілеяў..., але без яўрэяў.[82]

Сітуацыя аказалася настолькі напружанай, што рэфарматары рашылі правесці канстытуцыю, падрыхтаваную сакрэтным камітэтам з 7 чал. «рэвалюцыйным спосабам»,[83] карыстаючыся адсутнасцю ў Варшаве большасці паслоў. 3 мая 1791 г. у прысутнасці ўсяго 157 паслоў пад акампанемент даклада аб пагрозе чарговага падзелу краіны, які падрыхтаваў брэсцкі пасол Т. Матушэвіч, пасля 6 гадзін гаму была прынята вядомая канстытуцыя. Яна замяніла вольны выбар каралёў спадчыннасцю трона. Гэтым аўтаматычна скасоўваліся канфедэрацыі і ліберум вета (вольнае галасаванне) шляхты. Тым самым былі нізрынуты кардынальныя правы, аб якіх клапаціліся інструкцыі, і растаптана воля выбаршчыкаў, хаця на сейме зрабілі гэта са шчырым спадзяваннем, што вось зараз элекцыя і канфедэрацыі не прычыняцца да шляхецкага расколу і не стануць інструментам замежнага ўмяшання. Канстытуцыя захавала за шляхтай месца пануючага

саслоўя, аднак без удзелу у заканадаўстве дробнай шляхты. Паслы вызваляліся ад дэпутацкіх наказаў, што было здзекам над наказам сеймікаў сваім паслам не ўзурпіраваць іх волі.

Канстытуцыя давала асабістую волю замежным імігрантам, але захавала прыгонніцтва айчыннага сялянства. Яна брала прыгонных пад апеку ўрада і закона, але не гаварыла, як збіраецца абараняць іх ад панскіх уціскаў і г.д.[84] Няпэўнасць і палавінчатасць яе была зразумелай і ў Пецярбургу, дзе (11 мая) прарускай камандзе на сейме параілі «притвориться, уступая насилию. Маршал князь Сапега также наш, но всем им делать нечего».[85] Усе далейшае нагадвала падобную пазіцыю.

5 мая 1791 г. сейм адмяніў усе «даўнія і супраціўныя канстытуцыі» законы, пад што трапіў і статут ВКЛ. Судам забаранілі рэгістраваць пратэсты, а ўсім органам улады і арміі далі 3 дні для прысягі пад прагрэсіўным заканадаўствам пад пагрозай сеймавага суда. Сейм прыгразіў смяротнай карай за стварэнне канфедэрацый і назваў нязгодных здраднікамі і бунтаўшчыкамі, якія слепа працівяцца вызваленню «Польшы ад замежнага ярма і хатняга безуладдзя».[86] Сеймавы суд адпіхаў мясцовыя ўрады, асабліва парадкавыя камісіі, ад расследвання рэальнай віны западозраных асоб. Гэта выклікала збянтэжанасць у ВКЛ, дзе безупынна клапаціліся пра адміністрацыйна-судовую самастойнасць. Непаразуменні ўзмацніліся 27—29 чэрвеня, калі сейм вырашыў распрацаваць адзіны кодэкс грамадзянскага і крымінальнага права для Кароны і ВКЛ. Г. Калантай, ідэолаг радыкалаў, нават пагаджаўся пакласці ў аснову супольнага заканадаўства Статут ВКЛ 1588 г., які назваў «гонарам чалавечага розуму і самай дасканалай кнігай законаў ва ўсёй Еўропе». Аднак навошта было тады крывадушна забываць дасканалы закон пры

падрыхтоўцы канстытуцыі 3 мая і рабіць яе адзінай крыніцай праватворчасці ? Гэты «добры сілагізм» скарысталі ліцвіны, якія вуснамі К.Н. Сапегі патрабавалі гарантый уніі 1569 г. у выглядзе «заручэння» і пажадалі выканаць кадыфікацыю ў раздзельных камісіях. [87] Ліцвіны, такім чынам, не пажадалі унітарызацыі правапарадку на аснове свайго дасканалага статута. На справе яны не хацелі радыкалізацыі рэформ ні на падставе супольнага заканадаўства, ні праз асобныя камісіі.

І ў ВКЛ пакацілася хваля ўсхвалення не свайго статута, а манавіта канстытуцыі 3 мая. У Хойніках стралялі з гармат. Табакеркі, гузікі, галаўныя ўборы ўпрыгожвалі юбілейнымі вензелямі і палымянымі словамі. У віленскай акадэміі канстытуцыю загадалі зубрыць як «узорную азбуку кіравання і арганізацыі Рэчы Паспалітай». Уладальнік Леанпаля, пад Полацкам, Я. Лапацінскі паставіў на мяжы з Расійскай імперыяй помнік 3 мая, каб увекавечыць месца, дзе заканчваецца свабода і пачынаецца няволя. 1 ліпеня 96 святароў пінскага праваслаўнага сабора на чале з пінскім епіскапам Іяхімам Гарбацкім і тураўскім Юзафам Булгакам абяцалі абараняць канстытуцыю «ўсімі сіламі ад усякай напасці ўнутранага паўстання» і ўрачыста адракліся ад замежнага падпарадкавання. Напачатку жніўня ўладальнік мястэчка Мерач Вінцэнт Ёзафавіч вітаў 3 мая ілюмінацыяй, а радасную працэсію местачкоўцаў суправаджаў такі гам, што ён «заглушаў гарматныя стрэлы».[88]

Маючы гэтыя паведамленні, кароль, як дзіця, радаваўся, што канстытуцыя 3 мая «дасканалей» англійскага і амерыканскага ўзораў, «мудрэй... і зусім супрацьлеглая французскай рэвалюцыі», дзе абыходзіліся крывавым шляхам. З разліку на захапленне суседзяў канстытуцыю адаслалі ў Пецярбург, а Ігнацій Патоцкі раіў нават выдаць яе ў Вільна на рускай мове, каб «узняць

супраць Масквы русінаў – тады паўстане ўся Беларусія».[89] Аднак і без гэтага на самым сейме з'явіўся ананімны «голас селяніна», які пісаў, што «большая частка панства не пануе, а тыранствуе», што сялян трэба называць «людзьмі, а не жывёлай без пачуцця» і што ў асляпленні сейм «зусім не клапоціцца пра нас».[90] 19 чэрвеня кароль выдаў універсал, якім забараніў вольную інтэрпрэтацыю канстытуцыі асабліва адносна «энтузіязму і абажання нашых мяшчан» у атрыманых свабодах. 2 жніўня ён загадаў парадкавым камісіям сцішаць сялянскія хваляванні войскамі і прыводзіць прыгонных да паслухмянасці панам.[91]

Шумная кампанія эпігонства некрывавай, лагоднай рэвалюцыі хавала ілжывую лісліваснь і нянавісць. Адны гневаліся за стаптанне кардынальных правоў і агульнашляхецкай роўнасці, іншых палохала кінутае зерне сацыяльнай роўнасці і мода запісвацца ў мяшчанства, каб не адстаць ад патрыятычнага запалу. Трэціх страшыла перспектыва прымусовага або заканадаўчага абмежавання сваіх прыгонніцкіх правоў і яны падтрымалі абнаўленне, каб захаваць панаванне і не аддаваць перамены ў ненадзейныя рукі. Былі і такія, хто жадаў радыкалізаваць змены на французскі ўзор.

Канстытуцыйныя нормы аб асабістай вольнасці для імігрантаў і прававой апецы над прыгоннымі прымусілі Кацярыну II усклікнуць – «это же сведет в Польшу большинство крестьян с Белой России». Канцлер Аляксандр Безбародка прама заявіў, што «вольность крестьян и тому подобное удобны раздразнить наших поселян, один почти язык и нравы в соседстве имеющих. Сии разсуждения решили на уничтожение Польши и на раздел ея земель».[92] Ужо 16 мая 1791 г. у Пецярбургу распісалі сілы інтэрвенцкага корпуса пад камандаваннем

генерал-аншэфа, сенатара Міхаіла Крачэтнікава, але рашылі не спяшацца, «доколе король прусский не введет много или мало войск своих в Курляндию или другия области сея республики», каб не ўзнімаць «злобу нации польской к России, дондеже часть нации меня не призовет», каб «не от нас был первой выстрел».[93]

Кацярына II баялася ваяваць аднačасова з Турцыяй і з аб'яднанымі сіламі Прусіі і Рэчы Паспалітай, але разлічвала ўправіцца адна, пакуль Аўстрыя і Прусія займаліся задушэннем французскай рэвалюцыі ў гэты час. Галоўнай задачай чарговаму паслу у Варшаве Якаву Булгакаву паставілі стварыць надзейную партыю, якая б «торжественно попросила нас, как давнюю гарантку их вольности и конституции, нашего вмешательства и помощи», каб «не обвинил свет нас яко начинателей новой войны, а союзники НЕ УКЛОНИЛИСЬ ОТ СОУЧАСТИЯ» ў агрэсіі і падзеле. Асабістай рукой імператрыца аднесла да сяброў 34 сенатараў і 56 паслоў сейма. Сярод іх значыліся браты Касакоўскія (епіскап Юзаф, кашталян Антон, віцебскі ваявода Міхаіл, генерал Шыман), князь М.Г. Радзівіл, І. Масальскі, жмудскі староста Стэфан Гедройц, Ю. Несялоўскі, брэсцкі ваявода Лявон Швыкоўскі, А. Хмара, падчашы Ян Швыкоўскі, польны экспісар Ежы Вяльгорскі і інш.[94]

Я. Булгакаў паведаміў 5 кастрычніка 1791 г., што «заговорщики вздумали при вхождении иностранных войск дать вдруг неограниченную и французской подобию вольность всем крестьянам. Сие легко збудется от нынешнего сейма, на котором малое число благонамеренных не только не в силах воспротивится, а напротив того боятся и с основанием, чтоб по мщению и ненависти не назначили их в жертву разпаленных вольностию крестьянам, как случилось 3 мая с мещанами». Ён пісаў,што на самім сейме

баяцца склікаць з гэтага ж страху паспалітае рушанне, вельмі не хочуць страціць усю рэгулярную армію і што многія проста чакаюць рускую армію «и считают уже, какую сумму они в Польше издержат».[95] Кацярына II выдатна ацаніла гэты саслоўны прагматызм адносна канстытуцыі 3 мая, бо гаварыла, што «только негодяи чувствуют себя при ней хорошо, потому что набивают карман и никто их не наказывает».

Між тым, лютаўскія сеймікі 1792 г. усцешылі Варшаву аднадушным згуртаваннем 32 (з 34) сходаў ВКЛ вакол канстытуцыі 3 мая «з-за нянавісці да Масквы» і жадання хатняга спакою. Аднак прэзідэнт Вільні А. Тызенгауз папярэджваў, што кожны працаўнік 3 мая «заплатил бы позорнейшей смертью из рук люда», які нечувана натхнёны на змаганне.

У Варшаве слушна баяліся прытворнага захаплення і, як казаў Ю. Патоцкі, «лёгкасці, з якой Расія можа зрабіць контррэвалюцыю асабліва зараз, калі столькі незадаволеных»,[96] схаваных над маскай фальшу. Там рашылі адцягнуць сутыкненне і ваяваць пяром.

27 красавіка 1792 г. пяць магнатаў падпісалі ў Пецярбургу акт канфедэрацыі, наўмысна датаваны 14 мая і прывязаны да мястэчка Таргавіца. Таргавіцкі акт назваў канстытуцыю 3 мая дзяржаўным пераваротам, навязанай трэццю паслоў і самому сейму і «ўсяму народу». Яго аўтары заклікалі незадаволеных злучыцца «пры святой каталіцкай веры, пры вольнасці ў роўнасці для усёй шляхты, а не толькі для аселай», пры цэласці тэрыторыі Рэчы Паспалітай ,вакол «старажытнай уніі і рэспубліканскага праўлення". Паколькі дзяржаўнае войска апынулася ў руках «прыгнятальнікаў нізрынутых свабод», то інструментам вызвалення абвяшчалася руская армія.[97]

Кацярына II загадала М. Крачэтнікаву выступіць у паход неадкладна да 10 мая з разліку на «привязанность...



*Пячатка Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ 1792 года.*

к России… единоверных и единоплеменных нам тамошних обитателей», з разліку на радасны прыём «трех четвертей населения (ВКЛ – Я.А.) по одинакому происхождению, по сходству языка и по разным другим естественным сношениям» з Расіяй злучаных, і якія «давно на силу и помощь нашу полагали в угнетении их». Крачэтнікаву далі 200 тыс. руб. для сакрэтнай раздачы пры фарміраванні ў ВКЛ канфедэрацыі «небогатых поляков», каб інтэрвенцыю «можно было объяснить просьбою о помощи со стороны народа», каб прадэманстраваць, што канфедэрацыі складаюцца «добровольно шляхетством, угнетенным и лишенным прав своих».[98] Узначаліць генеральную канфедэрацыю ВКЛ даверылі канцлеру А. Сапегу, а да паходных генералаў прыставілі шэфаў-арганізатараў мясцовых канфедэрацый: браслаўскага старасту Яна Рудніцкага, полацкага палкоўніка Аўрэлія Снарскага, полацкага павятовага суддзю Бернара Лакіса, кушліцкага старасту Ежы Корсака, аршанскага падкаморага Тадэвуша Прысецкага.[99] Ужо 7 мая падкаморы Ян Мірскі даў Крачэтнікаву акт браслаўскай канфедэрацыі на чале з земскім суддзёй Людвікам Загорскім і за подпісам 59 чал. 70 асоб Полацкага ваяводства згуртаваў Е. Корсак, а Т.Прысецкі – 65 чал. Аршанскага павета.[100]

11 мая Крачэтнікаў выправіў з Талачына, Полацка і Рагачова корпус у 42839 ратнікаў.[101] Следам, 15 мая, Кацярына II загадала яму «занять как можно скорее и более княжества Литовского», каб апярэдзіць скліканне тут агульнага апалчэння і не дапусціць у імперыю абвешчаную сеймам «вольность между крестьянами».[102] Генералам калон загадалі прыстойна абыходзіцца з уладальнікамі «по размеру преданности… и веры исповедуемой… и облегчать сколь можно без пристрастия единоверных с нами в сравнении других». Прускі манарх тут жа адрокся ад саюзнай падтрымкі, а сейм праз

I. Храптовіча прапанаваў Кацярыне II або заключыць перамір'е або аддаць каралеўскую карону яе ўнуку Канстанціну. Тая патрабавала безумоўнай капітуляцыі. Упэўнены ў сваёй падтрымцы, сейм заклікаў на абарону 30 тыс. валанцёраў, папрасіў у абываталяў 300 тыс. зл. добраахвотнай ахвяры, забраў у магнатаў надворныя войскі і, каб захаваць армію, загадаў адпраўленаму на ўсходні фронт галоўнакамандуючаму князю Людвіку Віртэмбергскаму унікаць сутычак.[103] 31 мая Вялікі сейм абвясціў ваеннае становішча і самараспусціўся да перамогі.

Пярэдняя варта літоўскага войска кінула свае аванпасты і за 3 дні ўцякла з мяжы пад Мір. Л. Віртэмбергскага замянілі генерал-лейтенантам Юзафам Юдыцкім, які не менш за папярэдніка вучыўся ваенным выразам у салонах. 8 чэрвеня 1792 г. ён прывёў свой 15-тысячны абоз з-пад Пінска ў ваколіцы Свержані (9 міляў ад Навагрудка) і забраў у мясцовай парадкавай камісіі 100 тыс. зл., а астатнія 75657 зл. адправіў пад Гродна. 22 абываталі Навагрудскага ваяводства на чале з А. Вайніловічам даручылі старадубскаму харунжаму М. Радзішэўскаму, мсціслаўскаму – Міхаілу Кукевічу і парадкаваму камісару I. Кміту сабраць у Стваловічы ахвотнікаў «на абарону канстытуцыі 3 мая» і рознае абмундзіраванне з харчам. Князь М. Радзівіл не даў уласных ваеннаабавязаных сялян, заявіўшы, што тыя або павымерлі, або пераджаніліся. Сабраныя ўнеслі на паратунак Айчыны 10 тыс. зл.і запісалі на абарону 50 чал.[104]

9 чэрвеня пад Мірам адбыўся бой паміж 9-тысячным атрадам рускіх і 7740 чал. літоўскага войска, на працягу якога 6 харугваў пад камандай віцэ-брыгадзіра Юзафа Ваўрэцкага кінулі правы фланг абароны. За імі збеглі 3 пешыя батальёны, а кавалерыя Мікалая Сулістроўскага праляцела праз Мір віхурай і нібы «дым» разбеглася па хатах. Адступленне літоўскага войска пераўтварылася ў

панічныя ўцёкі. Здзіўленыя патрыёты пыталіся, чаму перавышаючае маральным духам уласнае войска так шпарка ўцякае перад тыранамі і што азначаюць гэтыя манеўры. У Варшаве, тым не меней, планавалі замяніць дэзерціруючае войска корпусам ахвотнікаў-дыверсантаў «для нападаў на абывацеляў, прымушэння іх да запісу ў рэканфедэрацыю» і вынішчэння краю перад непрыяцелем. Уласна адступаючыя і без загаду займаліся дэмаралізацыяй. Як пісаў новы галоўна-камандуючы Юзаф Забела 11 ліпеня, «брыгады і літоўскія палкі... рабуюць і крадуць з большай дбайнасцю, чым рускія казакі». Палкоўнік Антон Хлявінскі казаў, што «шмат абывацеляў, а менавіта сяляне, перад намі хаваюць фураж, так што даводзіцца ўжываць сілу».[105] 23 ліпеня пасля 8 гадзін бою рэшткі літоўскага войска здалі Брэст і пацягнуліся да Варшавы. Свае страты ў 9 бойках на тэрыторыі ВКЛ М. Крачэтнікаў называў у колькасці 26 забітых і 113 параненых.[106]

З 13 каралеўскіх саветнікаў толькі 4 (у тым ліку К.Н. Сапега і літоўскі надворны маршалак Станіслаў Солтан) раілі супрацiўляцца да канца і бараніць Айчыну не «пяром», а зброяй. Астатнія прапанавалі капітуляваць перад таргавічанамі, каб пазбегнуць грамадзянскай вайны, выгандляваць у Кацярыны II асабістую бяспеку, цэласць Рэчы Паспалітай, захаваць армію і слаўную канстытуцыю 3 мая. 24 ліпеня 1792 г. С. Панятоўскі падтрымаў таргавічан, загадаў паважаць войскі находнікаў сяброўскімі і не аказваць ім супраціўлення, а канстытуцыю 3 мая назваў «згубнай навінай». Абураныя С. Малахоўскі, К. Сапега, Ю. Панятоўскі, генералы Тадэвуш Касцюшка, Еўстахій Сангушка і Міхаіл Вяльгорскі падаліся з іншымі водцамі ў эміграцыю для арганізацыі супраціўлення.[107] Рэфарматары апынуліся аб'ектам абурэння, а творцаў канстытуцыі называлі віноўнікамі нечуванай ганьбы, падманшчыкамі і здраднікамі.

інфлянцкі – А. Касакоўскі, смаленскі – А. Сухадольскі, маршал Юзаф Забела) і 50 канцылярыстаў. Сваю ўладу яны падзялілі на 3 камендатуры (Гродна, Коўна, Навагрудак) з рэвізорамі, касірамі і стражнікамі. Яны бессаромна рабавалі праціўнікаў, вывозілі прадукты на продаж без платы пошлін, бралі двайныя пенсіі – словам, рабілі тое самае, што рабілася і да іх.[112]

Маніфестам 13 жніўня яны назвалі унію 1569 г. з Каронай «парушанай і сарванай канстытуцыяй 3 мая і як прадстаўнікі літоўскага народа спадзяваліся, што будуць уважаны правы продкаў, у тым ліку і права альтэрнатывы сейма ў Літве». Пасля закулісных перамоў вярхі Кароны і ВКЛ з'ехаліся ў нейтральны Брэст, дзе 31 жніўня злучыліся ў генеральную канфедэрацыю абодвух народаў.[113] 27 верасня садружнасць перамясцілася ў Гродна, дзе намячалася склікаць сейм для легалізацыі новага падзелу краіны.

Кацярына II не давярала ні каралю, ні часовым памагатым, з якіх «одни помышляли о сохранении или распространении преимуществ чинов их, другие о приобретении оных, а третьи, исключа ручательство наше на форму правления, хотели сохранить армию польскую в том количестве, которое определил ей последний сумасбродный сейм. Словом, мало кто из них или никто(!), кроме генерала артиллерии графа (Счэснага – Я.А.) Потоцкого, не занимались прямым благом общества, согласуя оное с выгодами соседей его и не примешивая к тому личных и корыстных видов».[114] Яна разумела, што «невозможно все делать штыками» і таму, каб не правакаваць антырускіх настрояў, рашыла абаперціся на склокі таргавічан.

Будучыя паводзіны Расіі абмяркоўваліся на царскім савеце 2/13 снежня 1792 г., куды канцлер А. Безбародка падаў наступны план. Ён раіў правесці заходнюю мяжу

расійскага набыцця «с угла Семигалии и потом вести, включив довольное расстояние от левого берега Двины вверх ея так, чтобы... озера и болота ниже Полоцка вошли к нам и мы, закрыв сей город, получили удобность к укреплению наших границ». Затым ён працягнуў мяжу па р. Бярэзіна да р. Прыпяць з уключэннем Рэчыцкага і Мазырскага паветаў. На такім абсягу ён разлічваў вярнуць землі, «которые некогда были сущее достояние России, чтобы единоверные с нами жители их зажили в спокойствии под державою Вашей и чтоб таковым знаменитым приращением государства награждены были все наши убытки». Уведзеныя войскі ён размеркаваў для «подкрепления благонамеренных» і разгону «скопищ недовольных» у ВКЛ падобным уключэннем «сущего достояния» у імперыю. Безбародка раіў дамовіцца з Прусіяй, каб тая не дала «убежища противным полякам в землях своих» – у гэтым і быў патаемны сэнс змовы. Ён думаў аб'яднаць літоўскія землі з Полацкай і Магілёўскай губернямі пад адзіным намесніцтвам генерал-губернатара. «Для упреждения хотя безсильного, но неприятного сопротивления», польска-літоўскае войска мелася перафарміраваць «под видом трудности в прокормлении армии нашей». Затым удзельнікі намечанага падзелу Рэчы Паспалітай адначасова займалі размеркаваныя долі і абвяшчалі свае мэты.

На гэтым жа савеце Кацярына II пашырыла зону расійскай анексіі, бо акрэсліла мяжу ад вугла Курляндыі на Паставы, потым «по рубежу воеводства Виленского до Столпцы, от онаго, перейдя реку Неман, до Несвижа, потом до реки Припять на Пинск и оттуда... прямою линиею до Вышегорода».[115] Мэтай ставілася «поставить Польшу в такое положение, чтобы она, служа барьером между окружающими ея соседями, не могла, однако же, сама

собою беспокоить их». Менавіта ў такой ролі буфернай дзяржаве пакідалася ўнутраная самастойнасць і заставалася нанава аформіць васалітэт Расіі. 8/19 снежня Кацярына II згадзілася уступіць Прусіі Данцыг, Торунь і дадала, што «нам следует занять... земли издревле России принадлежащия, грады русскими князьями созданные и народы общего с россиянами происхождения и нам единоверные», якія «останутся в вечном владении нашем и должны быть уступлены сеймом республики польской и утверждены взаимным ручательством союзных нам держав австрийской и прусской». 22 снежня яна назначыла сваім паслом графа Якава Сіверса для рэалізацыі гэтай задумы. Карала належала прывезці ў Гродна, як толькі прускія войскі увайдуць на вялікапольскую зямлю.

У той жа дзень яна назначыла галоўнакамандуючым 73-тысячным корпусам М. Крачэтнікава. У наказе яму ужо не гаварылася аб злучэнні пад ягонай уладай літоўскіх зямель з беларускімі губернямі ў адзінае генерал-губернатарства. Аднак імператрыца прасіла свайго праконсула «не открывать никому истинных видов, чтоб не встревожить без нужды земель, нами занимаемых, прежде условленного времени, да и не обратить на себя нарекания, что мы ***произвольно начали сей раздел*** (*вылучана мною* — **Я.А.**), на который мы принуждены усиленным настоянием прусского короля». Так яна апраўдвала свой адказ на пытанне аб гарантыі тэрытарыяльнай цэласці рэспублікі. Ужо без спасылак на свае спрадвечныя правы, яна абгрунтавала ўласны экспансіянізм «раздором... промеж самих поляков», утаймаваннем якабінаў і незадаволеных Таргавіцай «явно возстать на всё, что мы не поставляли для спокойствия республики польской».[116]

Крачэтнікаў абавязваўся ўціхамірваць супраціўленцаў «страхом и силою оружия», але так, каб пераканаць астатніх, што «мы добрым, порядочным, правосудным,

кротким и человеколюбивым управлением Российской империи присвоили» іх, каб жыхары самі шукалі прычыну падзелу у папярэдняй анархіі. Для такога проціпастаўлення і перацягвання на свой бок яна раіла дэклараваць свабоду веравызнанняў, прыцягнуць да кіравання лаяльных служачых, забараніць дуэлі рускіх і польскіх афіцэраў. У наказе Я. Сіверсу ад 21 лістапада яна забараніла падазроныя клубы і сходы і раіла «внушить полякам надежду поправить настоящий. их жребий» у выглядзе новай канстытуцыі. Паколькі «все нам приверженные или впали в сущее ничтожество или приступили к господствующей... партии» (прасцей кажучы – перакінуліся ў лагер пераможных таргавічан – Я.А.), то яна раіла паслу «употреблять орудием» толькі самых надзейных. У гэтым Сіверс атрымаў свабоду рук. Інтэрвенцыя Прусіі яе не застрашала. «Напротив того, она послужит к умножению причин нас побудивших на раздел польский и отвратит вовсе нарекание, которое могли нам учинить поляки, что мы ***оному первые зачинщики были*** (*выдзелена мною* — **Я.А.**).[117] Вось так Кацярына II абгрунтавала і клапатліва захутала ўласную адказнасць за адступленне ад уласнай апекі цэласці Рэчы Паспалітай.

Аўстрыя спачатку адмовілася саўдзельнічаць у гэтым гвалце. 23 студзеня 1793 г. Прусія і Расія дамовіліся да 5—21 красавіка заняць свае абсягі (Прусія – 58 тыс. км. кв., Расія – 250 тыс.) у якасці кампенсацыі трат у барацьбе з рэвалюцыйнай Францыяй. У Вене патрабавалі перагледзецъ змову з улікам таго, што гэтую Францыю яшчэ належала прысмірыць. З Пецярбурга адказалі, што перагляд межаў немагчымы, бо жыхары занятых зямель ужо прынеслі вернападданую прысягу.[118] Аўстрыя засталася, так бы мовіць, з носам. Да ўсяго Прусія пашырыла свае апетыты. З Гродна Кацярыну II у студзені і лютым 1793 г. літаральна ўзмалілі працістаяць

непрыхаванай агрэсіі. Водцы таргавіцкай канфедэрацыі адмовілася склікаць сейм, за што іх ахрысцілі «шулерами, разбойниками и плутами».[119] Тады націснулі на караля, якому абяцалі сплаціць 33 млн. зл. уласных даўгоў. С. Панятоўскі здаўся і яго з асабістым дваром у 153 асобы павезлі на пахавальны сейм.

Па дарозе яму 7 красавіка паведамілі аб выкананым падзеле. Прысутны пры ім літоўскі падскарбі М.К. Агінскі суцешыў слязлівую вялікасць планам «аксамітнай рэвалюцыі» які зводзіўся да супрацоўніцтва з Кацярынай II, каб тая дазволіла сейму самастойна ўладкаваць ацалелую Рэч Паспалітую пры захаванні канстытуцыі 3 мая. Як гаварыў Агінскі, каб зрабіць «рэвалюцыю праз само праўленне і пастаўленую ім уладу» дастаткова заклікаць скліканых паслоў на супраціўленне падзелу і абяцаць трон рускаму вялікаму князю. Ён сцвярджаў, што «такім шляхам Польша будзе вечна зліта з Расіяй..., а калі яна (Кацярына II – Я.А.) жадае спакойна валодаць Польшай і мець сэрцы ўсіх яе жыхароў, то трэба ліквідаваць» скампраметаваную таргавіцкую канфедэрацыю.[120] Аднак Расія думала аб «прочных и неизменных основах» новага ладу без канстытуцыі 1791 г. Як гаварыла Кацярына II «по непостоянству и ветрености сего народа, по доказанной его злобе и ненависти к нашему, мы в нем никогда не будем иметь ни спокойного, ни безопасного соседа иначе, как приведя его в сущее бессилие и немогущество».[121]

Кароль склікаў выбарчыя сеймікі шляхты на 27 мая 1793 г. з надзеяй на іх патрыятычную рашучасць. На сейм не дапусцілі тых, хто запісваўся ў мяшчане і хто некалі галасаваў за канстытуцыю 3 мая. Лічыцца, што ў адказ каля паловы сеймікаў ВКЛ ухіліліся ад выбараў.[122] Нам вядома толькі пастанова сходу 159 асоб Гродзенскага павета, які даручаў Ю. Забеле і М. Жыневу толькі адзін

клопат пра «лёс Айчыны і непарушнасць каталіцкай рэлігіі» ў сваіх абрадах.[123]

Гродзенскі сейм адкрыўся 17 чэрвеня 1793 г. у прысутнасці 12 сенатараў і 135 паслоў пад дырэкцыяй кароннага чашніка Станіслава Бялінскага. Я. Сіверс атачыў замак войскам і зрабіў сесіі непублічнымі. Паслы аказалі супраціўленне пры назначэнні складу і паўнамоцтваў дэлегацыі, вылучанай для перамоваў з захопнікамі. 2 ліпеня сейм амаль аднагалосна заявіў, што не дапусціць расчлянення рэспублікі, але патрабаваў вывесці толькі прускія войскі. Большасць пагадзілася перамовіць з Расіяй праз дэпутацыю з разліку, што «час усё можа перамяніць». 12 ліпеня яны выслалі да Сіверса ўпаўнаважаную дэпутацыю з 38 чал. з умовай захавання тэрытарыяльнай цэласнасці рэспублікі. Тады Сіверс арыштаваў 5 паслоў і секвестраваў маёнткі вялікага маршалка Людвіка Тышкевіча і М.К. Агінскага. У выніку 74 галасамі супраць 59 сейм даручыў дэлегацыі на чале з І. Масальскім весці перамовы аб вечным дагаворы з Расіяй без абмеркавання пытанняў арганізацыі новага ладу.

Праект такога дагавора выносіўся на абмеркаванне двойчы і столькі ж сустракаў адпор. Сіверс патрабаваў для дэлегацыі неабсяжных паўнамоцтваў, гразіўся рабункамі маёнткаў. Кацярына II раіла распусціць канфедэрацыю, але Сіверс палічыў яе прыдатным «фартэпіяна» пры бунтаванні сейма. Апошні 69 галасамі супраць 20 забяспечыў дэлегацыю тымі паўнамоцтвамі і прадоўжыў свае працы да 16 верасня, распачаўшы валаводскі экзамен стану бюджэту, войска адпаведна заявак паслоў і пад галасы аб шкоднасці высвятлення шчырасці прысяг пад пастановамі таргавіцкай канфедэрацыі. 22 ліпеня дэлегацыя падпісала вечны дагавор з Расіяй, уступіўшы той захопленыя землі без звароту і з адрачэннем ад усіх правоў і прэтэнзій. Свой подпіс пад ім паставілі І.

Масальскі, Ю. і Ш. Касакоўскія, падканцлер К.К. Плятар, надворны падскарбі Антон Дзяконскі, вялікі падскарбі М.К. Агінскі, лідскі пасол Юзаф Шышко, трокскі – Ян Клячкоўскі, гродзенскі – М. Жынеў, жмудскі – Людвік Гельгуд, навагрудскі – М. Лапат, віленскі ваявода Міхаіл Геранім Радзівіл, Л. Тышкевіч, Ю. Забела.[124]

17 жніўня дагавор паступіў у сейм на ратыфікацыю. 8 паслоў, у тым ліку ковенскі стольнік Юзаф Кімбар, мужна абвінавацілі «чэлядзь Сіверса... ў здрадзе, подласці душы, якая піхае Айчыну у бездань, якая ў слепаце не глядзіць на суд грамадскасці, якая вынесе кожнаму справядлівы прысуд». Іх праціўнікі гаварылі, што «абставіны ўсё рассудзяць... і час усё можа перавяршыць». У палаце ледзь не дайшло да рукапашнай, калі Ян Шыдлоўскі заявіў: «заняпад Айчыны трэба прыпісаць рыцарскаму стану. З нас саміх паходзіць згуба краю. Кожнаму вольна не хаваць свае думкі. Перастанем жа наракаць з-за таго на гвалт, які з нас жа саміх паходзіць».[125] 53 галасамі супраць 20 трактат з Расіяй быў ухвалены. Невядома, што рабіла астатняя палова, аднак ганебны саюз прайшоў пад заявы і думкі галасуючых, што яны ўступілі гвалту з-за пустой казны, каб не пасварыць шляхту, дзеля спакойнага ўладкавання астатняга абсягу рэспублікі і што «усе няшчасці спадуць на абставіны і ім будуць прыпісаны».

У гэты момант прускі манарх патрабаваў у саюзнікаў субсідый на вайну з Францыяй і адмовіўся працягваць вайну на ўласны кошт. Ён прыгразіў акупіраваць польскія землі, на якія прэтэндавала Аўстрыя і патрабаваў, каб сейм саступіў іх яму. Пецярбург запэўніў Вену, што Расія будзе мець з Рэччу Паспалітай такі дагавор, які выключыць уплыў Прусіі. Аднак у Вене разумелі, што ў такім выпадку будзе «неограниченное влияние России, благодаря которому Польша превратится почти в провинцию Российской империи».[126] 27 жніўня Я. Сіверс

прапанаваў сейму ухваліць прускія дамаганні. Абураныя фарысействам суседзяў патрыёты выгналі і пабілі валынскага пасла Адама Падгорскага, які ўнёс гэты ультыматум. Тады Я. Сіверс 2 верасня арыштаваў 4 паслоў, атачыў замак 2 батальёнамі грэнадзёраў пад зачэпкай існавання замаху на караля і «найяснейшы сейм», але паабяцаў не квапіцца «на вольность речей и голосования». У адказ усе закрычалі дружна, што ніхто не асмельваецца падняць і рукі на любага айца нацыі і... гэтак жа дружна прагаласавалі за дагавор з Прусіяй.

Затым сабраныя заняліся выбарам канстытуцыйнай камісіі для распрацоўкі новай формы праўлення адпаведна прапанаванаму М.К. Агінскім праекту. Сіверс даверыў выбар каралю, які верыў, што новы ўрад «мала чым будзе адрозніваца ад канстытуцыі 3 мая». Сейм патрабаваў галоснага абмеркавання 12 кандыдатур для рэвізіі ўсіх публічных спраў, пачынаючы з 1786 г., а значыць і таргавіцкай канфедэрацыі, да якой належалі прысутныя. Камісія пачала засядаць 12—13 верасня пад дырэкцыяй І. Масальскага і з 200 таргавіцкіх пастаноў скасавала толькі 20, пакінуўшы ў нябыце астатнія з-за немагчымасці хутка распазнаць усё здзейсненае.[127] Успыхнулі звадкі вакол прымусу арміі да прысягі і канстытуцыі 3 мая і таргавіцкай канфедэрацыі. Тады 16 верасня апошнюю скасавалі і назвалі гродзенскай пад маршалствам кароннага чашніка Станіслава Балінскага.

Тут прускі манарх патрабаваў ухваліць гандлёвы дагавор і паставіў рэспубліку пры ўбогім бюджэце на ўтрыманне і войска і цывільных штатаў. Сеймуючыя рашылі прамаўчаць у адказ на нахабны шантаж.Тады Я. Сіверс пасадзіў афіцэраў на лаўках паслоў і загадаў прынесці анямеўшым прадстаўнікам народа віна, харчу і сена для начлегу. 10 кастрычніка сеймавае маўчанне было

расцэнена за згоду: прускі дагавор быў прыняты разам з прапановай ашмянскага пасла Юзафа Кульвіца аб стварэнні камісіі «ліквідацыі літоўскага войска». Каб змыць ганьбу, сейм 11 кастрычніка патрабаваў агрэсараў сплаціць пастой уведзеных войскаў, даўгі рэспублікі, зняць секвестр з дружалюбных і паслухмяных удзельнікаў змовы. Ён нават заклікаў абывацеляў на агульнае апалчэнне. Здзіўлены Сіверс адказаў, што яго армія мае загад перашкаджаць усякаму недазволенаму узбраенню. Тады сейм паслаў да Кацярыны II С. Патоцкага ўпрасіць яе не крыўдзіць так сказаць суайчыннікаў. Імператрыца ўспыхнула і, тупнуўшы нагой, крыкнула: «Вот твоя Родина».[128]

Следам, 14 кастрычніка, яна прыслала ў Гродна абарончы дагавор з Расіяй, які ў імя «забеспячэння цэласці і незалежнасці» Рэчы Паспалітай аддаваў Кацярыне II і яе наступнікам «усякую ступень уплыву на ваенныя і палітычныя уклады Рэчы Паспалітай» без умяшання ў мясцовую адміністрацыю і суд. Рэспубліка абяцала не рабіць ніякіх перамен у форме кіравання без папярэдняй згоды Расіі. Трактат дазваляў Расіі свабодна ўводзіць і кватараваць свае войскі, але прасіў Кацярыну II «папрыяцельску забяспечыць уласнасць кожнага абывацеля ад усякай напасці і крыўд». Сейм ухваліў і гэты чарговы васалітэт пры дарэмнай спробе дабіцца перагляду новай канстытуцыі большасцю 3/4 галасоў. Соймавая дэлегацыя дабілася толькі ўмовы, што ўведзеныя войскі будуць харчавацца па добраахвотных кантрактах, а не бясплатна. Я. Сіверс, між тым, не меў грошай на падобныя разлікі «престранного сейма» і пісаў 19 лістапада ,што з-за голаду у Літве і адпаведна «вечному и теснейшему союзу между Российской империею и республикою польской... пропитание требовать не можно, а по уничтожении конфедерации и до учреждения нового порядка в земле требовать не у кого».[129]

Зараз і крывадушныя гродзенскія канфедэраты зразумелі, што гулялі ў камедыю. Не маючы ўжо часу на сапраўдную пазітыўную працу, яны паміж 16–21 кастрычніка без абмеркавання прынялі канстытуцыю ацалелай Рэчы Паспалітай. Канстытуцыя рабіла рэспубліку унітарнай дзяржавай з «правінцый Кароны і княства Літоўскага», падзеленага на 8 ваяводстваў, кожнае у складзе 3 паветаў або зямель. Кардынальныя правы абвяшчаліся вечнымі і непарушнымі. Захоўвалася выбарнасць караля, зямянскія суды з пазбаўленнем немаёмнай шляхты выбарчых правоў. Мяшчанства страціла набытыя шляхецкія правы, маёнткі і дарадчы голас на сейме. Скасоўваўся інстытут гетманаў. Канстытуцыя стварыла аднапалатны сейм, які склікаўся праз 4 гады з выбарам на яго па 6 паслоў з кожнага ваяводства ці 2 чал. ад зямлі. Паміж сеймавымі сесіямі ўладу здзяйсняла Пастаянная рада з 24 асоб, пароўну ад Кароны і ВКЛ. На месцах выканаўчымі органамі рабіліся парадкавыя камісіі, куды шляхта на сейміках выбірала па 12 камісараў з павета. Вышэйшай судовай інстанцыяй заставаўся трыбунал, падзелены на духоўны і грамадзянскі дэпартаменты.[130]

У апошні дзень пасяджэння – 23 лістапада 1793 г.– сейм ухваліў каля 112 розных праектаў. У прыватнасці, цэрквы каталіцка-уніяцкага абраду засталіся ў непарыўным адзінстве і пад дзяржаўным патранатам. Прадугледжвалася месць 4 каталіцкіх епіскапаў. Уніяцкаму мітрапаліту далі сенацкае крэсла і штогоднюю пенсію ў 60 тыс. зл. Сейм загадаў усім крэдыторам на працягу года выставіць дому Радзівілаў свае прэтэнзіі для выкупу сваіх пасэсій і вызваліў ад суда тых, хто ліквідаваў спрэчкі ў мінулую канфедэрацыю. Такіх даўгоў з 1774 г. лічылася па бухгалтэрыі М. Радзівіла 1487181 зл. на 41 асобах.[131] Такім

чынам, ні таргавіцкая канфедэрацыя, ні сейм 1793 г., як яе лагічны працяг, не ўрэгулявалі гвалтоўнага перадзелу радзівілаўскай спадчыны і захавалі перспектыву разгулу новага бязмежнага перападзелу зямлі і прыгонных. У гэтым калаўроце засталася шляхта, якая арандавала ці проста кіравала раскрадзенай маёмасцю. Радзівіл разам з Касакоўскімі падпісваў анексійныя трактаты, аднак пераможцамі выйшлі Касакоўскія.

25 лістапада 1793 г. Я. Сіверс пакінуў Гродна з непрыхаванай агідай да сваіх часовых згоднікаў. Ён казаў, што «в этом несчастном крае нет вовсе честности. Может быть она скрывается где-нибудь в крестьянских хатах, но я того мнения, что она очень далека от королевского двора, сейма и всего панского общества».[132] Гэта выдатная ацэнка з улікам таго, што гэты прысуд аднолькава тычыцца ўсіх удзельнікаў. Кацярына II сама не жадала звязвацца з падобным «рассадником коррупции и бесправия» або звязвацца дасягнутымі прававымі путамі абяцанняў. 17 студзеня 1794 г. яна пры патуранні Пастаяннай рады забараніла друкаваць усе пастановы гродзенскага сейма. Рэч Паспалітая была аддадзена пад уладу чарговаму паслу Ота Ігельстрому і мясцовым дачаснікам.

У гэтых умовах эфемернымі выглядалі і выбары ў парадкавыя камісіі паміж 16 студзеня – 1 лютага 1794 г. Да ўсяго, камісараў належала выбіраць з улікам новага адміністрацыйнага падзелу. Завілейскі павет далучаўся да Браслаўскага, Свержанская парафія – да Стваловіцкай зямлі і г.д. Каралеўскі універсал загадаў пакінуць на 4 гады на пасадах суддзяў і ураднікаў, пастаўленых таргавіцкай канфедэрацыяй. Да патрэбных 10 суддзяў у кожным павеце дазвалялася давыбраць 4 кандыдатаў, але пры ўмове іх папярэдняй лаяльнасці. Аксамітная рэвалюцыя закончылася не абнаўленнем, а рэстаўрацыяй

ладу, які існаваў да Вялікага сейма.Кацярына II 6 лютага 1794 г. зноў загадала затрымаць рэалізацыю гродзенскіх пастаноў «до их зрелого рассмотрения».[133] Гродзенскі сейм 1793 г. канчаткова размежаваў сапраўдных і шчырых патрыётаў на непрымірымыя партыі, паміж якімі зноў няўмольна паўстала канфрантацыя. Толькі зараз інструментам супрацьстаяння не маглі быць забароненыя грамадзянскія канфедэрацыі.

Яны даказалі сваю шкоднасць у руках дачаснікаў як сродак агульнашляхецкага расколу. Сродкам барацъбы магла быць толькі армія, якой пагражала прымусовае скарачэнне. Змагарам належала спяшацца. Барацьба намячалася ўзброеная і крывавая.

## § 3. Пад намесніцтвам Туталміна

Адміністрацыйна замацаваць вынікі другога падзелу Рэчы Паспалітай за Расіяй Кацярына II загадала 19 снежня 1792 г. спамянутаму вышэй М. Крачэтнікаву.

Для атрымання «точнейших о земле сведений» яму даручалася размеркаваць заняты абшар пад Літоўскую, Мінскую, Ізяслаўскую і Брацлаўскую губерні пад сваім адзіным кіраваннем у якасці генерал-губернатара. Кацярына II раіла пры тым далучыць да Полацкага намесніцтва бліжэйшыя кавалкі Полацкага ваяводства, да Магілёўскага – рэшткі гэтага ваяводства да р. Бярэзіны, Мазырскі павет – да Чарнігаўскай і Кіеўскай губерняў.[134] Адпаведныя здымкі вяліся «без роздоху» па праграме генерал-маёра-інжынера Багдана Кнорынга разам з суцэльным (камеральным) апісаннем зямель і даходных крыніц. Спачатку землямеры здымалі мясцовасць з вялікіх

дарог у маштабе 5 вёрстаў у дзюйме (1: 210000), а з ліпеня 1793 г. у маштабе 10 вёрстаў для атрымання зводнай карты.[135] Так быў распачаты рэгулярны статыстычны ўлік, без чаго не абыходзіліся затым пры адміністрацыйных рэарганізацыях.

Контуры будучага кіравання М. Крачэтнікаў намеціў пасля атрымання 30 сакавіка і 18 красавіка 1793 хадайніцтваў кіеўскага ваяводы Прота Патоцкага і валынскага Гераніма Сангушкі. Першы прасіў пакінуць існуючыя суды на сваіх месцах, як гэта было да 3 мая 1791 г., без дазволу апеляцый пакрыўджаных. Крачэтнікаў згадзіўся пры ўмове, што суддзі прысягнуць новай уладзе, будуць выдаваць дэкрэты ад імя царыцы і за сваімі пячаткамі. Жаданні Сангушкі тычыліся складу судоў (двух каморнікаў і падсудка), часу іх сесій (па старому стылю першая пачыналася 7 ліпеня, другая – 10 лістапада, апошняя – 24 лютага), парадку апеляцый (канчаткова на месцах або шляхам пераносу у трыбунал), спосабу рэгістрацыі просьбаў і выпісак. Сангушка прасіў вайсковай дапамогі для судовых экзекуцый. Крачэтнікаў спыніўся на старым стылі, зычыў ранейшаму складу судоў і таму «праву, каким они судили до революционного сейма».

За падобнымі тлумачэннямі да яго звяртаўся мінскі ваявода А.М. Хмара. 15 красавіка мінскі віцэ-губернатар Пётр Грахольскі адказаў яму, што суды застаюцца пры старых правах, але не могуць караць горлам або смерцю. Пасля гэтага А.Хмара 1 мая абвясціў, што земскія суды будуць пачынаць сесіі 7 ліпеня, а гродскія – 1 чэрвеня, замест майскай сесіі, «па старажытных уставах» з дазволам апеляцый. Ніхто пры тым не гаварыў пра літоўскі статут. Ад суддзяў адно патрабавалася падрыхтавацца да рэвізіі спраў.[136]

Смяротнае пакаранне выключалася з прывычнага мясцовага права не здарма. Новая ўлада замацоўвалася

носьбітам чалавекалюбнага кіравання сярод бяспраўнага насельніцтва і дзейнічаць ёй даводзілася абачліва. 25 чэрвеня 1793 г. мяшчане мястэчка Гайна назваліся вольнымі людзьмі са спасылкай на каралеўскі прывілей. Мінскаму губернатару Івану Няплюеву яны паскардзіліся на паноў-шляхту, якія «по своей прихоти назначают подати, данины, господские работы, другие непривычные и неправильные вещи с поспешным наказанием, а протесты в магистрат и в верховную власть за бунт принимают». Яны нагадалі, што прасілі пратэкцыі яшчэ ў таргавіцкай канфедэрацыі, каб «нас, вольных людей местечка, не принуждали к барщинным работам, а удовольствовались денежной платой с нами условленной, чтобы местечко украсить развитием торговли и ремесла». Прыкладна так жа гучала крыўда мяшчан Глуска, якія 9 лістапада прасілі адабраць іх з-пад юрысдыкцыі графа Ю. Юдыцкага ў казну і залічыць «в первобытное купеческое звание как вольных и не помещичьих людей».[137]

З нагоды падобных скарг і прагі прыватнаўласніцкіх местачкоўцаў у казну М. Крачэтнікава чакалі марудныя канцелі з панамі адносна выкупу мястэчак пад павятовыя цэнтры. З-за недахопу сродкаў ён мусіў называць гарадамі звычайныя памешчыцкія вёскі, што было роўназначна вызваленню сялян. Намеснік пры тым стараўся выкруціцца ўзнагародай уладальнікаў за кошт продажу лішкаў прадуктаў з канфіскаваных уладанняў.[138] Трэба адзначыць, што з 2 верасня 1793 г. да 10 лютага 1794 г. у падначаленых трох губернях (Мінскай, Ізяслаўскай і Брацлаўскай) пад секвестр трапіла 294921 сялян абодвух полаў (у тым ліку 150070 мужчын або рэвізскіх душ), з якіх па Мінскай губерні значылася 98991 душ абод. полаў (49987 мужч.). З гэтай колькасці віленскі капітул страціў

24008 чал. (11978 мужч.), замежныя манастыры – 4711 (2391 мужч.) скарб – 4094 (1995 мужч.), а астатніх 66178 – памешчыкі. З прыватных асоб адзін М. Агінскі страціў 9211 чал. (4701 мужч.), закладзаных за 580548 зл., і яшчэ 7729 чал. (3995 мужч.) па Пінскай эканоміі.[139] Секвестр закрануў усяго 16% усіх сялян губерні (12% памешчыцкіх) і Кацярына II не спешалася яго пашыраць, бо расцягвала тэрміны вернападданай прысягі валадароў прыгонных. Яна не збіралася патураць вызваленчым памкненням ні местачкоўцаў, ні панскіх сялян. Нарэшце, 30 красавіка 1793 г. пасол Я. Булгакаў даслаў Крачэтнікаву універсал аб скліканні выбарчых сеймікаў шляхты на гродзенскі сейм, на якіх маглі ўдзельнічаць прысягнуўшыя да гэтага асобы з уладаннямі ў Кароне. Разлік на сяброў з двайным падданствам быў яўны: на сейміке не дапушчаліся асобы без маёнткаў у Кароне.

Не так лёгка ламаліся ўнутраныя межы. Пасля таго, як І. Неплюеў 11 мая 1793 г. далучыў рэшткі Ашмянскага павета да Мінскай губерні, гродскі рэгент Станіслаў Лышкевіч спытаўся, ці правамоцны папярэдні суд выконваць дэкрэт аб эксдывізіі (падзеле) маёнтка з нагоды далучэння да імперыі? Няплюеў пагадзіўся, а затым удакладніў, што цэнтрам далучанай часткі Ашмянскага павета робіцца мястэчка Паставы і што вакансіі ў земскіх судах належыць запаўняць вольным выбарам абывацеляў.[140] Такім шляхам ён вырашыў дылему паміж захаваннем старога складу судоў і паступовай зменай іх новымі членамі.

А гэта азначала, што простай прысягі было дастаткова, каб застацца на папярэдніх пасадах. Якія пры гэтым успыхнулі бойкі, паказвае наступны казус паміж мсціслаўскім кашталянам, мінскім падстарастам Ігнатам Дашкевічам і ротмістрам нарадовай кавалерыі Міхаілам

Тышкевічам. Апошні перашкодзіў першаму на выбарах 10 мая заняць урад падкаморага са спасылкай на старыя канстытуцыі, якія забаранялі аднаму чалавеку сумяшчаць адначасова ўрады кашталяна, гродавага падстарасты, падкаморага (ранг земскага суда). Тым больш, гаварыў ён, «па польскаму праву... дагэтуль не практыкавалася, каб сенатар выконваў урад належны толькі рыцарству» (шляхце). Дашкевіч заявіў, што Тышкевіч «не заглядваў у дарагі дэпазіт краёвых правоў, вядомых ад продкаў сваім абывацелям», і сам абвінаваціў Тышкевіча ў замаху на святасць старых польскіх правоў, у схільнасці да «гвалтаў, інтрыгаў, памнажэнню ўнутраных узрушэнняў у Мінскім ваяводстве». Ён сам узяўся тлумачыць рэчаіснасць наступным чынам, зыходзячы з абацанняў Кацярыны II аб нязменнасці папярэдніх парадкаў.

Ён гаварыў, што як гродавы падстараста, ён не падсправаздачны ніякім выбарным судам са спасылкай на 34 артыкул I раздзела статута ВКЛ, што кашталян, як сенатар, судзіць па апеляцыі справы падкаморага, што як гродавы стараста, адпаведна 7 арт. 9 раздзела статута ён падлягае падазрэнню ў трыбунале, аднак свайго ўрада не страчвае ў якасці кашталяна..., што» польскае права забараняе быць старастамі, земскімі суддзямі кашталянам і ваяводам толькі ў адным ваяводстве». Далей ён гаварыў, што пажыццёвы і не выбіраемы пасад гродскага старасты можа быць злучаны з земскім, «так што кашталян можа быць судовым старастам у другім ваяводстве, а войскі, харунжы, стольнік і г.д. бывае адначасова падстарастам, гродскім суддзёй і камісарам. Бо, хіба гэта тайна, што мой калега, мінскі ваявода, дагэтуль сенатар і судовы пінскі стараста, што Солтан названы літоўскім маршалам, міністрам і слонімскім судовым старастам, што Храптовіч – падканцлер, міністр, прэзідэнт задворных асэсарскіх судоў, з'яўляецца аршанскім судовым старастам, што

Празор – віцебскі кашталян і ковенскі судовы стараста, не гаворачы ўжо пра Гільзена, сына мсціслаўскага ваяводы, які і сенатар і браслаўскі судовы стараста, не прыводзячы ў прыклад наваградскага кашталяна Яленскага, які пры тым быў мазырскім судовым старастам. А паколькі ўсё гэта абапіралася на старадаўнія польскія правы, то вывад Тышкевіча проста нікчэмны». Дашкевіч жадаў, каб усімі паважаліся тыя правы, «канстытуцыямі, літоўскім статутам і векавымі звычаямі замацаваныя».[141]

Гэтая звадка цікавая не проста пералікам сукупнасці польскіх правоў, сярод якіх літоўскі статут не значыўся дамінуючым кодэксам. Замацаваныя імі сістэма нязменных пажыццёва і выбарных пасад аказалася аспрэчанай толькі зараз, пад час далучэння, з надзеі падвергнуць тытулаваную знаць сапраўды выбарнай працэдуры радавой шляхты з дапамогай новай улады. Невядома, як рэагаваў на гэта Крачэтнікаў, – ён нечакана памёр 9 мая 1793 г.

Замест яго, указам ад 27 мая Кацярына II паставіла генерал-губернатарам (галоўнаўпраўляючым) Мінскай, Ізяслаўскай і Брацлаўскай губерняў генерал-аншэфа, сенатара, кавалера ордэнаў А. Неўскага, св. Ганны, князя Уладзіміра, вялікага Крыжа першай ступені і Георгія Цімафея Іванавіча Тутолміна. Паходзіў ён са старажытнага дваранскага роду, вучыўся ў сухапутным шляхецкім корпусе, удзельнічаў у сямігадовай вайне і супраць Турцыі. З 1775 г. служыў віцэ-губернатарам і губернатарам у Цверы пад намесніцтвам Я. Сіверса. Апошні аднойчы выратаваў яго ад даўгавой ямы і дапамог перавесціся ў 1779 г. у Екацярынаслаўскую губерню, дзе Тутолмін выслужыў чын генерал-лейтэнанта. У 1784 г. ён ужо намеснік Архангельскай і Аланецкай губерняў, дзе, па словах вядомага Г. Дзяржавіна, «любил жить по-царски

и самые щедрости императрицы были недостаточны для поддержания его пышности». У табельныя дні ён абедаў каля свайго мішурнага трона. 9 лютага 1798 г. трапіў у апалу, з 1806 па 1809 гг.быў галоўнакамандуючым Масквы. Памёр у 1809 г. членам дзяржсавета. Сучаснікі надзялялі яго ўсімі доблесцямі бюракрата: уводзіў падаткі, якіх не было ў казённых каштарысах, рапартаваў аб бальніцах, якіх не існавала, і г.д.[142]

У якасці намесніка далучаных зямель ён ніколі не замацоўваў у сваім тытуле ўсе тры губерні пад назвай намесніцтва і заўжды пісаўся намеснікам мінскім, ізяслаўскім і брацлаўскім. Відаць, Кацярына II не зусім давярала яму, бо грамадзянскім губернатарам у Мінск прызначыла І.М. Няплюева. Апошні выбраў сваім віцэ-губернатарам калежскага саветніка, былога іркуцкага віцэ-губернатара Андрэя Сідаравіча Міхайлава, дырэктарам дамаводства – сябра, начальніка архангельскай мытні, надворнага саветніка Карла Карлавіча Лангэ. Ваеннай часткай загадваў князь Юрый Уладзіміравіч Далгарукаў. Пасылаючы Туталміна, Кацярына II даручыла яму правесці такія меры, каб навападданыя «сразу почувствовали, сколь различно нынешнее благоустраиваемое положение и состояние их от того безначалия, коим прежде сего были они разоряемы», каб «привлечь сердца благостию и соединить их с россиянами собственными их выгодами».[143]

Туталмін завяршыў пачатае Крачэтнікавым картаграфаванне зямель, якія ён называў «древним российским достоянием, вновь возвращенными от Польши». Найперш ён адвёў да Магілёўскай губерні 122 маёнткі, дзе пражывала 620 чал. ваколічнай шляхты, 25089 сялян-мужчын і 467 яўрэяў. Да Полацкай губерні былі далучаны маёнткі з 614 памешчыкамі, 1140 ваколічнай шляхты, 32256 сялянамі, 1616 яўрэямі, з чаго пасля 23 жніўня

1795 г. быў утвораны Лепельскі павет. Ад Пінскага павета ён аддаў 9704 рэвізскіх душ да Валынскай губерні.[144] Летам 1793 г. ён прадпрыняў інспекцыю падуладных месц і знайшоў «многочисленность дел, бспорядок всех частей прежнего польскаго правления, противоречия их законах, смешанность прав от самовластия вельмож и укоренившейся веками привычки к самоуправству, фальшивое понятие о вольности, по прямому разумению самовольство в себе заключающее, необыклость повиновению законам, недостаток полицейских благоучреждений, скрытие бумаг и удержание архивов в городах, оставшихся за чертою новой границы».[145] Як відаць, Туталмін трапна ахарактарызаваў сутнасць т. зв. анрхіі, якую меўся супрацьпаставіць правапарадку.

Паміж 31 ліпеня і 2 верасня 1793 г. І. Няплюеў сфарміраваў вернападданую дэлегацыю да трона, узяўшы па 2 делегаты з кожнага павета «из найзнаменитейших по рождению и достоинствами» асоб. Выбраннікі з'яўляліся «в сукне польского края» і пры ўсіх рэгаліях. На выбарах 2 жніўня ад Мінскага ваяводства ў прысутнасці 203 чал. пад старшнствам згаданага І. Дашкевіча ў паслы прайшоў генерал-лейтэнант і шамбелян Казімір Завіша. На сходзе 19 асоб Мазырскага павета 11 жніўня быў упаўнаважаны Я. Яленскі. Там яму даверылі сказаць пра скарачэнне падаткаў з павета, які «з-за подласці зямель яшчэ пры польскім праўленні быў змешчаны пры класіфікацыі глебы ў канцы спіса і выконваў менш за ўсіх падаткаў».[146] Ход іншых сходаў невядомы, акрамя таго, што полацкі ваявода Т. Жаба прасіў даць яму адпаведны рускі чын, каб «не упасть в состояние обывателя без всякого отличия».

Дэлегацыю ў складзе 28 чал. сфарміравалі ад Мінскай губерні Т. і мінскі ваявода Ф. Жабы, полацкі падваявода Т. Корсак, веляціцкі староста Юзаф Тышкввіч, граф К.

Завіша, пінскі харунжы Юзаф Куржанецкі, ротмістры (Казімір – ?) Вішынскі, Коцел, Юзаф Валадкевіч, (Мікалай – ?) Лапацінскі, падкаморы Міхаіл Бярновіч, земскія суддзі Міхаіл Слізень і Станіслаў Яленскі. Яны прадставілі на рэцэнзію намесніку адрас, які вылліваў алей «премудрости» Кацярыны II, з якой яна «паче, нежели могуществом, распостраняла границы своего царства».[147] Туталмін жа не хаваў агіды да гэтых падхалімаў, бо лічыў, што толькі «один Огинский (*верагодна кухмістр Ксаверы* — **Я.А.**) в губернии упоен слепою привязанностью к образу польскаго правления... но сами единоземцы приемлют сие родом безумия», бо кажуць, што апантаны патрыёт «в жару всегда теряет здравый рассудок». Іх ілжывасць ён тлумачыў проста: «знатные вельможи, господствуя по своей воле, как то обыкновенно бывает в республиках, и управляемы будучи собственным интересом и тщеславием, сделались совершенно нечуствительными к существенной пользе Отечества своего, жертвуя часто оною одной или другой из страстей своих в пользу им благоприятствующих соседей». Яны «никак не предполагали» рэформ Вялікага сейма, але «согласились на все сие, чтобы воспользоваться случаем новой революции и господствовать по-прежнему над дворянством низшего класса». І зараз яны паспелі дабіцца ў Крачэтнікава захавання выбару суддзяў ад волі ваявод.

Туталмін раіў свайму фаварыту Платону Зубаву абапірацца на дробную шляхту, якую «угнетали вельможи посредством неограниченной власти при беспорядочной системе правления их», калі пасады «раздавались по интригам знатных вельмож» і без жалавання. Шляхта ж «обрадована крайне нынешним монархическим правлением, имея много случаев посредством отличностей возстановить упадшее шляхетское звание свое».

Туталмін называў сялян адзіным класам, адданым трону. Аднак яны знясілены прыгнётам і свавольнымі падаткамі памешчыкаў, якія амаль усе здаюць маёнткі ў залог яўрэям, «которые бес всякой пощады притесняют бедных мужиков и так хлеб, скот и все их продукты получают за бесценок и вывозят за границу». Адсюль, маўляў, менавіта яўрэі «всегда приозводят одни беспорядки».[148]

Каб выкараніць свавольства, ён 28 ліпеня патрабаваў ад судоў ведамасці аб асуджаных, забараніў іх біць. Туталмін забараніў чыніць самасуд у мястэчках і фальварках і загадаў аднаму з суддзяў пастаянна знаходзіцца ў прысутнасці судоў,[149] каб пры неабходнасці склікаць іншых. Напачатку ліпеня абывацелі Полацкага ваяводства паскардзіліся на запусценне ўладанняў ад уцёкаў сялян, папрасілі забараніць пераходы і караць хавальнікаў адпаведна «древнему праву». Не менш яны лямантавалі на наплыў медзі і папяровых асігнацый, што вымушала іх карміць сялян, «высиливаясь до последней степени». Земскаму суду удалося сабраць толькі 10416 зл., а астатнія 10 тыс. зл. «особы, составившие конфедерацию, меж собой разобрали».

Няплюеў склікаў у Полацк 5 шляхецкіх дэлегатаў для разлікаў за ваенныя паборы, для разгляду прывілеяў гарадоў і рэвізіі актаў таргавіцкай канфедэрацыі. 16 жніўня ён забараніў пераходы ўсіх, хто працаваў нават па кантрактах. Ад гэтага непазбежна пацярпелі ўладальнікі, якія карысталіся наймітамі з-за распыленасці сваіх фальваркаў. Для ўладжвання спрэчак, ён 19 жніўня 1793 г. распачаў генеральную люстрацыю ўладанняў, загадаўшы адначасова не прыцiскаць прыгонных.[150]

І забароны пераходаў, і наплыў асігнацый пагражалі сарваць харчовае забеспячэнне арміі. Генералы скардзіліся,

што на асігнацыі ніхто не прадае хлеба, а жыхары бяруць у разлік толькі золата і срэбра. Між тым, Кацярына II загадала 23 жніўня скараціць польска-літоўскае войска і, асігнаваўшы на прыём рэкрутаў 1,8 млн. зл., патрабавала з даходаў Мінскай губерні яшчэ 50 тыс. руб. срэбрам. 15796 руб. яна дала на будаўніцтва мінскага петрапаўлаўскага сабора, 37500 – на куплю ў Мінску зямлі пад казённыя установы і яшчэ 48328 на будоўлю саміх месцаў. На месцы меркавалася закупіць 100 тыс.чвэрцяў хлеба для арміі А.Суворава ў Брацлаўскай губерні.[151]

Туталмін тут жа забіў трывогу. Для выкупу зямлі мінскія валадары патрабавалі суму удвая больш за адпушчаныя 37 тыс. руб. Столькі ж патрабавалася на завоз будаўнічых матэрыялаў і наём майстроў у Расіі. Размен асігнацый ён даверыў ротным камандзірам, бо баяўся, што звонкая манета апынецца ў кішэнях вышэйшага начальства і салдаты апынуцца без жалавання. Таму ён не спяшаўся знішчаць ахвяры 10 і 20-га гроша, не гледзячы на тое, што гэтыя зборы па-ранейшаму здаваліся ўладальнікамі пад прысягай і, як звычайна, фальсіфікаваліся і заніжаліся. Маючы к канцу 1793 г. у наяўнасці 188197 руб. (пры расходах 136919), ён прасіў сам 104770 руб. або суму гадавога даходу Мінскай губерні. Пры акладу губерні ў 2 млн. зл. (209 тыс. руб.) за ўвесь 1794 г. расходы забралі каля 3 млн. зл. і Туталмін называў у недахопе 59864 руб.[152]

Хранічны дэфіцыт звонкай манеты пагашаўся далейшым выпускам медзі і асігнацый, што вяло да падзення іх вартасці і росту цэн. На 25% выраслі паштовыя і мытныя паборы. Туталмін рашыў сабраць 3/4 падаткаў золатам і срэбрам, а астатняе – меддзю і асігнацыямі, а ў красавіку 1794 г. размеркаваў іх напалову. Аднак гэта не дапамагло: уладальнікі ўносілі фіксаваныя ахвяры звонкай

манетай, а за падушныя з сялян разлічваліся абясцэненымі асігнацыямі, ажыа якіх даходзіла да 5%. Пры гандлі сяляне страчвалі на адным размене, а звонкая манета знікала з абароту дзеля спекуляцыйнай нажывы.[153] У гэтых абставінах Туталмін 15 лютага 1794 г. загадаў памешчыкам... абсяваць сялянскія надзелы і карміць галадаючых сялян з запасаў фальваркаў. Вываз за мяжу быў прыпынены, што затрымала тавараварот і зноў выявіла недахоп манеты. Памешчыкі з афіцыйнага дазволу павялічылі фальварачныя пасевы і паншчыну пад выглядам дапамогі галадаючым. Яны ізноў узнялі енкі аб тым, што доўга не атрымліваюць разлікаў за пастаўлены ў войскі харч, што расійская ўлада правакуе сялянства на непаслушэнства, заахвочвае прыгонных лайдачыць і чакаць дапамогі.

Ва ўмовах фактычнага сабатажу паноў Пецярбург рашыўся знутры, або ўскосна, вырваць у іх вотчынную ўладу. 22 красавіка 1794 г. Кацярына II распарадзілася навярнуць уніятаў у праваслаўе разам з канфіскацыяй уладанняў мітрапаліта Тэадора Растоцкага. Выконваць загад выпала В. Садоўскаму. Супраціўленне абвяшчалася крымінальным злачынствам «противу господствующей веры... и прослушание воле нашей». І. Няплюеў 28 мая паведаміў аб немагчымасці выканаць загад з-за ўспыхнуўшага ў той момант паўстання, бо «без ввода воинских команд будет бесполезным токмо оглашением и судить их (супраціўленцаў – Я. А.) некому будет».[154]

26 чэрвеня 1794 г. Т. Растоцкі папрасіў Туталміна не прымушаць уніятаў адступацца «от соединенного с римско-католическою церковью и веками утвержденнаго исповедания». Тады намеснік 31 мая/12 чэрвеня перадаў сялянам, што яны забіраюцца ў казну па слову Кацярыны II, якая «по материнскому своему к народу сердоболию

повелеть соизволила облегчить их в повинностях, податях и работах». Ён дазволіў сялянам выбраць сярод сябе войтаў і стараст для часовага кіравання секвестраванымі маёнткамі. Сялянам далі зразумець, што яны пазбаўлены ад прыватнай залежнасці. Як гаварыў Туталмін, «снискание доверенности и любви поселян есть и всегда будет надежнейшею оградою национальным нашим управляющим в их безопастности», а ім ужо належыць кіравацца інструкцыямі і лагодным абыходжаннем з прыгоннымі.[155]

Свой загад Кацярына паўтарыла 10 студзеня 1795 г. з тым, каб зараз яе імя не афішыравалі і не дапускалі ніякага «принуждения и насилия». На гэты раз у трох губернях у праваслаўе былі навернуты 1343 царквы, 977 папоў, 802228 душ абодвух полаў (у тым ліку 408836 мужчын-сялян). Па Мінскай губерні-адпаведна 56 цэркваў, 15 папоў, 40407 душ (20835 мужч.).[156] У самы разгар гэтай акцыі да яе 26 мая 1795 г. звярнуліся 5 уніяцкіх епіскапаў і 4 базыльянскія архімандрыты, якія пісалі, што «разосланные по воеводствам православного исповедания игумны, протопопы, монахи, белое духовенство разными обещаниями и угрозами... принуждали народ к принятию своего исповедания, священников также старались склонять угрозами и отделением от приходов», застрашалі сялян павелічэннем падаткаў, білі прыхаджан і закоўвалі ў кайданы святароў, «посвящали униатские церкви, а после запирали». Калі ж у агітатараў пыталіся, «куда же нам деваться, то ответствовано: в озеро и в реку и принуждали подписываться, что якобы добровольно присоединились.»[157] Вынікі гэтага адміністрацыйнага запалу наступныя (табліца 10).

*Табліца 10*

***Структура канфесій Мінскай губерні (май 1795 г.)***

| Канфесія | Цэркваў | Манастыроў | Духавенства | | | | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | манахаў | | белага (*прыходскага*) | | | |
| Праваслаўе | 136 | 11 | 69 м. | 17 ж. | 227 м. | 326 ж. | 296 м. | 343 ж. |
| Уніяцтва | 866 | 19 | 210 | 13 | 1600 | 1886 | 1810 | 1899 |
| Каталіцтва | 90 | 67 | 882 | 58 | 338 | — | 1170 | 58 |
| Дысідэнты | 6 | | — | | 25 | 26 | 2526 | |
| | **1098** | **97** | **1161** | **88** | **2190** | **2238** | **3301** | **2326** |

*Крыніца: АВПРІ, ф. 79 ,воп. 6, спр. 1548, л. 1 —7, 193 адв.*

Як відаць, сярод цэркваў і прыходскага духавенства дамінавала ўніяцкае вызнанне (78 %), сярод манаства – каталіцтва (70 %), а з усяго духавенства праваслаўнымі было 9 %, уніяцкімі – 55 %, каталіцкімі – 35 %. Уніяцтва не пахіснулася, а вынікі аправаслаўлення аказаліся мізэрнымі.

Заваяваць уніяцкае духавенства не ўдалося і ўрад павярнуў на міравую з панамі. Хлебныя паборы былі аддадзены пад нагляд земскіх судоў. Хлеб збіраўся на гэты раз у запасныя магазіны кулямі. Куль прыраўноўваўся да 1 чвэрці круп або 10 фунтаў мукі. За чвэрць жыта (7 пудоў і 10 фунтаў мукі) плацілі 25 кап., а грошы забіралі з падушных. За правоз звыш 50 вёрст плацілі 2 кап. за кожную вярсту.[158] У выніку круціліся не толькі панскія млыны, але і калёсы наўмысна ганялі, каб накруціць лішнія вёрсты. Знясільваліся сялянскія коні, якія былі адзіным сродкам апрацоўкі надзелаў. Нікчэмнасць падобных акцый вылілася ў тое, што пры зборы ў казну

1235 руб. па старых тарыфах, да 1 лістадада 1795 г. у нядоімцы значылася 6347 руб.

Як не выкручваўся намеснік, але даводзілася распараджацца працоўнымі разам з іх валадарамі. Край не атрымаўся рускім па «господствующей вере». Туталмін асцярожна паведаміў наверх, што вызваленне ім шляхты ад падаткаў дало вынік, што «о злонамерении бывших польских войск и о разсеиваемых мятежниками внушениях (пад час паўстання 1794 г. – Я.А.) земская полиция... всегда первая извещала начальство».[159] Замірэнне належала аформіць у адпаведнасці са штатамі губернскай рэформы 1775 г.

3 мая 1795 г. Кацярына II даручыла Туталміну адкрыць Мінскае намесніцтва ў складзе 13 уездаў (у адрозненне ад ранейшых паветаў) – Мінскага, Мазырскага, Пінскага, Вілейскага, Докшыцкага, Дзісенскага, Барысаўскага, Бабруйскага, Ігуменскага, Нясвіжскага, Слуцкага, Давыд-Гарадоцкага і Пастаўскага. Чатыры цэнтры апошніх яшчэ прадстаяла выкупіць у казну са згоды вотчыннікаў. Яўрэяў падпарадкавалі магістратам і Кацярына II даручыла перасяліць іх у уездные гарады. Да выбараў на пасады дапусцілі толькі землеўладальнікаў з сялянамі, а «по закладам и другим временным владениям настоящими вотчинниками почтены быть не могут». Гэта значыць, чыншавую шляхту пазбавілі выбарчага права. Кацярына II дазволіла дапускаць на пасады «тех, кто по заслугам и непоколебимой верности имел прежде чины польские». Стаўка рабілася на ўстойлівых дачаснікаў. Усім, хто валодаў маёнткамі па залогу, арэндзе, дазвалялася выслужваць права расійскага дваранства пры ўмове, што яны дакументальна дакажуць свае «благородство» і непадаткавы стан. А ў лік такіх асоб трапляла шляхта. Нарэшце, казённым сялянам дазвалялася удзельнічаць у выбарах сельскіх засядацеляў у верхнія і ніжнія расправы. Ім абвясцілі, што «прежде в республике польской они не

имели права выбора судей, но и защиты против самовластия и угнетения», а вось зараз могуць «восчуствовать материнское об них попечение ея императорскаго величества». У расправы выбіралася па 60 чал. «доброго и непорочного поведения», больш за 30 год, з пісьмовымі паўнамоцтвамі ад прыходскага святара і земскага выпраўніка. Па сутнасці ж гэты выбар праходзіў у дапамогу дваранскім органам на месцах хваляванняў.[160]

Адпаведна штатаў Мінскага намесніцтва, з 723 чал. у губернскія і ўездныя органы (прысутнасці) 222 назначаліся, а астатнім належала служыць па выбарах дваранства, але таксама пасля згоды (канфірмацыі) начальства.[161] Апошняе складалі генерал-губернатар з канцылярыяй (2 ад'ютанты, 2 сакратары), губернатар з праўленнем (2 саветнікі, губернскі пракурор, 2 страпчыя, 6 сакратароў, 5 перакладчыкаў, губернскі землямер, архітэктар, механік). Толькі на іх адных адпускалася 140 тыс. руб. Ваенных пры губернатары было 132 чал. (капітан, паручнік, падпаручнік, 3 сяржанты, 6 капралаў, 117 радавых, 2 барабаншчыкі і фельчар). Пры кожным павятовым праўленні ваенных было 34: падпаручнік, сяржант, 3 капралы, 29 радавых – усяго 640 чал. Такім чынам, на 962 рускія чыны прыходзілася 500 мясцовых выбраннікаў. Кацярына II адвяла на «устроение» намесніцтва год.

19 верасня 1795 г. у Мінск з'ехалася 443 дваран, якія 24 верасня згуртаваліся ў выбаршчыкі па ўездах. У асобны спіс занеслі тых, хто меў менш 100 руб. гадавога даходу, трымаў маёнткі па закладу і не меў увогуле чыноў. Аб тым, што гэта быў не агульнашляхецкі сход сведчыць і той факт, што збор доказаў на валоданне населенымі ўладаннямі быў распачаты толькі 9 лістапада. Дарэчы, 14 жніўня 1796 г., губернскаму прадвадзіцелю дваран далі год на сачыненне кнігі радаводаў шляхты, паколькі па

люстрацыі 1793 г. у Мінскім намесніцтве лічылася рознай шляхты 13870 мужчын, а рэвізія 1795 г. выявіла 23115 чал. Маючы факт сфальсіфікаванага дамагання дваранскіх пераваг сумніцельнымі асобамі, Туталмін прасіў 4 верасня 1796 г. губернскага прадвадзіцеля прыструніць «шляхетскую молодежь, которая упражнялась бесчинством в революцию, не имея дисциплины и следуемого послушания высшей власти».[162] Так былі распачаты разбор шляхты на права карыстання ўсімі правамі расійскага дваранства.

Якое месца займала непакойная шляхта сярод іншых станаў Мінскай губерні па выніках рэвізіі 1795 г. паказваюць табліцы 11 і 12. З іх вынікае, што ў 8478 паселішчах пражывала 625 тыс. сялян абодвух полаў (79,6 % усіх жыхароў). Дзяржаве належала 58485 (9,3 %), памешчыкам – 521581 (83,4 %), духавенству – 49973 (8 %) сялян. З усіх 97205 вольных людзей (6,9 % жыхароў) аднае шляхты было 42597 (5,4 %). Прычым большасць шляхты – 27131 чал. (63,6%) – арандавала чужую зямлю за чынш. Усе насельніцтва 13 гарадоў і 100 мястэчак канцэнтравалі 58119 чал. (7,4 % рэвізскіх душ). З іх хрысціяне складалі 15962, а яўрэі толькі 9559 (17 % гараджан). Яшчэ 32698 яўрэяў былі прыпісаны да гарадоў, але пражывалі ў вёсках і толькі з улікам гэтага мелі большасць сярод гараджан і местачкоўцаў – 76 %. Вось гэты тыпова сялянскі край і прадстаўлялі сабраныя 443 памешчыкі.

Адкрыццё намесніцтва Туталмін пачаў прамовай да дваран са словамі аб дараванні ім бяспекі і «правлении на незыблемых основаниях... во всем их пространстве.» У 10 гадзін 25 верасня гараднічы ў кампаніі 24 конных афіцэраў, пад гукі гармат, труб, аб'язджаў вуліцы горада і абвяшчаў аб пачатку урачыстасцяў. Абапал галоўнай вуліцы ад дваранскага сходу да саборнай царквы стаяла

*Табліца 11*

***Насельніцтва Мінскага намесніцтва ў паветах на 2 кастрычніка 1795 г.***

| Павет | Шляхты | | | | Духавенства | | Вольных людзей | | Сялян | | | | | | Усяго з гарадскімі | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | ваколічнай | | чыншавай | | | | | | казёных | | памешчыцкіх | | духоўных | | | |
| | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. |
| Мінскі | 403 | 358 | 1946 | 1866 | 178 | 120 | 2726 | 2715 | | | 23170 | 23417 | 1877 | 1890 | 37928 | 35003 |
| Вілейскі | 618 | 611 | 595 | 549 | 151 | 66 | 1988 | 2064 | 1926 | 1881 | 22348 | 21707 | 1194 | 1118 | 31103 | 30220 |
| Пастаўскі | 352 | 311 | 462 | 485 | 159 | 74 | 2012 | 2395 | 1622 | 1350 | 22835 | 22908 | 1263 | 1218 | 29632 | 29703 |
| Докшыцкі | 631 | 564 | 957 | 970 | 160 | 84 | 3355 | 3384 | 579 | 565 | 21148 | 20733 | 4035 | 4113 | 32333 | 32062 |
| Дзісненскі | 477 | 429 | 1242 | 1205 | 135 | 36 | 2647 | 2744 | 1500 | 1450 | 20117 | 20859 | 2000 | 2092 | 30150 | 31053 |
| Барысаўскі | 100 | 76 | 818 | 707 | 224 | 175 | 3165 | 2401 | 7848 | 7750 | 11888 | 11520 | 1485 | 1463 | 27213 | 25779 |
| Ігуменскі | 138 | 123 | 440 | 423 | 166 | 140 | 1795 | 1886 | 2506 | 2425 | 20157 | 19669 | 709 | 637 | 27630 | 26556 |
| Бабруйскі | 305 | 245 | 416 | 411 | 172 | 134 | 1442 | 1232 | 5222 | 4978 | 15247 | 14723 | 1222 | 1112 | 25937 | 24563 |
| Мазырскі | 358 | 349 | 61 | 49 | 125 | 143 | 2726 | 2600 | 4153 | 3976 | 17782 | 17305 | 573 | 531 | 27587 | 26958 |
| Давыд-Гарадокскі | 1889 | 1927 | 133 | 120 | 219 | 176 | 559 | 629 | 181 | 144 | 19612 | 17962 | 1250 | 1158 | 25005 | 23304 |
| Пінскі | 1550 | 1481 | 332 | 379 | 227 | 171 | 1336 | 1292 | 712 | 293 | 21167 | 20570 | 3413 | 3185 | 34433 | 32950 |
| Нясвіжскі | 881 | 810 | 3149 | 2883 | 147 | 109 | 2711 | 2416 | 1660 | 1594 | 23089 | 22098 | 2100 | 2000 | 36597 | 34720 |
| Слуцкі | 247 | 233 | 3319 | 3214 | 169 | 189 | 1379 | 1209 | | | 25512 | 24033 | 1649 | 1681 | 35432 | 34085 |
| | 7949 | 7517 | 13870 | 13261 | 2232 | 1617 | 27841 | 26967 | 27909 | 26406 | 264072 | 257509 | 22770 | 22198 | 400980 | 386956 |

*Крыніца: НГАБ, ф. 1568, спр. 15, л. 16—17 (Цыган было 9 муж. і 6 жанч.)*

*Табліца 12*

## *Насельніцтва гарадоў Мінскага намесніцтва на 2 кастрычніка 1795 г.*

| Горад | Духавенства | | Купцоў | | | | Мяшчан | | | | Рамеснікаў | | | | Вольных | | Яўрэяў у паветах | | Усіх | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | хрысціян | | яўрэяў | | хрысціян | | яўрэяў | | хрысціян | | яўрэяў | | | | | | | |
| | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. |
| Мінск | 72 | 82 | 56 | 60 | 131 | 140 | 316 | 326 | 1383 | 1430 | 337 | 352 | 114 | 245 | 537 | 572 | 1465 | 1308 | 4411 | 4515 |
| Вілейка | 2 | 4 | | | 37 | 21 | 107 | 114 | 7 | 6 | | | | | | | 2068 | 2145 | 2221 | 2290 |
| Паставы | 11 | | | | | | | | 41 | 39 | | | | | 13 | | 828 | 889 | 893 | 928 |
| Докшыцы | 8 | 2 | | | | | 194 | 196 | 59 | 93 | 48 | 53 | 14 | 19 | 16 | 13 | 1114 | 1253 | 1453 | 1629 |
| Дзісна | 8 | 5 | 32 | 47 | 12 | 14 | 36 | 149 | 62 | 81 | 151 | 197 | 20 | 25 | 751 | 738 | 910 | 982 | 2032 | 2238 |
| Барысаў | 8 | 6 | 17 | 13 | 28 | 24 | 371 | 371 | 131 | 190 | 97 | 88 | 27 | 30 | | | 1006 | 960 | 1685 | 1682 |
| Ігумен | 4 | | | | 2 | 3 | 146 | 134 | 116 | 95 | 14 | 17 | 3 | 5 | | | 1386 | 1445 | 1671 | 1699 |
| Бабруйск | 14 | 10 | 3 | | 94 | 101 | 231 | 239 | 121 | 129 | 138 | 149 | 31 | 30 | | | 993 | 1070 | 1625 | 1728 |
| Мазыр | 18 | 3 | 4 | 2 | 23 | 20 | 730 | 874 | 69 | 85 | 123 | 77 | 50 | 55 | | | 802 | 891 | 1819 | 2007 |
| Давыд-Гарадок | 4 | 3 | | | 5 | 6 | | | 189 | 200 | | | | | 8 | | 937 | 965 | 1143 | 1174 |
| Пінск | 53 | 16 | | 79 | 62 | 1190 | 1170 | | 483 | 535 | | | 333 | 155 | 28 | 1271 | 1641 | 3437 | 3579 | |
| Нясвіж | 53 | 40 | 9 | 4 | 59 | 42 | 447 | 442 | 102 | 130 | 90 | 91 | 44 | 51 | | | 1996 | 1983 | 2800 | 2783 |
| Слуцк | 56 | 43 | 2 | 3 | 64 | 65 | 818 | 933 | 579 | 649 | 100 | 105 | 83 | 80 | 286 | 417 | 1167 | 1223 | 3155 | 3518 |
| | 311 | 214 | 123 | 208 | 517 | 1626 | 4566 | 3778 | 3342 | 3662 | 1098 | 1129 | 719 | 695 | 1639 | 1740 | 15943 | 16755 | 28345 | 29770 |

*Крыніца: НГАБ, ф. 1568, спр. 15, л. 16—17.*

войска. 2 чыны і 4 памешчыкі запрасілі губернатара на сход. Няплюеў сеў ніжэй крэсла намесніка і перад сталом, накрытым малінавым аксамітам, з кнігай губернскіх штатаў і дарчай граматай. Затым ён выправіў 5 чыноў і 14 дэлегатаў ад дваран за намеснікам. Прыбыўшага Туталміна віталі ганаровы каравул з 2 дваран, цырыманіямайстр і сам губернатар ля увахода праз кожныя дзверы. Калі ён усеўся ў крэсла, губернскі пракурор зачытаў сенацкі указ аб адкрыцці намесніцтва, а намеснік нагадаў прысутным прычыну сходу і павёў усіх на літургію пад трохразовыя стрэлы гармат. Пасля праваслаўнага сабора сход перайшоў у каталіцкі касцёл на прысягу. Пасля службы намеснік даваў абед на 140 «кувертаў» для знаці, а вечарам асвяціў ратушу з манастырамі. 26 верасня сход выслухаў свае афіцыйныя абавязкі і вечарам весяліўся на балі. 27 верасня сход выбраў прадвадзіцеляў дваран, а 28 верасня – земскіх суддзяў, выпраўнікаў і засядацеляў, сакратароў для складання кнігі радаводу. 30 верасня адбыліся выбары у 13 дваранскія апекі, 13 совесныя суды, 2 ратушы, 11 магістраты, 11 сіроцкія суды, 11 дум. Для сялян было складзена 6 распраў. 1 кастрычніка праходзілі выбары верхняга і ніжніх земскіх судоў. Балаціроўка праводзілася шарамі. Старшынёй крымінальнай палаты верхняга суда стаў калежскі саветнік І. Мендзялееў, а грамадзянскай палаты – 53-гадовы І.Л. Дашкевіч. Паходзіў ён з радавітага панства, меў 426 сялян у Нясвіжскім і Барысаўскім уездах. У 1760 г. быў адвакатам віленскага гродскага суда, у 1763 – трокскім каптуровым судзёй, у 1765 – адвакатам Галоўнага трыбунала. З 1769 г. служыў канюшым гродзенскім, у 1773 – мечнікам, 1779 – падчашым, 1780 – дэлегатам сейма. З 1786 г. перамясціўся ў Мінскае ваяводства на

пасаду гродскага суддзі, земскага (1789) і судовага падстарасты. У 1791 г. стаў мсціслаўскім кашталянам і сенатарам Вялікага сейма, у 1792 г. – старшынёй сеймавых судоў, а затым гродавым падстарастам.

Сціплыя даныя даводзяць нам, што яго атачэнне было рознамасным. Саветнік, 46-гадовы сын папа В.П. Колаколаў вучыўся ў Пецярбургскай акадэміі і састаяў у камісіі па складанню новага ўлажэння імперыі. Асэсар А. Перфіцкі быў з Украіны. Сакратар палаты 29-гадовы семінарыст Міхаіл Львоў трапіў сюды з Архангельска. Перакладчыкам стаў шляхціц Фама Талвінскі, які трымаў 62 сялян у Себежскім уездзе Полацкай губерні, і г.д.[163]

Пасля выбараў совеснага суда, старшынёй якога стаў граф Ю. Тышкевіч, 2 кастрычніка адбыўся заключны сход. Туталмін падзякаваў сабраных за парадак на выбарах і павёў іх па два у рад на літургію і прысягу. Затым ён аб'язджаў прысутнасці разам з губернатарам, а гараднічы зноў апавяшчаў вуліцы аб адкрыцці намесніцтва. У 4 гадзіны апоўдні на гарадской плошчы на «возвышениях выставили ящики, накрытые разноцветной тафтой и шелком, уставленные многочисленной снедью и напитками для увеселения простого народа». Вечарам быў баль з ілюмінацыяй. 4 кастрычніка дваранскі сход абмяркоўваў свае патрэбы, а вечарам зноў весяліўся ў доме намесніка, перад якім гарэла ілюмінацыя ў выглядзе губерні, «приносящей жертву богине премудрости, вручающей ей открытую книгу законов».[164]

Агульныя вынікі выбараў адлюстраваны ў табліцы 13. З яе даных вынікае, што з 166 пасад 42 (25 %) занялі рускія чыны, а астатнія размеркавалі мясцовыя ураджэнцы. 18 кастрычніка Туталмін выдаў указ аб забароне хабару, а 4 лістапада назначыў уездных страпчых (адвакатаў)[165] – выключна рускіх адстаўных афіцэраў. І рэгламентацыі і павучанні не пазбавілі новае праўленне

ад толькі што выкрытых заганаў папярэдніх урадаў. На пачатку 1796 г. гэта паказаў выпадак са слуцкім гараднічым Тычыніным. Гараджане скардзіліся, што іх галава ўмешваўся ў выбары, гразіўся членам магістрата «руки и ноги переломать», прагнаў сялян з кірмашу, вымагаў сабе свечкі і дровы. Кожны дзень п'яны, ён прысвоіў гарадскія зборы, пакуль яму не паведамілі, што Слуцк – дзяржаўны горад «наравне с прочими городами России», загадваў салдатам «рубить евреев обнаженными саблями», а на яўрэйскіх могілках паставіў каравул «с намерением откапывать мертвые тела для изыскания, правда ли, что евреи кладут в гроб собаку».[166]

Каб утаймаваць падобных даглядальнікаў парадку, Туталмін дабіўся згоды Кацярыны II (23 студзеня 1796 г.) на ўвядзенне ў ніжэйшыя земскія суды яшчэ аднаго засядацеля і павелічэнне іх членам акладу да 200 руб.[167] На наступны дзень ён загадаў увесці ў прысутнасць кожнага суда перакладчыка з польскай мовы і заявіў, што з 30 студзеня 1796 г. усе прысутнасці павінны весці справы на рускай мове, акрамя «дел по процессам и подсудимых по разным случаям». Меліся на ўвазе крымінальныя здарэнні, якія новая ўлада ўжо ўзяла пад свой кантроль. Што тычыцца мясцовых дваран, выбраных на пасады, то намесніцкае праўленне спадзявалася, што яны «всеми силами постараются овладеть русской речью, к чему, однако же, потребно некоторое время».[168]

Як відаць, пачатак 1796 г. азнаменаваўся русіфікацыяй пісьмаводства, што якраз супала з падазрэннямі ў існаванні прыхаваных змоў. У маі 1796 г. Туталмін загадаў усім земскім начальнікам «бдительно блюсти, чтобы никто не отваживался передавать внушения, противные общественному благу, внутреннему покою и верноподданной обязанности, со ревностию опровергать умствовании вовсе несбыточных и несообразных к здравому разсудку и политическому дел

положению». Кожны з чыноў абавязваўся сакрэтна даносіць аб чутках, падазроных зносінах, французскіх выданнях, «бреднях и всякой переписке», дэзерцірах з распушчаных польскіх палкоў і г.д.[169] Першай ахвярай даносу навагрудскага краўчага Юзафа Макавецкага стаў гродскі пісар Адам Вяржэйскі, які «неизвестно где потратил время... во время прошедшей революции.» Памешчыкі зноў наракалі на разарэнні, забарону вывазу прадуктаў за мяжу. Туталмін падазраваў князя А. Панінскага, які імкнуўся пераўтварыць уездныя дваранскія сходы «в безурядные польские сеймики». 31 ліпеня 1796 г. князь апратэставаў на губернскім дваранскім сходзе адхіленне яго ад пасады губернскага прадвадзіцеля дваран, а Туталмін толькі спадзяваўся, што той хутка «отстанет от польских замашек, тем более вредных, что приводят они на память приятное многим прежнее на сеймиках господствование.»[170] Насадзіўшы фактычна паліцэйскі рэжым, намеснік тым не менш нагадаў вярхам аб жывучасці традыцый сеймікаў з бязмежным вольным голасам, які служыў шырмай панавання арыстакратычнай алігархіі. Кацярынінскае акружэнне мусіла задумацца аб месцы шляхты ў краі і наогул аб выбарнасці на пасады.

Прыведзены матэрыял дазваляе ўпэўнена сцвярджаць, што царызм пачаў трывала замацоўваць сваю ўладу на абшары другога падзелу яшчэ напярэдадні і, актыўна, у час гродзенскага сейма 1793 г., задоўга да атрымання на тое сеймавай згоды. Паслы не маглі гэтага не ведаць і таму іх патрыятычная роля двойчы хлуслівая. Мясцовая шляхта падтрымала новую ўладу з надзеі дабіцца выбарнасці ўсіх пачэсных, ганаровых і пажыццёвых пасад, замацаваных за арыстакратыяй, аднак атрымала толькі вылучэнне ў непадаткавы стан, які ёй належала даказваць.

Новы ўрад па сутнасці ліквідаваў вольныя выбары і зрабіў іх падкантрольнымі ўзаемаадказнасцю і звычайным сачэннем.

Секвестр, як сродак скарэння магнацкай апазіцыйнасці, не меў плёну, бо ахапіў вузкія колы, якія затым вярнулі права на вернападданасць. Заблытанасць секвестраваных маёнткаў даўгамі вымагала значных сродкаў на выкуп, чаго не аказалася ў знясіленым краі. Расійскі ўрад імкнуўся непасрэдна кіраваць сялянствам праз спробу аправаслаўлення уніятаў. Аднак у масавым маштабе гэтага не ўдалося дабіцца з-за супраціўлення духавенства і боязі самой адміністрацыі парушаць вотчынную ўладу памешчыкаў. У выніку, урад мусіў цярпець сацыяльнае становішча, якое меўся замяніць чалавекалюбным гаспадараннем і жорсткім паліцэйскім рэжымам. У выніку, яму давялося падзяліць распарадчую ўладу з мясцовымі выбраннікамі ад дваран.

Мерапрыемствы па адміністрацыйнаму замацаванню на забраных землях толькі завяршылі своекарыслівы хаўрус царызму і знаці ў іх аднолькавай адказнасці за другі падзел рэспублікі.

*Табліца 13*

**Вынікі выбараў па Мінскаму намесніцтву 1795 г.**

| Прысутнасць | Пасада | Прозвішча | Папярэдні чын |
|---|---|---|---|
| Палата крымінальнага суда | Старшыня | Мендзялееў Іван | калежскі саветнік |
| | Асэсар | Цэйс Пётр Іванавіч | секунд-маёр |
| | таксама | Малафееў Іван | ротмістр |
| | таксама | Свіда Сцяпан | таксама |
| | Засядацелі | Уніхоўскі Франц | |
| | | Арлоўскі Андрэй | |
| | | Красоўскі Каспар | |
| | | Путкамер Юзаф | |
| | | Варнікоўскі Каспар | |
| | | Маркоўскі Юзаф | |
| Палата грамадзянскага суда | Старшыня | Калаколаў Васіль Пятровіч | надворны саветнік |
| | надворны саветнік | Жарабцоў Дзмітрый | секунд-маёр |
| | асэсар | Парфіцкі Андрэй | ротмістр |
| | таксама | Шэмбель Казімір | парадкавы камісар |
| Казённая палата | надворны саветнік | Ланг Карл Карлавіч | |
| | мытны саветнік | Юзафовіч Леў | |
| | саветнік | Воранаў Іван | капітан флоту |
| | тытулярны саветнік | Дабранскі Павел | губернскі казначэй |
| | асэсары | Корвін-Красінскі Аляксандр | камісар |
| | | Тарацін Аляксандр | тытулярны саветнік |
| | | Стральбіцкі Міхаіл | ротмістр |
| Губернскі магістрат | Старшыня | Хрыпуноў Пётр | прэм'ер-маёр |
| | засядацель | Багушэвіч Станіслаў | гродскі суддзя |
| | стрaпчыя: | Соін Ларыён | прэм'ер-маёр |
| | | Бранікоўскі Іван | секунд-маёр |
| | | Яфрэмаў Філіп | надворны саветнік |
| | | Барэйша Дзмітрый | секунд-маёр |
| | | Мажэнін Васіль | капітан |
| | | Даланоўскі Андрэй | тытулярны саветнік |
| | | Воўчын Іван | таксама |
| | | Фабрыцыус Хрыстафор | таксама |
| | | Высочын Дзмітрый | тытулярны саветнік |
| | | Дзехцеў Васіль | паручнік |

*Працяг табліцы на стар. 316-319*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Гараднічыя: | Мінск | Пастухоўскі Дамітрый | секунд-маёр |
| | Вілейка | Герасімаў Сямён | капітан |
| | Паставы | Стафапула | секунд-маёр |
| | Докшыцы | Берг Пётр | капітан |
| | Дзісна | Друкі-Сакалінскі Сяргей | паручнік |
| | Барысаў | Бурцоў Якаў | секунд-маёр |
| | Ігумен | Лілле Іван | капітан |
| | Бабруйск | Манаполаў Папеляймон | ротмістр |
| | Мазыр | Ціхаміраў Аляксандр | секунд-маёр |
| | Давыд-Гарадок | Дэстэрлаву Іван | тытулярны саветнік |
| | Пінск | Лаўдон Рэйнэ | секунд-маёр |
| | Нясвіж | Рэмерс Васіль | ротмістр |
| | Слуцк | Тычынін Сцяпан | секунд-маёр |
| Пракуроры | Губернскі | Палтаўцоў Пракоп | калежскі саветнік |
| | | Эстка Якаў | секунд-маёр |
| | | Рэбіндэр Іван | таксама |
| Земскія выпраўнікі: | Мінск | Немаржанскі Юзаф | земскі суддзя |
| | Вілейка | Рыльскі Франц | войскі |
| | Паставы | Акушка Юзаф | аршанскі земскі суддзя |
| | Докшыцы | Каркузевіч Валерый | дваранін |
| | Дзісна | Парэцкі Ануфрый | шамбелян |
| | Барысаў | Карыбскі Антон | дваранін |
| | Ігумен | Слатвінскі Яўстахій | шэмбелян |
| | Бабруйск | Прушыноўскі Юзаф | асэсар |
| | Мазыр | Лянкевіч Станіслаў | гродскі суддзя |
| | Давыд-Гарадок | Кіневіч Андрэй | ротмістр |
| | Пінск | Радзевіч Тэадор | земскі пісар |
| | Нясвіж | Воўк Ян | шамбелян |
| | Слуцк | Валодзька Тадэуш | палкоўнік |
| Засядацелі уездных судоў | Мінск | Піятух Казімір | ротмістр |
| | | Грыгаровіч Юзаф | рэгент |
| | Вілейка | Стацэвіч Андрэй | ротмістр |
| | | Хлюдзінскі Пётр | шамбелян |
| | Паставы | Чаховіч Ігнат | земскі суддзя |
| | | Ходзька Ян | камісар |
| | Докшыцы | Казімірскі Ігнат | шамбелян |
| | | Клякоўскі Клімент | рэгент |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | Дзісна | Рыпінскі Мікалай | галіцкі стольнік |
| | | Міргановіч Антон | шамбелян |
| | Барысаў | Язоўскі Вікенцій | таксама |
| | | Радзеўскі Ігнат | камісар |
| | Ігумен | Шэмет Гілярый | таксама |
| | | Памян Антон | паручнік |
| | Бабруйск | Шышко Тадэвуш | таксама |
| | | Рагоза Адам | ротмістр |
| | Мазыр | Навакоўскі Рыгор | інтэндант |
| | | Радзіеўскі Казімір | касір |
| | Давыд-Гарадок | Орда Дамінік | гродскі суддзя |
| | | Цымяржынскі Цімафей | земскі суддзя |
| | Пінск | Сейфгард Міхаіл | таксама |
| | | Орда Павел | стражнік |
| | Нясвіж | Вяржэйскі Адам | камісар |
| | | Яцыніч Каэтан | таксама |
| | Слуцк | Чарноцкі Юзаф | земскі пісар |
| | | Стравінскі Рафал | камісар |
| Выпраўнікі ніжніх земскіх судоў | | | |
| | Мінск | Пуцята Сцяпан | ротмістр |
| | Вілейка | Халецкі Ян | камісар |
| | Пастаны | Скарына Ян | шамбелян |
| | Докшыцы | Лыжкевіч Ян | гродскі суддзя |
| | Дзісна | Невяглоўскі Ян | камісар |
| | Барысаў | Свяніцкі Вікенцій | дваранін |
| | Ігумен | Кілчэўскі Марцэлі | асэсар |
| | Бабруйск | Герман Андрэй | паручнік |
| | Мазар | Жудро Рафал | таксама |
| | Давыд-Гарадок | Любанскі Ян | камісар |
| | Пінск | Дарэўскі Юрый | палкоўнік |
| | Нясвіж | Петразолін Томаш | шамбелян |
| | Слуцк | Герасімовіч Юзаф | камісар |
| Засядацелі ніжніх земскіх судоў | | | |
| | Мінск | Дзелінгаузен Густаў | ротмістр у адстаўцы |
| | | Ратомскі Антон | капітан |
| | | Талкачэўскі Кузьма | гродскі рэгент |
| | Вілейка | Гурскі Тадэвуш | дваранін |
| | | Валодзька Мартын | ротмістр |
| | | Карытоўскі Міхал | таксама |
| | Пастаны | Хомскі Юзаф | ашмянскі краўчы |
| | | Жынько Мартын | рэгент |
| | | Шымковіч Ігнат | ротмістр |

| | | |
|---|---|---|
| Докшыцы | Навамейскі Казімір | таксама |
| | Фёдаравіч Ігнат | харунжы |
| | Стаброўскі Юзаф | камісар |
| Дзісна | Косаў Караль | харунжы |
| | Доўмант Юзаф | шамбелян |
| | Мілашэвіч Юстыніян | ротмістр |
| Барысаў | Няцецкі Мацвей | камісар |
| | Карыбскі Міхал | ротмістр |
| | Багічмальскі Ігнат | таксама |
| Ігумен | Шышко Ігнат | камісар |
| | Кенстовіч Юзаф | ротмістр |
| | Акуліч Плацыд | паручнік |
| Бабруйск | Бачкоўскі Франц | смаленскі абозны |
| | Булгак Антон | камісар |
| | Венцловіч Ігнат | таксама |
| Мазыр | Богуш Дзізма | ротмістр |
| | Янкоўскі Ігнат | смаленскі краўчы |
| | Валбек Юзаф | падчашы |
| Давыд-Гарадок | Алеша Ігнат | ротмістр |
| | Радзевіч Вінцэнт | таксама |
| | Траскоўскі Франц | рэгент |
| Пінск | Шырма Антон | шамбелян |
| | Міхайлоўскі Антон | камісар |
| | Плескачэўскі Ян | харунжы |
| Нясвіж | Галімоўскі Ян | дваранін' |
| | Лавецкі Лаўрэнцій | паручнік |
| | Гаціцкі Вікенцій | прапаршчык |
| Слуцк | Лазаравіч Багдан | камісар |
| | Гадзевіч Ігнат | рэгент |
| | Карповіч Хрыстафор | харунжы |

Дэпутаты сачынення радаводнай кнігі

| | | |
|---|---|---|
| Мінск | Быкоўскі Антон | генерал-ад'ютант |
| Вілейка | Сялява Юзаф | гродскі суддзя |
| Паставы | Янкоўскі Франц | земскі суддзя |
| Докшыцы | Асвяцімскі Якаў | шамбелян |
| Дзісна | Буйніцкі Алаіз | ротмістр |
| Ігумен | Шэмет Казімір | шамбелян |
| Барысаў | Ванковіч Станіслаў | камісар |
| Бабруйск | Булгак Ігнат | рэчыцкі земскі суддзя |
| Мазыр | Горват Ігнат | гродскі суддзя |
| Давыд-Гарадок | Скірмунт Адам | земскі суддзя |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | Пінск | Бутрымовіч Матэвуш | судовы падстараста |
| | Нясвіж | Вайніловіч Ян | асэсар |
| | Слуцк | Солтан Ігнат | рэчыцкі чашнік |
| Совесны суд | | | |
| | Засядацелі | Аленскі Мартын | ротмістр |
| | | Вазгірд Юзаф | таксама |
| Верхні земскі суд | Засядацелі | Гецэвіч Вінцэнт | вілейскі краўчы |
| | | Апторп Франц | палкоўнік |
| | | Лапкевіч Станіслаў | мінскі гродскі пісар |
| | | Янішэўскі Сільвестр | асэсар |
| | | Барацінскі Ігнат | шамбелян |
| | | Петрыкоўскі Тадэвуш | рэгент трыбунала |
| | | Алендскі Станіслаў | паручнік |
| | | Ванковіч Вінцэнт | земскі камісар |
| | | Прушаноўскі Каспар | рэчыцкі гродскі суддзя |
| | | Алендскі Фелікс | судовы асэсар |

*Крыніца: РДАСА, ф. 16, спр. 758, частка 3 а, л. 412—593.*

## *Бібліяграфія да раздзела II*


[1] Michalski J. Publicystyka... S. 23, 27, 28, 151, 160, 163; Czaja A. Lata wielkich... S. 136.

[2] Соловьев С.М. Соч. Кн. 15. С. 37, 39, 45, 79.

[3] Michalski J. Publicystyka... S. 24, 32, 35—37, 39, 62; Ён жа. Rzekoma proba oderzwania... S. 177—181; Filipczak W. Rągi poselskie... S. 66—67.

[4] НГАБ, ф. 694, воп. 1, спр. 83, л. 2—3; Michalski J. Sejmiki Wielkiego księstwa... S. 59—60, 62—63.

[5] НГАБ, ф. 1727, спр. 17, л. 469 адв., 711 адв.

[6] Там жа. На гэтым сейміку старшынстваваў мінскі ваявода Ю. Радзівіл у зборы І. Хмары, А., Ігнацыя (вількамірскага будаўнічага), гродскага суддзі Міхаіла, краўчага Мікалая Паўлікоўскіх, Я., канюшага Пятра, мечніка ? Свяцыцкіх, будаўнічага К. Кастравіцкага, стражніка І., будаўнічага Бенедыкта,

смаленскага чашніка Юзафа Прэсецкіх, М. Ванковіча, падкаморыца Алаіза Карніцкага, рэчыцкага падчашага Бернара Гадлеўскага, Ю. Даўнаровіча, навагрудскага падчашага Станіслава Грыгаровіча, каморніка Ян Зелікоўскага, смаленскага гродскага рэгента Ш. Лапата, аршанскага каморніка Тадэвуша Вышамірскага, мазырскага падстарасціца Бенедыкта Булгака, трокскага падстарасты Вацлава Кучэўскага, смаленскага чашніка Ігнацыя Цывінскага, падстолія Данілы Шымкоўскага, браслаўскага мастаўнічага Яна Трускоўскага, полацкага падкаморага Вінцэнта Усакоўскага, брацлаўскіх чашнікаў Базыля і Юзафа Хомічаў, лідскага стольніка Станіслава, Ануфрыя Вінча, ваўкавыскага стражніка Ануфрыя Масальскага, нурскага падсудка Вікенція Барташэвіча, аршанскага каморніка Антона Грэковіча, вількамірскага падчашага Хрыстафора Іваноўскага, земскага суддзі Ігнація Уніхоўскага, чарнігаўскага падчашага Уладзіслава Здановіча, вількамірскага старасты Юзафа Адынца, ашмянскага мастаўнічага Яна Нясцецкага, смаленскага падкаморага Міхаіла Шкленіка і смаленскага каморніка Юзафа Бучынскага.

[7] НГАБ, ф. 1777, спр. 17, л. 714—721, 724—730. Тут прысутнічалі: гродскі староста І. Іваноўскі, войскі Вінцэнт Быкоўскі, Ф. Прушынскі, браслаўскі падчашы Антон і браслаўскі ротмістр Юзаф Прушынскія, вяляціцкі староста Юзаф Тышкевіч, падстараста Пётр Янішэўскі, стражнік Хрыстафор Ліхадзіеўскі, мастаўнічы Ю. Варанец, граф Ян Караль, паручнік Казімір Завішы, краўчы Тадэвуш Гаенскі, староста Ігнат Валадкевічы, рудніцкі староста Лявон Міцкевіч. капітан Хрыстафор Мацкевіч, рэгент трыбунала Антон Піятух-Кубліцкі, ярошаўскі староста Міхаіл Галінскі, мазырскі земскі суддзя Мікалай Прыбор, віцебскі скарбнік Юзаф Пагоскі, мазырскі чашнік Франц Хіжэўскі, князь і пінскі скарбнік Якуб Юрэвіч, мазырскі стражнік Адам Лухевіч, каморнік і старадубскі ротмістр Юзаф Марцюшэўскі.

[8] НГАБ, ф. 1727, спр. 17, л. 840, 872, 879.

[9] Там жа, ф. 1730, спр. 42, л. 200—203, спр. 43, л. 66, спр. 44, л. 91 адв.

[10] Там жа, 1733, спр. 53, л. 245 адв.—248.

[11] Zaleski M. Pamiętniki... S. 89.

[12] НГАБ, ф. 1737, спр. 49, л. 541—548, спр. 57, л. 60.

[13] Там жа, ф. 1767, спр. 19, л. 472—473. Пратэст падпісалі: Антон, мечнік Міхаіл Скіндэры, земскі пісар Бенедыкт, стражнік Юзаф Каменскія, гродскі суддзя Мацвей Глушынскі, гродскі пісар і скарбнік Ю.К. Стэпалкоўскі, гродскі суддзя Рамуальд Наневіч, падчашы Антон Нарбут, земскі рэгент Томаш Вінцэнт Вільканц.

[14] Filipczak W. Ręgi poselskie... S. 84—85.

[15] НГАБ, ф. 1774, спр. 67, л. 70 адв. Пратэст падпісалі: войскі Казімір, гараднічы Тадэвуш Ябланоўскія, земскі суддзя Міхаіл Крысялоўскі, І. Корсак, гараднічы Юзаф, ротмістр Стэфан Канцэвічы, М. Пратасевіч, А., Ю., Станіслаў, смаленскі гараднічы Міхаіл Рэйтаны, Ю. Раецкі, палкоўнік Самуэль, ротмістр Міхаіл Корсакі, пісарэвіч Антон Камінскі, смаленскі чашнік Феліцыян, каморнік Якуб Чачоты, слуцкі лоўчы Станіслаў, падстоліц Антон Вайніловічы, старадубскі стражнік Ян Гардына, каморнікі Караль Лявіцкі, Франц Трускоўскі, Лявон Рагажынскі, старадубскі падстарасціц Міхаіл Усакоўскі, інфлянцкі мастаўнічы Юзаф Плашкоўскі, ломжанскі падстолі Рафал Ясецімскі, жмудскі чашнік Юзаф Туганоўскі, мсціслаўскі скарбнік Юзаф Вольскі, князь Хрыстафор Масальскі.

[16] Czaja A. Lata wielkich... S. 155; Kurdybach L. Dzieje Kodeksu Andrzeja Zamojskiego. Krak., 1951. S. 7, 29.

[17] НГАБ, ф. 1741, спр. 38, л. 717, 718—719, 721, 731—738. У тым ліку: кашталян Ю. Быстры, Ю. Сапега, падкаморы Ігнацій Выганоўскі, канеўскі староста Ян Патоцкі, К. Гарноўскі, земскі суддзя І. Азямблоўскі, войскі П. Чыж, падстараста Яцэк Пашкоўскі, гродскі суддзя Станіслаў Бельскі, гродскі пісар Ян Влодак, чашнік Ігнат Ласкоўскі, мечнік Станіслаў Непакайчыцкі, будаўнічы Ігнат Барэйша, каморнік Антон Горскі, земскі рэгент Ігнацій Грушэўскі, абозны Рох Буткоўскі, рэчыцкі лоўчы Ян Багуслаўскі, рэчыцкі земскі рэгент Станіслаў Труханоўскі, браслаўскі чашнік Міхаіл Ляўковіч.

[18] НГАБ, ф. 1728, спр. 22, л. 736—737 адв. Падпісаліся: земскі суддзя Леапольд, Юзаф Арэшка, Адам, мастаўнічы Шыман Скірмунты, падстолі Антон Стравінскі, гродскі суддзя і мсціслаўскі скарбнік Франц Панятоўскі, гараднічы Тэадор Радзевіч, канюшы Матвей Бутрымовіч, абозны Фабіян і смаленскі скарбнік Ян Вугрэцкі, падкаморы Казімір Язерскі, геаметр караля Міхаіл Пальхоўскі, скарбнік Феліцыян Галаўко.

[19] НГАБ, ф. 1733, спр. 55, л. 199—200, ф. 1728, спр. 22, л. 737.

[20] Там жа, ф. 1728, спр. 22, л. 550. У наступны год (1779 г.) мазырскі павет даў гэты пабор палку за «ўціхамірванне свавольства гайдамацкіх куп, наязджаючых на многія шляхецкія двары» (ф. 1728, спр. 23, л. 66).

[21] Zaleski M. Pamiętniki... S. 85, 98, 114, 152—155; Filipczak W. Ręgi poselskie... S. 69—70.

[22] НГАБ, ф. 1774, спр. 11, л. 731, ф. 1730, спр. 46, л. 989—990 адв. Скаргу занатавалі: харунжы Х. Рдултоўскі, стольнік І. і абозны А. Корсакі, канюшы Міхаіл і камісар Вінцэнт Пратасевічы, краўчы Франц Пляцкоўскі.

[23] НГАБ, ф. 1711, спр. 62, л. 596—600. У тым ліку: маршалак

К. Волмер, Л.К. Дашкевіч, суддзя трыбунала Канстанцін Ельскі, скарбнік Я. Мараш, шамбелян Антон Валовіч, старадубскі падчашы Людвік Нарвойша, каморнік Мацвей Эйсмонт, мечнік Ю. Кланіцкі, гродскі рэгент Мартын Верашчынскі, жмудскі мастаўнічы Томаш Грыцкевіч, старадубскі гродскі рэгент Іпаліт Лянкевіч, слонімскі каморнік Міхаіл Гаціскі, пазнанскі падчашы Тадэвуш Валбек, аршанскі гараднічы Каспар Кміт, краўчы Павел Кунцэвіч, І. Ігнатовіч, маршалковічы Пётр, Франц, Лявон Волмеры, падкаморы Франц Юндзіл, старадубскі падкаморы Ф. і літоўскі скарбнік Станіслаў, шамбелян Канстанцін Ельскія, земскія суддзі М. Палітальскі, Б. Боўфал, Т. Александровіч, Я. Рукевіч, стольнік Аляксандр Міхаіл, гараднічы Андрэй, абозны Бенавентура, каморнік Мацвей Тадэвуш, падкаморскі рэгент Андрэй Эйсмонты, падстолі і гродавы адвакат Франц Сухадольскі, земскі пісар І. Храптовіч, гродавы падстараста Людвік Казімір Дашкевіч, чашнік Ян Мароз, скарбнік Антон Студніцкі, абозны Антон Хлявінскі, стражнік Іпаліт Ваўкавіцкі, краўчы і земскі рэгент Віктар Шумкоўскі, бельскі чашнік Шыман Завістоўскі, будаўнічы Міхаіл Садлуцкі, шамбелян і дэпутат трыбунала Тадэвуш Тупальскі, мазырскі мечнік і азарыцкі староста Людвік Панцэржынскі, гродскі рэгент Людвік Ліпніцкі, гродскі рэгент Антон Занеўскі, скарбовы дваранін Ігнат Гушча, падстараста Тадэвуш Кярноўскі, дваране Юзаф Шумкоўскі, Зянон Магучы, Ян Горскі, земскі рэгент Станіслаў Гоўвальт, каморнік Юзаф Шаняўскі, гродскі рэгент Антон Віктар Лянкевіч, каморнікі Лук'ян Дабрылеўскі, Мартын Геніца і Лявон Ліпніцкі.

[24] НГАБ, ф. 1711, спр. 66, л. 37—50, спр. 41, л. 59—62, ф. 1737, спр. 55, л. 855—866. Інструкцыю падпісалі: падканцлер ВКЛ і судовы староста Флор Стравінскі, А. Мікульскі, судовы падстараста і войскі Антон Кабылінскі, земскі пісар Багуслаў, канюшы Ігнат Шукевічы, гродскі суддзя Казімір Ян Прэслаўскі, Ю. Булгак, чашнік Томаш Корчыц, гараднічы Тадэвуш Пратасевіч, С. Палубінскі, мечнік Тадэвуш Чудоўскі.

[25] Там жа, ф. 1737, спр. 55, л. 857—865.

[26] Там жа, л. 859-862 адв.

[27] НГАБ, ф. 1728, спр. 23, л. 249—250.

[28] Там жа, ф. 1741, спр. 42, л. 1027 адв., спр. 44, л. 1545. Сярод іх: старшынствуючы харунжы Бернар Бухавецкі, земскія суддзі Фелікс Грабоўскі, К. Гарноўскі, Францішак Урсын Нямцэвіч, Томаш Кайшэўскі, стольнік Людвік Сузін, ротмістр Ксаверы Сапега, падстолі Я. Пашкоўскі, гродскія суддзі Б. і сын Адам Верашчакі, Станіслаў Урсын Нямцэвіч, Ігнацій Шчапаноўскі, гродскі пісар Фелікс Хржаноўскі, чашнік Ігнат Ласкоўскі, С. Непакайчыцкі, абозны Рох Будкоўскі, краўчы Юзаф Беніцкі,

мастаўнічы Юзаф Бухавецкі, І. Барэйша, земскі рэгент Плацыд Трашкоўскі, браслаўскі падкаморы Ян Шуйскі, рэчыцкі гродскі суддзя Дамінік Рэшка, смаленскі лоўчы Эмануіл Ляўковіч, чарнігаўскі мечнік Пётр Багуслаўскі, каморнікі Ксаверы, Мікалай, Каэтан Яцкевіч, Вінцэнт Рэшка, чарнігаўскі мечнік Юзаф Глінскі.

[29] НГАБ, ф. 1737, спр. 54, л. 399—413 адв. У тым ліку: падкаморы Ян Казімір Макавецкі, харунжы А. Мікульскі, судовы падстараста Антон Кабылінскі, гродскі суддзя Казімір Ян Глаўбіч, падстолі Ігнат Бухавецкі, гродскі пісар Вінцэнт Аравінскі, Т. Чудоўскі, ваўкавыскі канюшы і шамбелян І. Быкоўскі, гродскі рэгент і ротмістр Франц Корчыц, гродскі рэгент Антон Прэслаўскі, ротмістр Мартын Адынец.

[30] НГАБ, ф. 1741, спр. 40, л. 732—737 адв.

[31] Там жа, спр. 42, л. 1026—1031. Сярод іх – краўчы Дамінік Радзівіл, харунжы Бернар Бухавецкі, земскі суддзя Ксаверы Гарноўскі, Томаш Кайшэўскі, стольнік Людвік Сузін, падстараста Яцэк Пашкоўскі, земскі пісар Ян Влодак, гродскі суддзя Багуслаў Верашчака, падчашы Ігнацій Малішэўскі, гараднічы Станіслаў Бульскі, мечнік Станіслаў Непакайчыцкі, абозны Рох Будкоўскі, стражнік Уладзіслаў Банковіч, краўчы Юзаф Буйніцкі, земскі рэгент Плацыд Трашкоўскі, каморнікі Антон Гроцкі, Ігнат Ляховіч, шамбелян Станіслаў Трухноўскі.

[32] НГАБ, ф. 1727, спр. 23, л. 485.

[33] Там жа, ф. 1783, спр. 59, л. 137—143. Усяго падпісалася 69 чал. у тым ліку – войскі Ян Тадэвуш, гродскі суддзя Юзаф, падкаморы Л. Арэшкі, харунжы Ігнат, падчашы Віктар Каржанеўскія, А. і Ш. Скірмунты, скарбнік Пётр, К. Свяжынскія, падстоліц Павел, М. Шырмы, А. Стравінскі, чашнік Т. Рудзевіч, гараднічы М. Сейфгард, мечнік М.А. Бутрымовіч, С. Алешa, падстолі бельскай зямлі Юзаф, пазнанскі падстолі Томаш Тэрлецкія, гродскі суддзя Ян Пальхоўскі, земскі рэгент С. Юрэвіч, гродскія рэгенты Томаш Гарэгляд, Станіслаў Гардына-Платніцкі, каморнік Пётр Дубянецкі, смаленскі стражнік Лявон Гарбачэўскі, земскі адвакат Юзаф Сачкоўскі, саноцкі чашнік Юзаф Арцюшэўскі.

[34] НГАБ. ф. 1728, спр. 24, л. 639—640 адв.

[35] НГАБ, ф. 1727, спр. 21, л. 274-280. Інструкцыю падпісалі: земскі суддзя Т. Валадкевіч, земскі пісар А. Свентаржэцкі. падстолі і палкоўнік Міхаіл, стараста Мікалай, паручнік Тадэвуш, земскія пісарэвічы Мартын, Фабіян, стражнік Фелікс, скарбнік Антон Дышлевічы, гродскі суддзя Францішак Вайдзевіч, падчашы Ян Паўлікоўскі, канюшы Л. Міцкевіч, краўчы Ігнат, полацкі будаўнічы Тадэвуш Прысецкія, стараста Тадэвуш Багдановіч, старастіц І. Іваноўскі, каморнік і ротмістр Франц Валіўка, парнаўскі лоўчы

Ян Кенскі, земскі рэгент Станіслаў Есман, гродскі рэгент Мартын Алендскі, мінскі стараста Міхаіл Багушэвіч, граф і палкоўнік Я.К. Завіша, навагрудскі скарбнік Юзаф Вярбіцкі, стараста Міхаіл Даманскі, латычэўскі чашнік Феліцыян Вілямоўскі, смаленскі каморнік Казімір Пятроўскі, каморнік Томаш Падвысоцкі, полацкі скарбнік Ежы, гродзенскі каморнік Антон Міхаіл Юзафавіч-Глябіцкі, рэчыцкі земскі суддзя Лявон Кілчэўскі, будаўнічы Ян Адахоўскі, навагрудскі земскі рэгент Антон Замойскі, віленскі гродскі суддзя Іяхім Араноўскі, вендзенскія падчашыя Мартын і Тадэвуш Жаброўскія, стражнік Ян Корзан, мазырскі скарбнік Ігнат Небароўскі, навагрудскі каморнік Станіслаў Клукоўскі, рэчыцкі каморнік Міхаіл Новасельскі, інфлянцкі скарбнік Тадэвуш Дамейка.

36 НГАБ, ф. 1774, спр. 15, л. 97.

37 НГАБ, ф. 1710, спр. 30, л. 224—225, ф. 1741, спр. 41, л. 325, ф. 1737, спр. 54, л. 403.

38 НГАБ, ф. 1741, спр. 41, л. 325, ф. 1737, спр. 54, л. 403.

39 Там жа, ф. 1741, спр. 42, л. 1026, ф. 1727, спр. 23, л. 501.

40 Там жа, ф. 1755, спр. 69, л. 79—88; Zamojski A. Ostatni król S. 292; Czaja A. Lata wielkich... S. 187; Ючас М. А. Литовская шляхта и царизм... С. 408.

41 НГАБ, ф. 1741, спр. 44, л. 1509—1545.

42 Там жа, ф. 1710, спр. 31, л. 1-1 адв.

43 Там жа, ф. 1787, спр. 56, л. 418—421, 438 адв.

44 Там жа, ф, 1741, спр. 43, л. 147, спр. 43, л. 44.

45 Strojnowski A. Sejmowa opozycja antykorolewska w czasach Rady Nieustającej // Acta universitatis Lodziensis. Fol. Historia. Łódź. 1984. Z. 18. S. 227.

46 НГАБ, ф. 1769, спр. 11, л. 188—192, ф. 1727, спр. 11, л. 188. Сярод іх – А. Хмара, падкаморы Антон, судовы падстараста Станіслаў Прушынскія, харунжы і дэпутат трыбунала Стэфан Быкоўскі, стольнік Іяхім Хмара, Ф. Уніхоўскі, земскі суддзя Ян Паўлікоўскі, земскі суддзя Ян, мечнік Ксаверы Валадкевічы, падстолі і гродскі рэгент Ф. Рудніцкі, гродскі суддзя С. Багушэвіч, лоўчы Тадэвуш Багдановіч, гродскі пісар Юзаф Банковіч, абозны Ян Свентаржэцкі.

47 НГАБ, ф. 1728, спр. 25, л. 992—993, ф. 1741, спр. 46, л. 1045—1047. Інструкцыю падпісалі: З. Віславух, інстыгатар ВКЛ Юзаф Шуйскі, харунжы Бернар, Юзаф і шамбелян Зігмунд Бухавецкія, К. Гарноўскі, Г. Кайшэўскі, Ф. Грабоўскі, князь К. Сапега, скарбнік Ян Гараін, падчашы І. Ласкоўскі, стольнік Яцэк, палкоўнік Ігнат Пашкоўскія, Б. Верашчака, І. Шчапаноўскі, гродскія пісары Фелікс Гржамоўскі і Дамінік Рэшка, чашнік

Станіслаў Бельскі, С. Непакайчыцкі, І. Беніцкі, канюшы Мартын Гаеўскі, лоўчы Ян, мечнік Юзаф Багуслаўскія.

[48] НГАБ, ф. 1711, спр. 70, л. 1101—1104. Сярод іх — Т. Александровіч, гродскія суддзі М. і Ігнат Садлуцкія, крайчы Віктар Шумгоўскі, падчашы Я. Мароз, чашнік Андрэй, харунжы Фердзінанд, замскі рэгент Алаіз, скарбнік Бенавентура, каморнік Юзаф Эйсманты, лоўчы Тадэвуш Волмер, І. Ваўкавіцкі, шамбелян Віктар, смаленскі каморнік Анастас, земскі рэгент і дваранін Ежы, лоўчыц Міхаіл Дашкевічы, гродскі рэгент Ян Пульхоўскі, каморнік Франц Мучынскі, старадубскі гранічны рэгент Фаустын Цяпінскі, скарбнік А. Гліндзіч, скарбнік Андрэй Бразоўскі, старадубскі каморнік Вільгельм Раўкоўскі, лукаўскі лоўчы Антон Ясінскі, аўруцкі чашнік Людвік Каліноўскі, каморнік Ян Антон Канстанціновіч, скарбнікі Аляксандр Вілямовіч, Ян Сакалоўскі, Ян Канопка, Гаспар Корэва, каморнік Станіслаў Кульгоўскі, вількамірскі падстолі Антон Ігнатовіч, крайчы І. Навіцкі, аршанскі стражніковіч Павел Казакевіч.

[49] НГАБ, ф. 1710, спр. 31, л. 1412—1417, ф. 1737, спр. 58, л. 340—385. Сярод іх – земскі суддзя Казімір Грымайла, Станіслаў Жынеў, гродскі суддзя Станіслаў Грабскі, падстолі Франц Івашкевіч, крайчы Дамінік Каняўскі, гродскі пісар Павел Завіша.

[50] НГАБ, ф. 1733, спр. 63, л. 380—381. Падпісаліся - падчашы ВКЛ Філіп Алізаровіч, В. і К. Каржанеўскія, А. Скірмунт, К. Свяжынскі, земскі і гродскі рэгент Адам, падчашы Станіслаў Шырмы, стольнік Антон, дэпутат трыбунала Кароль Стравінскія, Ф. Панятоўскі, гродскі суддзя Ігнат Аніхімоўскі, гродскі рэгент Антон і Т. Радзевічы, гараднічы Міхаіл Гейшторп, канюшы Рох Хржаноўскі, стражнік Ян Пульхоўскі, крайчы Антон Кулікоўскі, абозны Віктар Любанскі, С. Алеша, шамбелян Ануфрый Кастроўскі, каморнік Ян Стахоўскі, земскі суддзя Павел, Апалінарый і паручнік Дамінік Орды, брэсцкі падкаморы Ян Выганоўскі, ротмістр Ян Кіневіч, каморнік Лявон Дамброўскі, бельскі падстолі Юзаф Тэрлецкі, аршанскі каморнік Франц Шаціла, каморнік Ян Дубянецкі, палкоўнік Людвік Арэшка.

[51] НГАБ, ф. 1774, спр. 18, л. 1234—1237. Сярод іх – падкаморы Адам Вайніловіч, Ф. Дамейка, І. Кміт, чашнік Юзаф Корбут, стражнік Юзаф Яблонскі, Х. Рдултоўскі.

[52] Kalinka W. Sejm czteroletni... T. 1. S. 252—253, 307; Ratayczyk L. Wojsko i obronność... S. 69.

[53] НГАБ, ф. 694, спр. 337, л. 200 адв.

[54] Там жа, ф. 1711, спр. 7І, л. 168. У ваенную камісію ўваходзілі польны гетман ВКЛ Людвік Тышкевіч, навагрудскі ваявода Ю. Несялоўскі, брацлаўскі кашталян Юзаф Грахольскі, М. Радзівіл, Ежы Забела, Юзаф Швыкоўскі, жмудскі кашталян Станіслаў

Тышкевіч, Франц Ельскі, брэсцкі ваяводзіц Ян Гараін, ротмістр Адам Храптовіч, пісар Ежы Белапятровіч, Станіслаў Мануцы; Zytkowicz L. Litwa i Korona... S. 580.

[55] НГАБ, ф. 1711, спр. 71, л. 71, 84, 299—302, 308, 333, 362, ф. 1705, спр. 71, л. 779.

[56] Там жа, ф. 1711, спр. 92, л. 177, 204, спр. 93, л. 20, 47, 84, ф. 1755, спр. 78, л. 398, спр. 74, л. 223—235, спр. 75, л. 256, ф. 1767, спр. 24, л. 697—699.

[57] Там жа, ф. 1711, спр. 71, л. 299—362.

[58] Там жа, л. 438, 502.

[59] Там жа, ф. 1727, спр. 29, л. 44 адв.; Volumina Legum. T. 9. S. 145.

[60] Kalinka W. Sejm czteroletni... T. 1. S. 582; Ratayczyk L. Wojsko i obronność... S. 73, 119.

[61] Moscicki H. General Jakub Jasinski... S. 80.

[62] НГАБ, ф. 694, воп. 13, спр. 337, л. 23—24.

[63] НГАБ, ф. 1710, спр. 32, л. 262—263; Ratayczyk L. Wojsko i obronnoнс... S. 80.

[64] Kalinka W. Sejm czteroletni... T. 1. S. 652, 658; Czaja A. Lata wielkich... S. 350, 354.

[65] Szujski J. Dzieje Polski... T. 4. Cz. 2. S. 639—640.

[66] НГАБ, ф. 1711, спр. 71, л. 190;Соловьев С. История падения... С. 231; Содержание доклада, поданного сейму... С. 6, 15, 16—27; Zaleski M. Pamiętniki... S. 180; Zielinska Z. Ostatnie lata... S. 52.

[67] РДВГА, ф. ВПА, спр. 18, л. 36—52.

[68] Szujski J. Dzieje Polski... S. 617; Kalinka W. Sejm czteroletni... S. 39.

[69] Kalinka W. Sejm czteroletni... T. 1. S. 532.

[70] Kocoj H. Zaborcy wobec konstytucyi... S. 61.

[71] НГАБ, ф. 1774. спр. 19, л. 13—14, 1582 адв.

[72] Szujski J. Dzieje Polski... S. 632.

[73] НГАБ, ф. 1727, спр. 29, л. 590—600. Подпісы: С. Багушэвіч, земскі суддзя Андрэй Алендскі, вайсковіч Іяхім, будаўнічы К. Кастравіцкія, стараста Міхаіл Брастоўскі, Ф. Уніхоўскі, Ян Паўлікоўскі, шамбелян Вінцэнт, Я. Валадкевічы, А. Свентаржэцкі, І. Дашкевіч, падстараста Ф. Рудніцкі, лоўчы Тадэвуш Варанец, генерал-ад'ютант А. Быкоўскі, сенажацкі стараста і камісар Станіслаў Ванковіч, каморнік Я. Камар, шамбелян Станіслаў Івашкевіч, Ф. Вілямоўскі, смаленскі мечнік Ежы Паўловіч, земскі рэгент Уладзіслаў Прушаноўскі, гродскі адвакат Ян Шчука, сакратар пошт Лявон Шэйба, вількамірскі падкаморы А. Лушкевіч, брэсцкі чашнік Антон Берзун, гродскі суддзя Антон Сялява, стражнік Станіслаў Пішчайла.

[74] НГАБ, ф. 1711, спр. 70, л. 1342—1349, ф. 1728, спр. 26, л. 516—520. У тым ліку – старшыня ваенна-парадкавай камісіі Алаіз Багуслаўскі, ротмістр Дамінік Аскерка, земскі суддзя Траян Прыбор, скарбнікі Юзаф і войскі Адам Стоцкія, гродскі пісар Казімір Венцлавовіч, лоўчы Вінцэнт і падваяводзіц Феліцыян Абуховічы, падчашы і парадкавы камісар Людвік Араноўскі, абозны Казімір Буяльскі, земскі судзіц і камісар Франц Лянкевіч, смаленскі чашнік і камісар Ігнацій Шышко, шамбелян і камісар Дамінік Богуш, гродскі пісар Міхаіл Жудро, шамбелян Антон Зарэмба.

[75] НГАБ, ф. 1774, спр. 19, л. 1559—1560 адв. Сярод падпісантаў: падкаморы Адам, земскі суддзя Мікалай Вайніловічы, трокскі каморнік Дамінік, К., камісар Ф. Ябланоўскія, земскі пісар Міхаіл Рэйтан, гродскі суддзя І. Кміт, Мар'ян Магільніцкі, экс-абозны ВКЛ Міхаіл Лапат, М. Гінтор, падчашы Вінцэнт Райкевіч, Ю. Корбут, Д. Раецкі, падваяводзіцы Ксаверы і Міхаіл Абуховічы, каморнік ВКЛ, камісар Ян Язерскі, канюшы і камісар Францішак Пратасевіч, камісар Ежы Гімберт, краўчы Францішак Пласкоўскі, вількамірскі падчашы і камісар Адам Бронц, лоўчы Юзаф Макавецкі, гродскі рэгент і камісар Лявон Гадачэўскі, каморнік ВКЛ Ян, земскі рэгент і камісар Ігнацій Туганоўскія, падстолі Ксаверы Чарноцкі, мсціслаўскі падстолі Франц Вайцяхоўскі, Ф. Трускоўскі, стольнік Багуслаў Берасневіч, экс-пісар ВКЛ Ежы і лідскі лоўчы Вінцэнт Белапятровічы.

[76] НГАБ, ф. 1714, спр. 19, л. 1559; Przegląd Historyczny. 1960. T. 51. Z. 4. S. 739.

[77] НГАБ, ф. 1737, спр. 19, л. 926 адв.—932. Сярод падпісантаў: гродскі суддзя Андрэй, харунжы і камісар Міхаіл, А. Мікульскія, скарбовы пісар ВКЛ Міхаіл і камісар Ігнацій Валовічы, краўчы Юзаф Палубінскі, камісар і ротмістр Ігнат Войніч, будаўнічы Адам Чэрнік, чашнік і камісар Тадэвуш Пратасевіч, камісар Адам Есьман, мастаўнічы Бенедыкт Чачот, гродскі пісарэвіч Вінцэнт, камісар Ігнат, гродскі рэгент і паручнік Антон, камісар Міхаіл, земскі суддзя Юзаф, брэсцкі стольнік Якуб Прэслаўскія, каморнік Андрэй Бронц, канюшы Ануфрый, каморнікі Пётр, Юзаф Завадскія, камісар Флор, падстараста Вікенцій Стравінскія, земскі суддзя Геранім, войскі Вікенцій Палубінскія, гродскі суддзя Тадэвуш Баржымоўскі, стольнік Адам Шукевіч, гродскі стараста Тадэвуш Чудоўскі, шамбелян Станіслаў, стражнік Мартын Тызенгаўзы, земскі рэгент Ян Казімір Рэмбовіч, каморнік Антон Касцялкоўскі, экс-рэгент гродскі Ежы, смаленскі скарбнік Юзаф Растоцкія.

[78] НГАБ, ф.1777, спр. 16, л. 1495—1501. Падпісаліся: падкаморы Людвік Аскерка, тураўскі і пінскі епіскап Іяхім Гарбацкі, К. і І. Каржанеўскія, А. Скірмунт, земскі суддзя Казімір

Свяжынскі, М. Шырма, земскі суддзя Міхаіл Пласкоўскі, земскі пісар Тэадор, камісар Міхаіл Радзевічы, падстолі Караль Стравінскі, скарбнік Францішак, падчашы Віктар Куржанецкія, гродскі суддзя Ігнацій Анімоўскі, Ф. Панятоўскі, канюшы Рох Храноўскі, М. Сейфгард, В. Любанскі, мастаўнічы Міхаіл Орда, шамбелян Ян Кіневіч, мінскі лоўчыц Ян Булгак, ламжанскі земскі рэгент Юзаф Растапальскі, рэгент парадкавай камісіі Ян Хмялеўскі, скарбнік і гранічны рэгент Мікалай Рудніцкі, генерал-ад'ютант ВКЛ Мартын Міхайлоўскі, камісар Антон Плятар, бельскі падстолі Юзаф Тэрлецкі, камісар Мікалай Горніч, камісар Ігнацій Арэшка, камісар Якуб Орда.

[79] НГАБ, ф. 1727, спр. 29, л. 598 адв.

[80] Там жа, ф. 1710, спр. 32, л. 1123—1128, ф. 1711, спр. 70, л. 867—868, ф. 2777, спр. 16, л. 1995—1998.

[81] Kalinka W. Sejm czteroletni... T. 2. S. 588—589.

[82] НГАБ, ф. 1757, спр. 13, л. 5—6.

[83] Szujski J. Dzieje Polski... T. 3. S. 646; Kalinka W. Sejm czteroletni... T. 2. S. 67; Wegner L. Dzieje dnia trzeciego maja 1791 r. Poznań, 1865. S. 106, 113, 179.

[84] Skawronek J. Wielka chwila... S. 35, 64;Volumina Legum. T. 9. S. 220—225; Bardach J. Konstytucja 3 maja a zaręczenie... S. 26—27.

[85] РДВГА, ф. 52, воп. 2, спр. 55, л. 199.

[86] Skawronek J. Wielka chwila... S. 47—48; Volumina Legum. T. 9. S. 22, 255—256; Smolenski W. Korrespondencja Kołłataja podczas sejmu Wielkiego // Studia Historyczne. 1949. S. 110.

[87] Borowski S. Kodeks St. Augusta. Warsz., 1931. S. 17; Smolenski W. Ostatni rok...S. 35—37; Bardach J. Konstytucja 3 maja a unija... S. 14; Waga K. Zaręczenie wzajemne oboja... S. 2—5; Łojek J. Wokoł sporów... S. 167.

[88] Тимощук В. В. Польская конституция 3 мая... Т. 117. № 4. С. 155—157; Materialy do dziejow sejmu czteroletniego. Warsz., 1964. T. 5. S. 165; Ziolek J. Duchowienstwo wobec ustanowienia konstytucji 3 maja // Pierwsza w Europie... S. 41, 49—50.

[89] Zamojski A. Ostatni król... S. 354, 358; Lesnodorski B. Dzieje sejmu czteroletniego. Wrocław, 1951. S. 130; Kalinka. W. Sejm czteroletni... T. 2. S. 212—214; Janeczek Z. Zmagania Jgnacego Potockiego z opozycją prorosyjska po uohwaleniu konstytucji 3 maja // Studia Historyczne. 1994. T. 37. z. 1 (144). S. 42—44.

[90] РДВГА, ф. 15, воп. 2, спр. 17, л. 48, 50 адв.

[91] НГАБ, ф. 1727, спр. 30, л. 529; Zamojski A. Ostatni król... S. 358.

[92] СРИО. Т. 16. С. 67 (Ліст А. Безбародка М. Рэпніну ад 25.11.1794 г.); Zamojski A. Ostatni król... S. 354.

[93] РА. М., 1874. Кн. 2. С. 252, РС. СПБ., 1876. Т. 17. С. 640, 644.

[94] АЗПРІ, ф. 79, воп. 6, спр. 11, л. 11; Костомаров Н. Последние годы... С. 407, 414; Анішчанка Я. Інкарпарацыя Беларусі... С. 54—55; Wolanski A. Wojna polsko-rosyijska 1792 r. Poznań, 1922. T. 2. S. 15—16; Lukaszewicz W. Targowica // Wskrzesienie panstwa Polskiego. New-York, l915. S. 123; Bartoszewicz K. Dzieje insurekcyi... S. 85.

[95] РДВГА, ф. 52, воп. 2, спр. 55, л. 260 адв., Janeczek Z.. Zmagania Jgnacego... S. 46.

[96] Соловьев С. Соч. Кн. 16. С. 572; Mościcki H. General Jakub Jasinski. S. 76; Bartoszewicz K. Dzieje insurekcyi... S. 75, 79; Wisner H. Unia. Warsz., 1988. S. 248.

[97] Lytynski A. Zdrada kraju w polskim prawie karnym konca XVIII wieku // Bo insza rzecz jest zdradzic, insza dac się złudzic. Warsz., 1995. S. 16.

[98] РА. М., 1874. Кн. 2. С. 255, 286; СРИО. Т. 47. С. 361; Тимощук В. Польская конституция. С. 406; Анішчанка Я. Просім, пан генерал //Наша Ніва. 1994. № 7; Lukaszewicz W. Targowica... S. 125.

[99] РДВГА, ф. 92, спр. 13, л. 5 адв.; АЗПРІ, ф. 79, воп. 6, спр. 1827, л. 153; СРИО. Т. 47. С. 245, 253, 269, 335—340; РДАСА, ф. 12, спр. 218, л. 84, 86—88.

[100] РДАСА, ф. 12, спр. 218, л. 40 адв.; СРИО. Т. 47. С. 322—323.

[101] РДВГА, ф. 41, спр. 174, л. 195—198, спр. 92, л. 106, 108, РДАСА, ф. 12, спр. 218, л. 115—200;СРИО. Т. 47. С. 245—479.

[102] РДАСА, ф. 12, спр. 218, л. 91 адв.; СРИО. Т. 47. С. 361.

[103] АЗПРІ, Ф. 79, воп. 6, спр. 1827, л. 153; РА. 1874. Кн. 2. С. 288; Тимощук В. Польская конституция. С. 41, 47; Maksimowicz K. Stosunek opinii publicznej do Kazimierza Sapiegy w poezji okololicznosciowej sejmu czteroletniego // Wiek Oswiecenia. Warsz., T. 2. C. 210; Bartoszewicz K. Dzieje insurekcji. S. 92.

[104] НГАБ, ф. 1774, спр. 21, л. 1284—1285, ф. 1755, спр. 97, л. 17.

[105] Wolanski A. Wojna polsko-rosyjska. S. 97, 137, 162—164, 202, 282.

[106] РДВГА, ф. 41, спр. 173, л. 20; РДАСА, ф. 1261, воп. 13, спр. 91, л. 40.

[107] Zamojski A. Ostatni król... S. 382; Szyndler B. Stanislaw Malec Malachowski. Warsz., l979. S. 176, 180; Lojek J. Wokól sporów... S. 423; Bartoszewicz K. Dzieje insurekcji... S. 105—107.

[108] Wolanski A. Wojna polsko-rosyjska... S. 275, 326—333; Kicka W. Pamiętniki. Warsz., 1972. S. 53.

[109] НГАБ, ф. 1769, спр. 24, л. 352—354, 355

[110] РДАСА, ф. 12, спр. 218, л. 185 адв.

[111] НГАБ, ф. 1899, спр. 1, л. 524, 539, 554, 567.

[112] НГАБ, ф. 1769, спр. 24, л. 358—359, 360, 363; Bartoszewicz K. Dzieje insurecji... S. 106—108; Puciatowa M. Rzut oka na dzieje komisji skarbu Rzeczypospolitej Wielkiego księstwa Litewskiego za rządow Targowickiej i sejmu Grodzienskiego // Księga pamiątkowa kola historyków. Wilno. 1933. S. 193—198, 202.

[113] НГАБ, ф. 1769, спр. 24, л. 369—370, РДАСА, ф. 12, спр. 218, л. 199 адв., ф. 248, воп. 58, спр. 4799, л. 36.

[114] АЗПРІ, ф. 79, воп. 6, спр. 1830, л. 44 (Указ ад 22.12.1792).

[115] РДАСА, ф. 5, спр. 588, частка 1, л. 18 адв.—23, 28; Соловьев С. История падения... С. 592.

[116] РДАСА, ф. 5, спр. 588, ч. 1, л. 35—36, спр. 589, л. 39 адв.; СРИО. Т. 47. С. 473.

[117] АЗПРІ, ф. 79, воп. 6, спр. 1830, л. 100, 104; СРИО. Т. 47. С. 479—481; Соловьев С. История падения... С. 593—595.

[118] Zamojski A. Ostatni król... S. 407; Cegelski T., Kądziela Ł. Rozbióry Polski... S. 273, 276, 285.

[119] Lord R. Drugi rozbiór Polski. Warsz., 1984. S. 263.

[120] Oginski M.K. Pamiętniki Michaila... S. 35, 36.

[121] АЗПРІ, ф. 79, воп. 6, спр. 1830, л. 98 адв.

[122] НГАБ, ф. 1658, спр. 15, л. 16—17; Костомаров Н. Последние годы... С. 813; Иловайский Д. И. Гродненский сейм... С. 111; Гінет Л. Апошні сейм... С. 7-11; Kądziela Ł. Między zdradą a sluzbą... S. 94.

[123] НГАБ, ф. 1755, спр. 78, л. 418—419. Інструкцыю падпісалі М. Садлуцкі, падкаморы Францішак Юндзіл, земскія суддзі Тадэвуш Александровіч, Іпаліт Ваўкавіцкі, А.С. Эйсмант, Франц Гансеўскі, Міхаіл Грамыка, чашнік Ю. Боўфал, Т. і абозны Леанард Волмеры, каморнік і земскі рэгент Станіслаў Цямноўскі, земскі рэгент Бенавентура, стольнік Мацвей Эйсманты, шамбеляны Станіслаў Кулікоўскі, Юзаф Круповіч, ковенскі чашнік Ян Арэхоўскі, ашмянскі каморнік Антон Прэсмыцкі, лоўчыц Міхаіл Лянкевіч, Ю. Шумкоўскі і інш.

[124] Volumina Legum. T. 10. S. 11, 16, 17, 23; Гінет Л. Апошні сейм... С. 44 (№ 3).

[125] Гінет Л. Апошні сейм... № 3. С. 45; Zamojski A. Ostatni król... S. 411.

[126] Соловьев С. История падения... С. 601; Kądziela Ł. Między zdradą a sluzbą... S. 195.

[127] Гінет Л. Апошні сейм... № 5. С. 28; Kądziela Ł. Między zdradą a sluzbą... S. 194, 195, 197, 222—224, 226, 230—233.

[128] Volumina Legum. T. 10. S. 110—113; Wąsicki J. Konfederacja

Targowicka i ostatni sejm... S. 81—95; Kądziela Ł. Miądzy zdradą a sluzbą... S. 239, 240.

[129] РДВГА, ф. 41, спр. 211, л. 19—20; Volumina Legum. T. 10. S. 38—44; Kądziela Ł. Między zdradą a sluzbą... S. 259, 263, 273—274, 343—344.

[130] Wąsicki J. Konfederacja Targowicka... S. 82, 130; Kądziela Ł. Między zdradą a sluzbą... S. 43, 332, 336, 349—350.

[131] НГАБ, ф. 1755, спр. 20, л. 31 адв., ф. 694, воп. 4, спр. 2357, спр. 123, л. 17, 29 адв спр. 2337, л. 3 адв., 19 адв., спр. 2300, л. 19.

[132] Костомаров Н. Последние годы... С. 629; Kądziela Ł. Opcja grodzieńska. S. 34.

[133] РДАСА, ф. 1239, воп. 3, спр. 6504, л. 8; НГАБ, ф. 1755, спр. 79, л. 123—124.

[134] Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II (1792—1796). Вильна, 1903. С. 6.

[135] Анішчанка Я. Крыніцы і аўтары атласа Мінскай губерні 1800 // Архівазнаўства, крыніцазнаўства, гістарыяграфія Беларусі: стан і перспектывы. Мн. 1993. Ч. I. С. 127—132.

[136] НГАБ, ф. 1727, спр. 31, л. 152—154, 158—159, 162, ф. 3354, спр. 1, л. 270—274 адв.

[137] НГАБ, ф. 1727, спр. 31, л. 277, ф. 1783, спр. 44, л. 66.

[138] РДАСА, ф. 12, спр. 218, л. 270, 287—288.

[139] РДАСА, ф. 1239, воп. 30, спр. 5, л. 5—21, ф. 248, воп. 81, спр. 6675, л. 147—195.

[140] НГАБ, ф. 1727, спр. 31, л. 253, ф. 1732, спр. 13, л. 241.

[141] Там жа, ф. 1727, спр. 31, л. 164, 168 адв.

[142] Грот Я. Жизнь Державина. М., 1997. С. 243—2 44, 248—249; Долгоруков П. Петербургские очерки. М., 1992. С. 170.

[143] Аддзел рукапісаў РДБ, ф. 218, спр. 751, л. 3, 4 адв.

[144] РДАСА, ф. 248, воп. 58, спр. 4800, л. 110—113.

[145] Там жа, ф. 12, спр. 223, л. 1—2.

[146] НГАБ, ф. 1769, спр. 25, л. 582—583, ф. 1728, спр. 27, л. 70—71, 74.

[147] РДАСА, ф. 16, спр. 758, ч. I, л. 62, 107—109.

[148] Там жа, л. 188 адв.—189.

[149] НГАБ, ф. 1727, с. 31, л. 327 адв.

[150] Там жа, ф. 1778, спр. 44, л. 3 адв., 14 адв., 18, 28, 47—48, 121.

[151] РДАСА, ф. 16, спр. 751, л. 9, 11, 15, 18, спр. 758, л. 92.

[152] Там жа, спр. 758, л. 86, 99, 102, 227—228, 272, частка 3, л. 417—419.

[153] НГАБ, ф. 333, спр. 4, л. 15, спр. 7, л. 27 адв., 374 адв, СРИО. Т. 16. С. 144.

[154] Аддзел рукапісаў РДБ, ф. 218, с. 751, л. 31; РДАСА, ф. 16, спр. 758, ч. 2. л. 115.

[155] РДАСА, ф.16, спр. 758, ч. 2, л. 175, 157.

[156] Там жа, спр. 752, ч. 2, л. 283—287, ч. 3, л. 249 адв.; Адна з ведамасцей паведамляе, што з мая да кастрычніка 1795 г. у 7 паветах Мінскай губерні былі навернуты 52 уніяцкія цэрквы з 17201 муж. і 16038 жанчынамі (НГАБ, ф. 295, воп. 2, спр. 2, л. 1—53).

[157] АЗПРІ, ф. 79, воп. 6, спр. 1830, л. 209—210.

[158] Там жа, ф. 16, спр. 751, л. 65; Zytkowicz L. Rządy Repnina na Litwie w latach 1794—1796. Wilno, 1938. S. 38.

[159] РДАСА, ф. 12, спр. 223, л. 2—4.

[160] Там жа, ф. 16,спр. 751, л. 101—-202, спр. 758, ч. 3, л. 3 адв., 16, 609.

[161] Там жа, ф. 248, воп. 58, спр. 4799, л. 7—9, 11—16, 20.

[162] НГАБ, ф. 319, спр. 1, л. 2—3.

[163] РДАСА, ф. 248, воп. 58, спр. 4799, л. 36; НГАБ, ф. 320, вои. 2, спр. 1, л. 65, ф. 1637, спр. 21, л. 2, 5—19.

[164] НГАБ, ф. 319, спр. 1, л. 2—20 адв; РДАСА, ф. 10, спр. 411, л. 1—8, ф. 248, воп. 58, спр. 4799, л. 34, 38, 46.

[165] НГАБ, ф. І568, спр. 5, л. 1, ф. 1637, спр. 4, л. 3, 11.

[166] РДАСА, ф. 16, спр. 758, ч. 3, л. 835 адв.—839 адв.

[167] Там жа, ф. 248, воп. 58, спр. 4799, л. 70.

[168] НГАБ, ф. 1568, спр. 78, л. 1—20 адв, ф. 164, воп. 2, спр. 3, л. 87—88.

[169] РДАСА, ф. 248, воп. 81, спр. 6705, л. 67—68 адв.

[170] НГАБ, ф. 1774, спр. 25, л. 95.

# Раздзел III

## Падзел трэці — фіяска з шанцам

### §1. Паўстанне і вайна 1794 г.

Ганебныя вынікі гродзенскага сейма асрамілі армію ВКЛ, якая не засланіла край ад акупацыі і якой пагражала прымусовае скарачэнне.Сейм не ўладкаваў ацалелую тэрыторыю княства на падставах рэформ Вялікага сейма, і заставалася надзея на іх працяг пры ўзброеным змаганні за незалежнасць.

Роспач, адчай і помслівасць ахапілі розныя колы, асабліва з погляду на гераічную Францыю, якая ў адзіноцтве абараняла сваю суверэннасць і ідэалы супраць аб'яднанай рэакцыі еўрапейскіх манархаў. Аднак ініцыятыва змагання выспела не ў шырокіх колах мяшчан і сялян. Першыя звесткі аб існаванні паўстанцкай змовы ў Літве з Варшавы ў Пецярбург паведаміў 28 лютага 1794 г. барон Ота Ігельстром, які пасылаў у Вільню свайго агента. Лазутчык здолеў укараніцца ў колы змоўшчыкаў, на чале якіх назваў навагрудскага ваяводу Ю. Несялоўскага з сынам Ксаверыем, маршалка С. Солтана, упіцкага стольніка Ю. Кімбара і шмат ваенных з корпуса артылерыі, якім камандаваў граф К. Сапега. Яны ставілі мэтай «вызваліць Айчыну, увесці правы чалавека і пакараць здраднікаў», дзеля чаго вербавалі прыхільнікаў праз настаўленне пад назвай Брамін або Індыец і сімвалічных знакаў.[1] Гэты твор патрабаваў сляпой паслухмянасці спіскоўцаў ад кіраўніка і дазваляў забіваць

здраднікаў сярод сяброў.[2] Твор гэты паходзіў ні то з Варшавы, ні то з Валыні і нават прыпісваўся інжынернаму палкоўніку Якубу Ясінскаму, які меўся выступіць разам з К. Сапегам, С. Солтанам, Томашам Ваўрэцкім і віленскім прэлатам Ксаверым Міхалам Богушам.[3]

Апошні якраз засведчыў, што Ясінскі неаднойчы публічна і прыватна гаварыў, што «полякам стыдно терпеть российское иго и что, ежели б имел 10 тысяч войска, то чудес бы наделал».[4] Яго вельмі натхняў французскі прыклад расправы над знаццю, і ён прагнуў таксама неадкладна «патрабаваць аднолькава вольнасці для ўсіх класаў люду». У тым яго падтрымліваў палымяны ксёндз Міхаіл Карповіч.[5] Аднак, па сведчанню палкоўніка Карла Мураўскага, сваяка Радзівілаў,» Ясинский, кроме связи в войске с офицерами, мало был знаком в Литве и, сам быв от Короны и с обывателями никакого родства не имевши, не имел их доверенности, тем более, что знали его горячей нрав, и ежели Ясинский с несколькими десятками офицеров привязывались к революции французской, то не все войско, а генералы все противными ей были».[6]

Паколькі арыстакраты глядзелі на Ясінскага, як на выскачку без радавітасці, то яны самі рыхтавалі сакрэтны спіс (прыкладна 200 чал.) з асяроддзя «ўсіх найпершых асоб княства».[7] Сярод іх значыліся князі Мацвей і М.Г. Радзівілы, М.К. Агінскі, пінскі староста М. Брастоўскі, эксгетман Л. Тышкевіч, мсціслаўскі ваявода Ф. Хамінскі, полацкі Т. Жаба, смаленскі К. Сапега, генерал Ф. Сапега, генерал-маёр Рамуальд Гедройц, палкоўнік Павел Грабоўскі, жмудскі староста Л. Гельгуд, старадубскі падкаморы Ф. Ельскі, брэсцкі ваявода Я. Гараін, вайсковы пісар Е. Белапятровіч. Многія былі ў гродзенскай камісіі ліквідацыі літоўскага войска, а М. Агінскі і М. Радзівіл, як ужо вядома, прама падпісалі анексійны трактат з

Расіяй.[8] Яны прагнулі рэабілітацыі і рэваншу над пераможным кланам Касакоўскіх. Каардынатарам сувязей выступаў абозны Караль Празор са сваім ад'ютантам Антонам Касінскім.

За мэты яны ставілі аднавіць канстытуцыю 3 мая, вярнуць адабраныя землі і завяршыць спынены Вялікі сейм Кароны і ВКЛ пры адначасовым выступленні ў Кракаве, Варшаве і Вільні пад агульным водствам Т. Касцюшкі.[9] Яны клапаціліся пра канстытуцыю 3 мая, бо, як казаў К. Мураўскі, добра ведалі, што «все в ней сохранено на своем месте» адносна непахіснасці свайго панавання.[10] Яны разумелі, што калі навокал «усё дыхала нянавісцю, помстай і расправай» над здраднікамі, то іншыя паводзіны няўмольна павядуць усю знаць «прямо на гильотину».[11] Яны імкнуліся ўзначаліць і кіраваць рухам, каб пазбегнуць таго, калі «поселянин станет господином». Іх непакоіла «ненависть крестьян к своим господам в Литве», а той жа прыклад «бешенства французов», паказваў чым можа завершыцца агітацыя агульнаграмадзянскай роўнасці ўсіх станаў.[12] У гэтым яны салідарызаваліся з памяркоўным Т. Касцюшкам, які «не допускал погрешностей французских и содрогался на варварство черни», які запэўніваў напалоханых, што пачынае »не французскую рэвалюцыю», што пад час паўстання зробіць новаўвядзенні «часова» і што канчатковы лад вызнача будучы пераможны сейм. Праўда, было няясна, ці гэта будуць паслы распушчанага Вялікага сайма, ці новаскліканага.[13] Паколькі канстытуцыя 3 мая забараніла грамадзянскія канфедэрацыі, то змоўшчыкі хацелі выканаць вызваленне регулярным войскам ды ўгаварыць паноў падтрымаць іх пастаўкай рэкрутаў, хто колькі можа і пажадае. Скліканым па паветах апалчэннем добраахвотнікаў меліся кіраваць намінаваныя Т. Касцшкам зямянскія генерал-маёры.[14]

Бясконцыя спрэчкі аб выбары галоўнакамандуючага на Літве, сакрэтнасці або публічнасці змовы, тэрміне адначасовага выступлення, прылучэнні сялян да войска і рэакцыі на гэта панства марнавалі час і, як казаў К. Мураўскі, да сакавіка «в Литве ничего устроено не было». Нарэшце, 7 сакавіка ў акружэнні Касцюшкі рашылі пачаць 16—24 красавіка, узяўшы ў водцы нават «не здольных сваім аўтарытэтам павесці за сабой ваяводствы».[15] Пад час кантрактавых з'ездаў дваранства ў Мінску (28 сакавіка) і Навагрудку (10 красавіка 1794 г.), як сведчыў ашмянскі пісар Ян Вітунскі, «магнаты зделали условие о конфедерации. Сей заговор происходил между князем (Мацвеем) Радивиллом, каштеляном виленским, (Юзафам) Неселовским, воеводою новогрудским, Алоизом Сулистровским, писарем Великого княжества Литовского (Міхаілам Геранімам) Бростовским, старостою минским, (Францішкам Ксаверыем) Хоминским, старостою пинским, генерал-майором (Карлам) Муравским, (Станиславам) Мирским, писарем ВКЛ.» Потым да іх далучыліся Т. Жаба, полацкі кашталян Роберт Брастоўскі, генерал Казімір Завіша, Юзаф Валадкевіч, аршанскі харунжы Галінскі, Л. Тышкевіч.[16] Сюды можна запісаць М.К. Агінскага, які прывёз у Навагрудак акт кракаўскага паўстання Касцюшкі і перадаў на змову 40 тыс. чырв. Перад тым ён абачліва не вызваліў, а прадаў больш 1260 сялянскіх хат (звыш 8 тыс. прыгонных) з даходам у 100 тыс. зл., за што атрымаў 666443 зл. Вядома, што падобнае зрабілі і іншыя магнаты-змоўшчыкі.[17] К. Празор здаў сваіх сялян у заставу з дакладным вызначэннем іх паншчынных абавязкаў.

На навагрудскім зборы былі распушчаны чуткі аб намерах Расіі забраць усе землі да р. Нёман і што гэтаму перашкодзяць Францыя і пінская брыгада разам з «іншымі ў Літве польскімі войскамі». Затым таварыства на чале з

К. Мураўскім і стражнікам Ігнаціем Гельгудам хацелі застрэліць гродзенскіх паслоў Флора Вайніловіча і Міхаіла Лапата, якіх выратавалі рускія вайскоўцы. Туталмін паведаміў аб гэтых здарэннях дадаўшы, што спіскоўцы намагаюцца «возбудить на нас ненависть черни» пагрозамі павальнага перапісу Расіяй насельніцтва з продажам, «людей как скотину» і масавым брыццём у рэкруты. Ён гаварыў, што узбуджанае Навагрудскае ваяводства і Ашмянскі павет ствараюць «одно общество и сильную партию князя (Міхаіла) Радивилла, всегда проявлявшего много лет укоренившуюся ненависть к России».[18]

Туталмін лічыў, што змоўшчыкі раз'ехаліся, «дабы безвременным начатием не разстроить действительного плана и, другое, чтоб усыпить бдительность полиции». У гэты ж дзень,7 красавіка, ён перахапіў адрасаваны з Варшавы ліст да К. Мураўскага з заклікам да сумеснага выступлення.[19] Але было ўжо позна: паміж 9—12 красавіка расейцы правялі арышты С. Солтана, афіцэраў пешай гвардыі ў Гродне разам з І. Тызенгаўзам, кінуліся шукаць К. Празора. К. Мураўскі ўцёк да Касцюшкі, ад якога 14 красавіка атрымаў патэнт галоўнакамандуючага ўсімі ўзброенымі сіламі паўстання ВКЛ і лісты да Ф. Сапегі, К. Несялоўскага, П. Грабоўскага, Х. Карнітоўскага аб ягонай падтрымцы на чале са сваімі аддзеламі ў агульным паўстанні ваяводстваў з узбраеннем сялян.[20] У Вільні пра гэта яшчэ не ведалі, але там арышты выклікалі чуткі, што кіраўніцтва захапілі таргавіцкія саветнікі і ўсёй змове пагражае раскрыццё і правал. Па словах Т. Ваўрэцкага, абураны Ясінскі хадзіў па палках і «сговаривался только с офицерами и без граждан», западозраных у здрадніцтве.

Так ініцыятыва выступлення перамясцілася ў Вільню і там заставалася толькі выбраць галоўнакамандуючага прыкладна 11-тысячнага літоўскага войска, з якога каля

5700 чал. кватаравала на Жмудзі.[21] Ім процістаяла каля 13 тыс. расійскіх ратнікаў у ВКЛ і 5328 – у Мінскай губерні.[22] З разліку на прыкладна роўныя сілы і ўласнае натхненне, у Шаўлі 15 красавіка прыбылі К. Несялоўскі, Р. Гедройц, віцебскі ваяводзіц Антон Празор і ковенскі земскі суддзя Пётр Завіша з мэтай перашкодзіць генерал-маёру Антону Хлявінскаму расфарміраваць кавалерыю, пасланаму туды па даручэнні гетмана Ш. Касакоўскага. Яны прымусілі Хлявінскага назвацца «начальнікам усёй узброенай правінцыі ВКЛ», як не перасцерагаў той іх ад пагрозы грамадзянскай вайны і няўмольнага з гэтага падзелу краю. 19 афіцэраў падпісалі акт шавельскай узброенай канфедэрацыі з мэтай звароту «вольнасці Айчыны, абывацельскіх свабод і гонару» ў поўным адзінстве з кракаўскім актам Касцюшкі.[23] 16 красавіка сюды з'явіўся Ясінскі і прысутныя правялі ўсю ноч у палкіх спрэчках адносна далейшых планаў. Аб іх сутнасці можа сведчыць маніфест К. Несялоўскага «Да канфедэрацыі і народу» ад 18 красавіка, дзе ён, па прыкладу Касцюшкі і Францыі, «адважыўся заклікаць народ супраць непрыяцеля» і такім чынам браў на сябе ролю агульнага водцы паўстаннем. Такім шляхам «ваенны саюз жмудскіх народаў «пераўтвараўся ў грамадзянскі рух княства. Несялоўскі знішчаў усякую быўшую дагэтуль вярхоўную ўладу, але засцерагаў змагароў «пэцкаць руку у крыві вераломных землякоў, каб не пагубіць невінаватых». Ён выразна браў таргавічан пад ахову.[24] Гэта ніяк не падабалася рашучаму Ясінскаму, які неадкладна выправіўся ў Вільню вызваліць яе ад расійскага гарнізона. У Шаўлях ініцыятары паўстання не дамовіліся як яго здзейсніць – простым вайсковым націскам або праз традыцыйную канфедэрацыю, якая патрабавала часу на вызваленне і злучэнне паветаў і якая пагражала захапіць

шляхецкія масы крывавай міжусобіцай. Баязлівцы даверылі поспех Я. Ясінскаму.

Кацярына II на другі дзень шавельскага пачыну катэгарычна загадала «не останавливаться никакими уважениями к злодеям» і пакараць іх «по мере вины». Гэта ўвасобілася стварэннем 19 красавіка смаленскай следчай камісіі,[25] куды адразу трапіла 80 завадатаяў. Туталміну яна загадала секвестраваць маёнткі ўдзельнікаў паўстання і дадала, што пакольк «черный народ, нам единоверный, поляков господ своих ненавидит, то нетрудно будет иметь (яго – Я.А.) в свою пользу», выгнаўшы польскіх эканомаў і аддаўшы маёнткі ў часовае самакіраванне сялян. У гэтых жа мэтах 22 красавіка яна распарадзілася навярнуць уніятаў у праваслаўе ў вызваленых уладаннях. У гэты ж дзень галоўнае камандаванне ў ВКЛ атрымаў М. Рэпнін з загадам харчаваць падначаленыя войскі на паўстаўшай тэрыторыі, каб «вся тягость войны на них упадала», але «без грабительства с наблюдением, чтоб земля не была опустошена, так что и самим войскам нашим ни чрез нея переходить, ни в ней с выгодою оставаться нельзя будет». Яна даручыла раздаць канфіскаваныя маёнткі ціхім панам і «обещать удовлетворение убытков на щет виновных их одиноземцев или же платить из денег, собираемых с имений... секвестрированных, наблюдая, однако ж, чтоб сими выгодами не пользовались недостойные, хотя бы они в извинение представляли, что к бунту принуждены были приступить противу воли своей – извинение пред нами их не оправдывающее».[26]

Туталмін не мог выканаць масавага апраўслаўлення з-за недахопу войск, а Рэпнін 17 красавіка папярэдзіў Пецярбург, што «настоящее в Польше и Литве возмущение не есть то, что были прежния конфедерации, где всегда

существовали противные партии, а теперь явилось всеобщее народное поднятие и бунтование.» У доказ ён паведамляў, што на Жмудзі разасланы ксяндзы па вёсках унушаць абывацелям «резать» рускіх і не баяцца з гэтага граху і «что, ежели которые из господ повелению сему повиноваться не станут, всем таковым без отлагательства рубить головы или вешать». На вайне як на вайне – Рэпнін раіў таксама «вешать на деревьях», хаця, як масон, «любил рассуждать о человеколюбии, братолюбии и равенстве».[27]

Раніцой 24 красавіка 1794 г. 2328 жыхароў Вільні віталі свайго вызваліцеля – Я. Ясінскага – і падпісалі акт паўстання «народу ВКЛ», які ставіў мэтай «адшуканне (здабыццё) вольнасці, абывацельскай роўнасці і ўсіх карысцяў, пастаноўленых кракаўскім актам» Т. Касцюшкі. Лозунг абывацельскай роўнасці не быў навіной на шляхецкіх сейміках папярэдняга часу. Але дадзены акт спыняў «да часу» перамогі ўсякае судаводства, што магло выклікаць толькі здзіўленне і страх перад новай дыктатурай. Таму, другім актам да ваяводстваў і паветаў заяўлялася, што паўстанцкая рада «літоўскай правінцыі» на чале з Ю. Несялоўскім, як першым у спісе, захоўвае існуючыя суды і магістратуры, але толькі пад умовай іх прысягі сваёй вярхоўнай уладзе. На наступны дзень віленская рада ў складзе 29 членаў назвала сябе часовай уладай да поўнага ачышчэння краю ад чужаземных войск, здраднікаў і звароту забраных зямель. Яе дэпутацыі атрымалі надзвычайныя карныя паўнамоцтвы па прынцыпу: «Хто не з намі – той супраць нас» і таксама права сачыць, «каб супраць паўстання нават нічога гаворана не было». Яна заклікала землякоў прысылаць па аднаму дэпутату для прадстаўніцтва, сабраць паспалітае рушанне і, па прыкладу Кароны, ставіць у яго рэкрутаў,

«колькі хто можа і жадае».[28] Такім чынам, віленская рада адразу заявіла аб сваім часовым самаўладдзі ў рэчышчы касцюшкоўскага (кракаўскага) пачыну.

25 красавіка за прымус абывацвляў ВКЛ да таргавіцкай канфедэрацыі быў урачыста павешаны гетман Ш. Касакоўскі. Прысутны натоўп моўчкі пазіраў за гэтай праявай грамадзянскай роўнасці, за тым, як знатнага вяльможу вешалі, як казаў Ясінскі, як «нікчэмнага і звычайнага злодзея». Ясінскі прыгразіў той жа шыбеніцай кожнаму за голас пратэсту. Менавіта гэтай акцыяй ён зрабіў «*першы* крок, які прынясе мне славу, а Айчыне маёй вольнасць», бо наспеў час» адкінуць мяккасардэчнасць... і не спадзявацца на меч справядлівасці, заўжды хісткі і запознены», бо аб «добрым ладзе нельга думаць у рэвалюцыю».[29] Ясінскі і потым прагнуў неабмежаванага дыктатарства, бо казаў Касцюшку, што «калі б меў тваю ўладу у краі, то павесіў бы 100 чал. і пазбавіў ад іх 6 мільёнаў». Але яго спіхнулі ў каменданты Вільні.

Не гучнымі словамі аб абывацельскай роўнасці, а менавіта шыбеніцай Касакоўскаму Ясінскі зрабіў тое, чаго баяўся Касцюшка. Менавіта шыбеніца Касакоўскаму увасобіла славуты радыкалізм паўстання ВКЛ у адрозненне ад Кароны, бо толькі 8—9 мая варшаўскі люд, загітаваны прыбыўшым ад Ясінскага ад'ютантам Ігнатам Хадкевічам да паўтарэння віленскага прыкладу, ад імя Т. Касцюшкі павесіў 4 таргавічан (у тым ліку Ю. Забелу, епіскапа Ю. Касакоўскага і маршала гродзенскай здрадніцкай рады Ю. Анквіча).[30] Пострах ад гэтага ў Варшаве быў такі, што К. Плятар «спасался пожертвованием своего серебра и всем, что имел. Гонение его до того простиралось, что он был принужден ходить с чернию с оружием на плече». Падпалкоўнік Стэфан Грабоўскі паставіў 26 красавіка шыбеніцу ў мястэчку Мікалаеў, ад імя Касцюшкі

прыгразіў ёй прысутным за супрацiўленне паўстанню ў імя «выратавання веры і Айчыны». Смаргонскі войт Антон Францышэўскі пострахам шыбеніцы збіраў 200 касінераў у апалчэнне. Шляхціц Юстыніян Ян Мацулевіч казаў, што паўстанцы прыходзілі ў вёскі па 20—30 чал. і пагражалі шыбеніцамі за няяўку у апалчэнне. Страх ад вулічнага самасуду ў Вільні быў такі, што там, як пісаў невядомы, як дым «знікаюць бляскі і амбіцыі: паны скідаюць з сябе ордэны і ўжо нічога не відаць акрамя аднае роўнасці».[31]

Усе члены віленскай рады паўстання публічна адракліся да часу перамогі ад пенсій і ўзнагарод для дэманстрацыі гэтае абывацельскай роўнасці, але ніводны з іх ні разу прынародна не адрокся ад прыгонніцтва і не вызваліў уласных прыгонных. Як гаварыў Г. Калантай, грамадству падабалася ўраўноўвацца адзежай у паўстанні, канфіскацыі маёмасці нязгодных і запіс «багацеяў у адныя шарэнгі з бяднейшымі больш, чымсьці канстытуцыя (*3 мая* — **Я.А.**), якая не выконвалася дагэтуль».[32] Шыбеніца Касакоўскаму адразу ачомала прывідам французскай разні тых, хто прыстаў да паўстання з аднаго запалу і хто адразу стаў папікаць Ясінскага за правакацыю масавага тэрору, які сам Ясінскі шчыра лічыў самым удалым і хуткім шляхам да сапраўднай грамадскай роўнасці і сацыяльнай справядлівасці.

Віленскія радцы, з якіх прыкладна палову складалі магнаты або памешчыкі сярэдняга дастатку, а 17 членаў дакладна былі ўдзельнікамі стварэння таргавіцкай (прарасійскай) канфедэрацыі, апынуліся ў складаным становішчы. Ю. Несялоўскі потым будзе каяцца, што «во время мятежа надобно было или с мятежниками быть или идти на казнь».

Коцел заявіць, што падпісваў адозвы і сядзеў у радзе «по принуждению из страха и публичной должности не

имел». Бенядзікт Карп скажа, што быў «против воли задержан и его обобрали в том мятежническом сонмище под предлогом патриотических даров». М.К. Агінскі паспяшаўся падтрымаць паўстанцаў харчам і асабіста з разліку, што «лепш палегчы са зброяй у руцэ, чым зняслаўіцца ухіленнем ад удзелу у патрыятычным запале» або, што горш, страціць і галаву за тое, што гэта ён падпісваў ганебны трактат 1793 г. Князь М. Радзівіл, які таксама падпісваў той дагавор і сеў у раду на чале дэпутацыі пакарання, у канцы красавіка паведаміў Туталміну аб падзеях паўстання і што «войск литовских собралося в Вильне более уже 6000, к коим безпрестанно присоединяются сконфедерированное по воеводствам и поветам шляхетство, приводя с собою рекрут и лошадей для укомплектования полков».[33]

А. Хлявінскі лічыў віленскую раду клубам інтрыганаў, дзе адны праз жонак «штодня з маскалямі карэспандуюць, другія для асабістага толькі інтарэсу улезлі ў раду, іншыя падкупіліся ахвяраваннямі, каб быць блізка да інфармацыі і ведання пастаноў. Хто першым утвараў паўстанцкі саюз ці апалчэнне – рабіўся генералам, а хто марудзіў – таго падазравалі» у змове з ворагам. Яго засмучала, што ў радзе зневажаюць «добрых і годных асоб». Ён гразіўся «выткнуць пальцам усіх – няхай вісяць. Бывала тое ў Парыжы, так і тут таксама трэба чыніць».[34] Яны падтрымалі першы крок тэрору, каб захаваць жыццё, ачысціць сумленне, схаваць канцы мінулага, пазбавіцца сведкаў. Гэта пра іх Г. Калантай казаў, што паўстанне было распачата «па натхненню вяльможных, хаця яны ў ім не фігуравалі» або стараліся кіраваць спадцішка, зліўшыся з сапраўднымі барацьбітамі пад маскарадам прыстасаванства, адкінуўшы на час ганарыстасці сацыяльных адрозненняў.

Атрымаўшы звесткі аб паражэнні віленскага гарнізона, генерал Павел Цыцыянаў 25 красавіка зняў лагер у Гродне, спагнаў з горада 101 тыс. руб. кантрыбуцыі і павёў свой корпус (7715 штыкоў) праз Шчучын, Беліцу на Мір. На шляху да яго прысталі 1715 салдат з віленскага гарнізона, і ўся гэтая навала паміж 7—15 мая вынішчыла ўсю ражанскую парафію Лідскага павета, фальваркі Галавачы, Котры, Навасады, Лябёдка, Галубкі, Ляшчанка, Андрушы.[35] 15 мая ён стаў у Міры, страціўшы па дарозе ў дробных сутычках і пры будоўлі пераправы пад Беліцай 2 забітых і 5 параненых. Пад час ягонай эвалюцыі генерал Багдан Кнорынг папярэдзіў памежчыкаў памежнай тэрыторыі, што будзе «без наймалейшай пощады и медления искоренять военною рукою... скопищи вооруженных поселян», нішчыць «без всякого воззрения на чин, фамилию и состояние» маёнткі тых,»хто дерзнет вооружать поселян», падбухторваць іх або крыўдзіць падданых імперыі. Ён абяцаў смірным вайсковую ахову «от всякого неиствующими озлобления и обиды». Ён разлічваў «обратить возмущение противу самих возмутителей тем же самым, каким они против нас настраивают».[36] Пачалася бязлітасная вайна за ўплыў на сялян.

Адгароджаная такімі мерамі, ВКЛ было пакінута ці вызвалена пад уладу паўстанцаў, якія мелі 1,4 тыс. кавалерыі пад камандай А. Хлявінскага ў Коўне, 3,3 тыс. (1,4 тыс. язды) пад камандай Ф.Сапегі каля Свіслачы і 6,3 тыс. (2,2 тыс. язды) у галоўным корпусе Я. Ясінскага, часова пастаўленага галоўнакамандуючым. Ц. Туталмін даводзіў сілы Ясінскага да 15 тыс. чал. і стаў палохаць Пецярбург няўхільным ростам паўстанцкіх сіл за кошт сялян, якім за «усердие... обещано шляхетское право», якое жыва рэагуе на заклікі да сякер і кос і «во всей

Литве и во всех без изъятия селениях запасается пиками и другими орудиями, буде кто не имеет огнестрельного оружия». Ён чакаў генеральны бунт і ў Мінскай губерні ўначы 3—4 мая і для доказу прывёў факт выяўлення зброі ў хаце радзівілаўскага сакратара Ксаверыя Мікуця, пісаў, што ў Барысаўскім старостве робяць пікі, пякуць сухары, што «в прошедший великий пост духовенство не допускало поселян приобщаться к святым тайнам, доколе не отберет присяги возстать противу россиян, что села Изядчичи униатской поп Константинович отбирал от всех поселян в окружности некие подписки, что в местечках Логойск и Докшицы духовные, собрав прихожан в церкви, читали им универсалы о поднятом в Литве возмущении».[37]

Пакуль расейцы марудзілі з прыгатаваннямі і перадыслакацыямі, віленская рада паўстання 21 і 28 красавіка распаўсюдзіла універсалы з заклікам прымаць і па-людску абыходзіцца з рускімі дэзерцірамі, заклікала рускіх салдат павярнуць зброю супраць сваіх камандзіраў, папрасіла ўсе ваяводствы і паветы прысягнуць пад актам паўстання 24 красавіка і прыслаць паслухмяных дэлегатаў. Яна абяцала не праследваць і не высвятляць прычын фарміравання таргавіцкіх саюзаў, аднавіла дзейнасць цывільна-вайсковых камісій, выбраных на лютаўскіх сейміках 1792 г.»згодна з канстытуцыяй 3 мая 1791 г.», але забараніла дапускаць у іх склад таргавічан, нават калі яны былі выбраны туды на падставе прызнання той жа канстытуцыі. Таргавічанам прабачылі пабраныя падымныя падаткі, але патрабавалі вярнуць у скарб сваё утрыманне.[38] Адно выключала другое.

Такім жа дваістым быў і зварот рады 30 красавіка да земляробаў ВКЛ, які заклікаў іх узбройвацца косамі, пікамі, высылаць ахвотнікаў да войска і падтрымаць «старанную шляхту». Універсал меў пункты, якія ясна

акрэслілі, якую абывацельскую роўнасць мелі на ўвазе віленскія радцы.»Адкінем погляды на розніцу станаў – усе мы чалавекі і абывацелі края», пісалі яны. «Вольнасць, заснаваную на законе, і свабода для вас ужо прыгатаваныя» – гаварылі яны, бо паўстаўшае войска «пачатак вольнасці заснавала і закон 3 мая, які вам свабоду падарыў, вярнуць вырашыла. Няма зараз партый, а хто пачне іх ствараць, той будзе ганебнай смерцю пакараны».[39] Універсал гаварыў толькі аб натуральнай, а не аб сацыяльнай роўнасці. Сялян абяцалі вызваліць у духу канстытуцыі 3 мая, якая ніякай асабістай волі ім не давала і якая збіралася іх узяць пад апеку права, якая прыгразіла абмежаваць зверху панскія ўціскі праз парадкавыя камісіі і дазоры. Такія камісіі ствараліся зараз. Гэта была другая ініцыятыва віленчукоў у параўнанні з Касцюшкам, які абяцаў, што ніводная мясцовая ўлада не прысвоіць заканадаўчых прэрагатыў да пераможнага сейма. Менавіта гэтай пагрозы не вызвалання, а простага абмежавання вотчынных правоў напалохаліся на месцах, дзе пастараліся сабаціраваць «вялікую справу народнага войска» ды заадно і дыскрэдытаваць яго начальнікаў.

Адныміз першых віленскі акт 24 красавіка падтрымалі ў Эйшышках, дзе 1 мая частка абывацеляў учыніла прысягу асобна ад Лідскага павета. 13 мая яны выбралі генерал-маёрам павета лідскага падкаморага Іяхіма Нарбута. Паколькі той спрыяў гвалтам таргавічан разам з братам шэмбелянам Казімірам, то 20 чэрвеня яго замянілі братам лідскага старасты Каралем Сцыпіёнам. Інтрыга цягнулася да кастрычніка, калі Сцыпіёна скінуў Юзаф Седлікоўскі. Частка лідчан 29 красавіка сабралася ў Сукурчах і «сакрэтна» назвалі дэлегатам у раду Ігната Кастравіцкага. Нязгодныя на гэта 21 чал. сабраліся на лідскім рынку 2 мая і далучылі павет да паўстання.

Прысяга расцягнулаея да 6 чэрвеня і сабрала подпісы 597 чал. Відаць тады ж на плошчы для паскарэння паставілі шыбеніцу, бо на сходзе 12 мая таварыш 3-га палка Мацвей Бянкевіч гразіўся павесіць на ёй свайго арандатара Франца Круповіча.[40] Мартын Тызенгауз паведаміў, што замарудзіў з прысягай з-за «узбунтаванага сялянства і свайго эмігранцкага становішча», а пра здачу 5 рэкрут даведаўся «з рэха». Іагана Мысліцкая доўга высвятляла, з кім яна нясе рэкруцкую складку для здачы рэкрутаў з 15 дымоў і гаварыла, што «ўсе сяляне ўжо забраны нашым польскім войскам».[41] А між тым К. Сцыпіён звольніў ад рушання генерал-лейтэнанта Мікалая Радзівіла за пастаўку ўсяго 2 рэкрутаў, тады як патрабавалася 5 коннікаў з 250 дымоў. Для дапамогі парадкаваму камісару і земскаму суддзі Антону බародзічу А. Хлявінскі 9 мая даў жаўнераў, якія выбілі 600 зл. з мяшчан і яўрэяў Эйшышак, што потым неаднаразова «паўтаралі ў час рэвалюцыі».[42] У жніўні бунтавалі радунскія мяшчане, якія не давалі харчу і арэнды. Амаль увесь 1794 г. ротмістр Лявон Дышканц бунтаваў шляхту у аднайменнай ваколіцы і наводзіў казакоў, каб выжыць свайго арандатара.

З Навагрудскага ваяводства «на ўзнаўленне абывацельскай роўнасці» 9 мая ў Стваловічах паспелі прысягнуць да падыходу расейцаў толькі 7 чал., у тым ліку земскі суддзя, лоўчы Вінцэнт Пратасевіч і падстолі Ян Вяржэйскі. Парадкавую камісію Брэсцкага ваяводства разам з Кобрынскім паветам на сходзе 9 мая ўзначаліў брэсцкі староста К.Н. Сапега. У складзе 8 яе членаў знайшлося месца праваслаўным святарам, што радасна вітаў сам Т. Касцюшка. Сход выказаў абурэнне «віленскімі здарэннямі» і падпарадкаваўся ўладзе Касцюшкі, абвінавацішы віленскіх радцаў у «прагнасці адной

улады». Але гэты сепаратызм падвоіўся, як толькі 13 мая кобрынцы ўтварылі сваю парадкавую камісію, назначыўшы зямянскім генерал-маёрам Казіміра Рушчыца. Сапега адыйшоў у цень і саступіў месца Міхаілу Пашкоўскаму і Мацвею Франкоўскаму, якія, па словах Касцюшкі, прымусам забіралі ў міліцыю пікінераў і касінераў. Сярод сабраных адбывалася дэзерцірства.

Да прыкладу, з 132 чал. кобрынскай міліцыі ў верасні ўцякло 47 шараговых. Яе водца К. Рушчыц не слухаўся вярхоўнай каманды, бо заставаўся ў рангу палкоўніка. Камісія Ваўкавыскага павета ў складзе 9 членаў на чале з віленскім канонікам Ігнатам Аскеркам 7 жніўня адмаўлялася ставіць у лінейнае войска сваю міліцыю,бо ёй «маскалі з двух бакоў пагражалі».[43] Да Касцюшкі даходзілі звесткі, што зямянскія генералы самаўпраўна і бясплатна рэквізуюць харч на свае кволыя апалчэнні. Каб утрымаць згоду «паміж салдатам і народам», ён 12 жніўня загадаў трымаць пастаўкі пад дазорам парадкавых камісій і не выконваць загадаў партызанскіх генералаў. Ён прыгразіў судом усім, хто 2 разы ў год не дасць бясплатных прадуктаў, але астатнія наборы патрабаваў аплаціць.[44]

Брэсцкім камісарам у чэрвені і жніўні давялося мірыць узброеныя наезды праваслаўных з маёнтка Збірогава М. Радзівіла на землі Залесся і Карабанаў, што належылі палкоўніку Гіяцынту Косцe. У чэрвені шляхта спаліла і раскрала фальварак Шыдлаўшчына харунжага Аляксандра Буклеўскага. У жніўні кобрынскі скарбнік Рафал Нятыха, «не жадаючы ведаць над сабой краёвай улады, ні права людскасці і абывацельскай роўнасці», з дапамогай слуг і сялян страляў у аратых і разганяў касцоў у маёнтку Лінаўка. На мяжы суседняга павета слонімскі ротмістр Ежы Плаўскі наязджаў хапаць рэкрутаў, якіх потым

прадаваў. Адзін з Плаўскіх у маі абрабаваў фальварак Жукаўшчына і забараніў тамтэйшым сялянам слухацца свайго пана, смаленскага войскага Міхаіла Быкоўскага.[45]

Падобныя «бунты» прымушалі суседзяў узбройвацца або хавацца. У аголеныя такім шляхам маёнткі наведваліся аматары спажывы. Напрыклад, у маі сяляне разабралі маёмасць фальварка Луцэвічы, а сяляне трокскага стольніка Ю. Вазгірда «дашчэнту разабралі і паразносілі» уласнасць фальварка Краўцэвічы. Розныя сяляне з наваколля Навагрудка раскралі маёнтак гродскага суддзі Тадэвуша Яблонскага, а потым казалі, што ўсё рускія войскі забралі.[46] З падобнымі ўраўняльніцкімі настроямі сутыкнулася браслаўская камісія, дзе ўжо у канцы красавіка сяляне друсвяцкай валасці «падзялілі» маёмасць вёсак і засценкаў маёнтка Лушнева ды аддалі 17 мужыкоў бліжэйшай рускай камандзе. Самі члены браслаўскай камісіі 31 мая пад зачэпкай пошуку зброі абрабавалі фальваркі Кухча, Мітаргава, Опса, наводзілі сялян на Боблева, Талочкі, Богін, Дамашы. У Богіне сяляне парубілі бібліятэку з каштоўнымі манускрыптамі і выдзерлі ўсю падлогу ў замку.[47]

Парадкавую камісію Гродзенскага павета ў складзе 10 чал. 9 мая стварыў у Саколцы сход 66 асоб. Ён выбраў сваім старшынёй вярбоўскага старасту Франца Баўфала за тое, што той даў волю сваім сялянам. Гэта, бадай, адзіны выпадак ва усім паўстанні. Між тым, гэта не былі яго ўласныя сяляне, бо Баўфал быў адным з 40 дзяржаўцаў ключоў Гродзенскай эканоміі, якія даўно дамагаліся свабод. Менавіта гэтых дзяржаўцаў гродзенскі магістрат выклікаў зараз на суд за прысваенне скарбовых даходаў за увесь час трымання (з 1791 г.).[48] Камісія прыбыла ў Гродна 14 мая ўжо ў складзе 9 чал., а яе ўзначаліў таргавічанін, ротмістр Іяхім Храптовіч. Камандзірам

апалчэння стаў генерал-маёр Канстанцін Ельскі. Камісія паставіла на гарадской плошчы шыбеніцу і неаднойчы пасылала сваіх членаў «уціхамірваць» сялянскія бунты у эканамічных ключах. 26 мая яна спрабавала выслаць сваю міліцыю ўціхамірыць Васількаўскае старосгва, але спехам сабраныя 3 палкі рэкрутаў давялося выслаць у Вільню.[49] Камісарам давялося ўшчуваць сялян слухацца дзяржаўцаў, якія, аднак, па-ранейшаму ганялі тых на прыгон. У выніку, у апалчэнне бралі гвалтам парабкаў і вольных людзей. На самога Ельскага сыпаліся скаргі за тое, што ён даручаў свайму намесніку ротмістру Антону Немчыноўскаму збіваць асоб, «не зважаючы на шляхецкі стан». 28 чэрвеня, дэлегаваны гараджанамі ў камісію, Андрэй Сырасек находзіў камісію створанай «не начальнікам Т. Касцюшкам, а прыватнымі асобамі радзівілаўскага кшталту». Ён злаваўся на яе членаў (Тадэвуша Клаву і Казіміра Бярнацкага), якія марылі голадам іншых абывацеляў у дэпутацыі бяспекі. Земскі суддзя і камісар Ігнат Храптовіч спакойна сядзеў дома і карыстаўся 18 тыс. зл., даверанымі яму таргавіцкай канфедэрацыяй.[50]

Такім чынам, амністыя таргавічанам не прадухіліла паўстанне ад звычайнага расколу і ўзаеманедаверу. Парадкавыя камісіі дзейнічалі ў Гродне, Брэсце, Ашмянах, Кобрыне, Лідзе, Эйшышках, Слоніме, Ваўкавыску, Браславе, а пінская, слуцкая і навагрудская існавалі на паперы. Большасць з іх падтрымала віленскую раду, аднак у яе дэпутацыях сядзелі толькі дэлегаты ад Ашмян, Ліды, Эйшышак і Гродна.[51] Гэтая большасць сама аказвалася нелігітымнай, каб прымаць рашэнні ад імя ўсяго ВКЛ, якое належала яшчэ вызваляць. Раду, нарэшце, папракалі ў сепаратызме, ухіленні ад кракаўскай ініцыятывы, размнажэнні, як казаў М. Карповіч, «прытворных... фальшывых патрыётаў...», прагнучых на двух крэслах

усеdзіць», каб захаваць уласнасць і займець уласныя карысці. Зямянскія генералы не ведалі каго слухаць – віленскую раду ці Касцюшку – і таму вагаліся і лавіравалі ў бяздзейнасці.[52]

10 мая Касцюшка перадаў, што толькі пасля перамогі будзе вызначаны парадак выбараў на сейм для ўстанаўлення новай канстытуцыі. Ён падзяліў літоўскую армію на тры карпусы, а для каардынацыі іх 12—14 мая пры кожным прызначыў камісараў. 22 мая віленская рада заявіла, што не мае «суровасці да таргавічан, злучаных у саюз гвалтоўнымі абставінамі», адмовілася ад тытула найвышэйшая, паўтарыла заяву аб сваей часовасці і назвалася цэнтральнай дэпутацыяй пры поўным падпарадкаванні Касцюшцы. Аднак гэта не скінула з яе арэол небяспекі.

Справа ў тым, што 7 мая Касцюшка разаслаў Паланецкі універсал, якім прадаставіў сялянам асабістую свабоду пры ўмове разліку з панамі і за ўдзел у паўстанні з іх згоды. Паншчына пры тым скарачалася на 30—50 %. Касцюшка супакойваў уласнікаў тым, што абяцаў такое вызваленне часова, да ўвядзення «пастаяннага заканадаўства» і заключэння дамоў аб найме. Сялян ён зваў слухацца паноў і «дбайна паншчыну адбываць» у якасці доўга за прадастаўленую зямлю, у знак падзякі «за добрадзействы краёвага ўрада». Ён абяцаў, што кожны «прыгнечаны атрымае абарону ў парадкавай камісіі», а кожны,» прыціскаючы і праследуючы абаронцаў Айчыны, будзе пакараны як вораг і здраднік».[53] І хаця селянін мог трапіць у паўстанцкае войска толькі са згоды свайго пана, аднак няцяжка ўявіць рэакцыю валадароў прыгонных на спробы зверху абмежаваць іх вотчынную ўладу, на спробу Касцюшкі «прымушаць людзей, каб былі вольнымі..., каб страх спадаў на ўсіх» аднолькава ў той самай

абывацельскай роўнасці для вызвалення Айчыны. Касцюшка прыраўноўваў «хатнюю злосць» да «замежнай інтрыгі» і гэтым уяўляў усіх супраціўленцаў універсалу маскоўскімі агентамі і правакатарамі. Таму падобным універсалам «паўсюдна перасталі верыць» або проста сталі іх байкатаваць.[54]

Віленскай радзе прадстаяла выконваць гэтую волю начальніка пад час скаардынаваных ваенных акцый. 18 чэрвеня яна рашыла давесці універсал да вясковага люду, які быў надрукаваны толькі 25 чэрвеня, а значыць так доўга там баяліся такіх, нават паблажлівых для паноў вызваленчых захадаў.

5 мая Я. Ясінскі павёў каля 1,7 тыс. чал. рэгулярных сіл з 600 касінерамі з верай у іх маральную перавагу супраць прыблізна 1870 пяхоты і 252 коннікаў пад камандай палкоўніка Міхаіла Дзеева пад Ашмянамі. Дзееў меў загад выставіць дазоры каля Міхалішак і Палесціны, каб засцерагчы мяжу і пагражаць Ашмянам.[55] У дапамогу яму барон Лявон Бенігсен павёў каля 2400 кавалерыі і мушкецёраў, якія злучыліся з Дзеевым 3 мая ў Пераварах і Беніцы. Бенігсен меў загад накладаць кантрыбуцыю на сваім шляху і нахіляць сялян, «дабы данное им в руки от мучителей их оружие обратили они на поражение общих врагов древняго их Отечества». Палкоўнік П. Грабоўскі звярнуўся з абозу пад Барунамі са зваротам да расійскіх салдат павярнуць зброю супраць сваіх камандзіраў. Аднак Бенігсен пісаў, што «где только он проходил с малолюдным своим отрядом», там сяляне «не токмо розданное им оружие сносили и отдали мне», але і панскія фальваркі «все разорили до основания».[56]

Паводле рапартоў расійскіх камандзіраў, падначаленыя ім 3590 пяхоты і коннікаў 7 мая падышлі да в. Паляны (7 км ад Ашмян), дзе сустрэлі абоз Ясінскага, у якім «по

показаниям пленных, было более 6 тыс. чел. да и конфедератов шляхетских, виленских стрелков и мужиков более пяти тысяч, вооруженных ружьем, пиками, топорами и косами с осьмнадцатью орудиями».[57] У 11 гадзін раніцы Ясінскі пабудаваў 6 калон і тры гадзіны спрабаваў збіць праціўніка. Аднак пры збліжэнні Дзееў ударыў у штыкі і змяшаў першыя лініі атакуючых, якія замяшалі астатніх сваім панічным адступленнем. Ясінскі здолеў згуртаваць парадкі, якія Дзееў «никак опрокинуть не мог». За 6 гадзін паўстанцы страцілі больш 500 чал. з 6 гарматамі. Маючы сам 154 забітых, Дзееў павярнуў да мястэчка Слабодка і Вішнева, але (8 мая) паўстанцы гналіся за ім, «присоединяя отовсюду сконфедерированное шляхетство и толпы вооруженных крестьян».[58]

Тады Ясінскі запланаваў разбіць корпус Л. Бенігсена разам з дывізіямі А. Хлявінскага і Ф. Сапегі і 17 мая рушыў на чале 3,5— 4 тыс. рэгулярных сіл праз Яшуны, Эйшышкі, Жырмуны на Іўе, куды загадаў рухацца з Ашмян 7 палку С. Грабоўскага. А. Хлявінскі не паслухаўся загаду, а Сапега, які 11 мая стаў у Стваловічах, адно выслаў 400 шабель татарскіх вершнікаў пад камандай Мустафы Ахматовіча пад Новую Мыш, дзе яны 25 мая страцілі 15 забітых. 21 мая Ясінскі перасек Ліпнішкі і на наступны дзень злучыўся з Грабоўскім у Іўі, адкуль паслаў ротмістра Валадковіча ў бок Трабаў, маёра Малькоўскага (500 чал.) пад Багданава і 60 чал. Корсака пад Мікалаева. З-пад Здзяцела і Дварца на дапамогу Ясінскаму пацяклі дробныя атрады шляхты з рэкрутамі. Тым часам, Бенігсен даведаўся пра скапленне пад Ашмянамі 4000 шляхты з сялянамі-пікінерамі пры 300 конніках Міхаіла Катла. 15 мая Бенігсен выступіў з 3—3,5 тыс. войска з Вішнева, збіў на хаду пад Багданавым атрад Малькоўскага і адным маршам уварваўся ў Ашмяны. 206 палонных сялян ён

распусціў па хатах пад клятвай, што яны «впредь своих господ слушать и в злодейское участие вступать не будут». Ён выступіў 21 мая на Ліпнішкі. Пакінутая ім ахова Ашмян хутка была разбіта.[59]

Баючыся, што Бенгісен зойдзе яму у тыл, Ясінскі 27 мая адвеў свае сілы ў Гаўе (4 км ад Ліпнішак). За 2 мілі да Ліпнішак Бенігсену «явилось с кучею безчисленной черни (каля 5 тыс. касінераў) великое войско». Ён не пабаяўся, з ходу пачаў кананаду, «потом скорыми шагами спустился к переправе, счастливо перешел лес по оградам и выстроил свои силы в две колонны». Праціўнік сустрэў яго таксама кананадай і «то останавливался, то подавался назад. Я, приметя на отступление их конницы..., ударил на их левое крыло, которое при малом сопротивлении опрокинуто с потерею на месте около 200 чел... Потом обрушилось все скопище в бегство.., чернь спряталась в лес, а войски.., ретируясь.. до речки Кропишок.., зажегжи мост, разсыпались также по лесам». Ясінскі адышоў у Дварышча.[60] Якраз пад час гэтай бойкі Ц. Туталмін выслаў 1,3—1,4 тыс. ратнікаў П. Цыцыянава разарыць Слонім. А. Хлявінскі стаяў пад мястэчкам Мыта і дарэмна чакаў падыходу Ф. Сапегі. Цыцыянаў з лёгкасцю разбіваў «мятежнические отряды, но оные, нигде не держася, отступали к главному стану при Слониме». Цыцыянау зрабіў падманны манеўр, што ідзе на Палонку, аднак рушыў на р. Шчару. Пакуль ён наводзіў пераправу, Ф. Сапега 31 мая кінуў Слонім і праз Зельву—Ваўкавыск адступіў у Мсцібаў. Цыцыянаў заняў Слонім без перашкоды,[61] што выклікала ў Вільна чарговую хвалю абурэння.

Гэтыя поспехі схілілі М. Рэпніна да наступальных аперацый. Туталмін жа па-ранейшаму трымаў войскі для аховы мяжы Мінскай губерні, палохаў вярхі сувязямі Вільні з валадарамі фальваркаў Чанін, Тараск, Лучыцы,

Шлішаўшчына, Усвяды, мястэчка Чашнікі, «где многое число находится в собрании бунтующих шляхты и разного звания людей». Ён пісаў, што паражэнні паўстанцаў не ліквідавалі «страх приверженных к стороне нашей», а з-за выхаду войск Цыцыянава, народ «ропщет, волнуется.., не платит податей и не уважает повелений». Для доказу ён прывёў напад 4 чэрвеня Яна Зянковіча з 30 стралкамі на секвестраваныя ў брата Ваўкалаты, дзе забіў 7 і захапіў 20 рускіх салдат. Туталмін паведаміў, што мінская шляхта сакрэтна сабралася ў Свір на нараду, што ў Паставах штодня чакаюць «бунтующих из-за границы поляков», што «мужики открыто говорят, что производится в их селах помещиками записка людей в рекруты для отсылки их под Вильну».[62] Шляхціц Юзаф Адамовіч даносіў яму, што «польские жолнеры разъезжают по селениям, требуют лошадей на службу, устращивая виселицами тем, кто вскоре того не исполнят, берут под стражу и отправляют в Вилну, кто хотя малую оказывает к нам привязанность». Капітан Глякаў трывожыў весткамі аб узбронных прыгатаваннях каля Мазыра, што Ю. Несялоўскі загадаў утварыць у Слуцку канфедэрацыю, а паблізу мястэчка Нобеля «в деревнях мужики уже вооружены».[63]

Туталмін раіў распыліць эскадроны для аховы ўездных гарадоў. Рэпнін раіў не даваць чуткам, на якія «поляки мастера» і рэкамендаваў «поляков везде гонять и бить в их собственных границах, почему внутри наших проделов все взбаламочныя головы, не имея надежды от литовских бунтовщиков действительную помощь получить, не посмеют ничего предпринять. Сообщение же известий (універсалаў – Я.А.) из-за границы никаким кордоном прервать нельзя на пространстве 400 верст, когда язык и одежда и самой народ одна как в Литве, так и у нас, тем паче, что там крестьяне более на стороне нашей, нежели

на мятежнической».[64] Намеры Туталміна ён лічыў шкоднымі, бо «раздробленые отряды все без уважения у обывателей будут и как овцы перерезаны быть могут». У выніку праціўнік стане без перашкод трывожыць межы імперыі.

Рэпнін даверыў войскі «осмотрительному, искусному и усердному» генералу Багдану Кнорынгу і даручыў таму 29 мая скіравацца ў бок Ліды, Ашмян або Браслава, каб «приводить в страх Вильну, как главное гнездо бунтовщиков, и ежели бы божиею милостию удалось их оттоль выманить и где крепко поразить сильную часть оных, тоже и регулярные войски, то, пользуясь победою, и на действительное поражение сего изменническаго города.. с осмотрительностию можете обратиться». На гэты момант (6—10 чэрвеня) Б. Кнорынг распараджаўся каля 3813 пяхоты і 811 коннікаў з усіх 22 тыс. ратнікаў па штатах канца 1793–пачатку 1794 гг.[65] Рэпнін выслаў Туталміну на нарыхтоўку гэтай моцы 100 тыс. руб. асігнацыямі і 30 тыс. срэбрам. Аднак Туталмін адказаў, што закупіць патрэбныя 57 тыс. чвэрцяў мукі, 5343 круп і 13 тыс. аўса немагчыма з-за неураджаю, голаду ў Мінскай губерні і паколькі пры размене на месцах 100-рублёвую купюру бяруць за 66 руб., з чаго казна страчвае т.зв. лажу амаль 30 %.[66] Голад вымушаў, такім чынам, паскорыць расправу над паўстанцамі, каб скараціць цяжар прымусовага пабору акупацыйных войск.

Ордэрам ад 12 чэрвеня Рэпнін загадаў Кнорынгу захапіць Вільню, спагнаць кантрыбуцыю, разброіць жыхароў, забраць або знішчыць усе хлебныя запасы, «все универсалы и всякия возмутительныя печатныя и письменныя... бумаги тако ж совершенно истребить, начальников же их разсеивающих, с собою забрать». Затым Кнорынг, настрашыўшы «сим поиском всю Литву»,

меўся вярнуцца і асцерагацца паўторнага паходу, бо казаў Рэпнін, «всякая неудача для нас будет решительно вредна, не имея чем исправить по малочисленности еще наличных войск».[67]

Віленскае кіраўніцтва ў сваю чаргу запланавала дыверсійныя рэйды на акупіраваную тэрыторыю, каб «як мага больш рэпрэсалій учыніць здраднікам правоў божых, людскасці і народаў». 1 чэрвеня Ясінскі разаслаў універсал, якім заклікаў да неадкладнага ўзброенага паўстання на месцах, даручыў павятовым генерал-маёрам сабраць 800-конныя атрады, а ротмістрам – 100-конныя. Ад апалчэння вызваляліся суддзі, парадкавыя камісары і фізічна няздольныя асобы, якія меліся паставіць за сябе заступнікаў або намеснікаў. За няяўку ў апалчэнне шляхце гразілі судом, канфіскацыяй маёмасці і раздачай яе «усім ахвочым да абароны Айчыны, на карысць.. выратавальнікаў». 4 чэрвеня Ясінскі загадаў зямянскім генералам напасці на акупіраваныя землі «пад страхам пакарання... і даносіць на тых, хто не слухае».[68] Касцюшка ўхваліў гэты план і загадаў 10 чэрвеня накіраваць на маўклівыя землі рэгулярныя сілы з далучэннем да іх апалчэнцаў. Пры тым мелася абвяшчаць паланецкі універсал. Адзін з аператыўных планаў зводзіўся да таго, што М.К. Агінскі з 1400 чал. браўся наступаць праз Івянец на Нясвіж, выдзеліўшы 150 чал. на дапамогу 1450 кавалерыстам М. Ахматовіча, які наступаў з-пад Зельвы на Пінск і Слуцк. Член рады Алаіз Сулістроўскі разам з Ясінскім і Грабоўскім на чале 4 палкоў пяхоты і 550 кавалерыі браўся авалодаць Мінскам. Імпульсіўны запал быў такі, што палкоўнік Дядзерка хацеў ісці без каманды з разліку, што, хто не падтрымае яго на шляху,той «будзе павешаны, а маёнткі яго адбяруцца на рэспубліку».[69]

Хутка сабраць 69 валанцёраў і 1 тыс. верінікаў удалося толькі гродзенскаму генералу К. Ельскаму. Ясінскі 18

чэрвеня прыспешваў браслаўскага генерала Казіміра Беліковіча напасці на «маскоўскі край.. хаця б пешымі і босымі людзьмі – там яны знойдуць зброю і коней». Відаць з-за прымусу у Паставах 16 чэрвеня ўспыхнуў бунт – там паставілі 2 шыбеніцы незадаволеным.[70] 4 чэрвеня Ясінскі даручыў М.К. Агінскаму весці 480 ахвотнікаў у Мінскае ваяводства, каб там «любым спосабам сабраць узброеную сілу».[71] Прымусовай мабілізацыі падлягалі ўсе рэсурсы. 8—14 чэрвеня парадкавым камісіям загадалі апісаць маёмасць ва ўсіх уладаннях пад страхам смерці іх гаспадароў. Дзяржаўных сялян і яўрэяў прымусілі аддаць увесь гадавы падатак. Уводзілася рэкруцкая чарга.[72]

Хуткай рэакцыяй на рэкруцкі набор сталі чарговыя хвалі рабаўніцтва і наездаў. З 6 млн. зл. у скарбе паўстання толькі 5 % складалі добраахвотныя пазыкі, бо даходы баяліся дэклараваць з-за боязі тых жа рабункаў. Гродзенская камісія 4 ліпеня паспяшалася распрацаваць узорны праект найму, які даваў сялянам адзін выхадны з 6 дзён паншчыны. У Вільні тут жа загадалі ўсіх жабракоў і яўрэяў здаваць на прымусовую працу на фальварках або тым, хто «аб лайдаках данясе».[73] У адказ на прымус кобрынская камісія 25 ліпеня заявіла, што сяляне «з нянавісці да сваіх паноў і ўсякай вышэйшай улады, часта падбухтораныя непрыяцелем лёгка паверылі падманлівым заявам аб тым, што нічога для сваіх паноў не павінны рабіць, што ў выпадку патрабавання таго ад іх, парвацца могуць на тую уставу і распаўсюджаныя ўніверсалы».[74] Мабілізацыю на месцах прыраўнавалі да правакацыі ворага, да падбухторвання сялян на бунт супраць паноў і няцяжка ўявіць, куды схіліліся іх сімпатыі: расійскія генералы якраз заклікалі сялян слухацца валадароў і сядзець ціха.

6 чэрвеня М. Агінскі вывеў з Вільні 300 вольных стралкоў з 200 вершнікамі і праз Баруны-Валожын 15

чэрвеня ўвайшоў у пусты Івянец на чале ўжо 600 стралкоў і 1 тыс. кавалерыі. Тут ён зачытаў уласны зварот да Мінскага ваяводства, дзе гаварыў, што пасланы ўзняць прыгнечаных на паўстанне «ў падтрымку непераможнага польскага войска, ад якога заўжды бяжыць непрыяцель». Ён абвясціў універсал рады да расійскіх салдат, дзе гаварыў, што «няшчадная помста польскай арміі і жыхароў польскай зямлі» скіравана выключна супраць зверападобных афіцэраў. Ён раздаў 6 скруткаў розных маніфестаў і спрытна выслізнуў з мястэчка, ледзь толькі даведаўся аб набліжэнні з-пад Гальшан 1,3 тыс. ратнікаў Л. Бенігсена.[75] Агінскі праскочыў Сакаўшчыну і 17 чэрвеня спыніўся ў Вішневе. Бенігсен за паўгадзіны пабудаваў пераправу і кінуў галопам 400 гусар, якія рассыпалі вольных стралкоў па лесе. Раніцой 18 чэрвеня адбыўся 3-гадзінны бой: граф Мікалай Зубаў пад заслонай гарматнай кананады ударыў у штыкі, палажыў на полі больш 200 стралкоў, захапіў 100 вазоў з 40 тыс. боезарадаў.[76] Агінскі выратаваўся ўцёкам. Яго потым спынілі ў Гродне і там ледзь не павесілі за падазроны паратунак. Ён выправіўся да Касцюшкі, які выказаў яму адну падзяку.

14 чэрвеня Б. Кнорынг выправіў 2,1—2,4 тыс. штыкоў пад камандай генерал-маёра Мікалая Ланскога супраць брыгады Юзафа Ваўрэцкага, які стаяў у в. Навасёлкі (10 км ад Баруноў). Пасля 4 гадзін націску Ваўрэцкі адступіў у в. Капцэвічы, дзе на наступны дзень быў пабіты. Па словах Кнорынга, абаронцы «отчаянно дрались и безоружными бросались на егерей, не щадили живота своего, не хотели живыми отдатся и умирали на штыках». 19 чэрвеня Кнорынг заняў Ашмяны, а Зубаў без перашкод дасягнуў Меднікаў. Перад ім адкрыўся прамы шлях на Вільню. Тым часам злучэнне генерала Івана Германа

выцесніла браслаўскую міліцыю ў Таўрагішкі, а 3 эскадроны драгун і батальён грэнадзёраў 24 чэрвеня выкінулі з Паставаў атрад Яна Зяньковіча, які страціў тут 300 чал. з 3-тысячнага апалчэння.[77]

Каб замкнуць блакаду Вільні з поўдня, Кнорынг 21 чэрвеня выправіў эскадрон драгун і 120 егераў пад Ліду разбіць там апалчэнне генерала Яна Якуба Меена (каля 1500 чал.), сабранага «большею частию из окольного шляхетства, которые, быв против воли их из деревень вырваны страхом, каковой наводят им угрожая виселицами». Нападаўшыя з поспехам справіліся з задачай, паграбілі Тракелі, Дварышча і вярнуліся. Ясінскі скарыстаў гэты рэйд, каб разбіць корпус (3,5 тыс.чал.) М. Зубава, стаяўшага ў Солах. Новы галоўнакамандуючы Міхаіл Вяльгорскі даў яму ад 4800 да 5500 чал. і забяспечыў загадам сурова караць уцёкі. Ён абяцаў каня кожнаму, «хто ўцякаючаму таварышу стрэліць у лоб». Нягледзячы на тое, бой пад Соламі 25—26 чэрвеня завяршыўся стратай 1 тыс. жаўнераў Ясінскага, які пасля гэтага цалкам здаў каманду і адбыў у Польшу.[78] Вільня аказалася пасля Солаў практычна неабароненай і там успыхнулі «тлумы» супраць бяздарных палкаводцаў «і ўсіх, хто насіў мундзіры». Там зноў пачалося пераапрананне. Ведаючы гэта, Рэпнін загадаў Кнорынгу «быстро и живо» наступаць на сталіцу.[79]

Разам з тым Рэпнін лічыў немагчымым спрытна варочаць палкамі, бо «во всей Литве вся земля походит на пустыню,.. обыватели все разбеглись по лесам, держась там или вооруженными или от страха», так што салдаты вымушаны самі жаць і малаціць жыта. Туталмін таксама пісаў 8 ліпеня, што, «невзирая на недостатки в пропитании и в военной амуниции, на несогласие первенствующих возмутителей, на неопытность командующих мятежническими

толпами и, наконец, на принуждение и неохоту, с каковой особенно поселяне берутся за оружие, бунт в Литве» не згасае. Аднак ён адкрыта заявіў, што «большая часть шляхетства и поселян почти все вообще вооружаются ныне из страха казни» не аднымі паўстанцамі. Ён гаварыў і пра рабункі расійскіх салдат, «раздражающего противу нас и благомыслящих людей и самую чернь, которая доныне всегда была к нам привязана».[80] Тым не меней, ваяўнічыя настроі ў Пецярбургу падмацавалі весткі аб падыходзе прускай арміі да Варшавы, якая разам з баронам Іванам Ферзенам узяла сталіцу 13 ліпеня ў аблогу.

Даўно чаканы Рэпніным 14-тысячны корпус генерал-паручніка Ота Вільгельма Дэрфельдзна 5 ліпеня заняў Брэст, прагнаўшы пад Чарнаўчыцы 700 чал. брэсцкай міліцыі, і затым рушыўшы на Слонім праз Ружаны. Ведаючы гэта, Б. Кнорынг 19 ліпеня распачаў першы штурм Вільні, пад час якога абаронцы страцілі 1200 забітымі і 271 параненымі. У той жа дзень палкоўнік, князь Дзмітры Валконскі, наступаючы з Паставаў на Свянцяны, наткнуўся пад мястэчкам Камай на 2-тысячнае апалчэнне Я. Зянковіча. Маючы толькі 4 эскадроны гусараў і драгун, Валконскі скінуў апалчэнцаў і прагнаў іх у Пашэмуны.[81] Уласна пасля гэтага апошнія паўстанцкія пастарункі засталіся пад Гродна і Слонімам, куды наўздагон за Дэрфельдэнам 15 ліпеня з Высокага Т. Касцюшка выправіў корпус генерала-маёра Карла Серакоўскага (4584 чал.).

29 ліпеня К. Серакоўскі злучыўся з 6-тысячным корпусам А.Хлявінскага пад Зельвай і выправіўся разам з ім на 12-тысячнае злучэнне пад камандай генерал-маёра Барыса Ласі, якое Дэрфельдэн пакінуў у в. Казлоўшчына (25 км. ад Слоніма). Дэрфельдэн вымушаны быў спыніць

свой марш у бок Вільні і адначасова загадаў брату фаварыта Валерыю Зубаву адправіць 1,5 тыс. ратнікаў супраць злучэння Серакоўскага. Каля карчмы Выгада Зубаў сустрэў 400 коннікаў і каля 2400 касінераў. Перакалоўшы да 300 чал., Зубаў распусціў 207 палонных па хатах і спешна пайшоў на Слонім, дзе 1 жніўня 11 тыс. пяхоты і 18 эскадронаў Серакоўскага атакавалі ўжо Д. Ласі ў в. Парэчча (5 км ад Слоніма).[82] 5 жніўня пад Слонім вярнуўся увесь корпус Дэрфельдэна, які атакай праз фальварак Сапежына авалодаў горадам. 7 ліпеня частка паўстанцаў адышла ў Ражанку і Зельву, а сам Серакоўскі праз Ружаны-Бярозу адступіў у Ціраспаль пад Брэстам. 6 жніўня авангард Дэрфельдэна выцесніў дазор А. Хлявінскага пад в. Ганкаў і адтуль рушыў на Бераставіцу.

12 жніўня Б. Кнорынг канчаткова захапіў Вільню, адкуль цэнтральная дэпутацыя ВКЛ перабралася ў Гродна. Каб адцягнуць карнікаў з-пад Вільні і прымусіць іх падзяліць сілы, паўстанцкае кіраўніцтва ізноў спланавала два дыверсійныя рэйды. Адзін з іх 10 жніўня ў напрамку Дынабурга на чале 50 вершнікаў распачаў М.К. Агінскі. Па дарозе ён злучыўся з апалчэннем Завілейскага павета (генерал Ксаверы Зянковіч), Браслаўскага (генерал Вінцэнт Беліковіч) і Вількамірскага (генерал Юзаф Марыконі). У Свянцянах Агінскі разаслаў у Забор'е, Дусяты, Язеры, Тултышкі, Усполле і Рымшаны ротмістраў для разведкі і збору рэкрутаў. Пасланы пад Відзу В. Беліковіч уцёк адтуль з 110 стралкамі і 350 пікінерамі, ледзь толькі даведаўся аб набліжэнні 1200 чал. рускай калоны. Ён адмовіўся рассылаць свае кволыя сілы «для палення і рабункаў» перад праціўнікам. 19 членаў завілейскай парадкавай камісіі пад старшынствам Каэтана Завішы ўцяклі ў Каўтуны, а браслаўская камісія пад

старшынствам Юзафа Чарноцкага соўвалася з месца на месца і сама маліла Агінскага аб ахове. У Завілейскім павеце ўдалося сабраць 120 рэкрутаў, прычым хворых і без зброі. Браслаўская шляхта выказвала «нечуваны запал», але ўпарта не садзілася на коней і не прысылала заступнікаў.

10 жніўня Агінскі прыбыў з 500 вершнікамі пад Дынабург і выслаў да каменданта гарнізона (ўсяго 100 інвалідаў) ультыматум з патрабаваннам прысягнуць на вернасць «польскаму народу».[83] Камендант замарудзіў, Агінскаму удалося толькі падпаліць месца і 18 жніўня зняць блакаду пасля вестак аб падзенні Вільна.

Другі рэйд 15 жніўня з-пад Аран на чале 1800—2000 чал. распачаў палкоўнік Стэфан Грабоўскі. Ён амаль без перашкод праскочыў Іўе—Івянец—Ракаў—Койданава—Самахвалавічы—Пухавічы—Лапічы—Свіслач—Бабруйск, дзе спыніўся 30 жніўня на нараду ў таварыстве «простай шляхты, апранутай у сярмягі, гатовай памерці або перамагчы».[84] Гэты рэйд нарабіў вялікай панікі сярод рускіх генералаў. Рэпнін казаў, што сяляне ўслед за Грабоўскім завальвалі дарогі, псавалі масты і гаці. Сам Грабоўскі потым скажа, што на ўсім шляху паны-шляхта яго «ласкава прымалі, але дапамогі не давалі».[85] Палічыўшы ў Грабоўскага 3 тыс.чал., Рэпнін кінуў удагон яму з некалькіх напрамкаў атрады, адвёўшы рашаючую ролю П. Цыцыянаву з корпусам у 2893 салдат. Пасля Бабруйска Грабоўскі павярнуў на Глуск, дзе яго 1 верасня дагнаў прэм'ер-маёр Барклай дэ Толі з эскадронам і ротай грэнадзёраў. Пры пераправе на любанскі шлях Грабоўскі страціў 100 забітых, спаліў мост і спыніўся ў в. Ерамеевічы пад Любанню. Тут яго 4 верасня дагнаў Цыцыянаў з 6 эскадронамі, батальёнам грэнадзёраў і 4 гарматамі. Ён з ходу кінуў у атаку пяхоту, якая некалькі кіламетраў бегла

за кавалерыяй так хутка, што Грабоўскі не паспеў пераправіць частку сіл на другі бераг р. Арэсы і адказаць гарматамі, якія ў яго былі без калёс і лафетаў. Грабоўскі страціў 400 забітымі, здаўся ў палон, а рэшткі (136 жаўнераў) 14 верасня былі разбброены пад в. Выганішчы.[86]

Занепакоеная гэтымі здарэннямі Кацярына II адначасова даведалася пра нечаканы адыход з-пад Варшавы прускіх сіл і сваркі вакол таго, хто з саюзнікаў будзе браць сталіцу. 8 верасня яна выправіла з-пад Нямірава 11 тыс. армію А. Суворава, якому загадала прайсці праз Брэст і авалодаць Варшавай, каб дыктаваць у наступным расійскія ўмовы будучага падзелу Рэчы Паспалітай. За 16 дзён Сувораў прайшоў 560 вёрст і 14 верасня ягоны авангард (50 казакоў) натрапіў пад мястэчкам Дзівіна на 500 чал. паўстанцаў. На наступны дзень Сувораў сустрэў яшчэ 400 чал. кобрынскай міліцыі пад Кобрынам на чале з К. Рушчыцам. Апошні не вытрымаў бою і з 50 вершнікамі ўцёк у Брэст. Сувораў заняў Кобрын і заняўся аглядам дыспазіцыі.

Звесткі аб апошніх сілах літоўскага паўстання былі няпэўныя. Па адных даных пад Брэстам іх стаяла 13000 кавалерыі і 3500 пяхоты, пад Гродна – 8000 кавалерыі і 4000 амаль адных касінераў з 16 гарматамі. Палонныя потым пакажуць, што пад Гродна паміж 15—20 верасня сабралася 7900 кавалерыі і 3000 пяхоты, прычым сярод апошняй было 2600 касінераў, а палову коннікаў складалі пікінеры. Гэта значыць, прыкладна 24 % літоўскага войска напаўнялася касінерамі з сялян, шляхты і мяшчан.[87] Рэпнін ацэньваў падобныя звесткі фальсіфікаванай дэзінфармацыяй, бо гаварыў так: «поляков всегда должно почитать в 5 или вообще в 10 раз менее, нежели они о себе разглашают, а притом десятая часть только войска, а протчее все сволочь, которая от первого пушечного

выстрела разбежится».[88] Гэтая ацэнка досыць праўдзівая, бо, паводле раскладу штаба самога К. Серакоўскага, ён у канцы жніўня (18—28) меў пад Брэстам 5932 чал.[89]

К. Серакоўскі вывеў 3500 ратнікаў з-пад Брэста і 17 верасня акапаўся пад Крупчыцамі. У гэты ж дзень туды падышоў А. Сувораў і адразу сустрэў арганізаваны гарматны адпор. Сувораў пабудаваў 3 маршавыя калоны, кожную з 2 узводаў, паставіўшы паміж імі артылерыю. 19 верасня адбыўся 8-гадзінны бой. Урэшце рэшт левае крыло паўстанцаў было змята, а іх заднія рады «дорубили и докололи» гусары. Сам Сувораў пісаў: «терпя храбро поражение холодным оружием... едва спаслись от неволи 500 человек. Я потерял 2 гаубицы, 26 пушек. Пленных мало и слышу несколько сот. Поле покрыто убитыми телами свыше 15 верст.. Генерал-поручик (*Пётр* — **Я.А.**) Потемкин был всеместный директор атак.. Сему произшествию и я почти в невероятии. Мы очень устали». Потым ён дадаў, што распусціў па хатах 365 радавых паўстанцаў.[90]

Знясіленага Суворава замяніў Дэрфельдэн, які 30 верасня выправіўся на Гродна праз Бераставіцу. Пад мястэчкам Галынка ён атакаваў абоз А Хлявінскага, які меў 4000 пяхоты і 400 кавалерыі, 1 кастрычніка дайшоў да Гродна, дзе стаяла каля 4000 рэгулярнай кавалерыі. За суткі да гэтага з мястэчка Крынкі ўцякло яшчэ 1500 татарскіх уланаў. 30 верасня М. Зубаў дагнаў пад мястэчкам Саколка 2000 кавалерыстаў пад камандай Т. Ваўрэцкага і Р. Гедройца. 3 кастрычніка Дэрфельдэн паспяхова заняў Гродна. Рэпнін адпісаў Кацярыне II, што «теперь нужно сберегать и успокаивать землю, дав ей чувствовать, что ей лутче быть под властью вашего императорского величества, нежели под развратным управлением мятежнического правительства». 9 кастрычніка князь Сяргей Галіцын апанаваў Жмуддзю і вывеў сваю

дывізію на старапрускую мяжу. 28 снежня Рэпніну прысягнулі сабраныя 2500 дваран, духавенства і мяшчан Гродна. Напачатку студзеня 1795 г. ён зноў паведамляе, што «вся Литва с радостию приносит присягу на верное повиновение».[91] На заспакаенне ВКЛ ён пакінуў 11 тыс. ратнікаў, а астатніх выправіў на пакарэнне Польшы.

Пэўнае ўяўленне аб выніках ваеннай кампаніі 1794 г. у межах сучаснай Беларусі дае табл. 14, выкананая на падставе рапартоў расійскіх генералаў.

Як вынікае з яе, у 31 буйной і дробнай сутычцы паўстанцы страцілі 11500 чал., з якіх 67 % было забіта. А гэта значыць, што загінула амаль уся армія, якая з першапачатковага складу у 11 тыс. чал, узрасла за час паўстання да 30—31 тыс. ратнікаў за кошт ахвотнікаў і прымусовага набору рэкрутаў. Але і яна страціла 21 % сваіх змагароў пры тым, што ім супрацьстаяла каля 22 тыс .расійскіх штыкоў, зусім не запаленых вольналюбівым духам. Каля 7—8 тыс. беларусаў сялян, мяшчан і шляхты загінула ў антырускім запале з надзеі атрымаць незалежнасць і ўласную волю або пад час гэтай сечы або пасля перамогі.

Простаму люду пры гэтым адводзілася роля самаахвярнага гарматнага мяса, да якога паўстанцкія маніфесты абавязкова звярталіся на польскай мове, з заклікам дапамагчы рэгулярнаму войску вызваліць польскую зямлю. Паўстанне не мела асаблівасцяў нацыянальна-беларускага вызвалення, бо яно планавалася і здзяйснялася як супольны рух правінцый Кароны і ВКЛ. У самасвядомасці ўдзельнікаў ён быў рухам літоўскай правінцыі ў межах адзінай рэспублікі без спроб прызнання, абвяшчэння ці заваявання дзяржаўнай самастойнасці ВКЛ.

Паўстанне ажыццяўлялася ў мэтах працягу рэформ Вялікага сейма і ў духу канстытуцыі 3 мая 1791 г., пры няяснасці тэрмінаў, характара пераўтварэнняў і іх

*Табліца 14*

***Страты ваюючых бакоў пад час паўстання 1794 г. у ВКЛ***

| Дата і месца сутычкі | Страты чалавек | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Паўстанцаў | | Расейцаў | | |
| | забіта | ранена | палонена | забіта | ранена |
| 7 мая Паляны | 500 | | 34 | 174 | 326 |
| 21 мая Браслаў | 100 | | 12 | | |
| 25 мая Новая Мыш | 15 | | 2 | | |
| 25 мая Багданаў | 52 | | 15 | 2 | 2 |
| 27 мая Іўе | 34 | | 5 | | |
| 27 мая Ліпнішкі | 200 | | 33 | 1 | 11 |
| 30 мая Трабы | 60 | | 15 | 2 | 2 |
| 31 мая Ашмяны | 150 | | 206 | 5 | |
| 4–8 чэрвеня Ваўкалаты | 20 | | 15 | 7 | 20 |
| 18 чэрвеня Капцэвічы | 150 | | 44 | 11 | 21 |
| 19 чэрвеня Баруны | 213 | | 19 | 8 | 3 |
| 19 чэрвеня Вішнева | 200 | | 32 | 30 | |
| 23 чэрвеня Кабыльнікі | 300 | | 73 | | |
| 24 чэрвеня Паставы | 300 | | | | |
| 26 чэрвеня Солы | 1000 | 500 | 206 | 60 | |
| 5 ліпеня Чарнаўчыцы | 100 | | 53 | | |
| 6 ліпеня Ліда | 325 | | 107 | | |
| 19 ліпеня Камай | | 89 | | 8 | 9 |
| 31 ліпеня Выгода | 300 | | 207 | | |
| 1 жніўня Парэчча | | 8 | 18 | 1 | 137 |
| 2 жніўня Сапежына | 27 | 34 | | | |
| 6 жніўня Ганкаў | 15 | | | 1 | 3 |
| 24 жніўня Рубяжэвічы | 80 | 3 | | | |
| 1 верасня Глуск | 100 | 150 | | 1 | 6 |
| 4 верасня Ерамеевічы | 400 | | 1014 | 3 | 33 |
| 14 верасня Выгонішчы | | | 136 | | |
| 14 верасня Дзівіна | 200 | 15 | | 1 | 3 |
| 15 верасня Кобрын | 200 | 86 | | | 2 |
| 17 верасня Крупчыцы | 2204 | | 365 | 55 | 236 |
| 30 верасня Гальнка | | | 5 | | |
| 30 верасня Бераставіца | 304 | 167 | | | |
| 30 верасня Саколка | 150 | 72 | | | |
| | **7699** | **1124** | **2616** | **370** | **814** |

легітымнасці. Віленскай радзе на ўдалося аб'яднаць пад сваёй уладай уласную тэрыторыю. Таму яна не зрабілася прадстаўнічым сходам вызваленых зямель, што дазваляла б ёй самастойна праводзіць пераўтваральныя акцыі сацыяльнага значэння. Паўстанне рыхтавалі, а затым яўна або скрытна ім кіравалі магнацкія колы. Яны дапусцілі да часовага кіравання найбольш рашучых якабінцаў для захавання свайго панавання, каб кантраляваць падзеі і не дапусціць непажаданых перамен. Сродкам самазахвання стала дэманстрацыя тэрору.

Першым актам такога запужвання стала павешанне Ш. Касакоўскага. Гэтай шыбеніцай радыкалы практычна прадэманстравалі свой парыў да сацыяльнай роўнасці і менавіта гэтым актам заявілі раней Кароны аб сваім радыкалізме. Перад пагрозай стыхіі шляхецкай міжусобіцы віленская рада адмовілася ад пераследу таргавічан, каб не рабіцца адказнай за гібель знаці і саслоўных прэрагатыў шляхецтва ў цэлым. У далейшым яна прымяняла прымус дзеля скарэння праціўнікаў і ўстойлівасці свайго першапачатковага іміджу сярод простанароддзя.

У гэтым ваганні паміж крайнасцямі дамінавалі ахоўна-кансерватыўныя, а не радыкальныя матывы. Доказам гэтага стаў сабатаж самімі выканаўчымі органамі паўстання мабілізацыйных планаў і паланецкага ўніверсала Касцюшкі. Гэтым актам Касцюшка і яго каронныя паплечнікі раней віленчукоў канкрэтна адважыліся на вызваленчыя крокі адносна сялян. Яны не сталі праграмнымі ў ходзе літоўскага паўстання і байкатаваліся і наверсе і ўнізе. Валадары прыгонных не забяспечылі ўласнае войска патрэбнымі рэкрутамі, а сама віленская рада перакрыла ўсе шляхі для свабоднага перамяшчэння добраахвотнікаў. У выніку войска камплетавалася прымусам.

Віленская рада разам з панствам вагалася паміж патрэбай агульна-грамадзянскага згуртавання з удзелам сялян і страхам перад іх стыхійным самаразняволеннем пры дапамозе расійскіх войск. Расійскія генералы адназначна агітавалі сялян слухацца паноў і не ўдзельнічаць у паўстанні. Літоўскае войска адразу выступіла рухавіком і арганізатарам агульнага апалчэння, а затым і вешчуном і праваднікам планаў паланецкага вызвалення. Гэта дазволіла віленскай радзе захаваць вобраз выратавальніка, аднак застрашэнне прымусовым разняволеннем прыгонных пад час дыверсійных рэйдаў спатыкнулася аб сцяну маўчання і абыякавасці. У выніку рэгулярнае войска пацярпела паражэнні.

Мясцовае панства таксама палохала хваля вызваленчых памкненняў сярод сялянства пасля пераможнага вяртання часова вызваленых прыгонных дамоў. Расійскія генералы таксама баяліся прасцірання вольных ідэй ва ўласныя межы і таму яны бязлітасна каралі за замах на ўладу прыгоннікаў. Расійскія генералы залілі паўстанне ў крыві і тым самым дапамаглі тым, хто спадзяваўся ўседзіць паміж двума стуллямі, хто пастаянна аглядваўся на выратавальнае дзеянне рускіх штыкоў у справе непарушнасці каставых прывілегій, хто хаваў свой саслоўны эгаізм і прагматызм пад мішурнай дэкарацыяй прыстасаванства і антырускага запалу.

Літоўскае паўстанне яскрава падцвярджае словы Т. Ваўрэцкага аб тым, што кіраўнікі паўстання згаджаліся лепш на гібель дзяржавы, чымсьці даць волю чэрні.

## § 2. Пад намесніцтвам Рэпніна

Нечаканы рэйд С. Грабоўскага ўглыб Мінскай губерні прымусіў М. Рэпніна прызнаць, што «не против армии здесь война, но против общаго народного бунта всего шляхетства и черпи, всех явно или потаенно вооруженных и которых, следственно, выгнать перед собой нельзя, а всегда они будут оставаться в спине войск, выдавая себя за спокойных обывателей, отчего всегда тыл наш будет захвачен при отдалении наших войск... Мы здесь не в России, отколь бы таковой неприятель от одних мужиков ни одного войска не вынес, естли б дерзнул туда вернуться... Союзники наши медлительно и крайне осторожно действуют, а мы, отваживаясь все вперед, себя изнуряем».[92]

Гэтая парада была пачута – на заваяванай прасторы засталося 13 палкоў,[93] а Кацярына II загадала М. Рэпніну **16 верасня 1794 г.** выканаць шэраг мерапрыемстваў, «дабы не возродилось в нем какого-либо возмущения, не давая времени ни опомниться, ни собирать, ни соединять новыя противу нас способы». У першую чаргу яна раіла утварыць вярхоўнае праўленне «из лутчих тамошних обывателей, которые бы влиянием и доверенностию от сограждан своих могли иметь власть над оными и на коих в соблюдении спокойствия более бы считать возможно было не токмо по образу мыслей, но и по естественному желанию сохранить собственность».[94] Рэпнін заняўся пошукам такіх асоб, дзеля чаго 21 кастрычніка ад імя Кацярыны II абвясціў жыхарам ВКЛ амністыю «не яко победительницы ига на покоренных оружием, но... по непоколебимому милосердию, чтоб почувствовали отраду по угнетениях, ими претерпенных». З 30 кастрычніка гэты маніфест абвяшчаўся «во всей Литве единообразно и вдруг», з

адначасовай прысягай насельнікаў на вернападданасць. Маніфест гаварыў аб вечным далучэнні іх да імперыі. У ім Кацярына II за сябе і наступнікаў абяцала не толькі свабоду веравызнанняў, «от предков.. наследованной», але недатыкальнасць уласнасці і набытых правоў кожнага стану, «кому по правам польской республики принадлежит».[95]

ВКЛ падзялялася на тры часткі – віленскую, ковенскую і гродзенскую – пад кіраваннем намесніка, якім прызначаўся М. Рэпнін. Да гродзенскай часткі адносілася Навагрудскае, Брэсцкае і частка Трокскага ваяводства, якія ў сваю чаргу разбіваліся на акругі або уезды. Кожная акруга давяралася брыгаднаму ці батальённаму камандзіру да часу назначэння камендантаў гарадоў і капітан-выпраўнікаў у уезды.

Кастрычніцкі ўказ складаў вярхоўнае літоўскае праўленне з 4 аддзяленняў (казённых, крымінальны, грамадзянскіх і эканамічных спраў). Адпаведна месцу, іх узначалілі палкоўнік Іван Фрызель, брыгадзір Іван Русанаў, надворны саветнік Мікалай Волкаў і прэм'ер-маёр Пётр Літке. У адпаведнасці з штатам губернскай рэформы 1775 г., у той жа паслядоўнасці, начальнікі аддзяленняў рабіліся віцэ-губернатарам, старшынёй палаты, дырэктарам дамаводства. Кожная частка ВКЛ пасылала ім у дапамогу аднаго двараніна або экспедытара, ведаючых мясцовыя асаблівасці, і якім далі жалаванне ў рангу саветнікаў палат. Сенат прысылаў у кожнае аддзяленне па аднаму сакратару, 3 пісцоў і архівіста. Праўленне выносіла рашэнні без сходу экспедытараў, вузкай калегіяй. Згаданы ўказ пакідаў на месцах земскія, гродскія суды, магістраты і ратушы «на древнейших их правах и судьями ими избираемыми, кои до бунта в Польше заседали порядком до конституции 3 мая в польской республике существовавшим». Гэта азначала

захаванне іх выбарнасці. Аднак указ абмежаваў іх кампетэнцыю ў крымінальных справах. Суды па апеляцыях падпарадкоўваліся літоўскаму трыбуналу, які таксама пазбаўляўся канчатковага прысуду па крымінальных працэсах, або, як гаварыў указ, «удерживая токмо одно имя, лишался несообразных древних своих преимуществ и власти».[96]

Кожны крымінальны прыгавор праглядаў Рэпнін, а справы аб злоўжываннях цывільных чыноў належала судзіць па рускіх законах і парадкам адпаведнаму губернскай установе 1775 г. Сэнс гэтай перабудовы заключаўся ў даручэнні Рэпніну «пресечь всякие злоупотребления, несправедливости, смертоубийства, истязания по делам уголовным, истребить во всей Литве пытки и смертную казнь, все напечатанные возмутительные сочинения, листы и акты», прагнаць з казённых маёнткаў падазроных упраўляючых, «удалить от всех дел людей, революционным сеймом определенных», заснаваць цэнзуру, раздаць хлеб галодным, а яго рэшткі аддаць на армію, разабраць секвестраваныя ўладанні адпаведна віны ўладальнікаў. Кацярына II раіла намесніку скараціць кола ненадзейных выгнаннем іх за мяжу або прымусіўшы іх саміх распрадаць маёнткі.[97]

Рэпнін хутка адказаў, што не ў стане хутка справіцца з неабсяжнымі даручэннямі, што асабліва знатныя паны загадзя да паўстання «сбежали куда кто мог..., что страх казни и лютости мятежников» загнаў многіх нават у Італію, што ён не здольны кіраваць аднымі штыкамі. Зараз, пісаў ён, «ваше дело обсудить в ваших кабинетах, как поступить с завоеванным». У адказ яму канцлер Аляксандр Безбародка 25 лістапада 1794 г. раіў не абапірацца на ненадзейных «русопетов», скласці вярхоўнае праўленне з рускіх генералаў пры ўдзеле самых уплывовых

асоб мясцовай знаці. Ён раіў Рэпніну прымусіць «любить российскую власть и правление особою своею», абяцаўшы непарушнасць мясцовых правоў. Такі сімбіёз Безбародка не лічыў небяспечным, бо «власть самодержавная будет в полной силе и святости с литовским статутом столько же, сколько и с уложением (Расійскай імперыі – Я.А.), ни правам, ни времени несообразным. Искать педантически единообразия было бы такая же химера, как и предполагать равенство между людьми».[98] Як відаць, канцлер не бачыў перашкод абрусіцельнай палітыцы пры злучэнні аднолькава спарахнелых кодэксаў ВКЛ і Расійскай імперыі. Аднак Рэпнін у лісце да Безбародкі ад 24 снежня трымаўся погляду, што статут ВКЛ, або літоўскае права, трэба дазволіць толькі часова, «на некоторое время». 28 снежня ён распаўсюдзіў маніфест аб «освобождении Литвы от мятежников» і распачаў шумную кампанію прысяг і маніфестацый для сведчання добраахвотнасці вечнага далучэння ВКЛ да імперыі. Усё княства падзялялася на тры часткі ў складзе 17 уездаў. У гродзенскую трапілі Гродзенскі, Ваўкавыскі, Слонімскі, Навагрудскі і Брэсцкі ўезды. 30 студзеня 1795 г. імператрыца пагадзілася прыняць вернападданую дэпутацыю. 26 студзеня 1795 г. Рэпнін паведаміў, што выбары у земскія і гродскія суды «во всей Литве тихо и порядочно кончились».[99]

Адным з першых свой адрас 27 студзеня да яго прыслала Брэсцкае ваяводства. Яно ўпаўнаважыла харунжага Б. Бухавецкага і краўчага В. Багуслаўскага падзякаваць за дазвол «вольных выборов судей согласно древним местным правам». Дэлегаты прасілі расцягнуць тэрмін прысягі, аплаціць квітанцыі за пабраны хлеб, дазволіць закупляць харч за мяжой з-за мясцовага неўраджаю, праходаў войск, пажараў, заснаваць парафіяльныя школы, стварыць асобныя суды ў

Кобрынскім і Брэсцкім уездах з-за іх велічыні, даць кожнаму вознаму суда па 150 зл., а адвакату – 300 зл.[100] Спіс вернападданай дэлегацыі М. Рэпнін склаў 10 лютага 1795 г. у складзе графа Л. Тышкевіча, вялікага кароннага маршала і падскарбія Фердынанда Масчынскага, графа, літоўскага віцэ-канцлера К.К. Плятара, літоўскага надворнага падскарбія Антона Дзяконскага, браслаўскага ваяводы Міхаіла Касакоўскага, інфлянцкага епіскапа Яна Касакоўскага, мярэцкага кашталяна А.Валовіча, віленскага каноніка Мікалая Тышкевіча, літоўскага сакратара Валерыяна Тэнгаборскага, польнага літоўскага пісара Міхаіла Касакоўскага, гродзенскага падкаморага Франца Юндзіла, літоўскага экс-краўчага Зыгмунта Грабоўскага, бярніцкага старасты М. Жынева.[101]

Кацярына ІІ азнаёмілася з гэтым спісам і нават раіла скараціць у прамове Л. Тышкевіча напышлівыя кампліменты пра «избавление литовской провинции от несчастий и гнета», паколькі вяртала да ўлады асоб, стаўшых нядаўна аб'ектам гневу і тэрору. Хутка Рэпнін адказаў, што з прамовы Тышкевіча выкінулі «некоторые выражения... путем совещаний».[102] Аб характары гэтага скарачэння можна меркаваць па наступным. Па-першае, ён прымаў прысягу ад саміх уладальнікаў, іх давераных, але за выключэннем неблаганадзейных і западозраных у паўстанні. Па-другое, хадайнікі прасілі вызваліць з-пад секвестру арыштаваныя ўладанні. Па-трэцяе, яны хацелі фарміраваць па выбарах усю вертыкаль органаў кіравання адпаведна штатаў губернскай рэформы 1775 г. Гэта вынікае з загаду Кацярыны ІІ абмежавацца ўладкаваннем штатаў праўлення і ўездных судоў да часу поўнай арганізацыі ВКЛ адпаведна расійскім законам. Нарэшце, паміж расійскімі вярхамі не было згоды адносна лёсу канфіскаваных уладанняў і шчырасці прынесеных прысяг.


МІНСКАЯ ГУБЕРНЯ
Ў 1793—1796 гг.
УМОЎНЫЯ ЗНАКІ
МЕЖЫ
ГУБЕРНСКІЯ
ПАВЯТОВЫЯ
ГУБЕРНІ, ПАСЛЯ АДДЗЯЛЕННЯ АД ЯЕ ЧАСТАК ПОЛАЦКАЙ і МАГІЛЁЎСКАЙ ГУБЕРНЯЎ ПА УКАЗУ АД 25.1.1795 Г.
ПАСЯЛЕННІ
ЦЭНТРЫ ГУБЕРНЯЎ
ЦЭНТРЫ ПАВЕТАЎ
ІНШЫЯ
ПОЛАЦК
ВІЦЕБСК
МІНСК
МАГІЛЁЎ
ІГУМЕН
БАРЫСАЎ
СЛУЦК
ПІНСК
МАЗЫР
РЭЧЫЦА
БАБРУЙСК
ДАВЫД-ГАРАДОК
ВІЛЕЙКА
ДЗІСНА
ЛЕПЕЛЬ
НЯСВІЖ
КЛЕЦК
СЛОНІМ
МОТАЛЬ
ЯНАЎ
ТУРАЎ
ЛЕЛЬЧЫЦЫ
ЕЛЬСК
БРАГІН
ЛОЕЎ
ХОЙНІКІ
КАЛІНКАВІЧЫ
ГЛУСК
ДАРОГІ
ГЛУША
ГРАДЗЯНКА
ЛАГОЙСК
ЖОДЗІНА
ГАРАДОК
ЗАСЛАЎ
СТАЎБЦЫ
МЯДЗЕЛ
ДОКШЫЦЫ
БЕРАЗІНО
ЧАШНІКІ
СЯННО
ОРША
ДУБРОЎНА

Калі Туталмін папрасіў Рэпніна даць спіс удзельнікаў паўстання, то той адказаў, што «тут вышла бы поголовная перепись всей Литвы», што толькі растрывожыла б край. Наменікі спрачаліся, прадаць ці вярнуць канфіскаванае? Пры продажы маёнткі «отлучных» даставаліся сумніцельным пакупнікам. Рэпнін раіў аддаць дзецям, якія не адказваюць за бацькоў, «да и разве у самих русских куска хлеба нет?». Ён трымаўся думкі, што «слаживать... здешние обряды с нашими никак нельзя». Выхад быў у раздачы маёнткаў рускай знаці, пасля чаго Рэпнін пісаў, што незадаволеныя «остались с одними кулаками».

Гэты закулісны гандаль Рэпнін характарызаваў тым, што «здешняя публика всегда всех извиняет, даже самые лутчие, противные мятежу и от него потерпевшие, то же делают по уважениям друг к другу». Прынамсі, князь К. Сапега яшчэ 30 снежня маліў аб прабачэнні і стараўся «оправдать свое поведение во время бывшего мятежа». Князь М. Радзівіл зрабіў тое ж. Рэпнін сам заступіўся за А. Дзяконскага, у якога паўстанцы адабралі табакерку, падараваную яму Кацярынай II за подпіс пад анексійным трактатам з Расіяй, пад пагрозай шыбеніцы. Апраўдваў Рэпнін і 70-гадовага Ю. Несялоўскага, які «был главнейшим орудием здешнего бунтования», але наменік «ни малейшего сомнения не имел в его всегдашней верности». Рэпнін нават адмовіўся арыштоўваць і яго сына, К. Несялоўскага. Увогуле, пісаў ён П. Зубаву, Пацэі, Сапегі, Чартарыжскія – «все усердно просят о помиловании» і зняцці секвестру.[103]

Статут ВКЛ у гэтых крывадушных заявах фігураваў таму, што ён патрабаваў канфіскоўваць маёнткі за здраду Радзіме.У рэшце рэшт, улады рашылі вярнуць 64 асобам секвестраваныя ўладанні з 300 тыс. сялянамі пад парукі надзейных асоб і пад залог спадчыннай маёмасці[104] з тым,

што пры неабходнасці іх можна лёгка адабраць назад. Гэтая зручная сістэма атрымала назву адміністрацыйнага кіравання ўладаннямі, асабліва што тычыцца пажыццёвага трымання староstваў. Адміністратарам толькі забаранілі захопліваць сялянскія надзелы пад фальваркі, здаваць сялян у наём. Гэтую сістэму пасэсары абыходзілі таксама лоўка: пашыралі фальваркі дзеля пракармлення галодных, для спраўнага ўнясення дзяржаўных падаткаў і ліквідацыі нядоімак. М. Рэпнін, як ніхто іншы, усведамляў пры тым, што «Польшу погубил необузданный произвол одних и тяжелая недоля других», што маёмасная моц знаці толькі часова падарвана і знясілена.[105]

Узаемны хаўрус Рэпнін пашырыў і на канкрэтную арганізацыю кіравання, аб чым ён абвясціў універсалам 11/22 лютага 1795 г. Усе намесніцтва ён прадугледзеў у 14 уездах, праўда аддаўшы шэраг парафій Ашмянскага павета ў Мінскую губерню. Экспедытарам вярхоўнага праўлення ён даў 600 руб. жалавання і прыраўнаваў іх да калежскіх асэсараў. Гродскія суды (3 члены) вызваляліся з-пад улады старостаў, а земскія (6 членаў) маглі выбірацца на сейміках. Аднак у іх дазвалялася сядзець толькі выбраным да 3 мая 1791 г. Апеляваць на іх пастановы дазвалялася на працягу 8 дзён з моманту рэгістрацыі дакрэта і 4 тыдняў пасля судовага рашэння, акрамя Сената, куды апеляваць дазвалялася на працягу года. Апеляцыя ў крымінальных справах не дазвалялася: уездны суд толькі паведамляў прысуд у вярхоўнае праўленне і чакаў адтуль санкцыі. Безумоўна забараняўся самасуд пры разборы спрэчак аб зямлі і маёмасці.[106]

4/15 лютага 1795 г. Рэпнін выдаў указ аб позвах, якім вылучыў у кампетэнцыю вярхоўнага праўлення справы духавенства, дзяржаўных сялян, мястэчак, скарбовай і адукацыйнай камісій. Позвы ў земскія і гродскія

замяняліся скаргамі. Гэта азначала, што ранейшы спаборніцкі працэс замяняўся іскавым, дзе канчатковай інстанцыяй рабілася вярхоўнае праўленне. За фальшывую просьбу, несправядлівую скаргу і пустую апеляцыю была кара «согласно местных прав». За іскавы бок мог хадайнічаць адвакат (плеімпатэнт). Такім шляхам намесніцкае (вярхоўнае) праўленне рабілася вышэйшай судовай інстанцыяй паралельна і незалежна ад галоўнага трыбунала. Каб не загрузіць праўленне наплывам спраў, Рэпнін увёў аднастайныя судовыя сесіі па старому (юліянскаму) календару. У земскіх судах яны прадугледжваліся тры разы на год па 6 тыдняў (з 7 студзеня па 1 чэрвеня, з 1 кастрычніка да 7 студзеня), у гродскіх – 4 разы па 4 тыдні (з 1 сакавіка да 1 мая, з 1 кастрычніка да 24 снежня). Грамадзянскі дэпартамент разглядаў працэсы 2 пасяджэннямі па 3 месяцы (у кастрычніку–лістападзе і ў сакавіку–маі).[107] Крыху пазней Рэпнін забараніў прымаць іскі на адказчыкаў, якія не мелі на месцах вызаву нерухомасці.[108] Верагодна, гэта было звязана з клопатамі ад завочных прысудаў, аб якіх не ведалі абскарджаныя асобы. Іншыя абставіны паходзяць з даўгавых прэтэнзій непрысягнуўшых уладальнікаў. Увогуле, 17 сакавіка 1796 г. з-пад дзеяння спамянутага указа былі выключаны ўсе распачатыя працэсы.[109]

Абцяжаранасць секвестраваных уладанняў значнымі даўгамі прывяла да таго, што Кацярына II 28 лютага 1795 г. даручыла Рэпніну, «доколе возможно будет, устроить княжество сие по образу наших об губерниях учреждений, ограничиваясь открытием в оном токмо нижних мест и верховного правления». 15 сакавіка яна зацвердзіла аклады чыноўнікаў і ў якасці літоўскага губернатара прыслала сапраўднага камергера, генерал-маёра Мікіту Пятровіча Паніна з жалаваннем у 3 тыс.руб.[110] Рэпнін жыў у Гродне

са світай у 153 чал., накрываў стол на 120 асоб, трымаў пры каралеўскім замку канюшню на 80 коней.[111] Начальнік гродзенскага ўезда П. Цыцыянаў здаў гарадскія юрысдыкі І. Масальскага ў арэнду магістрата, а ўзамен патрабаваў 4500 зл. на арганізацыю балю для афіцэраў. Рэпнін меў 396 тыс. руб. гадавога даходу, але з цяжкасцю дабіваўся 8786 руб. для выкупу 11 прыватных мястэчак пад уездныя цэнтры. За Слонім М. Агінскаму належала сплаціць 5061 руб., за Ліду Юзафу Сцыпіёну – 363, за Навагрудак Ё. Несялоўскаму – 48, за Ваўкавыск генерал-лейтэнанту Паўлу Грабоўскаму – 86 руб.[112] Разам гэтыя мястэчкі прыносілі толькі 14760 руб.

Вярхоўнае літоўскае праўленне было адчынена 28 чэрвеня 1795 г. у складзе казённага аддзялення (63 служачых), эканамічнага (26 чал.), крымінальнага (26) і грамадзянскага (38 чал.), кожнае з сваім столаначальнікам і экспедытарамі. Імі ў крымінальным аддзяленні былі Фердынанд Кантрым, Мамерт Пуслоўскі, Ян Сухадольскі, у грамадзянскім – Франц Мучынскі, Франц Адамовіч і Ян Сакалоўскі, у казённым – Людвік Бекке, Зянон Махвіц, Юзаф Крыцкі, у эканамічным – Валенцій Прасмыцкі, Шыман Залескі і Канстанцін Максімовіч. Канцылярскіх служачых было 15, а ваенаслужачых – 132 чал. Прысутнасць праўлення складалі сам Рэпнін, І. Русанаў, сапраўдны стацкі саветнік І. Фрызель, стацкі саветнік М. Волкаў, надворны саветнік Пракоп Багніеўскі, сакратар Антон Манькоўскі. Пры пашыранай калегіі прысутнічалі М. Панін, пракурор, калежскі саветнік Пётр Тармасаў і палкоўнік Карл Герздорф. З 3 жніўня 1795 г. праўленне падпарадкоўвалася Сенату.[113]

Выканаўчую ўладу пры трох корпусных начальніках здзяйснялі 3 сакратары, 3 перакладчыкі, 15 канцылярыстаў, 6 урачоў, 21 гараднічых з 21 сваімі служачымі. Пры

Гродна, Коўне і Вільні мелася 20 наглядальнікаў з 23 служачымі. У 21 уездзе лічылася 21 казначэяў з 21 служачым, 84 прысяжныя паверан ыя, 21 капітан-выпраўнікаў, 21 канцылярыст і 370 чал. вайсковых каманд. Увесь цывільна-ваенны штат намесніцтва дасягаў 1032 чал., якім выдавалася 109542 руб., што на 88162 руб. перавышала каштарысы Пецярбургскай губерні.[114] Як відаць, добрую палову месцаў займалі ваенныя, што сведчыць аб мілітарысцкім абліччы рэпнінскай будовы. З 430 пасад толькі 117 трымалі мясцовыя ўраджэнцы. Новы расклад сіл адразу вызначыўся празмернай цэнтралізаванасцю. 14 жніўня Сенат выслухоўваў нараканні ў тым, што праўленне загружана справамі пры наяўнасці 18 чал., ведаючых польскую і нямецкую мовы. Належных 70 перакладчыкаў давялося шукаць у суседніх губернях і маскоўскім універсітэце. 11 ліпеня І. Русанаў прызнаваў, што «корпусные начальники в качестве губернаторов, как люди военные..., неспособны к разным земским исправлениям, ибо, переменяясь по времени, не могут выполнять всего того, что.. нужно и полезно».

І. Русанаў прама гаварыў, што «звание военное может их освободить от самой зависимости» вярхоўнаму праўленню і што «вместо трех наместничеств» лепей адно, эфектыўнае.[115] Аднак і яно, гаварыў Рэпнін, не мае надзейных людзей, а «всякое дело тут 6 раз переделывается, всё путают и вообще лучше как можно скорее ввести наш образ правления, нежели настоящий, половинный, который никак слажен быть не может. Боже, – усклікаў ён у лісце 3 верасня – вынеси меня отсель. «Дайшло да таго, што ягоны сусед Ц. Туталмін настолькі знямог, што абліваў галаву адэкалонам і нюхаў яго.[116] Рэпнін адмовіўся ад падараваных яму з Пінскай эканоміі 4385 рэвізскіх душ і жадаў толькі пакою. А між тым, у жніўні 1795 г.

царыца загадала нарыхтаваць 8-месячны запас харчу (100 тыс. чвэрцяў мукі і круп) на выпадак вайны з Прусіяй. Падрадчыкі ўзнялі цэны, упраўляючыя эканомій і староставў «ни печатей, ни замков не щадили» пры раскраданні свіранаў і маёмасці, самому Рэпніну не было адбою ад жабракоў «ни в доме, ни на улице».[117]

Рэпніну давялося шукаць сродкі на ўтрыманне ў ВКЛ 11 конных і 12 пяхотных палкоў, у якіх у лістападзе састаяла 44888 чал. пры 17074 канях. Праз год, 31 мая 1796 г., тут дыслацыравалася ўжо 31 палкоў з 74684 ратнікамі пры 27635 канях.[118] Недаборы старых рэгулярных падаткаў (падымнага, чопавага, пагалоўвага, кварты, ахвяры) прымусілі Рэпніна 20 жніўня 1795 г. патрабаваць падаткі не грашыма, а хлебам у кошт падушных. Адначасовая выплата вызваляла ад падаткаў на год і 4-разовага штрафу з утрыманнем прысланых на экзекуцыю войск. Збор праводзіўся па тарыфах пад наглядам земскіх і гродскіх судоў з фальваркаў, гарадоў, шляхецкіх ваколіц, кагалаў, корчмаў. Па разліках генерала Івана Навіцкага, у ВКЛ збіралася 65274 бочкі жыта (130548 чвэрцяў), 7251 бочак круп (14502 чв.), 44876 бочак аўса (89752 чв.), што адпавядала 4786880 зл. Гадавая патрэба войск дасягала 224052 чв. жыта, 21004 круп, 251855 аўса. Ураджай даў усяго 62788 чв. жыта і 6085 чв. круп. Не хапала 161264 чв. жыта, 14919 круп, 251855 чв.аўса.[119] На закупку патрабавалаея 2,3 млн. руб. серабром і 3,5 млн. руб. асігнацыямі, пры тым што з ВКЛ збіралася 1160792 руб., з якіх падушныя складалі 980664 руб.

Рэпнін забіў трывогу і прасіў 300 тыс. руб. Суседнія губерні маглі даць толькі 60 тыс. чвэрцяў хлеба, з якіх адзін знакаміты Сямён Зорыч браўся паставіць 10 тыс., але за двайную суму. Раскватараваныя ў Польшчы войскі

А. Суворава дамагаліся 2 млн. руб. звонкай манетай і 4,8 млн. асігнацыямі. «Невероятно», – усклікнуў 30 жніўня 1795 г. генерал-пракурор Сената Аляксандр Самойлаў, калі ўбачыў, што адзін полк патрабуе 190 тыс. руб. Неверагодна таму, што толькі за 3 месяцы казна выдзеліла на выплаты памешчыкам акупіраваных зямель 270 тыс. руб., аб якіх А. Сувораў не даў справаздачы. Усе наяўныя 810 тыс. руб. звонкай манеты з бюджэту Расіі цалкам забірала замежная армія, а казна штогод плаціла 900 тыс. руб. адных працэнтаў для ліквідацыі 4 млн. знешняга доўгу. А. Самойлаў знайшоў Рэпніну толькі 200 тыс. руб. срэбрам. Атрымаўшы іх 23 студзеня 1796 г., намеснік працягваў лемантаваць, што кішэні ваенных пустыя, што «скоро не будет чем и курьера послать. Занимать же из здешних доходов уже не из чего, понеже я все их перебрал». Рэпніна здзіўлялі бяссэнсавыя траты на караля каля 20 тыс. чырв. у месяц.[120]

У рэшце рэшт, Рэпнін на пачатку лютага 1796 г. распарадзіўся закласці ў кожным уездзе запасныя хлебныя магазіны, з разліку сабраць з 19 уездаў 57 тыс. чвэрцяў. Для заснавання складоў уводзіўся шэлегавы збор (з кожнага злотага па шэлегу грошай) у памеры 52 тыс. руб. і яшчэ па 2 кап. з кожнага рубля падушных падаткаў. Памешчыкаў абавязалі самастойна звозіць хлеб і перамяняць яго зімой і летам. Запасы прадбачылася таксама павялічыць раздачай ссыпкі ўзаем. Пры няўдачы Рэпнін меркаваў прадаць збор па выгаднай цане і зноў закупіць адразу пасля жніва, калі цэны стаялі нізкія. Гэтая простая выдумка абяцала прынесці 300 тыс. руб., што дазваляла задаволіць 43 тыс. руб. на заснаванне Віленскага універсітэта, 20 тыс. на будоўлю саборнай царквы і 40 тыс. на ўладкаванне прысутных месцаў. Да таго ж, Рэпнін спадзяваўся сабраць мытныя пошліны звонкай манетай.[121]

Аднак гэтыя разлікі аказаліся хімерычнымі, бо ўжо ў сакавіку 1796 г, Рэпнін прызнаў, што мае з намесніцтва ўсяго 50 тыс. руб. даходаў і не чым разлічыцца ні з падрадчыкамі, ні з фурманшчыкамі, ні з уласным войскам. Уладальнікі скарацілі пасевы. Ад нечаканага зрыву хлебных паставак і арміі і насельніцтву пагражаў голад, не гаворачы ўжо пра паўсюдны рост цэн і нядоімкі. Рэпнін вельмі баяўся павялічвць штатныя паборы, каб не страціць даверу насельнікаў, бо гаварыў, што «земля сия ныне уже не чужестранная, но есть часть России». Ён спыніў 27 чэрвеня 1796 г. хлебную ссыпку і абавязаў унесці дзяржаўныя падаткі грашыма на працягу 4 тыдняў пад пагрозай суровай ваеннай экзекуцыі.[122]

У час эксперыменту з хлебным зборам завяршылася першая пагалоўная (падушная) рэвізія насельніцтва ВКЛ, якая павінна была стаць падставай трывалых фінансаў. 18 чэрвеня наменік падаў вынікі гэтага ўліку, адпаведна якому арганізаваў Віленскае і Слонімскае намесніцтвы ў складзе 796633 мужч. і 771560 жанч. (табл. 15).

З прыведзеных даных вынікае, што ў 5851 вёсках Слонімскай губерні сялянства складала 80 % усіх насельнікаў, а ў уездных гарадах пражывала 4,4 % рэвізскіх душ. Адной шляхты лічылася 31 тыс.чал., а ўсе незапрыгоненыя групы вольных людзей разам складалі 53 тыс. чал., або 8,7 % насельнікаў. Праваслаўныя свяшчэнаслужыцелі складалі толькі 11 % асоб духоўнага стану, а каталіцкіх і ўніяцкіх сярод яго было пароўну. Што тычыцца манаства, то, паводле даных за 20 мая 1796 г., у брэсцкай епархіі мелася 13 каталіцкіх кляштараў з 131 манахам і 39 манашкаімі. У межах Слонімскай губерні, якая ўваходзіла ў літоўскую епархію, мелася 19 уніяцкіх кляштараў з 247 манахамі і 1 праваслаўны манастыр з 6 манахамі.[123]

*Табліца 15*

***Насельніцтва Слонімскай губерні ў 1796 г.***

| У паветах | Усяго | | Двароў | У тым ліку ў гарадах | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | купцоў | | мяшчан | | рамеснікаў | | усяго | |
| | муж. | жан. | | м. | ж. | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. |
| Слонім | 38594 | 38388 | 6235 | | | 644 | 715 | 321 | 325 | 965 | 1040 |
| Навагрудак | 46888 | 47011 | 15806 | | | 1410 | 1434 | 11 | 7 | 1421 | 1441 |
| Гродна | 36120 | 35130 | 11228 | 23 | 28 | 2106 | 1964 | 502 | 482 | 2631 | 2474 |
| Ваўкавыск | 31716 | 30824 | 9284 | | | 1693 | 1732 | 128 | 124 | 1821 | 1856 |
| Ліда | 42033 | 40095 | 12652 | | | 807 | 759 | | | 807 | 759 |
| Брэст | 41875 | 39805 | 12020 | 10 | 10 | 1711 | 1840 | 459 | 394 | 2180 | 2244 |
| Кобрын | 43392 | 41333 | 12450 | | | 1301 | 1242 | 171 | 176 | 1472 | 1418 |
| Пружаны | 28066 | 26710 | 8006 | | | 2213 | 2298 | | | 2213 | 2298 |
| | **308684** | **299296** | **87681** | **33** | **38** | **11885** | **11984** | **1592** | **1508** | **13510** | **13530** |

| У паветах | шляхты | | сялян | | вольных | | яўрэяў | | іншых | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | муж. | жанч. | муж. | жанч. | муж. | жанч. | муж. | жанч. | муж. | жанч. |
| Слонім | 1121 | 991 | 34630 | 34115 | 1061 | 1033 | 1360 | 1876 | 542 | 368 |
| Навагрудак | 2202 | 2069 | 41444 | 41208 | 1575 | 1458 | 1156 | 1761 | 666 | 530 |
| Гродна | 3357 | 3345 | 27325 | 26136 | 1647 | 1567 | 2275 | 2693 | 623 | 584 |
| Ваўкавыск | 1155 | 1079 | 26887 | 25869 | 855 | 726 | 1477 | 1708 | 379 | 315 |
| Ліда | 5056 | 4753 | 33011 | 31827 | 2975 | 2633 | 2060 | 2301 | 499 | 455 |
| Брэст | 898 | 910 | 35990 | 33994 | 1610 | 1347 | 2313 | 2287 | 494 | 370 |
| Кобрын | 1332 | 1186 | 38629 | 36634 | 1144 | 938 | 1487 | 1738 | 406 | 303 |
| Пружаны | 799 | 764 | 23601 | 22097 | 969 | 771 | 1289 | 1443 | 164 | 108 |
| | **15920** | **15097** | **261517** | **251880** | **11836** | **10473** | **13417** | **15807** | **3733** | **3033** |

| У паветах | Духавенства | | | | цэркваў | манастыроў | вёсак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | каталіц. | правасл. | уніяцк. | лютэр. | | | |
| Слонім | 79 | 41 | 126 | | 50 | 11 | 699 |
| Навагрудак | 47 | 25 | 98 | 1 | 72 | 13 | 979 |
| Гродна | 107 | 53 | 39 | | 33 | 13 | 609 |
| Ваўкавыск | 50 | | 36 | 1 | 43 | 7 | 646 |
| Ліда | 87 | 6 | 22 | 2 | 37 | 10 | 1458 |
| Брэст | 95 | 35 | 95 | | 84 | 11 | 484 |
| Кобрын | 32 | | 139 | 1 | 73 | 5 | 567 |
| Пружаны | 34 | | 36 | | 31 | 1 | 409 |
| | **531** | **160** | **591** | **5** | **423** | **71** | **5851** |

*Крыніцы: РДАСА, ф. 11, спр. 968, л. 41, 50 адв.; РДГА, ф. 1341, спр. 72, л. 3; НГАБ, ф. 1730, спр. 59, л. 350; Zytkowicz L. Rządy... S. 175, 305.*

*Табліца 16*

**_Склад слонімскага губернскага праўлення_**

| Месца | Пасада | Прозвішча | Чын і званне |
|---|---|---|---|
| Пры губернатары | саветнік | Самойлавіч Захар | падпалкоўнік |
| | экспедытар | Пуслоўскі Мамерт | |
| Казённая палата | дырэктар | Скасарэўскі Ігнат | падпалкоўнік |
| | саветнік | Ховен | секунд-маёр |
| | экспедытар | Прасмыцкі Валенцій | |
| Губернскае казначэйства | асэсар | Грашэвіч Афанасій | капітан |
| | таксама | Вішнеўскі Стэфан | таксама |
| | | Высочын Дзмітрый | тытулярны саветнік |
| | | Пятроў Іван | калежскі асэсар |
| | | Данілеўскі | уездны казначэй |
| Крымінальная палата | старшыня | Нячаеў Аляксандр | падпалкоўнік |
| | саветнік | Гібнет Аляксандр | прэм'ер-маёр |
| | экспедытар | Максімовіч Канстанцін | |
| | асэсар | Стаянаў Апанас | ротмістр |
| | таксама | Штрык Максім | капітан |
| Грамадзянская палата | старшыня | Эльяшэвіч Фёдар | калежскі саветнік |
| | саветнік | Арбузаў Іван | прэм'ер-маёр |
| | экспедытар | Сакалоўскі Іван | |
| | асэсар | Дышканц Гедэон | тытулярны саветнік |
| | | Пражэўскі Дзям'ян | ротмістр |
| Губернскі пракурор | | Бурэнін Даніла | секунд-маёр |
| Губернскі стрзпчы | | Дашкевіч Міхаіл | гродскі пісар |
| Верхні земскі суд | пракурор | Троцкі Мікалай | секунд-маёр |
| | стрзпчы | Карлевіч Іван | архівіст |
| Губернскі магістрат | старшыня | Юркевіч Іван | секунд-маёр |
| | пракурор | Міхайлоўскі Ягор | таксама |
| | стрзпчы | Дышканц Сцяпан | таксама |
| Верхняя расправа | старшыня | Грыгарэўскі Аляксандр | секунд-маёр |
| | асэсары | Яўраінаў Фёдар | капітан |
| | | Кацельнікаў Васіль | таксама |
| | стрзпчы | Уманаў Сямён | пракурор у адстаўцы |
| Землямеры | | Краснін Рыгор | гарадавы сакратар |
| | | Емельянаў Павел | капітан |

*Крыніца: РДАСА, ф. 11, спр. 9б8, л. 1,3—10б.*


СЛОНІМСКАЯ ГУБЕРНЯ ( 1796 г.)
ГРОДНА
ЛІДА
НАВАГРУДАК
ВАЎКАВЫСК
СЛОНІМ
ПРУЖАНЫ
КОБРЫН
БРЭСТ
АЎГУСТАЎ
СУВАЛКІ
БЕЛАСТОК
ВАЛЫНСКАЯ ГУБЕРНЯ
НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ
паводле адміністрацыйнага значэння
Цэнтр губерні
Цэнтры паветаў
Іншыя населеныя пункты
па тыпу паселішча
ЛІДА Гарады
Камянец Мястэчкі
Жалудок Населеныя пункты сельскага тыпу
Граніцы дзяржаў у 1795 г.
Межы губерняў
Межы паветаў
Сучасныя граніцы дзяржаў



СЛОНІМСКАЕ
НАМЕСНІЦТВА
У 1796 г.
СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ
КРЭВА
ВАЛЬКЕНІКІ
БЕНЯКОНІ
ГАЛЬШАНЫ
ВАРЭНА
ЭЙШЫШКІ
ВОРАНАВА
РАДУНЬ
ТРАБЫ
ЮРАЦІШКІ
ВАЛОЖЫН
МЕРЭЧ
ІЎЕ
ЛІДА
ЗАБАЛАЦЬ
ВАСІЛІШКІ
НАРОЎЧА
АЎГУСТАЎ
ГРОДНА
АЗЁРЫ
АСТРЫНА
БЕЛІЦА
ЛЮБЧА
НАЛІБОКІ
БЯРОЗАЎКА
УСЯЛЮБ
НАВАГРУДАК
ПЯЧУЧЫН
ЖАЛУДОК
ДУБРАВА
ІНДУРА
ОРЛЯ
ДЗЯТЛАВА
КАРЭЛІЧЫ
МАСТЫ
ПАВЕЛЬНЯ
МІР
САКОЛКА
КАЗЛОЎШЧЫНА
РОСЬ
ГАРАДЗІШЧА
СВОЎ
ВАСІЛЬКАЎ
ДЗЯРЭЧЫН
БЕРАСТАВІЦА
ЗЕЛЬВА
СЛОНІМ
ВАЎКАВЫСК
БАРАНАВІЧЫ
СВІСЛАЧ
ЖЫРОВІЧЫ
ПОЛОНКА
ЗАБЛУДАЎ
ЛЯХАВІЧЫ
СІНЯЎКА
ПАРАЗАНА
ЛЯСНАЯ
МІЖЭВІЧЫ
БЕЛЬСК
ДОБРАВОЛЯ
НОВЫ ДВОР
БЫЦЕНЬ
ГАННАЎКА
КОСАВА
ЦЫГАНІЧЫ
БЕЛАВЕЖА
СМАЛЯНІЦА
ЛЮБІШЧЫЦЫ
ГАНЦАВІЧЫ
ЧАРЭМХА
ПІАРАШОВА
ПРУЖАНЫ
КАМЕНЮКІ
БЕРАЗА
ВЫГАНІШЧЫ
ХАТЫНІЧЫ
ЛІНАВА
ВЫСОКАЕ
КАМЯНЕЦ
АБРАЎ
УМОЎНЫЯ ЗНАКІ
Цэнтр намесніцтва
Цэнтры паветаў
Іншыя населеныя пункты
МЕЖЫ
Намесніцтва
Паветаў
Сучасныя
БЯЗДЗЕЖ
МОТАЛЬ
ЖАБІНКА
КОБРЫН
ГАРАДЗЕЦ
ДРАГІЧЫН
ЧАРНАЎЧЫЦЫ
БРЭСТ
ЯНАЎ
ГАНАЎЧЫЦЫ
ПРАСПАЛЬ
НАНАСЕЛКІ
ЧАРНЯНЫ
ДЗІВІН
РАДАСТАЎ
МОХРЫ
СТРАДЗІЧ
МАЛАРЫТА
МАКРАНЫ
ГОРКІ
ДАМАЧАВА
ХАЦЯНОЎ
ВЫДЗЕРТА
ЛЮБЯШОЎ
РАТНА
КАМЕНЬ
ЗАБАЛАЦЦЕ
УЛАДАВА
ШАЦК
КРЭМНА
ТАБОЛЫ
УРШУЛІН

Тады ж, 18 чэрвеня, Рэпнін прапанаваў штаты Слонімскай губерні, называючы яе адначасова намесніцтвам, адпаведна ўстанове 1775 г. Усяго на 102 чыноў ён прасіў 140493 руб. Падушны перапіс дазволіў павялічыць старыя паборы амаль удвая – з 38398 руб. срэбрам (189936 руб. асігнацыямі) да 352903 руб., хаця Рэпнін не хаваў прызнання, што ўвесь цяжар прыпадзе «совершенно на бедных» сялян, мяшчан і яўрэяў. Таму ён раіў 18 ліпеня 1796 г. зменшыць кошт адміністрацыйнага штата шляхам заняцця каралеўскіх будынкаў («поколь в Слониме строения поспеют») і залічыўшы ўладальнікам выкуп мястэчак у лік падушных падаткаў да той пары, пакуль не скончацца і іх прывілеі. Рэпнін гаварыў, што «рано... даровать» мясцоваму дваранству выбары ніжніх земскіх судоў, паколькі ў такім выпадку ўся паліцыя пяройдзе ў рукі «их собратий». Ён раіў увесці ў склад тых судоў па аднаму ваеннаму «для будто бы защищенья обывателей от всяких их притеснений, чрез что земская полиция нечувствительно найдется в руках тех депутатов и может ими строго и прилежно надзираема быть». Для паскарэння з рашэннем паперных плыняў ён раіў стварыць пры грамадзянскай палаце дэпартамент старых спраў, падобна галоўнаму трыбуналу «по правам здешним», але пад апеляцыяй Сената.[124] У склад дэпартамента ён меркаваў дапусціць 6 засядацеляў па выбары дваран, хаця І. Навіцкі ўжо 25 чэрвеня сваей уладай зацвердзіў гродзенскі земскі суд з 5 кандыдатаў.[125]

Кацярына II зацвердзіла штат Слонімскага намесніцтва 8 жніўня ў складзе 440 чыноў, даўшы ім 100 тыс. руб. утрымання – менш, чым прасіў Рэпнін.[126] Склад вярхоўнага праўлення змяніўся: зволеным яго членам былі падараваны вёскі ў якасці кампенсацыі. 8 верасня 1796 г. расклад слонімскага губернскага праўлення быў наступны (табл.16).

Гэтыя даныя паказваюць, што большасць назначэнцаў трапіла на пасады з лінейных палкоў: з усіх 33 чал. былі 4 падпалкоўнікі, 5 капітанаў, 7 маёраў, 2 ротмістры, 3 паручнікі, прапаршчык. Некаторыя паходзілі з мясцовых ураджэнцаў на расійскай службе. Рэпнін злаваўся 10 верасня на тое, што «из Белоруссии» служыць прыехала толькі двое і яму давялося запаўняць вакансіі з палкоў, якія «как козьи рога, которые в мех не лезут». Ён абураўся на назначэнцаў, якія сварацца паміж сабой на смех «поляков», але гатовы быў залічыць кандыдатам у старшыні верхняга земскага суда любога з накіраваных Сенатам. Сабе ён прасіў 40 тыс. руб. для аплаты ўласных даўгоў, партрэт Кацярыны II для дома кожнага уезднага дваранскага сходу. Перад тым ён не забыўся вывезці дзве мармуровыя італьянскія статуі.[127]

У канцы верасня намеснік намеціў адкрыць паміж 20—25 снежня Слонімскую губерню. Дзеля гэтага ён загадаў да 15 снежня падаць у вярхоўнае праўленне інвентары, граматы на права трымання дзяржаўных уладанняў і для разбіўкі іх па катэгорыях на арэндныя, пажыццёвыя, падараваныя ў вечнасць. 11 жніўня Рэпнін абвясціў неадчужальнасць уладанняў духавенства розных канфесій і што свяшчэннаслужыцелі не павінны адказваць за прыватныя даўгі начальства. Ад духавенства патрабавалі, каб яны свае маёнткі «не расточали, яко не их, а государственный церкви божией принадлежащия». Тут Агінскі саступіў свой слонімскі тэатр пад прысутныя месцы і Рэпнін 22 кастрычніка загадаў уладальнікам маёнткаў з гадавым даходам больш 100 руб. сабрацца 20 снежня ў Слонім на выбары.[128] Аднак Слонімскае намесніцтва не было адчынена. Магчыма, гэтаму перашкодзіла нечаканая смерць Кацярыны II, а таксама недавер да мясцовай шляхты. У чэрвені 1796 г. адзін з

ананімаў сцвярджаў, што хаця значэнне чыншавай шляхты «упало с уничтожением мятежных сеймов», аднак яна па-ранейшаму «порабощена вельможами». Шляхта аказалася непатрэбнай ім для палітычнай барацьбы, а таму паны, «без сомнения еще большею ценою заставят их платить за землю, которую они обрабатывают». Калі гэтую шляхту пакінуць у якасці арандатараў, тады застанецца вуголле незадаволенасці. І аўтар раіў выселіць чыншавую шляхту на поўдзень імперыі на 1 млн. дзес. зямлі ў 4 тыс. дварах, надзяліўшы кожнага з 16 тыс. гаспадароў па 30 дзес.з разлікам, што пасяленцы «будут храбрыми защитниками тех своих собственностей».[129] Праблізна тое ж раіў 20 чэрвеня 1796 г. секунд-маёр смаленскага драгунскага палка Кржыжаноўскі. Ён лічыў, што шляхта, якая бадзяецца без заняткаў,» за счастье почла бы вступить в императорскую службу». Ён думаў стварыць з яе 20 уланскіх эскадронаў, кожны па 200 паштовых на чале з палкоўнікам. Каб заахвоціць памешчыкаў развітацца са сваімі арандатарамі, ён раіў даваць за вывад 200 чал. чын капітана, за 100 – паручніка, за 80 – прапаршчыка, а ў штаб-афіцэры назначаць «заслуженных в армии людей».[130]

Тым не менш і вярбоўка і перасяленні патрабавалі сродкаў казны. Панства, відаць, не спяшалася праганяць арандатараў, бо з іх чыншу мела больш карысці, чымсьці з манілаўскіх чыноў. Знамянальна тое, што ўлады ў 1796 г. зацікавіліся падобнымі планамі перад тым, як заняцца сарціроўкай шляхты перад дапушчэннем яе на дваранскія выбары. Аднак ні ў літаратуры, ні ў нас няма ясных доказаў існавання выбарчых шляхецкіх сеймікаў пад час заснавання Слонімскай губерні.

Прыведзеныя матэрыялы дазваляюць гаварыць, што на ацалелым пасля другога падзелу абшарах Рэчы

Паспаліт ай расійскія ўлады спачатку хацелі ўтварыць адну Літоўск ю губерню, але затым перадумалі і рашылі арганіз аць Мінскую губерню і тры намесніцтвы. Рэпнін звузіў эты план да двух геберняў – Віленскай і Слонімс кай. Расійскі ўрад баяўся кіраваць аднымі штыкамі і таму пайшоў на міравую з мясцовай знаццю, якой вярталі секвестраваную маёмасць з падданымі. У выніку шырокай амністыі зацягнуўся працэс выкупу значных мястэчак пад уездныя цэнтры, а значыць і рэалізацыя пастановы 1775 г. па адкрыцці губерняў. Па-другое, урад вяртаў да судовай улады таргавічан, да якіх не меў даверу і якія ў паўстанні 1794 г. апынуліся аб'ектам шляхецкай нянавісці і помсты.

Заключаны палітычны саюз апынуўся нетрывалым і часовым. Найперш, расійскі ўрад увёў кантроль за ўладальнікамі ў выглядзе адміністрацыйнай сістэмы, якая дазваляла адбіраць вернутыя ўладанні ў любы зручны момант. У вотчыннікаў адразу забралі права смяротнага пакарання сялян, пазбавілі свавольства наездаў і прымусілі разбіраць маёмасныя спрэчкі шляхам іскаў і апеляцый у вярхоўным праўленні. Намесніцкае праўленне ў выніку замяніла месца традыцыйнага літоўскага трыбунала і не магло эфектыўна спраўляцца з морам цэнтралізаваных спраў і працэсаў. Выхад быў у дазволе выбараў са шляхты, але да гэтага не дайшло.

## § 3. Канец прахаднога двара

Манархі Прусіі, Аўстрыі і Расіі сумесна душылі паўстанне 1794 г., абяцаўшы на гэты раз не даваць прытулку інсургентам, каб пазбегнуць непаразуменняў. Аднак паміж імі засталася праблема лесу падданства амнісціраваных уладальнікаў, якія лавіравалі перад больш моцным і хітрым гаспадаром. Нарэшце, кожны манарх імкнуўся захапіць як мага больш тэрыторыі Рэчы Паспалітай пры вынішчэнні паўстанцаў, што распальвала паміж імі ваяўнічы і захопніцкі пыл.

Ужо 10 мая 1794 г. Прусія прапанавала Расіі размежаваць тэрытарыяльныя інтарэсы па лініі Брэст-Гродна-Коўна. Кацярына II адмовілася, маючы на ўвазе супольную карную аперацыю супраць паўстанцаў. Тады прускі манарх кінуў ваяваць з Францыяй і следам за ім у Польшу увяла свае войскі Аўстрыя (15 чэрвеня 1794 г.). Пачаўся дзялёж зямлі. Адразу пасля захопу Вільні, 18 і 24 жніўня, М. Рэпнін атрымаў загад Кацярыны II неадкладна выцесніць паўстанцаў за р. Нёман, пад агонь прускіх штыкоў і гармат. Рэпніна здзівіла, як у Пецярбургу «всё здесь почитается легким и повелевается только везде вперед идти, всех гнать и бить». Ён баяўся агаліць тыл.[131] 8 жніўня ён піша А. Безбародку, што калі Аўстрыя і Прусія зоймуць Варшаву з дапамогай рускіх войск, то ў Літве давядзецца доўга распраўляцца з паўстаннем. Ён пісаў: «Сия война не есть то, что были прежния конфедерации. Теперь общий бунт. Мы ходим как в муравейнике... Раздел некоторой части земли и совершенное уничтожение целого государства суть две вещи весьма разные. Надо не занять, а так сказать задавить войсками часть приобретения нами желаемого и сделать то как

можно скорее, не ожидая неверного разрешения дел под Варшавою.. Отсюда я не хочу быть главнокомандующим. Напротив, теперешнее дело уже выше сил моих. Я готов служить под кем приказано будет и даже сдать команду способнейшему».

Уплывовы тады фаварыт Платон Зубаў націскаў на рашучыя дзеянні і нават марыў 5 маршамі дайсці да Парыжа раней за іншых і рэстаўрыраваць там манархію. П. Пацёмкін, які праславіўся пад Крупчыцамі, пісаў таму ж П. Зубаву, што «у поляков нет ни злобы, ни ненависти к победителям», што віноўнікам сваіх бедстваў яны лічаць Прусію, а таму дастаткова грошай, каб нацкаваць іх аднаго на другога.[132] Падобныя праекты падтрымлівалі ў Пецярбургу ідэю захавання рэштак Рэчы Паспалітай пад пратэкцыяй Расіі, у якасці амартызатара пры верагодным сутыкненні ваюючых манархаў.

А. Безбародка падаў Кацярыне II наступныя меркаванні. Па-першае, гаварыў ён, «поляки со всех соседей самые неверные и более всех питают к нам сильную и непримиримую ненависть». Французская ідэі настолькі ўкараніліся сярод іх, што яны змогуць на іх падставе ўтварыць самастойнае праўленне, а лозунгі свабоды і роўнасці. зноў прымусяць Расію арудаваць штыкамі супраць французскай заразы, траціць грошы і рэкрутаў. Мець па суседству такую рэспубліку небяспечна, «ибо мы имеем прилежащие к Польше губернии, языком и обычаем с ею сходные, откуда зараза легко распостраниться далее. Пагубные же ея следствия такого толкования неизстребимы». Трымаць сілай «правление, какое нам угодно, бессмысленно среди народа непостоянного». Таму, гаварыў Безбародка, «нет иного средства, кроме самого уничтожения республики польской разделением ея земель между тремя воюющими державами».



*Якуб Ясінскі*

Пры выбары лепшага з горшага, гаварыў ён, лепш «присвоить» 100 тыс. кв. км з 2 млн. жыхароў, у выніку чаго «получим знатное число народа греческаго исповедания, в унию обращенного и, конечно, легко имеющего возвратиться в соединение с нашею церковью при одинаковом языке». Дастаткова толькі нагадаць яму, што ён ад продкаў праваслаўны, спрадвек рускі. Калі ж дапусціць захаванне Рэчы Паспалітай, тады лепш замацаваць свой уплыў у выглядзе Сената, каб такое праўленне было «недеятельное и ничего не значущее». У такім выпадку А. Безбародка раіў пасяліць караля ў Гродне або Брэсце, даць амністыю ўсім павадырам паўстання, замест рэпарацый узяць чвэрць з секвестраваных уладанняў, даць нязгодным 1,5 года для продажу уладанняў, але з абавязкам выплаты 1/10 даходаў пры выездзе за мяжу.[133] У гэтым месцы канцлер вагаўся, бо тэрміны продажу маёнткаў і прадуктаў маглі расцягнуцца



*Людвік Тышкевіч*

з-за адтэрміноўкі вернападданай прысягі. Магчыма, ён баяўся і бескантрольнага вывазу прадуктаў за мяжу з непазбежным згаленнем сялянства.

Згаданыя вышэй аргументы сталі тэарэтычным абгрунтаваннем адказнасці Расіі за маючы адбыцца падзел рэспублікі. 3 студзеня 1795 г. Расія, Аўстрыя і Прусія дамовіліся падзяліць Рэч Паспалітую пад зачэпкай нядольнасці «поляков к самоуправлению». 20 сакавіка М. Рэпніну і прысланаму да яго М. Паніну загадалі над вялікім сакрэтам размясціць рускія войскі на беласточчыне і пад іх аховай, таксама сакрэтна, правесці размеркавальную мяжу з Прусіяй па лініі р. Буг—р. Свіслач—р.Неман і далей, па старапрускай мяжы ў Жмудзі, «чтоб не дать захватить чего из оной прусакам или цезарцам.» М. Панін фармальна быў губернатарам пры вярхоўным літоўскім праўленні, бо на справе разлічвалі на ягоныя сувязі ў якасці былога пасла ў Берліне.[134]

Спачатку Рэпнін цешыўся з выканальнасці задачы, бо «далеки еще, по нещастию, прусаки от своих расчетов. Конец дела не так близок. А цезарцы, прежде точного решения дел, конечно, вперед не сунутся».[135] Аднак пры блакадзе Варшавы паміж саюзнікамі ўспыхнулі звадкі з-за нежадання кідаць уласных і імкнення кідаць чужых салдат на крывавы штурм. Паміж Аўстрыяй і Прусіяй успыхнулі сваркі за Кракаўскае і Сандамірскае ваяводствы. Кацярына II прасіла аддаць іх Аўстрыі. 1 верасня прускі манарх прыгразіў адвесці свае войскі, і ў Пецярбургу сталі кпіць з яго прытворства за тое, што ён патрабуе ўзнагароды «не за один, а за пять походов, позабыв, что в договоре 1793 г. прямо обещано не оканчивать войны до совершенного уничтожения французской революции». А значыць, калі ён не жадае палюбоўна ўраўнаважыць акупацыйныя долі, тады мусіць застацца з носам.[136] 4 лістапада 1794 г. А.Сувораў заняў Варшаву, і гэта дазволіла Кацярыне II дыктаваць свае ўмовы апошняга падзелу Рэчы Паспалітай.

16 кастрычніка яна загадала патаемна прывезці ў Пецярбург Касцюшку, «злого и весьма опасного якобинца». С. Панятоўскага было даручана трымаць у поўнай ізаляцыі і сказаць яму, што «раздел Польши уже непременно решен». Каралю Кацярына II раіла скарыцца «судьбине, ему уготовляемой», а Рэпніну загадала пры неабходнасці затачыць таго ў Рыгу.[137] 7 студзеня 1795 г. С. Панятоўскі апошні раз бачыў Варшаву. Яго пад канвоем эскадрона драгун і 30 казакоў, пад развітальны гром 100 гармат, павезлі ў Гродна генерал Аляксандр Тармасаў і граф Ілля Безбародка. У гродзенскай ссылцы кароль пісаў гаротныя мемуары, гуляў у більярд і карыстаўся пенсіяй у 396 тыс. руб. (2,6 млн. зл.), хаця маліў даць 4,5 млн. для пагашэння доўгу ў 33 млн.[138]

Самай згаворлівай для Кацярыны II аказалася Аўстрыя, з якой 3 студзеня 1795 г. заключылі трактат аб размежаванні акупацыйных доляў на Валыні і Галіцыі да р. Буг. Прускі кароль не згадзіўся з аўстрыйскім набыццём і ў Пецярбург пацяклі трывожныя весткі аб інжынерных умацаваннях Прусіі «против могущих быть мятежей от польских подданных, а на деле для войны с Россией».[139] Тады Кацярына II даручыла Рэпніну 10 студзеня 1795 г. «снестись с Веной и Берлином о будущем жребии Польши». Яна не сумнявалася ў згодзе «сих дворов со мною в необходимости уничтожения прежнего политического бытия сего государства», але прадбачыла і звадкі «по поводу уделов, каждым из них присвояемых». Вось так Кацярына II ясна сфармулявала ўласную ініцыятыву супольнага падзелу рэспублікі. Менавіта зараз яна канчаткова пакінула пазіцыю манапольнага пратэктарату і памкнулася толькі «пещись сколь возможно о сохранении равновесия в приращении могущества и сил государств, к моему уделу прилеглых».[140]

13 кастрнічніка 1795 г. Кацярына II саступіла Прусіі беласточчыну і загадала вывесці адтуль 2 конныя палкі і 2 егерскія батальёны. Бакі дамовіліся заняць свае долі праз 6 тыдняў і 24 лістапада 1795 г. усе тры манархі падпісалі канвенцыі аб апошнім падзеле Рэчы Паспалітай. Што тычыцца таго, правільна ці няправільна Расія пакідала беласточчыну, была ці не была для Кацярыны II гэтая тэрыторыя этнічна сваей, то трэба прывесці ўласныя словы імператрыцы. Кацярына II з незадавальненнем пакідала беласточчыну, бо лічыла, што «победами оружия российского приобрели мы право располагать оными областями по лутчему для пользы России усмотрению нашему». Яна ўпікала прускага караля ў сквапнасці і нахабстве, які замест спакойнага і «дружественного»

завяршэння падзелу... змовіўся з французамі! Таму яна даручыла Рэпніну сакрэтна зняць вызваляемую прастору ад р. Буг да р. Нараў на тапаграфічную карту, «чтобы лучшее сведение иметь о той земле, в которой войну принуждены вести будем».[141]

Рэпнін паведаміў П. Зубаву, што рускія войскі ачысцілі тую прастору 16 студзеня 1796 г. і размясціліся на левабярэжжы р. Неман ад р. Ласосна па лініі мястэчка Кузніца-в. Кундзіна-мястэчка Градок-да ўпадзення р. Нараўка ў р.Нараў, што на рагу Навагрудскага і Брэсцкага ваяводстваў. Рэпнін завяраў Пецярбург не адступаць адсюль да поўнай дэмаркацыі мяжы з Прусіяй. Дзеля гэтага ён і арганізоўваў шумную вернападданую прысягу і абвяшчаў аб далучэнні Літвы на вечныя часы да сваей імперыі. Менавіта студзенская вернападданая прысяга акрэслівала абсяг далучаемых зямель, што павінны былі ведаць прускія камісары, каб пры наведванні Гродна ўласнымі вачыма пераканацца ў шчырасці волевыяўлення жыхарства ВКЛ.

16 студзеня 1796 г. прускія памежныя камісары, генерал-маёр Жыль і генерал-паручнік Фаўрот, прыбылі ў Гродна без карт і дакладных інструкцый для перамоў. Яны адразу заявілі аб прэтэнзіі на гродзенскае прадмесце, на левым берагу Немана. Гэтае месца не было агаворана ў дамове з Прусіяй, таму і Рэпнін лічыў прыдатным «присвоить предместье Гродна и левый берег Немана и приобресть себе все течение Буга и Немана и, не менее следственно, и все в тех реках острова».[142] Аднак прускія камісары ўпарта адводзілі мяжу ад р. Ласосна прыкладна ўглыб на 25 км расійскага набытку. У Пецярбургу завагаліся, і Кацярына II нават загадала спаліць «польские ассигнации, во время восстания сделанные», каб пераканаць Прусію ў сваім нежаданні карыстацца імі для

шкодных дыверсій. Другі з'езд камісараў 9 лютага 1796 г. не прывёў да згоды. Рэпнін паспеў падрыхтаваць даведку аб тым, што спрэчнае прадмесце – неад'емная частка Гродна і «даже самым городом в древности почиталось, как видно из древних привилеев. Но пруссаки в своем мнении уперлись».[143] Рэпнін аддаў ім левабярэжжа р. Нёман, але ўтрымаў за Расійскай імперыяй саму раку з выспамі.

28 лютага 1796 г. бакі разаслалі камісараў з картамі для рэгакагнасцыроўкі мясцовасці. Яны мелі задачу апісаць мяжу па магчымасці прамой лініяй, асабліва паміж р. Буг і в. Грыбаўцы, а таксама нанесці старапрускую мяжу па р. Неман да мястэчка Паланга. У дзейнасць камісій умяшаліся два горкія моманты. 14 снежня 1795 г. Кацярына II падпісала ўказ аб стварэнні мыт на ўсім адрэзку мяжы ад Валынскай губерні да Палангі (720 км), якая разбівалася на трынаццаць 50-верставых дыстанцый. У мытную стражу назначалася 162 чал. аб'ездчыкаў. Для спынення кантрабанды і тайных правозаў стваралася 7 мытняў (супраць Улодавы, каля в. Крынкі, у Гродне і г.д.). Адных мытных наглядальнікаў было 112 чал. Кацярына II загадвала ліквідаваць мытны нагляд на рагу Полацкай і Рыжскай губерняў, каб зрабіць «свободный торг между Литовскою губерниею, Курляндиею и древними областями нашими». Указ уступаў у дзеянне з 20 сакавіка 1796 г.[144] Таропкасць Расіі выклікала падазрэнні.

25 красавіка 1796 г. Рэпнін паведаміў П. Зубаву, што ў мястэчку Сялец аўстрыйскага ўладання схоплены змоўшчыкі на чале з графам Агінскім, якому быццам бы Касцюшка даручыў падбіваць чэрнь для прадаўжэння ўзброенай барацьбы, што «в здешней земле начали разсеиваться разные слухи,.. к возмущению подобных,.. и что все то делается для возстановления Польши». Князь

не сумняваўся, што тутэйшая шляхта і татары «могут поползнутся составить разбойнические шайки с тем, чтоб грабить, где и кого удастся». Ён схапіў у Гродне 10 чал., якія нібыта збіраліся вынішчыць мясцовы гарнізон і ўзбунтаваць навакольную шляхту і сялян.[145] 30 красавіка ён даручыў ваеннаму губернатару А. Тармасаву займець шпіёнаў у корчмах і публічных месцах, каб ведаць, «кто в них ходит и что там говорят». Рэпнін пісаў, што на знаць нельга спадзявацца, бо ў выпадку вайны з Прусіяй яна будзе маўчаць і «терпеть всё, ожидая чей верх будет, нам же помогать искренне ни в чем не станет». Сапраўдная ж пагроза і змовы паходзяць з «разоренных и ничего не имущих, которые на все поползнутся могут в надежде грабежа под видом патриотизма». Ён давяраў толькі кагалам. 7 мая Рэпнін паведаміў, што арыштаваныя ім шляхціцы назвалі абвінавачванні ў свой адрас або «дурачеством» або «сумасшествием». Гэтак жа і сам князь ахарактызаваў чуткі аб пагрозе паўстання ў ВКЛ у выпадку вайны Расіі з Прусіяй.[146] «Должно сказать, – гаварыў ён, – что здешния господа по большей части не только не могут сим шляхтичам и их прислужникам верить, но более имеют притчины их опасаться».

Як бы там ні было, але пад час гэтых пагалосак прускі і рускі бакі спяшаліся замацавацца на занятых рубяжах. Пасля абмену інфармацыі аб сапраўднасці змовы, яны 21 чэрвеня 1796 г. зацвердзілі поўны тэкст размежавання. Каб спыніць чуткі аб магчымай вайне Расіі і Прусіі, Рэпнін рэкамендаваў заснаваць у Вільні падцэнзурную «литовскую» газету і адразу надрукаваць у ёй поўны тэкст размежаваняя на польскай мове, каб пахаваць усе надзеі на магчымасць захавання Рэчы Паспалітай або пры вайне захопнікаў, або пад эгідай расійскай апекі. 13 жніўня 1796 г. пруска-рускія камісары падпісалі акт дэмаркацыі мяжы,[147] аднак рэалізацыю дамовы спынілі чарговыя чуткі аб ваенных

прыгатаваннях Прусіі. Па сутнасці спрэчкі вяліся вакол узаемных расходаў па ўтрыманню караля з яго світай. Гэта відаць з таго, што большая частка каралеўскай гродзенскай сталовай эканоміі (31 тыс. сялян) трапіла пад Прусію, а гаспадаром Шавельскай (25 тыс. сялян) стаў якраз П. Зубаў.[148]

21 лістапада 1796 г. удзельнікі апошняга падзелу Рэчы Паспалітай на з'ездзе змешанай камісіі дамовіліся не ваяваць паміж сабой і канчаткова ўзгаднілі долі акупацыі: Прусіі адыходзіла 48 тыс. кв. км, Аўстрыі – 47 тыс., Расіі – 120 тыс. Па суме трох падзелаў, самыя буйныя набыткі дасталіся Расіі – 463 тыс. кв. км з усіх 733 тыс.[149]

Дэмаркацыйныя працы на месцы было вырашана распачаць 12 мая 1797 г., пасля ўладкавання справы з даўгамі апошняга караля рэспублікі. Усю мяжу паміж Прусіяй і Расійскай імперыяй мелася ўмацаваць 371 слупом, для чаго патрабавалася 400 рыдлёвак, 200 заступаў, 32 ламы, 100 кірак, 100 сякер, 800 работнікаў і 1785 руб. для найму фурманак.[150] Вось так, пад акампанемент пагалосак аб вайне паміж Расіяй і Прусіяй, агрэсары канчаткова падзялілі Рэч Паспалітую і сцёрлі яе з палітычнай карты Еўропы.

Тым не менеи, прыведзеныя звесткі сведчаць, што сутыкненне войскаў Расіі і Прусіі рэальна прывяло да іх ваенных прыгатаванняў і што пэўныя колы звязвалі шанцы захавання рэспублікі са сваркай агрэсараў. Гэта быў водгук старадаўняй ілюзіі самастойнага існавання краіны нават пры запрашэнні пацярпелым бокам выратавальных замежных штыкоў.Пецярбург даўно не давяраў пераменлівай знаці, якая ператварала Рэч Паспалітую (і, натуральна, ВКЛ) у прахадны двор і вымушала Расію знясільваць уласную армію, бюджэт і адстойваць уласны гонар абаронцы тэрытарыяльнай цэласці рэспублікі.

Расія, Аўстрыя і Прусія захапілі Рэч Паспалітую ў выніку сумеснага задушэння паўстання 1794 г., каб не ваяваць паміж сабой, канчаткова і палюбоўна падзялілі яе. Ініцыятыва зыходзіла ад Кацярыны II, што вызначаецца дакументальна, бо расійская імператрыца з 1768 г. непасрэдна адказвала за непадзельнасць рэспублікі як яе апякунка і гарантка.

### *Бібліяграфія да раздзела III*


[1] АЗПРІ, ф. 79, воп. 6, спр. 1369, л. 57, 70.

[2] РДАСА, ф. 7, воп. 2. ч. 1, спр. 2869, л. 31, 79, спр. 2369, л. 70 адв.; Анішчанка Я. Статут жыцця Ясінскага // Маладосць. 1998. № 2. С. 223—226. Libera Z. Jakub Jasinski // Pisarze polskiego Oświecenia. Warsz., 1994. T. 2. S. 735; Sulek Z. Sprzysiezenie Jakuba Jasińskiego. Warsz., 1982. S. 49, 56, 117; Lesnodorski B. Polscy jakobini. Warsz., 1960. S. 154—155.

[3] РДАСА, ф. 7, воп. 2, спр. 2860, л. 76; Dubiecki M. Karol Prozor-obozny Wielkiego ksiestwa Litewskiego. Krakyw, 1897. S. 176.

[4] РДАСА, ф. 7, воп. 2, ч. 2, спр. 2869, л. 102 адв.

[5] Mościcki H. General Jakub... S. 110; Sulek Z. Sprzysiezenie... S. 67, 80; Rok B. Propaganda walki powstanczej na Litwie na przykladzie dzialalnosci Michala Karpowicza // Powstanie Kościuszkowskie i jego Naczelnik. Kraków, 1996. S. 70—72, 74.

[6] РДАСА, ф. 6, спр. 549, л. 68—69, 106—107

[7] Там жа, ф. 7, воп. 2, спр. 2869, ч. 2, л. 44; Sulek Z. Sprzysiezenie... S. 25, 50; Mościcki H. General Jakub... S. 98—108, 368.

[8] Volumina Legum. T. 10. S. 90—91, 108, 345; Zytkowicz L. Ze stosunków Jasińskiego... S. 178.

[9] РДАСА, ф. 7, воп. 2, спр. 2869, ч. 1, л. 119, 124 адв., 126.

[10] Там жа, ф. 6, спр. 549, л. 108—109.

[11] Там жа, ф. 12, спр. 217, л. 359; Mościcki H. General Jakub... S. 98.

[12] РДАСА, ф. 7, воп. 2, спр. 2869, ч. 1, л. 124—126, 135—137.

[13] ЧОИДР. М., 1867. Кн. 1, С. 100; Sulek Z. Sprzysiezenie... S. 63; Janik M. Hugo Kołłataj. Lwów, 1913. S. 378; Sobolowa W. Władze lokalne... S. 36—37; Анішчанка Я. Яны баяліся беларускага... С. 27.

